# ЗЬМЕСТ

# УЗВЫШША

ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА І КРЫТЫКІ
БЕЛАРУСКАГА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА ЗГУРТАВАНЬНЯ „УЗВЫШША“

№ 5

МЕНСК 1927

**Ўладзімер Дубоўка**

# Да дзесятага Кастрычніка

Якое шчасьце—спатыкаць усход,
якое шчасьце—бачыць сонца захад!
І творчай працы радасны узьлёт
упарта мклівіць праз сягоньня ў заўтра.

Краіны росквіт просіць моцных рук,
мінулае пахована сучасным.
Як морскі вецер, пераможны рух
разгортваецца ў даляглядзе ясным.

Наперад непакорны мкнецца дух,
за дасягнёнай мэтай сочыць іншай.
І спявяшчае: вынік прыкладуць
на браму будучыны зорнай ліштвай.

Далёкія і блізкія гады!
У вашай розьніцы была падобнасьць!
Цяжары скручанай жыцьцём хады
згадаем словам ласкавым і добрым.

Віхрыстасьць ваша унатхняла нас,
як песьні наскай пошчак і фэрмато.
Здаецца, красавала скрозь вясна,
хоць з радасьцю бываў палын заклятны.

І палыну, і радасьці ўсяму
зайздросьціць будуць нашчадкі, напэўна!
А хараство, а непазбыўны сум
адчуюць з твораў кволых і напеўных.

І той апошні, той прыгожы дзень,
які за кожным з нас надыдзе сьледам,—
хай занатуе згадку для людзей,
хай ушануе эпітафам сьветлым:

— На Беларусі ён ня марна жыў.
Ён працаваў сумленна і няспынна.
Тугой затым ён сэрца надужыў,
што доўг ня ўвесь адбыў сваёй краіне.

**Крапіва**

# Доўг

Я не энтузыяст. У мяне ня толькі цялячага захапленьня ня бывае, а нават чалавечае рэдка калі наведваецца да мяне. Калі я бачу новую патэнтаваную зьяву, дык ніколі не захліпаюся ад захапленьня, а раней абыду гэту зьяву кругом, пагляджу, памацаю—а ці няма тут чарвінкі дзе, або гнілі, ці пажыўны гэты продукт цяпер і ці доўга ім можна харчавацца. Калі мне паказваюць, напрыклад, чырвонае, дык я не адразу паверу, што гэта чырвонае, я яшчэ захачу паглядзець, якое яно на другім баку. Калі-ж яно памалявана, дык я й ногцем паскрабу—ці моцна трымаецца фарба. Такім чынам мне часамі прыходзілася натыкацца то на генэральскую вопратку падкладкаю наверх, то на тандэтную фарбу, якая трымаецца да першай непагоды.

Сёньня шмат чырвані іншага гатунку; шмат руху і гукаў.

Здавалася-б, што мне, чалавеку з рознымі „ўхіламі", да гэтага ўсяго? Дык вось жа не: у носе казыча і на вачох вільгаць, а ногі самі патрапляюць у тахт пад гукі марша.

Дзесяць гадоў!

Дзесяць гадоў *(з маленькаю агаворкаю)* як мой бацька не цалуе панскай рукі. Убачыўшы важнага савецкага працаўніка, ён і цяпер яшчэ часамі хапаецца за шапку і нагінаецца, каб пацалаваць у руку. А я тагды: „Кінь, тата! Тыж-сам яго выбіраў—ён твой служка, а ня ты яго". Бацька выпрастаецца, і ў постаці—павага да сябе.

Дзесяць гадоў, як я сам сьвядома будую разам з усімі працоўнымі тое, што хачу будаваць. Праўда—ня ўсе дзесяць гадоў будую: быў час, калі трэба было разбураць. І я разбураў так-жа сьвядома, як разбураў мой бацька сёлета стары хлеў, каб збудаваць на гэтым месцы новы. А цяпер каторы год вось я ўжо будую, наколькі хапае сілы і розуму. Калі-ж хто і прабуе выбіваць з рук маіх цагліны, дык яны падаюць яму-ж на галаву.

Дык вось чаму сягоньня ў мяне і стан роўны і крок цьвёрды.

Але ў гэтым магутным вялікасным акордзе мне чуецца мізэрная, ледзь чутная, фальшывая нотка. Адкуль гэта? Ага вось яно! Гэта бляяньне гэтага залатушнага маладога чалавека, „рэволюцыянэра да трыбухоў". А як жа! ён жа калісьці крычаў „гура" і „даёш Варшаву", калі другія ішлі ў атаку; ён уцякаў, калі другіх гналі і білі; ён хапаўся за сьпіну і плаксіва моршчыў твар, калі другіх хвасталі шампаламі; ён пацеў, калі другія працавалі, ён езьдзіў на курорты, калі другія хварэлі. Такім чынам за дзесяць гадоў з яго выпрацаваўся марксыст, стопроцантны, цьвёрдакаменны, ортодокс (бярозавы).

А вось другі. У яго яшчэ не паадпадалі махры добрасумленнага монархіста, але ён таксама лезе ў ортодоксы. Што далей, то часьцей падыходзіць ён з „марксыцкага пункту погляду". Не падыходзіць, а, праўдзівей, пад'яжджае. Яго растаўшчыцкая душа прагнецца да нажывы. Ён мяркуе: а ці нельга садраць якія-небудзь проценты і з Марксавага „Капіталу". І зьдзярэ. Калі і ня сто процантаў гадавых, як ён дзярэ з свайго, дык ува ўсякім разе палатаецца.

Яго бляяньне асабліва рэжа мне вуха. Але ня буду псаваць сабе сьвяточнага настрою...

Дзе я бачыў гэтага чалавека, што ідзе поруч са мною, зьлева? Я ледзь пазнаю яго—Сукач. Так, Цімох Сукач. Скураная куртка ды кепка зрабілі яго зусім не падобным да таго Сукача, з якім разам у акопах гнілі.

— Дзе гэта мы з табою разлучыліся?

— Альботэшты памятаеш?

— А як-жа, памятаю. Гэта там, дзе палкоўнік Зякін за адзін дзень увесь свой полк палажыў, выткнуўшы днём пад гарматы ды куляметы нямецкія.

— Вось-вось. Дык тагды-ж мне і папала асколкам у бок—рабрыну зламала і кантузіла моцна. Мы пад вечар аж пад самыя акопы нямецкія падпаўзьлі былі, а яны гранатамі калі шарахнулі, дык адна зусім каля майго боку разарвалася, але добра, што лапатка была на поясе, дык яна ля лапаткі,—толькі адзін асколак папаў... А з палкоўнікам Зякіным мы яшчэ сустракаліся пасьля таго. Доўга я качаўся з гэтаю ранаю. І цара скінулі, а я ўсё ў шпіталі ляжаў. У Менскім нават шпіталі і ляжаў—папрасіўся, каб накіравалі бліжэй да свае бацькаўшчыны. А калі я паправіўся ды трэба было выпісвацца, дык мяне ў шпіталі і пакінулі: там якраз санітар патрэбен быў. Работа мая была—абед разносіць ды ў пакоях прыбіраць. Уваходжу гэта я раз у афіцэрскую палату, гляджу—Зякін. У халаце, разумееш, і твар такі посны. А вусы таксама стаяць, як у чорта і пагляд воўчы. Я, вядома, ні слова, як бы й ня знаю яго. А ён і сапраўды ня знае мяне, не памятае. А сыходзіліся мы з ім раз вельмі блізка—на даўжыню рукі. Гэта было тагды, як ён мяне па мордзе хлабыснуў. Цябе яшчэ ня было ў нашай роце. І за пусьцяковіну-ж выняў, сівы чорт. Раз быў наш батальён адведзен на некалькі дзён у рэзэрв, стаяў у вёсцы. Вось ён нек і прываложся ў нашу роту. Убачыў мяне, паківаў пальцам. Я падышоў.

„Пазаві, кажа, мне свайго ротнага камандзіра.

Я гэта павярнуўся дый хацеў ісьці, а ён:

„Ты што гэта, забыўся, кажа, сякі ды такі, як паварочвацца трэба? Карова ты, кажа цёлная, а не абаронца бацькаўшчыны", дый-бац! мяне па мордзе. Аж у вачу кругі чырвоныя пасталі. Злосьць мяне апанавала, каб дзе зрукі, дык бы кулю ў патыліцу пусьціў...

„Цікава мне было даведацца, што ў яго за хвароба, што ён у шпіталі ляжыць. На пагляд, здэцца, ніякай хваробы ў яго й няма,—чырвоны, мурлаты. Вось я раз і запытаўся ў сястры. Мушка яе звалі. Маленькая, чорненькая, хвост з адным капітанам хворым трапала. Але такая прыветная была. Яна мне кажа:

„Ён пасьля тыфусу ды яшчэ і нэўрастэнія ў яго".

„Не, думаю, тыфус тут вядома які: уцёк, думаю, з палка, ня інакш". А ў палку яго, ведаеш жа сам, вельмі ня любілі, бо не аднаму мне ён портрэт папраўляў. Прапаршчыкаў і тых бывала намацярынскуляяў. А тут яшчэ гэта наступленьне. Усе ў палку лічылі вар'яцтвам наступаць бяз усякай артылярыйскай падрыхтоўкі, ўдзень, калі ў немца дзевяць радоў калючага дроту, дый наша драпяная агарожа цэлая, а ён упёрся—наступаць! Ну і наступілі... сабаку на хвост. Вось, мусіць, і даў драла, каб за цугундар ня ўзялі... Стаў я прыслухоўвацца да гутарак у афіцэрскай палаце, стаў прыглядацца да хворых—бачу, што ўсе яны сядзяць, як зайцы ў гаросе, вушы панатапырвалі. Падыходжу часамі пад дзьверы, чую: „Карнілаў, Керанскі, бальшавікі, бальшавікі". А як увайду, сунімаюцца ды касурацца на мяне. „Што, думаю, тут за трасца? Што ім так абыходзяць Керанскі, Карнілаў ды

бальшавікі?“ Чуў я і ў іншых месцах гэтыя словы, а не разумеў нічога: хто каго б‘е, за што і праз што. Чуў пра бальшавікоў, што іх Вільгельм падкупіў ды падаслаў у Расію, каб тут беспарадкі ўзьнімаць; і вельмі я іх не пахваліў. Адным словам—ува ўсёй гэтай палітыцы я быў, як цяля на кірмашы: ня ведаў, хто цябе рэзаць зьбіраецца, а хто гадаваць. Нават, калі мяне адзін хворы афіцэрык назваў бальшавіком за тое, што я нібы недалікатна з ім абышоўся, дык я пакрыўдзіўся быў за гэта. А быў у мяне зямляк у Менску, Максім. У нейкім сапёрным батальёне служыў. Шустры хлопец, разьбітны. Прышоў ён раз да мяне. Разгаварыліся мы. Пра вёску, пра дом сталі гаварыць, пра гаспадарскія справы ды пра сваіх хатніх.

„Калі-ж гэта ўсё скончыцца?—кажу я.—Абрыдала, сьвет ня міл, зусім замучыўся: сам тут гібееш, а жонка там без гаспадара... А што мая дачушка там робіць? Напэўна, кажу, у лялькі гуляе. Нябось і ня ведае, які такі яе тата на сьвеце ёсьць—шосьць месяцаў было, як накінуў, а ўжо вось тры гады з таго часу прайшло. Пабачыць хочацца“.

„Пабачыш, кажа. І скора пабачыш, калі захочаш“.

„Адкуль ты гэта, кажу, ведаеш?“

„Адкуль ведаю, але ведаю. Вайне зараз капут“.

„Кінь ты, кажу! Сасьніў хіба—канца вайне яшчэ й ня чуваць“.

„А ты, пытае, пра бальшавікоў чуў?“.

„Чуў, кажу, што яны сволачы“.

„Сам ты, кажа ён, сволач, хоць ты мой і сябар. Людзі хочуць яго з войска вызваліць ды зямлі даць, а ён—сволачы“.

„Сам, кажу, я з імі не знаёмы,—людзі кажуць, дык і я кажу“.

„І людзі твае, кажа, сволачы. А калі, кажа не знаёмы, дык пазнаёмся—я сам і ёсьць бальшавік. У нас, кажа, і камітэт свой бальшавіцкі ёсьць у батальёне, але ніхто пра гэта ня ведае. І ты, глядзі, пра гэта нікому ані-ні“.

„А сам ён тут калі пачаў, ды калі пачаў: і хто такія бальшавікі, і адкуль яны ўзяліся, і чаго яны хочуць. Усю іх праграму выклаў мне. Праўда, што я адразу ня ўсё ў ёй і зразумеў: вельмі-ж усё там было нек дзіўна і нязвычайна. Ну, але пра зямлю і волю я добра такі ўцяміў. Спадабалася. Стаў я час часом і да Максіма наведвацца, а там мне ўжо і добра растлумачылі, што гэта за бальшавікі, хто Керанскі, чаго хоча Карнілаў. Вярнуўшыся, я часамі вазьму дый завяду гутарку аб гэтым з нашымі санітарамі. Некаторыя нічаму ня верылі, іншыя і ня ведалі—ці то ім верыць, ці то—не, а больш за ўсё спадабалася мая гутарка аднаму—сухажыламу, доўгаму—Сідарам звалі. Асабліва яго цікавіла, як гэта будуць паноў праганяць. Ён хоць зараз гатоў быў гэта пачаць.

„Ня ведаю, як доўга так яно цягнулася, а толькі раз прыбягае да мяне Максім—рад, узбуджаны.

„Гатова!—кажа. Наша ўзяло! К чортавай маццеры і Керанскага і ўсё правіцельства“.

„Я гэта шапнуў сяму-таму з нашых хлопцаў: „Давай, кажу, гасьцінец афіцэрам паднясём“. А якраз перад абедам справа была. Вось мы зараз да кашавара: „Так і так—давай афіцэрскую яду хворым салдатам, а афіцэрам з салдацкага катла“.

„Ён—рад старацца. А крупнік для салдат варылі „дубовы“, гэта значыць з ячных абганяных круп. З саланінаю, нават, здаецца. Панёс я ў абед гэты крупнік. Адну тарэлку Зякіну стаўлю, другую яго суседу. Паглядаю адным вокам.

„Нюхнуў мой Зякін,—зморшчыў нос. Потым сербануў.

„З якою гэта ты дрэньню прынёс мне суп сёньня?“—пытае.

„А я яму:

„З бальшавікамі, гаспадзін палкоўнік“.

„Што за хамскія жарты?“ крыкнуў ён. „Далажы старшаму ўрачу, што ты такі грубіян“.

„А я:

„Не клапацецеся, таварыш: старшы ўрач сам на дубовы крупнік пераходзіць“.

„Зьбялеў ён ад злосьці, але губы прыкусіў, нічога не сказаў: мусіць дагадаўся, што тут нешта ня так.

„Праз гадзін дзьве па калідорах захадзілі, зашанталі трывожна, зашукалі. Відаць, аб усім даведаліся. А зараз бачу — і адзежу Зякіну панесьлі. „Э, брат, пачакай, думаю: я-ж яшчэ вінаватым табе застаўся“. Пашоў я, маргнуў Сідараву: „памажы, брат, штушку зладзіць“.

„Сталі мы каля выхадных дзьвярэй, чакаем. Бачым—садзіць наш Зякін. Вусы на сто дваццаць — вось здэцца й ляцьць па мордзе. Аж нек страшна стала. Але я набраўся сьмеласьці, узяў пад казырок ды да яго:

„Вінават, кажу, ваша высокаблагародзьдзе, дазвольце доўг аддаць,—не хачу вінаватым заставацца“— Ды—бац! яму з правай. Ухапіўся ён рукою за шчаку, а другою за кабур мацае.

„Дарэмна турбуецеся, палкоўнік. Рэвольвер — вось ён, у мяне ўжо,— супакоіў яго Сідараў. „Шагам марш! наперад!“ скамандаваў ён, наставіўшы рэвольвер.

„Завялі мы Зякіна ў Максімаў камітэт, а далей...“

Тут грымнуў оркестр у галаве нашай калёны і заглушыў словы майго прыяцеля.

Мы вышлі на Пляц Волі.

Ён раптам з падлобу так кінуў вачыма, нібы зараз адкрые перад людзьмі вялікую таямніцу:

— Газэты пішуць, значыцца...

Тут Міхалка зрабіў перапынак, каб вытлумачыць, што гэта за яно „газэты“. Ён перайшоў ад ранейшага ўрачыстага тону да голасу глыбокадумнага-навуковага:

— Газэта — гэта тыя аркушы паперы, з якой вы, браткі, верціце круцёлкі на махорку. Дык гарадзкія людзі, значыцца, робяць газэту. У газэтах ёсьць аб усім на сьвеце.

Міхалка зноў падымае голас на ранейшы ўрачысты лад:

— Газэты пішуць, што Ленін дае мужыкам зямлю і волю. Усе салдаты з фронту варочаюцца да хаты. Мы ня хочам вайны — казаў Ленін. Рабочаму чалавеку ня трэба ваяваць! Буржа прыдумала вайну на пагібель нашаму брату! А буржа — гэта багатыя людзі, якія завуцца буржоі.

Тут Міхалка з'яжджае з урачыстага на будзённы тон:

— Я чуў, у валасьці пісар гэтак чытаў з газэты.

У Міхалкі такі выгляд, нібы пачуць як хто чытае газэту — вялікая цяжкая праца.

Міхалка не заўважыў, як старыя вясковыя цёткі выціраюць хусткамі сьлёзы з вачэй, успамінаючы вайну. У мужчын твары вельмі напружнымі сталі. Сяляне маўчалі, чакаючы, што ён скажа яшчэ.

— Я чуў, значыцца, як, пісар чытаў, што хто не працуе — той ня есьць! А ўся панская зямля — наша! Панскія маёнткі павінны быць падзелены паміж нас! Мы дагэтуль на паноў працавалі!

Кожнае слова Міхалкі — было цэлым пукам іскраў, якія сыпаліся агнёвым дажджом у сялянскія мазгі.

— Падзелім! — гукнула з грамады некалькі галасоў — падзелім!

Гэтае слова разлялося рознастайнымі водгаласкамі з дзесяткаў вуснаў сходу. У гэтым слове адчувалася пагроза і рашучасьць — цьвёрдая бы сталь.

Доўга Міхалка тлумачыў сходу аб рабочых у гародах, якія ідуць за Леніным. Але самае галоўнае аб панскай зямлі людзі ўжо чулі.

Уся грамада зірнула ў бок маёнтку Глухі Бор. Ён знаходзіўся за дзьве вярсты ад вёскі на ўзгорку.

Над пажоўклымі дрэвамі панскага парку відаць была труба бровару. Яна вызначалася у васеньнім небе пальцам асілка, які палохае людзей, каб блізка да яго не прыступіліся.

Вочы глухабораўцаў былі накіраваны на гэты вялічэзны цагляны палец — на знак сваёй шматгадовай няволі.

— Падзелім...

* * *

Ноч.

Васеньняя цёмная ноч, нібы чорны аграмант. Густы дробны дожджык цыркае зьверху, цягнецца золкай павуцінай. Шалясьцяць дрэвы ў панскім садзе. Водаль шушукаюцца прысады.

Пан Прушынскі з паляўнічай стрэльбай за плячыма ходзіць па дзядзінцу. Вартуе свой маёнтак Глухі Бор.

...Трывожны час. Адзін з суседніх маёнткаў учора згарэў. Мужыкі падпалілі. Сягоньня ўдзень пераехала сюды да пана Прушынскага панская сям'я з маёнтку Божы Дар. Нічога з сабой не забралі. Уцяклі як стой. На маёнтак Божы Дар напала некалькі вёсак, дзяды якіх калісьці адбывалі тут паншчыну. Толькі адны сьцены засталіся і то з выбітымі вокнамі.

...Кажуць, нібы мужыкі нічога нават не забралі з сабою, апрача быдла. Усё вынеслі на двор, пакрышылі, паламалі і на вялікім вогнішчы спалілі.

Агідна дзікаму чалавеку ўсё панскае.

...Загіне культура,—думае пан Прушынскі.—Маёнткі ў нашым краі былі культурнымі оазысамі. Страшны суд надыходзіць..

Пан Прушынскі асьцярожна ступае па мяккім дыване лісьцяу у сваім аграмадным садзе.

Каго ні сустрэну тут —пушчу пулю у лоб!— харобрыцца пан.

Ён глядзіць пільна ў чорную муць ночы і прыслухоўваецца.

— Не дабро сваё буду бараніць, а культуру краю!—цешыць сябе пан Прушынскі.

Прыслухоўваецца.

Мо' што пачуе з боку вёскі...

Ціха, як у магіле.

Часамі адрывіста-хрыпла гаукне сабака.

Да гэтай ночы маёнтак вартавалі панскія парабкі. Але пану нешта шокнула. Нельга ім верыць, хоць яны ў „культурным" панскім асяродку знаходзяцца...

Пан заўважыў сягоньня ў дзень кплівыя, гарэзьлівыя вочы і затаёныя ўсьмешкі сваіх парабкоу. Нібы яны нешта ведаюць і ня хочуць казаць. Пан іх сягоньня ад варты вызваліў. Загадаў аканому іх самых вартаваць, „каб якога ліха не нарабілі".

Глуха асеньняя ноч, як цёмная студня.

Пан ступае вельмі асьцярожна. Ня хоча прызнацца самаму сабе, што баіцца. Яму здаецца, што кожны яго ўласны крок аддаецца на некалькі вёрст вакол.

Хто можа ісьці на мой маёнтак? Хіба тыя, дзяды якіх адбывалі ў маіх дзядоў прыгон. Хіба тыя, што па сягоняшні дзень судзяцца са мною за сэрвітут. Гэта вёскі—Глухі Бор, Прушыншчызна і Крукаўка. Як мы калісьці дзялілі між сабою мужыкоў— яны цяпер паноў дзеляць. З чужой вёскі ня пусьцяць. —„Наш пан,—кажуць,—мы самі справімся з ім". Адбываецца строгі суд гісторыі...

Мароз праходзіць па сьпіне пана Прушынскага ад гэтага суду гісторыі.

Нешта шастае ў садзе...

Надыходзіць...

У пана вочы, як вугольлі, гараць.

Хутка зьняў стрэльбу з плеч.

Чужым, ахрыплым голасам крыкнуў:

— Стой! Хто там?

З скавытаньнем кінуўся яму пад ногі стары пёс Разбой.

Адлягло ад сэрца. Выцер пот з твару і давай гладзіць сабаку па вылытнай шэрсьці.

— Аднак, якім нэрвовым я зрабіўся за апошнія дні...

Сьвежай прэласьцю пахла ў садзе. Гэты пах паддаў пану бадзёрасьці. Павярнуў на дзядзінец. Абыходзіў будынкі.

У пакоях, па загаду пана, агню ня было. Але ніхто ня спаў. Усе былі апрануты. Чакалі...

Дождждык спыніўся. Хмары пасунуліся к лесу. Замігацелі зоркі. Блішчэлі, як вочы ваўкоў. Ярчэй выступалі сілуэты будынкаў—выплывалі з цемры строгія, ганаровыя.

З-пад кожнага кута пан адчуваў здраду. У ценях бачыў страх.

Пасьвятлела. Нібы пад дзень.

— А яшчэ, здаецца, пеўні не сьпявалі...

Над лесам стаяла яркая зарніца. Яна ірдзела і расплывалася, ахапляючы вялікі абшар неба, нібы раскалёная да чырвана бляха·

— Няўжо маёнтак пана Кучынскага гарыць?

Пан Прушынскі, як зачараваны, глядзеў на далёкае пажарышча. Яго захапіў нязвычайны выгляд align="" рознакаляровых водблескаў над лесам. Лес як-бы перасунуўся з месца і стаў бліжэй да маёнтку Глухі Бор.

Ад далёкага пажарышча пану зімна зрабілася. Нешта маразіла кроў у жылах.

Ён махнуў рукамі, як чалавек, які ўжо ўсё страціў. Увайшоў у палацы праз цёмны ход. Яму страшна стала быць аднаму на дварэ.

Усе сядзелі каля вакон і глядзелі ў бок пажарышча, чакаючы „гасьцей". На сьценах вялікага пакою дрыжэў ружовы водсьвет пажарышча.

Людзі былі бледна-жоўтыя. У цёмных павялічаных зрэньках сьвяцілася жудасьць.

* * *

„Гасьцей" дачакаліся толькі на раніцу.

Здалёку чуваць быў гул галасоў. Іншлі з тапарамі, з каламі. У вачох гарэла нянавісьць і злосьць, соткамі гадоў узгадаваныя.

— Культура гіне...—прамармытаў як-бы чужымі вуснамі пан Прушынскі.

Паляўнічая стрэльба выпала ў яго з рук і гулка стукнулася аб ваксаваную падлогу.

II

## Навялі лад і парадак

Ваколічная шляхта часта гаварыла аб немцах:

— Вось прыдуць немцы і ў Глухі Бор. Дзесятаму закажаце панскі лес чапаць. Немцы ўжо прышлі ў іншыя вёскі, парадак наводзяць. Панскае дабро бокам вылезе... Усіх бальшавікоў выкрыем! Немцы за нас—за каталікоў...

Глухі Бор быў вельмі ўстрывожаны.

На кожным дварэ ляжаць груды бярвеньняў з лесу пана Прушынскага. Шмат хто ўжо будавацца пачынаў. Дзе-ні-дзе бялеліся новыя зрубы. Пахла сьвежай смалою.

Старыя, пакрыўленыя хаткі глухабораўцаў былі абросшыя мохам да ваконцаў укапаліся ў зямлю за некальки дзесяткаў гадоў. Некаторыя з іх памятаюць прыгон. Даўно яны зьмены чакаюць—новых беленькіх хатак. Некалькі пакаленьняў выгадавалася ў гэтых трухлых сьценах.

Ня толькі маладыя, але і старыя дзяды высыпалі сёлета ў лес сьмела ішлі, нібы ў свой уласны. Старыя яшчэ з большай заядласьцю, чымся маладыя, валілі высокія хвоі. „Гэты лес нам належыць", гаварылі яны.—„Яшчэ з старым панам за яго судзіліся".

Усю зіму вохкаў лес. Кіпела ў ім жыцьцё. Людзі пераклікаліся на лесасеках, вазілі да хаты бярвеньні на карах, на звычайных санках. Кожны па-свойму ўмудраўся, лаўчыўся. Кожны торыў дарогу з лесу да свайго гумна. У часе адлігаў гэтыя дарогі пярэсьцілі па счарнеўшай глебе ільдзянымі абрусамі.

Цяпер бель сьвежых бярвеньняў прыкра біла ў вочы. Пах смалы непрыемна шчыкатаў ноздры.

— Няўжо-ж ўсё прапала?

Каваль Міхалка супакойваў народ. Ён чамусьці лічыў абавязкам трымаць люд пад сваёй апекай. Гаварыў, што немцы нядоўга тут пабудуць. Бальшавікі з імі не ваююць.

Так праплыло некалькі дзён.

*Хоць надыходзіла вясна, але дні былі ящчэ марозьлівыя*, абветраныя, абтрушаныя сьнегам. На возеры пры млыне лёд яшчэ быў моцны. Па берагох возера непрыемна шушукаўся леташні сухі чарот. Мельнік у восені не скасіў яго. Ён быў заняты сенакосам на абшырных панскіх лугох.

Міхалка часта выходзіў за выган на шырокі гасьцінец глядзець, ці ня йдзе ўжо немец? У яго паходцы было столькі тараплівасьці, заклапочанасьці і напружнасьці, нібы ён рыхтаваўся капаць акопы перад вёскай, каб затрымаць немца.

За ўсё сваё жыцьцё Міхалка ведаў толькі аднаго немца—старога Рэйтара, які арандаваў млын у пана Прушынскага. Рэйтар галіў вусы і насіў рэдкую бародку. Ён быў трохі глухаваты, дзеля чаго кожны раз пры гутарцы падстаўляў да губ гаварыўшага, як трубку, правае вуха. Гаварыў праз меру голасна, відаць, каб самому чуць сваю гутарку.

Палонных нямецкіх салдат Міхалцы бачыць не прыходзілася.

І вось кожны раз, калі Міхалка гаварыў або думаў аб немцах, ён уяўляў іх у такім прыблізна выглядзе як мельнік Рэйтар і ня вельмі баяўся іх.

Міхалка жмурыў вочы і пазіраў у даль.

На самай апошняй мяжы далячыні стаяў стары крыж. Ён урос нізам у камяністую глебу, а галавою ў неба ўпіраецца. Гэты крыж нагамінаў Міхалцы сьляпога чалавека, які стаіць на шырокім шляху з разьнятымі па абодвух баках тулава рукамі і ня ведае, куды ісьці. Часам Міхалцы здавалася, што гэта ня крыж, а страшная, агідная шыбеніца, на якой уночы вешаюць людзей.

Зімою ў мяцеліцу, калі нанесены вялізныя гурбы сьнегу, гэты крыж паказвае дарогу ў Глухі Бор. Улетку, у сонечны дзень, па цені крыжа на гасьцінцы людзі ў час жніва (абапал дарогі каля крыжа) ведаюць, калі пара абедаць, палуднаваць і падвячорківаць. Крыж служыць ім гадзіньнікам у дзень, як певень у ночы.

Пашаны да крыжа ў Міхалкі ня было ніколі, але ён прызвычаіўся бачыць яго заўсёды на гэтым месцы. Нагорак бяз крыжа выглядаў-бы пустым і вудным.

На гэты раз Міхалка заўважыў, што каля крыжа мітусяцца людзі. Міхалка пачаў прыглядацца пільней.

— Ня можа быць... Здаецца, пілою крыж падразаюць...

Міхалка пашоў шпарчэй.

Не пасьпеў падыйсьці. Крыж з слабым енкам пасунуўся на бок *і крахнуў у сьнег.*

— Няўжо людзям мала дроў сёлета. Сярод белага дня крадуць! —зьдзівіўся Міхалка.

Каля крыжа тупаліся самыя блізкія яго суседзі—Арцём і Мікіта

— Што вы гэта робіце?!—крыкнуў Міхалка.

У адказ Арцём і Мікіта хітрымі вачыма зірнулі на Міхалку і хіхікнулі.

— Бач, немцы ідуць,—таемным голасам казаў Арцём.

— А крыж праваслаўны,— дадаў Мікіта.

— Дык пры чым тут крыж?—не зразумеў Міхалка.

— Ды шляхта, бач, гаворыць, што немцы шануюць каталікоў, — сказаў Арцём.

— А крыўдзяць праваслаўных, —дадаў Мікіта.

Абодвы яшчэ раз хіхікнулі.

— Цьфу! —плюнуў Міхалка адзін раз. У другі раз не пасьпеў, бо атрад немцаў паказаўся на дарозе.

Некалькі конных жаўнераў пад'ехалі да сьпілаванага крыжа, дзе стаялі сяляне. Немцы штосьці зарагаталі пасвойму. Яны з дзівам паглядзелі на бязбожных людзей—на „русішэ швайн", якія скінулі крыж.

Міхалка пазіраў на немцаў з цікавасьцю. Яны зусім да Рэйгара не падобны.

— Дык вось яны—гэтыя разбойнікі... Брата каля Горадні забілі...

Міхалка ўспомніў свайго роднага брата Грыгора. Праз воласьць вестку атрымаў: „Погиб на поле брани славной смертью за царя и отечество". Міхалка тады хрыпнуў некалькі брыдкіх слоў і на „царя" і на „отечество", паглядаючы тупа на белую паперку. Сам ён, Міхалка, у акопах ня быў—у вайсковай кузьні працаваў да рэвалюцыі, а потым уцёк да хаты. Брат Грыгор увесь час ня выходзіў у яго з галавы: ён быў чарнявы, вясёлы, з вечнай усьмешкай у вачох. І цяпер Грыгор, як жывы, стаіць перад вачыма. Усьмешка не зыходзіць з яго ружовага твард. Міхалка як бы бачыць яго.

Міхалка ўздрыгануўся. Працёр вочы. Нямецкі жаўнер стаяў насупраць яго, ветла ўсьміхаўся і нешта незразумелае гаварыў. Словы бултыхаліся ў яго горле, шлёпаліся з губ, як некае „буль-бім-бом". Нарэшце, немец сказаў „цыгар", прыставіў два пальцы да губ і цмокнуў, нібы курыць папяросу.

Міхалка уцяміў.

Ён палічыў патрэбным і немцу ветла ўсьміхнуцца.

— Ніто кум цыгар! Махоркес до! Фэ махоркес! [1] — не сваім голасам адказаў Міхалка.

Міхалка „умеў" гаварыць з немцамі. Некалькі часу ён працаваў у мястэчку ў каваля Моты. Там навучыўся паяўрэйску: „Шабас гут", „шэйна-марэйна", „махтас-тахтас" і іншыя мудрагельствы. А гэта-ж адно і тое самае, што і панямецку...

Міхалка выняў з кішэні капшук і насыпаў у жменю немца „махоркес".

Немец паважна скруціў папяросу і задыміў; паморшчыўся, закашляўся, кінуў папяроску ў сьнег, пакруціў галавой і фэкнуў.

Міхалка ўсё зразумеў...

Спачатку хацеў зазлавацца на немца. Але, глянуўшы на яго дабрадушны твар і на парваныя вопраткі, Міхалка пераканаўся, што ня гэты немец забіў яго брата Грыгора... Ня можа быць, каб чалавек з такой добрай усьмешкай, такімі яснымі вачыма быў забойцам... Грыгора забіў, напэўна, тоўсты і злосны, што стаяў побач з першым.

На дарозе ехаў селянін з суседняй вёскі. Пабачыўшы немцаў, ён хацеў пакіраваць каня ў другі бок. Але тоўсты і злосны немец крыкнуў „хальт!"

Чалавек спыніў каня.

Немцы падскочылі і давай аглядаць каня. Конь ім спадабаўся. Нічога не гаворачы, яны пачалі выпрагаць каня...

[1] Няма цыгары! Махорка есьць! Фэ махорка!

Чалавек спачатку зьдзівіўся, а потым, хоць і ня ведаў панямецку зразумеў, у чым справа, заенчыў, загаласіў:

— Паночкі, ня крыўдзьце мяне. Гэты конік—усё маё багацьце.

Зашмальцаваны кажуронак селяніна, яго брудныя пальцы, якімі сьлёзы выціраў з вачэй, даводзілі немцаў да рогату.

Не смяяўся толькі той немец, які цыгару прасіў у Міхалкі.

Міхалка пачаў было бараніць селяніна:

У мужыка фэрд ніт гут. У шляхтэс гут фэрд! Ува гут!

За такое адвакацтва Міхалька дастаў ад тоўстага, злоснага жаўнера нямецкую аплявуху...

— Тое самае і парускy —падумаў Міхалка,—царскія казакі ня горш умелі.

— *Мы прышлі да вас не ваяваць, а навясьці лад і парадак у вашай краіне. Так загадаў кайзэр Вільгэльм!*

Міхалка зразумеў усё, бо немец-пазнанец гаварыў гэта папольску. Ён зразумеў-бы гэта і пафранцуску.

*„Лад і парадак" быў наведзены. Многа сялян забралі як бальшавікоў*, ад кожнай хаты бралі даніну —яек, масла, сала, быдла — збожжа.

Вярнуўся зьнекуль пан Прушынскі.

І пачалася адплата за маёнтак і лес...

Не памагла і рэвалюцыя ў Нямеччыне.

III

### Міхалкава стрэльба

Над лесам стаяў месяц.

Было так ярка вакол, што можна было лічыць каласы на жытнім полі і траўкі на лузе.

У паветры пахла гарэлымі анучамі, гаркаватым дымам. Было душна, як у печы. *За выганам, пад старым бярозавым плотам* зацягваў выцьцё сабака. На хвіліну змоўкне, уставіць вострую, як шыла, морду на абгарэлыя садочкі, на маўклівыя голыя печы, якія тырчаць чорнымі комінамі ўверх, панюхае вакол сябе, апусьціць галаву ўніз і зноў пачне выць.

Працяглае выцьцё пошчакам коціцца вакол, нібы нявідочны дым плыве да самага месяца. Страхоцьце і самога брыдзе з густога бору, смокча глебу, лунае над выганам.

У дзень згарэла вёска Глухі-Бор. У дзень лямант разам з полымем насіліся у пустую бяздоннасьць неба. Пазнанцы падпалілі вёску. Яшчэ да прыходу польскіх жаўнераў маладыя ўцяклі ў лес. Па хатах асталіся старыя. Не давалі ім і бэбахаў вынасіць з хат.

Усё згарэла.

Дзе паўстанцы? грымелі жаўнеры.

Катавалі старых.

На вясковай вуліцы валялася некалькі мужыцкіх групаў. Месяц адбіваўся зялёным водблескам у застыўшых мёртвых вачох.

Сяляне як-бы ў зморапых позах спалі, адпачывалі пасьля сенакосу, пасьля гарачага летняга дня. Старыя аратаі прыпалі да глебы маткі, прытуліліся акрываўленыя да прухкай зямлі, яны маўчаць, прыслухоўваюцца мёртвым вухам да ночнай цішыні, да выцьця з выгану

— А пасьля немцаў жыцьцё зноў наладжвалася. Зімавалі пры бальшавікох. Трохі аблізалі ранейшыя раны... І вось зноў... Як на шалях вахтаецца дабрабыт гаротнікаў —то ўверх, то ўніз. .

Думкі таўкліся ў галаве Міхалкі, нібы рой камароў. Ён ня мог давясьці думку да канца.

Міхалка стаяў каля лесу, прытуліўшыся ўсім целам да хвоі. Ён як-бы прырос да дрэва грудзьмі. Пільна ўглядаўся ў ваколіцу. Лавіў кожны гук, кожны шолах. Лаянкі жаўнераў, лямант сялян, шуганьні і вохі полымя па саламяных стрэхах яшчэ і цяпер глушылі яго слух і зрок.

Міхалцы здавалася, што яшчэ цяпер чуе плач і крыкі з боку вёскі, а месяц выглядаў водблескам пажарышч. Выцьцё сабакі нэрвавала Міхалку, не давала спакойна ўзірацца ў даль, ці ня едзе з маёнтку Глухі-Бор разьезд польскіх жаўнераў.

Не маглі паўстанцы ўдзень выступіць супроць палякаў, каб адбараніць вёску. Толькі к вечару дасталі стрэльбы і патроны, якія былі захаваны ў ельніку за балотам.

Міхалка стаяў тут цяпер дазорцам. Яму трэба было перайсьці праз чыстае поле, праз вёску, каб далучыцца да сваіх таварышоў. Яны ляжалі ў жыце ля дарогі, дзе доўгія гады стаяў да прыходу немцаў высокі крыж. Кабеты і дзеці заставаліся ў лесе. Каб палякі не зрабілі нападу на гэты лес, трэба была пераняць іх на дарозе.

Стрэльбаў было ўсяго пяць штук. Адну Міхалка схаваў на полі пад крушняй.

— Кожная стрэльба вельмі дорага, патрэбна там... Як далучыцца да сваіх таварышоў?

Мабыць, сягоньня будзе дождж. Надыходзяць хмары. Вялізным шэрым табуном невядомых жывёлін цягнуцца яны па небе. Як толькі затуляць месяц, Міхалка пусьціцца да сваіх.

Міхалка глядзіць на хмары з залатымі краямі, як на збаўцаў.

Хутчэй бы... Хутчэй!

Вось гэтыя хмары над млынам стаяць. А млын добры пункт, дзе можна, ў выпадку патрэбы, схавацца.

Міхалка пачаў паўзьці па траве ў бок млына. Пры кожным надазронным гуку прырастаў да зямлі, прысмактваўся цяжкім каменем, адчуваў халадок травы пад каленямі, пад правай шчакою. Ён навастрыў слух. Часамі рабілася так ціха, што шорханьне травы пад каленямі прыкра разіла вуха, здавалася шумам.

Такім чынам Міхалка дабраўся да старога млына.

Хмары праглынулі месяц. Як бы скрозь зямлю праваліліся месячныя бледна-жоўтыя водсьветы. Цёмна-сінім сокам налілася ваколіца. Прытулак быў цяпер на кожным месцы, усюды. На адкрытым полі можна было ляжаць, нібы пад дахам на сваім ложку.

Некалькі часу Міхалка стаяў анямелы на грэблі каля застаўак.

Кап-кап-кап! капала вада з-пад скрыні, прасачвалася ўніз аднастойна і роўнамерна. Нібы вадзяны гадзіньнік адбіваў хвіліны. Водаль пад млыновым калям сомжурчэла па каменьнях вада—вяла сваю вечную гутарку.

Млын быў панскі. Яго жаўнеры не зруйнавалі.

Тут адчувалася супакойнасьць, лагоднасьць.

На адзін момант Міхалка аддаўся забыцьцю. Ня думаў аб тым дзе ён і навошта тут стаіць. Толькі прэлы пах водарасьляў, зьмешаны з горкім дымам яшчэ больш, чым раней, шчыкатаў нос. Ён хацеў пайсьці ўжо далей, як пачуў тупат конскіх ног з боку маёнтку.

— Палякі... —падумаў Міхалка. Адзін бяз стрэльбы нічога не, прыдумаеш. Трэба схавацца...

Туляючыся, нячутным крокам пайшоў за млын--уніз да рэчкі. Стаў за вуглом сьцяны, пазіраючы на грэблю.

Каля дваццаці коньнікаў. Гулка аддаецца тупат капыт па дрыўляным мосьце...

Спынілі коняй...

— Калі цяпер нашчупаюць мяне,—падумаў Міхалка,—дык будуць мучыць некалькі дзён. Каваламі будуць рваць жывое мяса. Будуць лапытвацца, дзе паўстанцы. Напэўна, цяпер у млыне будуць шукаць, ці хто тут ня сядзіць.

Ціха ступаючы, Міхалка ўлез у рэчку. Ішоў памалу, каб ня чуваць было плюханьня ног у вадзе. Адчуваў пад набухшым лапцем кожны камяньчык. Падлез пад самае каласо. Прыгнуўся. Толькі галаву высунуў з вады. Холаду не адчуваў.

Час-ад-часу Міхалка бачыў, як у верхнім ваконцы млыну мільгалі агнькі. Там палілі запалкі. Шукалі. Гоман жаўнераў у млыне адбіваўся ад сьцяны да сьцяны.

Страху Міхалка не адчуваў. Ён добра памятаў партызанскую прысягу. Толькі стрэльбу шкадаваў. Калі яго тут знойдуць, дык стрэльба прападзе ў крушні. Таварышы ня ведаюць, што яна там ляжыць...

Міхалка так прымасьціўся ў вадзе, што толькі вочы, нос і рот адтуль відаць былі. Чалавек расплыўся ў вадзе, нібы сьнег. Толькі маленькі сьлядок ад яго астаўся, нібы вярхушка каменя з-пад вады—частка твару.

Думкі Міхалкі ў гэты час лунаш каля старой крушні, дзе ляжала пад каменьнямі стрэльба--сталёвая, бліскучая. Яна ў гэту хвіліну была яму даражэй за ўсё на сьвеце.

— Каб яна там не пакрылася іржою,—занепакоіўся Міхалка.

Як во перад сабою бачыў ён крушню—вялізную кучу каменьняў, абросшых шэрым аксамітным мохам, а пад імі—стрэльбу. Яна паружавела. Сталь ня блішчыць люстэркам, не адбівае ў глянцу пукатасьцяў яго, Міхалкавага, твару ў пакалечаным, скрыўленым выглядзе...

Толькі адзін кароценькі міг, як вокам міргнуць, ён бачыць перад сабою стрэльбу....

Скрыпнулі дрыўляным рыпам дзьверы млыну. У Міхалкі сэрца спынілася.

-- Кап-кап-кап...—капае вада.

Жаўнеры селі на коняй. Паехалі.

Тупат капыт запоўніў цемру, аддаляўся, гапіўся ў паветры; зьліваўся ў адзін гул, у сплецены ланцуг гукаў.

— Пэўна, блішчаць вочы, уліваюцца ў цьму дарогі пад шырокімі брылікамі-бляшанкамі... Колькі дзесяткаў «пся крэў» і іншых лаянак сыплюцца з вуснаў белаарловых панкоў—думае Міхалка.

Толькі цяпер ён адчуў холад ва ўсім целе. Зуб аб зуб малоціць...

Вышаў з рэчкі.

Атросся, як конь пасьля купаньня. Вада лілася, цякла з яго вопратак. Не зьвярнуўшы на гэта ўвагі, бягом-галёпам пусьціўся ў поле—да крушні...

Пакуль дабег, ажно горача стала...

Давай разварочваць каменьні...

З пазуроў цякла кроў. Пальцы склейваліся. Намацаў гарачымі пальцамі халодную сталь стрэльбы.

— Гэй! да таварышоў!

А там—жытняе поле прачнулася.

Крыкі.

Войкала цемра.

Стрэльбы бухалі, грымелі...

Гойдалася поле у пошчаках-водгаласках...

Грамада паўстанцаў страляла ў упор.

Пяць стрэльбаў пяць коняй упалі. Польскі атрад уцякаў.

Пяць жаўнераў жыўцом у жыта пацягнулі...

Зноў вынырнуў месяц.

Тырчэлі чорныя коміны Глухога Бору. Здалёку віцаць былі. Вызначаліся, як трубы параходаў, на фоне нябёс.

Нейдзе плакала спалоханая дрымотная птушка.

## IV

## Мяжа

Якая-ж гэта Беларусь?—ламаў галаву Міхалка. Ішла яна, гэта самая Беларусь раней з немцам, пасьля з палякам, а цяпер з бальшавікамі зноў—яна ды яна...

— Як яна выглядае?

— Па якому гаворыць?

— Чаго хоча ад нас?

Шмат запытаньняў было ў Міхалкі аб гэтай Беларусі. Чуў аб ёй многа ад розных людзей. Ніяк уцяміць ня мог.

Ён яшчэ ніразу яе ня бачыў. Ніразу голасу яе ня чуў...

Нейкая нявідочная істота...

Даведаўся Міхалка аб ёй, калі пачала звацца савецкай.

Савецкая Беларусь.

У ёй гаспадарыць працоўныя: рабочыя ў горадзе, сяляне—у вёсцы.

Хтосьці раней Вільгельму хацеў яе сасватаць, пасьля Пілсудскаму падарыць.

А Міхалка думаў, што Беларусь нейдзе за акіянам жыве. Яе людзі будуць новыя акопы капаць у Глухім Бары.

Ён непакоўся, што не зразумее гэтых людзей, бо з чужаземных моваў ведае толькі адну нямецкую: «ніто кум цыгар»...

Ён трывожыўся, што прыдзецца многа даніны плаціць Беларусі.

Міхалка гуртаваў людзей. Думаў бунтаваць народ...

Абрадаваўся, як растлумачылі ў сельсавеце. Ён даведаўся, што яшчэ адна краіна ёсьць на сьвеце—завецца Беларусь.

Дык чаму-ж аб гэтым даўно не казалі?

Ён-жа ведае кожны яе каменьчык, кожную рэчку, узгоркі, балоты, лясы....

Зусім ня знаў раней, што, апрача нямецкай, умее гаварыць яшчэ і на беларускай мове. Вось так, як ён гаворыць штодня з сваімі суседзямі з малых год. На гэтай мове ён нават сны сьніў ад маленства,

спы сьніў аб волі, аб сонцы. На начлезе калісьці нават песьні сьпяваў. Маладзіцы і цяпер на пагорках вясьнянкі пяюць на простай мове. У горадзе нават кніжкі друкуюцца з такімі песьнямі. Яго хлопчык Юрка чытае....

З кніжкі глядзіць на Міхалку чалавек з вялікім лобам. Гэты чалавек жмурыць вочы на Міхалку, хавая хітрыкі ў вусах і глядзіць. Гэта Ленін—першы бальшавік... Той самы, што аддаў Міхалцы Беларусь. Той самы, што зрабіў яе савецкай.

Міхалка злуецца на самога сябе, чаму раней сам ня ведаў такой простай рэчы. Шукаў люльку, а яна ў яго зубах!

Такія думкі лезуць Міхалцы ў галаву, абсыпаюць яго, нібы іскры, якія мітусяцца, мільгаюць з горна ва ўсе бакі.

Міхалка ў кузьні. Малатком гручыць па жалезе. Рука сама знае закон рытму; мускулы, нібы спрунжыны сталёвыя, разьгібаюцца і зьгібаюцца ў тахт. Кожны ўдар малатка аднамерны і па сіле і па часу—ні на воднае мігаценьне вока ня спудлуе. Другая рука сашчаміла абцугамі кавалак гарачага, мяккага жалеза. Нібы цеста комкаецца жалеза над малатком і прымае патрэбныя формы.

Сын каваля, Юрка, любіць мяхі раздуваць. Трымаецца абедзьвюма рукамі за кій і ўзапар працуе.

Такая дапамога вельмі пажадана для бацькі.

Міхалка жыве недалёка ад граніцы.

У Глухім Бары стаіць пагранічная варта—чырвонаармейцы з зоркамі на шапках.

Міхалка ня раз бачыў і польскіх жаўнераў-пагранічнікаў з белымі арламі на шапках.

Чырвоныя зоркі ня ладзяць з белымі арламі.

Суседняя вёска. Жоўтыя Пяскі, знаходзіцца на тым баку граніцы. Калі ўзбярэшся на ўзгорак, дзе раней стаяў высокі крыж, дык праз рудыя хмызьняк можна пабачыць дым з комінаў Жоўтых Пяскоў.

Часам хлопчыкі з Глухога Бору бягуць на ўзгорак, каб пабачыць «заможны» дым. Яны пільна ўглядаюцца на сінь неба, што на польскім баку знаходзіцца, каб пабачыць белага арла.

Часам, у добрае надвор‘е, чуваць з «таго боку» людзкія галасы.

Часам карова заблудзіцца і апыніцца ў «чужаземнай краіне». Тады між прадстаўнікамі чырвонай зоркі і белага арла пачынаюцца дыпляматычныя перагаворы. „Палітычнымі нотамі“ абменьваюцца абодва бакі. Зьбянтэжаны гаспадар нарэшце адваёўвае сваю карову.

Такія ідыліі часта чыняцца на вачох Міхалкі

Часта слупы пагранічныя акутвае туман. Ня відаць іх. Ня відаць і варты. Тады Міхалцы здаецца, што ніякай граніцы няма, што гэта толькі байка, прыдуманая людзьмі.

Па тым баку, у вёсцы Жоўтыя Пяскі, стары бацька Міхалкі жыве. Цяпер Міхалка ніяк пабачыць яго ня можа. Чужымі парабіліся.

Гэта ня байка—ёсьць граніца.

Толькі жаўранкі граніцы ня ведаюць, носяцца над вёскамі, калі ранічная зараніца палыхае над хмызьняком і адбіваецца аднымі і тымі самымі водблескамі ў маленькіх шыбінах Глухога Бору і Жоўтых Пяскоў...

Толькі вецер сінявокі ня знае слупоў на мяжы. Ён часам стукне аб гэтыя слупы нявідочнай даўбнёй, засьвісьне разбойніцкім заліхвацкім сьвістам, скокне з аднаго боку на другі, вукрадкам пераносе песьні

з аднэй вёскі ў другую... На аднэй мове пяюцца гэтыя песьні—родныя яны. Смутак і радасьць зьмешваюцца, сьплятаюцца ў адно, нібы дым з двух комінаў.

Толькі рэчка Сьлізанка сьмяецца з гранічных капцоў. Адбіваючы колер неба, яна, гэтая вузенькая, як сялянскі паясок, рачулачка, журчыць і булькае па каменьнях, загібаецца ў лукі, у абаранкі, у затокі і пераліваецца з лугу на луг ад Жоўтых Пяскоў у Глухі Бор. Акунькі і плоткі вузенькай Сьлізанкі перадаюць прывітаньні ад рыбачоваў Глухого Бору рыбаловам Жоўтых Пяскоў...

Але ўсё гэта мала цешыць Міхалку.

— Падзялілі Беларусь. Так справа вымагала. Так трэба было.

Адну булку хлеба сьпякла гаспадыня. Нехта вострым нажом раскроіў гэту булку на дзьве палавіны.

Такое ўяўленьне мае Міхалка аб падзеле Беларусі.

Міхалка палажыў малаток на кавадлу, спыніў працу і засумаваў.

Ад аднаго перабежчыка з Жоўтых Пяскоў ён даведаўся, што польскія жандары білі яго старога бацьку, зьдзекваліся над ім за тое, што мае сына бальшавіка.

Сусед расказаў, што бацьку да поўсьмерці зьбілі. Пад пазурамі шпількамі калолі. Білі шомпаламі па галаве. Нагамі па старых грудзёх таптапі...

Шмат яшчэ чага жудаснага сусед гаварыў. Мужыкі па лясох хаваюцца. На панскія маёнткі нападаюць.

Міхалка зноў сьціснуў малаток у агромністых руках. Жалеза аб жалеза зазьвінела, загаварыла мовай іскраў і агню, залемянгавала ад сталёвай злосьці.

Дух бунту закіпеў у моцных грудзёх каваля. Вочы загарэліся:

— Так ня будзе! Так ня будзе!

— Тата... тата...—перабіў яго сын Юрка. —Глядзі! Ён абаранкі есьць.

— Хто? Якія абаранкі?—зьдзівіўся бацька.

— А вунь на двары!

Міхалка спыніў працу і вышаў на двор.

Каля кузьні на вялікім круглым камені з старых жорнаў сядзеў незнаёмы пятнаццацігадовы дзяцюк і еў абаранкі.

І сын і бацька з дзівам глядзелі на абаранкі і на таго, хто іх з апэтытам еў.

Юрка глытаў сьліну. Вочы блішчэлі ў яго, як у галоднага ваўчаня. Кожны раз, як дзяцюк адкусваў кавалак белага абаранка, Юрка ўяўляў сабе, што сам есьць, што адчувае надзвычайны смак...

І майстар быў дзяцюк есьці гэтыя абаранкі! Ён іх еў па нейкаму спэцыяльнаму мэтоду. Нагне галаву на бок і пасабачаму раскусіць абаранак, расьцягне яго ў кілбасу. І тады толькі есьць. Еў ён усім целам: морчшыўся лоб, жмурыліся вочы, рухаліся рукі і ногі. Кожная частка цела памагала есьці.

Юрка дзівіцца пры гэтым, куды дзірка ад абаранка дзяецца. Вось толькі што яна была, а раптам—няма. Абаранак яшчэ цэлы, толькі выцягнугы ўдоўжкі, а дзіркі няма...

— Мабыць, спачатку дзірку есьць! —разважаў Юрка.

Пах абаранку разьліваўся па жылках Юркі. Хлопец ажна ў твары мяняўся. Галава кружылася. Ён ня мог адарвацца ад гэтага дзіва, заглядаў невядомаму дзяцюку ў рот. Зубы лічыў у яго. Хруст смачнага абаранка ў чужых зубох даводзіў хлопчыка да ахмяленьня... У грудзёх млосна рабілася ..

*Быў зьдзіўлен таксама і Міхалка, але зусім па-інакшаму:*

— Гэта-ж абаранкі з мястэчка Ільлі. Ён іх пазнае, як старых сяброў—зарумяненыя, крохкія, з вялікімі, як поўны месяц, дзіркамі. Хоць ты на частакол насоўвай! І пах знаёмы. Ня раз ён закусваў імі у *Малкі пасьля чаркі гарэлкі. Ня раз прыносіў адтуль да хаты* цэлую вязанку гэткіх абаранкаў. Колькі вясёлых крыкаў было тады ад Юркі...

Мястэчка Ільля знаходзілася за чатырнаццаць вёрст ад граніцы на баку белага арла...

Шмат успамінаў меў Міхалка аб гэтым мястэчку. Бадай кожны дзень у панядзелкі езьдзіў туды на кірмаш. Ён і цяпер на памяць пералічыць усіх ільскіх коз. Яны яму добра ў знакі даліся—многа шкоды рабілі на возе.

— Цікава, ці польскія жаўнеры козам таксама бароды павырывалі, як старым ільскім яўрэям?

Але доўга Міхалка над гэтым пытаньнем не задумваўся.

Падазронымі паказаліся яму і незнаёмы дзяцюк і знаёмыя абаранкі.

Міхалка падышоў бліжэй да дзяцюка.

— Скуль ты, хлопча?

Дзяцюк на яго скоса зірнуў. Вочы забегалі, заёрзалі неспакойна.

— А я, дзядзька, з суседняй вёскі.

— З якой?

— Ды з Малявіч.

— З Малявіч... А куды ідзеш?

— У Менск!—бойка адказаў дзяцюк, сьмела пазіраючы Міхалцы ў вочы.

— А скуль у цябе абаранкі?

— Купіў, дзядзька, а што? Мо' хочаш пакаштаваць?

Дзяцюк занепакоены сунуў да грудзей Міхалкі абаранак.

Міхалка адпіхнуў абаранак і болей строгім голасам запытаў:

— Дзе купіў?

— Я... я... я іх не ўкраў, а за грошы купіў...

— Дзе?—грымнуў Міхалка. Ён пачаў злавацца.

— У... у... у Менску, дзядзенька...

— Ты-ж толькі во казаў, што ідзеш у Менск?

— Я... дзядзенька... забыўся...

Міхалка сьціснуў хлопца за карак і грымнуў:

— Гэта-ж ільскія абаранкі!! Ты іх купіў у Малкі! У Малкі!!

Ён вытарашчыў на дзяцюка страшныя вочы.

Дзяцюк расплакаўся. Пачаў маліць-прасіць:

— Пусьці, дзядзенька... Мне трэба хутка падаць ліст у фальварак Маркаўшчызну...

— Ад каго?-зарычэў Міхалка.

— Ад... ад... ад начальніка нейкага...

Так трымаючы дзяцюка за каўнер, Міхалка перадаў яго першаму чырвонаармецу.

У той-жа дзень арыштавалі і шляхціца з фальварку Маркаўшчызна.

Ён быў шпегам.

V

**Хлопчык Вань**

Пасьля сьляпухі-мяцеліцы гурбы абляпілі дарогі.

Белыя, бліскучыя гурбы, нібы горы пшанічнай мукі, душылі платы і мігцеліся пад сонцам.

Лясочкі і гайкі абапал дарогі былі засланы бялёным кужалем і выглядалі дзівоснымі істотамі з дзіцячай казкі, з дрымотнага царства марозу.

Над дрэвамі крычалі вароны. Вострымі крыльлямі яны рэзалі празрыстае палатно неба, купаліся ў паветры. Часам апусьцяцца імпэтна на пушыстую вяршыну, пасыпяць уніз белую сьнежную крупу і зноў уздымяцца з краканьнем у сонечны мароз. Чорныя на белым фоне зьнізу і зьверху яны навявалі вакол нейкую строгую ўрачыстасьць.

Спалі гурбы.

Калі-ні-калі—як прабудзіцца ў нетрах бела-пуховага лесу марозьліва пякучы вецер, як прачнецца на вялізных абсьнежаных стагох на мёртвым балоце, як пачне вандраваць у дзікіх скоках ад поля да поля, як пусьціцца шукаць тораных сьцяжын—гурбы сьнежныя зноў ажывалі. Яны пачыналі сыпаць ветру пыл у вочы. Ён круціўся тады асьлеплены на адным месцы, выў, скаголіў між белымі посьцілкамі, блытаўся ў іх і ня ведаў, што рабіць і дзе дзецца.

Вунь соўваецца па дарозе нейкая нутлая кропка, рухаецца жывая істота ў шэрых анучах. Нехта карабкаецца па гурбах наперад. А завея сотнямі пытляў гоніць яго ў другі бок.

Гэта ідзе хлопчык.

То бок накіруе, нібы руль, насустрач ветру, то сьпіною да яго адвернецца. А ўсё наперад ідзе. Часам твар пакажа; вочы, нібы два шустрыя зайчыкі, прамільнуць па пуховых пярынах сьнегу. Тады вецер лоўчыцца крутнуць яго з ног да галавы, стараецца папасьці яму нявідочнай пугай ў вочы, у рот.

Чырвоны твар хлопчыка аж гарыць. Во, здаецца, кроў брызьне... Ён ня ведае, дзе дзець скачанелыя рукі. Часта хукае на іх, трэць далонь аб далонь, не спыняючы пры гэтым заваёўваць зьбянтэжаную даль.

Увесь запас цяпла ў яго ў роце. Як дзьмухне некалькі разоў на рукі, дык адразу ажываюць пальцы, цяплеюць далоні, і ў грудзёх лягчэй робіцца. Рот у яго—маленькая печачка, дзе можна рукі пагрэць... Каб яшчэ ногі можна было-б пагрэць у гэтай печачцы, тады хлопчык быў-бы як у хаце... Ногі качарэжкамі парабіліся. Адубелі.

Хлопчык ідзе кудысьці. Сам ня ведае куды. Ён уцякае ад нейкага страшэннага ворага.

Здаецца хлопчыку, што сьніць жудасны сон. Зусім нядаўна быў дома. Але не—даўно, даўно—ня то месяц, ня то год, ня то сто гадоў... Думкі ў яго блытаюцца. Успаміны ажываюць яркімі, бліскучымі малюнкамі. Ён ня ведае, дзе іх пачатак, дзе канец.

Ён памятае гарачае, як прысак, лета. Сонца паліла, нібы вогнішча. Сухавеі насіліся па аграмадных абшарах Паволжжа. Пякучы дробны пясок, нібы воблака іскраў, дыміўся па палёх. Сунь у яго палец—спражэцца. Пажаўцела поле. Збожжа ссохлася на пні. Саламяныя сьцяблы акасьцянелі. Пыл лез у вушы, хрусьцеў між зубоў, і зажмрыўшыся трэба было хадзіць.

А то сьціхнуць сухавеі, толькі пячэ-пячэ сьпякота... Лужыны і дробныя рачулкі даўно сонца высмактала. Патрэскалася зямля, як разьбітая цэгліна. Птушкі раней восені паляцелі адтуль, нібы выбіраліся з ачумленай мёртвай зямлі. А тутэйшыя птушкі жаласьліва пішчэлі, нечага непакоіліся.

Хлопчыка тады болей усяго палохалі пахмурнелыя строгія вочы бацькі. Яны застывалі, як лёд, пад сьціснутымі палумесяцамі брывёў і ня ўсьміхаліся ранейшай бацькаўскай усьмешкай. Па гэтых нязвычайных вачох хлопчык даведваўся аб вялікай небясьпецы, якая надыходзіць сюды.

— Гэта горш усялякіх войнаў, горш пажараў,—не сваім голасам гаварыў бацька.

Маці плакала і часта перад бажніцай на каленях стаяла...

На іхнюю ваколіцу наступаў голад.

Што гэта за ягомасьць такі, які гэта новы белагвардзейскі гэнэрал—хлопчык ня ведаў. Так і не пабачыў яго, голаду, да апошняга дня...

Хоць усе ў іхнім сяле гаварылі:

— Голад ідзе! Вось ён! Ужо прышоў!

Як хлопчык ні прыслухоўваўся, але і крокаў гэтага незнаёмага дзядзькі не пачуў. Адно толькі хлопчык заўважыў: такія вочы, як у яго бацькі—і ў іхняга коніка буланага, у кароўкі рабой і нават у яго найлепшага сябра—у сабачкі Ваўчка...

Нібы крэўныя яны ўсе. Нібы адна маці іх радзіла. Ува ўсіх вочы сумныя з гарачым блескам. Іхнія вочы падобны да блеску сонца пад сухавеем... Сьпякотнае сонца пакінула ў зрэнках людзей і жывёлін свой дзікі адбітак.

У ва ўсіх адзін бацька—голад.

Ваўчок часта лізаў рукі і твар у хлопчыка і выў-выў, як ніколі раней, жаласьліва скавытаў. Валасы дуба падымаліся пад шапкай у хлопчыка. А ў яго шчуплых грудзёх нешта ныла, смактала. Толькі хлопчык прыслухоўвацца не хацеў да таго, што ў яго ўнутры робіцца...

Коніка і кароўку даўно зьелі.

Хлопчык памятае, што пры ядзе бацькі між сабою ні слова не гаварылі. Вось як-бы анямелі... Толькі дзьвякалі і цямкалі губамі і цэлымі кавалкамі глыталі. Таксама бацькі не гладзелі пры ядзе адзін на аднаго. Вось як бы нечага сароміліся, або абакралі адзін аднаго.

Пасьля гэтага піру маці капала на яду нейкае карэньне, таўкла, малола ў жорнах, парыла, варыла—уся сям'я глытала.

Хлопчык даўным-даўно забыўся, што ёсьць дзесьці на сьвеце хлеб і бульба.

Можа нікалі і ня было гэтага дабра? Можа аб гэтым толькі ў байках баялі?

Што дня ў іхняй вёсцы памірала некалькі чалавек.

Выкапалі на могілках вялізную яму.

Мабыць, дзядзі баяліся ў адзіночку спаць у сухотнай зямлі.

Суседзі хадзілі панурыя, як цені. Па нябожчыках бадай ня плакалі, не прычытвалі. У вачох жывых зьяў галодны воўчы блеск...

Наслухаўся хлопчык розных страшных гутарак: нябошчыкаў, ядуць, жывых рэжуць, малых дзяцей ловяць.

Ня стала Ваўчка. Ня чуваць выцьця сабакі.

Пуста зрабілася на сэрцы хлопчыка бяз гэтага выцьця. Пры Ваўчку так моцна і голаду не адчуваў. Ваўчок заўсёды цёрся каля яго ног, пішчэў як мыш. Тады хлопчык пра свой уласны голад забываў: жаласьлівасьць да сабачкі запаўняла ўсе яго пачуцьці.

Ваўчок быў яго гадунцом.

Вясной хлопчык бачыў, як іхні сусед Мігры панёс у кошыку на поле, дзе гліну капалі, некалькі шчыняг тапіць. Ледзь выпрасіў у дзядзі адно шчынятка, чорненькае бліскучае з белымі акулярамі-кружкамі вакол вачэй.

Хлопчык краў малако з матчыных гладышоў і выгадаваў сабачку—назваў Ваўчком. Колькі лупцоўкі меў за гэта ад бацькі—усё выцярпеў.

А цяпер во—прапаў Ваўчок...

Хлопчык па суседах Ваўчка шукаў. Плакаў у першы раз за ўвесь час страшнага голаду.

— Дзе Ваўчок?

— Ды ты-ж яго, сынок Вань, учора еў...—казала маці глухім голасам,—што-ж было рабіць? Дзіцё маё горкае...

— Ваўчок! Ваўчок!—загаласіў Вань. Кінуўся вобзямлю. Рваў на сябе валасы. Качаўся па зямлі і енчыў.

— Дзе-ж гэты голад? Я зубы яму выкалачу!— злаваўся Вань.

Сашчэміў Вань худзенькія кулачкі, на якіх сухімі сучкамі тырчэлі косткі, выставіў іх наперад, як нешта вельмі страшнае, і пабег шукаць, дзе дзядзя голад.

Вань хацеў папомсьціцца за Ваўчка...

Аднаго разу бацька нейк дзіўна зірнуў на Ваню. Кіўнуў да яго сухім пажоўклым пальцам, бліснуў вачыма і добрым, салодкім голасам казаў:

— Ва-а-ань...

У бацькі твар зрабіўся вельмі дробным, высах і пажаўцеў. Пальцы былі тонкія і вострыя — адны косьці. Толькі шышачкі мазалёў яшчэ тырчалі на гэтых костках. Ня зыходзілі. Выглядалі расьціснутымі чорнымі ягадамі.

Ад такой зьмены ў бацькі хлопчыку вельмі сьмешна стала.

Вань ціха хіхікнуў.

У адказ на яго хіхіканьне засьмяяўся бацька. Сьмяяўся доўга ўсё галасьней і галасьней. Ня мог спыніць свой рогат. Ён трымаўся за бакі. Погныя валасы прыліплі да яго ілба. Ён вышчэрыў на сына вострыя жоўтыя зубы і рагатаў-рагатаў...

Вань глядзеў на бацьку спалоханы. Яго ахапіў такі страх, ажна ня ведаў, дзе дзецца.

Вань уцёк.

Бягом пусьціўся праз вёску, выскачыў на чыстае поле і нічога ня бачыў перад сабою. Яму здавалася, што за яго плячыма нехта рагоча, рагоча, рагоча... У вушох зьвінела „бум-бум-бум“, нібы пажарны звон.

Вань яшчэ шпарчэй пабег. Хтосьці на крыльлях яго нёс. Ён быў гакі лёганькі, ажна здавалася яму, што вецер яго нясе, як сухі ліст.

Якім чынам апынуўся на возе ў нейкіх незнаёмых дзядзяў—Вань ня памятае.

Дзядзі накармілі яго гарачай заціркай з меднага кацялка.

Пасьля ён папаў на цягнік. Паехаў.

Тарарахтаў цягнік па незнаёмым белым стэпу; насіўся, як шалёны, па роўных бліскучых рэйках усё далей і далей і далей...

А рэйкам канца ня было. Яны прарэзвалі рэчкі, лясы, даліны, узгоркі і былі выцягнутыя па напорыстых грудзёх зямлі, як срыбныя тысячавёрстыя палазы.

І дзівіўся Вань на дым, які побач з цягніком віўся над рэйкамі. Гэты дым, пранізаны іскрамі, стаяў воблакам з боку вагонаў над абшарам, дрыжэў, перакідваўся, і канца яму ня было. У дзень Вань у гэтым воблаку з дыму шмат чаго бачыў. То цэлая вёска іхняя ў ім зыбалася, то родная хата кульгалася на баку, то хмызьнякі нейкія ківалі да яго з дыму. Невядомыя страшныя зьвяры грызьліся там між сабою.

А паравоз гухкаўся, гаргаў вагоны, іржаў жарабцом, выў, рагатаў, ажна не па сабе Ваню рабілася. А вагоны выцягваліся ў доўгае сяло. Хата на хату лезла. Сяло імчалася суровае, звар'яцелае. .

Пад аднамерны рокат жалезных калёс Вань марматаў родныя песьні сваёй ваколіцы. Засыпаў. Прабуджаўся з крыкам. Яму сьніўся тады голад,Ваўчок, буланы, конік і кароўка-рабулька.

Усе яны выстаўлялі на яго бліскучыя, галодныя вочы.

Вань ехаў доўгі час. Калі-ні-калі нават хлеба каштаваў.

Урэшце Вань папаў у нейкі горад. Жыў у бараку. Вакол яго па нарах людзі ляжалі. Яны паміралі, як мухі ў восені.

Вань зноў уцёк. Хадзіў па незнаёмых вёсках. Мужыкі ня былі такія хмурыя, як у яго родным сяле. Кармілі яго гарачай стравай, бульбаю. Хлеб на дарогу давалі. Чужыя цёці гладзілі яго па галоўцы і гаварылі:

— А міленькі, а няшчасьненькі хлопчык.

Жаласьлівасьць чужых цётак Ваню была не да смаку. Гэта будзіла ў яго серцы ўспаміны аб яго родных. Яму плакаць хацелася. Ледзь стрымліваўся.

Вань хадзіў ад вёскі да вёскі.

Усе дзівіліся на хлопца, які трохі па-інакшаму гаворыць. За гэта яшчэ болей шкадавалі:

— Чужэнькі... Гаротненькі...

Мяцеліцы ня былі яму ўжо так страшны. Вань не галадаў.

* *

Вань пабачыў над сьнягамі ў небе нейкую трубу. Нацянькі туды пабрыў.

Гэта быў маёнтак Глухі Бор—цяперашняя Камуна, дзе працавала шмат сялян.

Даўно ўжо ў Камуне Міхалка кавалём працуе. Вань здалёку пачуў звон малатка ў кузьні. Пашоў гуды грэцца.

Рукі яго былі чырвоныя, як накалёнае жалеза. Вань іх грымаў над гарачымі вугалямі, круціў туды і сюды, нібы сьпякчы, як бульбіну, хацеў.

— Як цябе завуць? запытаўся ў яго Міхалка.

— Вань.

— Вань? Ты, мабыць, не тутэйшы.

— Не здешні...

Міхалка аглядаў яго з ног да галавы.

— Што ты тут робіш?

— От голода вбёг...

— Ага...—зразумеў Міхалка і глыбока зірнуў хлопчыку ў сінія вочы.

— Дык ведаеш, Вань, кепска шляцца так па вёсках, як жабрак.

Міхалка зрабіў строгі твар.

Ваню прыемна стала ад строгага выгляду Міхалкі. Людзкую жаласьлівасьць Вань ня любіў.

— Ты, Вань, астанешся тут у мяне. Да вясны будзеш вучыцца ў школе, а з вясны пастухом цябе зробім у Камуне. А пасьля зноў вучыцца аддадзім. Як навучымся—увесь сьвет заваюем! Дык па руках?

Міхалка падставіў Ваню правую аграмадную руку. Вань па-мужчынску лясnуў па ёй маленькай рукою, адагрэтай у кузьні.

Абодвы засьмяяліся.

— Харашо?—запытаўся Міхалка ў Вані, гледзячы на хлопчыка зьверху ўніз, стараючыся ўгадзіць яму расійскім словам.

— Добре! адказаў Вань, зірнуўшы на аграмаднага дзядзю зьнізу ў верх, маючы на ўвазе зрабіць прыемнасьць беларускім словам.

Абодвы былі здаволены.

Міхалка павёў хлопчыка ў хату.

## VI

## У зімовы вечар

Вечар цягнецца доўга-доўга.

Ня вечар—год.

Праз вокны глядзіць белавокая зіма. На вялікіх шыбінах панскіх палацаў яна тчэ ільдзяныя васількі, на вэлюме срыбнай павуціны вышывае нідзе нявідочныя, дзіўныя каласкі на белых лебядзіных шыйках. Месяц запальвае гэтыя малюнькі маленькімі кроплямі іскраў. Кожная месячная кропля разьбіваецца на многа калёраў—блішчыць, зіхаціць і навявае затаёную ціхую радасьць.

Цяпер у адным з вялікіх пакояў панскіх палацаў клюб. Тут граматныя сябры Камуны чытаюць газэты і кніжкі, а рэшта— вучыцца грамаце.

Міхалка адзін з тых, што вучацца грамаце. З друкаванага ён ужо чытае. Чытае па складох плякаты на сьцяне, загалоўкі ў газэтах. Бегла чытае пакуль што толькі дзьве фразы:

„Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!“

„Ленін—правадыр сусьветных працоўных мас“.

Тут літары ня скачуць перад яго вачыма, як спалоханае стада авечак. Яны не пярэсьцяць, як маланкі, а моцна прыбіты, нібы падковы да капытоў вухналямі.

А болей усяго Міхалка любіць слухаць, як хто іншы чытае. Ён тады ўсё разумее. Часам разумее нават лепш за таго, хто чытае.

Кніжку Леніна аб сялянстве ён бадай напамяць ведае. Часам Міхалка дзівіцца, што Ленін думае як раз, як ён... Вось як бы Ленін, перад тым як пісаць, з ім, Міхалкай, гутарыў...

Дзівіцца Міхалка, скуль Ленін ведае яго думкі? Ніразу ня бачыў яго.

Ён глядзіць на партрэт Леніна, што на сьцяне насупроць вісіць. Углядаецца Леніну ў вочы. Як жывы... Хоць завядзі з ім бяседу...

Але Міхалцы няма часу доўга думаць аб усім гэтым—трэба вучыцца пісаць. Гэта справа ня лёгкая. Яго закарузлыя, крывыя пальцы папаленыя ў кузьні, лягчэй малатком па жалезу б‘юць, чымся пяром па паперы мажуць.

Міхалку кідае ў пог. Цяжка перамагчы гэту мудрасьць.

Літараў столькі, што іх ня зьлічыш. А кожная літара па-свойму закручана, па інакшаму заверчана. Кожная літара мае свой выгляд

і свой характар. Вось так, як жывыя істоты. А з першага пагляду здаецца, што ўсе яны падобны адна да аднэй, як кітайцы, як падковы, альбо як мазалі на пальцах. Толькі ў кожнага кітайца свой асаблівы твар. У кожнага каваля падкова мае свой выгляд і зусім не такая, як у другога. У кожнага працаўніка мазалі на руках інакшыя: у каваля не такія, як у зямляроба; у зямляроба не такія як у шаўца; у шаўца не такія, як у столяра.

Па мазалёх на руках Міхалка пазнае чалавека. Досыць яму толькі раз зірнуць. Тут вока ў яго вострае.

Ня тое ў Міхалкі з літарамі на паперы... Перад яго вачыма літары сплываюцца, зьліваюцца ў адно. Хіба вельмі вучоны чалавек можа іх разблытаць, нібы цярплівая гаспадыня заблытаны маток нітак.

Адно, што Міхалка ўжо навучыўся—гэта напісаць сваё імя і прозьвішча. Тут ён увабраў у памяць не паасобныя літары, а словы цалкам. На гэта ён шмат часу штукаваўся і працаваў. І то пры пэўных ўмовах. Ён убіў сабе ў мазгі думку, што ня піша пяром на паперы, а круціць пальцамі мяккі дрот, круціць яго так, што выходзіць Міхалка Саўчук.

Міхалка стараецца з усіх сіл.

Ленін казаў, што кожная кухарка павінна ўмець кіраваць дзяржавай. Калі так, дык каваль павінен умець кіраваць ня толькі аднэй дзяржавай, але ўсім сьветам. Увесь сьвет зробіцца бальшавіцкім!

За пару гадзін у клюбе Міхалка больш змарыўся, чым за цэлы дзень працы ў кузьні...

Міхалка ідзе да хаты.

На вялікім дзядзінцы Камуны сьнег насыпан дробненькі, нібы ценькая сіняватая соль. Пад нагамі скрыпіць. Хоць галава стомлена, але лёгка на сэрцы. Міхалка дыхае сьвежым марозьлівым паветрам. Яму здаецца, што п'е смачнае піtво. Розныя думкі бруяцца ў галаве, вылазяць з усіх куткоў істоты.

Настаўнік чытаў учора газэты, і чыганае ня выходзіць у Міхалкі з галавы.

Газэты зьяўляюцца для Міхалкі вышэйшай школай—унівэрсытэтам. Яны злучаюць яго нябачнымі ніткамі з усім сьветам. Ён ведае з іх, як ідзе праца на Валхвастроі, на вугольных Донскіх капальнях, як адбываецца забастоўка на розных фабрыках у Нямеччыне, як у капіталістычных краінах бунтуюцца працоўныя, ваюць за свой дабрабыт.

Кожную навіну, кожную падзею Міхалка прымае блізка к сэрцу, хаця краіны, дзе ўсё гэта адбываецца, у яго ўяўленьні прымаюць свяя-відную ахварбоўку, праламляюцца па-свойму ў яго ўласнай геаграфіі.

Міхалка ператасоўвае ў сваіх думках розныя краіны, нібы калоды карт. Заўсёды ён дзеліць людзей гэтых краін на дзьве часткі—на працоўных і дармаедаў.

Болей усяго яго захапляе паўстанчы рух у Заходняй Беларусі. Там і знаёмыя мясцовасьці і знаёмыя людзі. Дрыжаць паны. Над маёнткамі разгульваюць чырвоныя пеўні. Міхалка сьціскае кулакі ад гневу. Яго крэўныя закатаваны на сьмерць жандарамі. Сотні працоўнага люду гібеюць у Віленскай, Беластоцкай і іншых турмах.

Болей усяго яго цікавіць атаман паўстанцаў—Муха. Сполах наводзіць атаман Муха на польскіх паноў. Яго і злавіць нельга. Ён зьвіў сабе гнёзды ў Белавескіх, Налібоцкіх, Палескіх і іншых пушчах і лясох. А паны баяцца лясоў. Ня ідуць на Муху ў лес. Тады адважны

атаман да іх у маёнткі прыходзіць. Застрэліць на дарозе некалькі жандараў, нападзе на пастарунак паліцыі і пераадзеты ксяндзом у маёнтку з паненкамі гуляе... У другім месцы яго атрад забірае коняй і —зноў у лес.

Багата лясоў на Беларусі. Багата і малайцоў-удальцоў...

У гэтых думках Міхалка не заўважыў, што ледзь ня стукнуўся ілбом у лоб з высокім старым папом.

— Добры вечар!

— Добры вечар!

А сьцежка цёмнай зрабілася ад доўгага папоўскага ценю. З-пад капялюха „бацюшкі“ рассыпаны па плячох рэдкія пасмы жоўта-сівых валасоў. Чорная фігура папа псуе настрой Міхалкі.

— Калі сустрэнеш папа на дарозе—не к дабру,—кажуць людзі.

Міхалка плюе, што нібы верыць у гэты дурны забабон.

— Але бадай гэта не забабон, а праўда. Поп заўсёды ідзе туды, дзе можа што-небудзь сьцягнуць. Бярэ за хрэсьбіны, бярэ за шлюб, бярэ і за хаўтуры. Усё дай і дай.

Міхалка ўспомніў, што ў суседа Арцёма старая маці пры сьмерці.

— Пэўна, поп туды павалокся—па „грэшную душу“ і мерку жыта...

Міхалка плюнуў у сьнег.

— Цьфу! Каб ты запрапасьціўся, каб ты!

На твары Міхалкі залунала хітрыка і таемнасьць.

— Сёньня гэтаму канец...—працадзіў ён праз вусы.

Міхалка ўвайшоў у хату, крадучыся і аглядаючыся з апаскай па бакох.

Ад зьзяньня месяца ў хаце было відна ва ўсіх закутках.

Усе спалі.

Міхалка зірнуў на кут, дзе адлівала золатам бліскучая бляха бажніцы. Адтуль паглядалі на яго „маці боская“, „младзенец“ і сівенькі Мікола.

Колькі разоў Міхалка тлумачыў жонцы, што гэтыя „багі“—папера, дрэва і бляха, што сорамна яму перад таварышамі, якія коляць вочы гэтымі багамі. Ён хоча зьняць багоў са сьцяны.

Але набожная жонка лемянтуе.

Колькі разоў ён бабе гаварыў, што „лірыгія“—хмель для народу, што вера—п'янства, ад якога толькі дурман у галаве—ніяк ня мог загітаваць сваю „дурную бабу“, як ён называе яе.

А з мяне суседкі сьмяяцца будуць, а тое ды сёе скажуць,—сыпала словамі, нібы гарохам, жонка Міхалкі.

Усё краснамоўства Міхалкі аб тым, што папы абманваюць народ, што апошні фунт збожжа забіраюць, што абразы—папоўскія цацкі,—нічога не памагае.

Упартая жонка ў Міхалкі.

І вось на гэты раз Міхалка задумаў наладзіць рэвалюцыю ў хаце—зьняць абразы.

Строгія вочы „сьвятога“ Міколы пільна ўглядаліся ў ня менш строгія вочы Міхалкі. „Божая маці“ з „младзенцам“ болей рахмана глядзелі. У месячным зьзяньні вочы „сьвятых“ былі глыбокія і жывыя.

Міхалка ўспомніў сваіх бацькоў і дзядоў. Гэтыя абразы яму ад дзеда ў спадчыну засталіся...

— Ня мала дзед і бацька „бацюшку“ за абдзірства лаялі.

— Далоў гэту панскую выдумку!

— Прэч бляшаныя цацкі!

— Не патрэбны мне ідалы!

Такія думкі прамільгнулі ў яго мазгох трыма кароткімі лёзунгамі, якія павялічылі яго рашучасьць, падняліі гнеў.

Міхалка асьцярожна, каб жонка не прачнулася, здымаў абразы са сьцяны.

Тутэйшая камсамолія вельмі жыва адклікалася на ўсе здарэньні, якія адбываліся ў ваколіцы. Выпадак з абразамі ў Міхалкавай хаце, дзе гаспадыня вельмі набожная, была ў іх вялікай падзеяй. Камсамольцы даўно ведалі аб змаганьні, якое вядзе Міхалка з сваёй жонкай.

Ня раз ён ім гаварыў, што лягчэй увесь сьвет заваяваць, чымся сваю ўпартую бабу. Не дае вынесьці царквы з хаты ды годзе! А мне хочацца сваю цэркаўку на клюб перарабіць—у пустой бажніцы могуць ляжаць кніжкі і газэты, бо я ўжо сам чытаю!

Камсамольцы былі вялікімі майстрамі прыдумваць часгушкі і сьпяваць іх пад гармонік на ўсю вуліцу. На рэвалюцыю у хаце Міхалкі яны таксама прыдумалі песьню:

У Міхалкі чуб-чупрына
Раскудлацілася.
Яго жонка пад адрынай
Бажаняцілася.

Поўна—поўненька ягняг
Невялічачкіх.
Ой, у хаце бажанят!
Ой, каплічачка!

Зазлаваўся гаспадар
Ды на цацачкі.
Выкінуў ён бажанят
З роднай хатачкі.

Сядзіць дзеўка на паркане—
Паркан ломіцца.
А Міхалка малайчына
Камсамоліцца.

VII

## Яны і мы

Яны — і мы.

Гэтымі словамі Міхалка падзяліў людзей сваёй ваколіцы на два лягэры—на ворагаў і прыяцеляў савецкай улады.

Яны— багатыя, мы—бедныя.

Яны—кулакі, мы—беднякі.

Кожнае новае зьявішча ў акаляючым жыцьці ён прымаў блізка к сэрцу. Кожную самую дробную праявіну афармляў па-свойму ў сваіх думках і адчуваньнях.

Заўсёды пры выбарах у сельсавет сяляне інстынктыўна дзяліліся на два лягэры. Сымпатыя і крэўнасьць у гэтым падзеле выяўляліся адразу бяз доўгіх разважаньняў. У гэтых выпадках здаралася так, што два родныя браты, сыны адных бацькоў, ішлі адзін супроць другога. Адзінства складалася не па сваяцтву крыві, а па сваяцтву кішэняў: багатых цягнула к багатым, бедных—к бедным.

— Няхай сабе гультаі, галадранцы між сабою ладзяць, а мы не на іх будзем гараваць і працаваць,—гаварылі кулакі.—Мы ня вінаваты ў тым, што яны запусьцілі свае гаспадаркі, што ня ўмеюць жыць. Мы ім сваіх дзесяцін не аддадзім!

І вось кулакі, тыя, што „умеюць жыць“, мелі сваю тактыку пры выбарах у сельсавет. Першым чынам кулакі стараліся перад выбарамі задабрываць і паіць самагонам беднякоў, „каб ня перашкаджалі“. Апрача таго, прыдумвалі шмат іншых штук.

Кулакі прыходзілі на выбары апранутыя ў лахманы, у парваныя сьвіткі. Бедныя, наадварот, апраналіся ўва ўсё лепшае, што ў іх ёсьць - хоць белую зрэбную кашулю надзене, хоць новыя лапці абуе.

Бедныя ідуць як на сьвята, на сямейную ўрачыстасьць.

Багатыя ідуць як на неабходны маскарад.

Багатыя да хрыпоты крычаць аб тым, што яны за савецкую ўладу.

Бедныя аб гэтым мала гавораць, бо гэта і так відаць з кожнага іхняга самага спакойнага слова.

З кожнымі новымі выбарамі кожны з гэтых лягэраў рыхтуецца мацней, маючы практыку мінулага году, болей шчыльна гуртуе свае сілы. Кожны выстаўляе свой сьпісак. Чый сьпісак бярэ верх—на карысьць таго сельсавет працуе.

Гэта Міхалка ўжо досыць нагледзіўся. Ад выбараў залежыць пасьля і сенакос, і дровы, і надзелы зямлі, і падаткі і ўвесь дабрабыт сялян.

Міхалка на выбарах кожны раз да хрыпоты ваюе.

Сёлета, як Міхалка ні стараўся, а сельсавет быў выбран „іхні“ — кулацкі.

Часта нават поп заходзіць у сельсавет, як свой чалавек. Бядняк за дзьвярмі застаецца.

Старшыня сельсавету хабары бярэ. Некаторыя пачалі чуць не адкрыта самагон курыць. Падаткі запісваюцца няправільна. У багатых на сельсавецкіх паперах зьнікае па некалькі дзесяцін зямлі. У бедных, наадварот, на паперы зямля прырастае.

Парадкі ідуць, як у старай царскай воласьці.

Міхалка бачыць гэта дзень у дзень. Так праходзіць некалькі тыдняў.

— Аб гэтым нельга маўчаць,—кажа Міхалка,—гарадзкі пралетарыят павінен ведаць. Трэба напісаць у „Беларускую Вёску“. Гэта—наша газэта!

Два тыдні Міхалка рыхтуецца—праца ня лёгкая. Выбірае спэцыяльны дзень—дзень адпачынку.

— Юрка!—кліча Міхалка сынка,—Юрка!! Хадзі, сынок, сюды!

Голас у Міхалкі строга ласкавы. Грозныя вочы з усмешкай на хлапца паглядаюць.

— Сягоньня няхай Вань адзін гуляе. Ты мне патрэбен у хаце!

Юрка трохі нездаволены.

Сягодня ў яго рашучая бітва. Павінен быць вырашаны лёс дзьвюх армій—чырвонай і белагвардзейскай. Юрка—камандзір чырвонай арміі, Вань—белагвардзейскай.

Доўга яны спрачаліся між сабою: хто якой арміяй павінен кіраваць. Ніхто не хацеў быць камандзірам белагвардзейцаў. Юрка ледзь Ваню ўпрасіў на гэту „брыдкую справу“. „Гэта-ж не сапраўды, а толькі як-быццам“, —гаварыў Юрка.

Белагвардзейскай арміяй былі дзеці кулакоў, якія згадзіліся самі на гэта. Толькі камандзір быў у іх ня свой—няшчыры. Ужо тры тыдні на выгане адбываліся бойкі між гэтымі двума арміямі кожны дзень пасьля школьных заняткаў. Сягоньня павінна была кончыцца грамадзянская вайна. Але нічога ня зробіш! „Рашучы бой“ адлажылі на заўтра.

А роля Вані у гэтым „рашучым баі“ у „як быццам“ была вельмі цяжкая: ён у душы хацеў астацца пераможцам, гэроем. Але як камандзір белагвардзейцаў павінен быў прайграць вайну. Так вымагала справа. Ён быў ахвярай дзеля гэтай справы. Бо каб паставілі іншага—з кулацкага лягэру, дык можа гульня ў „як быццам“ кончылася-б ня так, як трэба.

Юрку зацікавіла бацькава справа. Хаця яшчэ ня ведае, ў чым рэч.

— Дастань, сынок, паперу, ручку і атрамант!—скамандаваў Міхалка такім тонам, нібы загадаў прынесьці стрэльбы і патроны.

— Мы з табою нешта напішам!—адкрыў ён сыну сакрэт.—Хоць адзін настаўнік вучыць нас, але спрыты ў нас розныя!

Міхалка наморшчыў лоб і давай тлумачыць сыну, у чым у іх „розныя спрыты“:

— Ты, сынок, хутчэй за мяне чытаеш і пішаш. Затое я больш за цябе разумею. *Спрытнейшы, значыцца, на розум.*

Па выгляду Юркі відаць было, што ён не ва ўсім згодзен з бацькавай характарыстыкай. Ён ціха сьвіснуў і гарэзьлівым вокам зірнуў на бацьку.

Міхалка гэта не заўважыў і казаў дзелавым тонам:

— Дай зложым гэтыя спрыты ў адно! Наладзім свой саюз рэспублік!

Пры гэтых словах Міхалка хітра ўсміхнуўся.

Юрцы, які некалькі тыдняў ужо знаходзіцца „на фронце“, дзе акопамі зьяўляюцца канавы на выгане, такія дыплёматычныя словы бацькі вельмі спадабаліся. Гэты „саюз рэспублік“ зьявіўся як-бы прыемным працягам яго дзіцячай гульні.

Ен уважліва слухаў бацьку і жмурыў вочы супроць сонца, якое праз вакно біла ў твар.

З двара данасіўся ў хату гоман вераб'ёў. Яны гучна, бадзёра чылікалі. То густою купкаю ўседзяцца на абмерзлай рабіне і здаюцца лёйкімі дзівацкімі жывымі пладамі, то веярам спусьцяцца на руды сьнег. Дзяўбуць адзін аднаго, скубяць пер'е і крычаць гвалту на ўвесь двор.

На гэты раз Юрка не зварачвае ўвагі на верабінае вясельле. Ён думае аб цікавым „саюзе рэспублік“ між ім і бацькам.

„Саюз рэспублік“ хутка пачаў дзейнічаць: Юрка піша пад дыктоўку Міхалкі.

— Пішы, сынок, пішы... „Яны і мы“. Напісаў? Добра! Так будзе называцца карыспадэнцыя.

І Міхалцы і Юрцы было прыемна ад гэтага слова. „Карыспадэнцыя“ была ўжо сур'ёзнай дзяржаўнай палітыкай...

— І ў нас ёсьць кулакі і беднякі. Напісаў? „бед-ня-кі„. Добра! Кулакі сядзяць у сельсавеце. „У сель-са-ве-це“. Кончыў? Вось так. Пішы: У нас кулацкая ўлада.

Міхалка закасаў рукавы. Праца была ня лёгкая. Ён моршчыў лоб і дыктаваў сыну ўсю хроніку іхняга сельсавету: і пра самагон, і пра няправільныя падаткі і пра іншыя кепскія ўчынкі.

Пісалі доўга. Абодвы спацелі.

„Жалезнай камуністычнай мятлой такіх вычысьціць трэба з нашага сельсавету“!—кончыў Міхалка дыктаваць, а Юрка пісаць. Прачыталі два разы, пасьля чаго Міхалка падпісаўся сам:

Селькор Міхалка Саўчук.

Корэспондэнцыя была паслана ў Менск, у газэту „Беларуская Вёска“.

Як толькі прыходзіў сьвежы нумар газэты, Міхалка з нецярплівасьцю шукаў на яе слупкох сваю корэспондэнцыю. Нарэшце знайшоў! Пабачыў надрукованыя чорным на белым словы: Селькор Міхалка Саўчук.

У Міхалкі сэрца затрыпятала ад радасьці... Ен меў такое здавальненьне, як тады, калі ў кузьні выкляпаў першы цьвік. Ды яшчэ большую радасьць, бо яго будуць ведаць цяпер ва ўсім Саюзе, хто толькі гэту газэту чытае. Ды яшчэ большую радасьць, бо ўсе будуць знаць, што ў іх паганы сельсавет. У горадзе зацікавяцца. Зьнімуць з працы ворагаў савецкай улады.

Пасьля першых хваляваньняў Міхалка пачаў чытаць сваю друкаваную корэспондэнцыю. Яна была надрукавана пад іншым загалоўкам: „Зьвярнеце ўвагу на Глухабораўскі сельсавет!“ і была шмат скарочана. Неяк і чыталася цяпер лягчэй, чымся раней у рукапісу.

— Праз машыну прапусьцілі—вось чаму такая гладкая выйшла!—тлумачыў Міхалка сябром, чытаючы ў пяты раз сваю корэспондэнцыю.

Уся ваколіца аб гэтым загаварыла. У Камуне на Міхалку глядзелі як на гэроя, з большай зацікаўленасьцю, чымся тады, калі ён жывога польскага жаўнера прыцягнуў чырвонаармейцам.

— Такую штуку кожны патрапіць. Вось папрабуй у газэце пісаніну друкаваць! На гэта патрэбны здаравенныя мазгі... Шут яго няхай бярэ—гэтага Міхалку!

Да Міхалкі пачалі прыходзіць людзі, пакрыўджаныя ў сельсавеце. Яны гаварылі свае скаргі. Міхалка накіроўваў іх у раён. Па вечарох дыктаваў сыну пісулькі для гэтых людзей.

У Міхалкавай кузьні заўсёды было біткам набіта народу. Як-бы другі—бядняцкі сельсавет зрабіўся тут...

Аднаго разу па Міхалку прышоў з сельсавету міліцыянэр.

Хоць ня раілі суседзі ісьці яму цяпер туды—у калацкае гняздо, але Міхалка пашоў. Цікава было пабачыць, як там людзі адчуваюцца пасля яго корэспондэнцыі...

Старшыня сельсавету адразу на яго наваліўся з крыкамі і лаянкамі:

— Ты што, Саўчук, за контрэволюцыю разводзіш? Га? Што гэта ты напісаў у газэту?

— Напісаў, бо трэба было!—цьверда адказаў Міхалка, з усьмешкай паглядаючы на шырокія галіфэ старшыні.

— Гэта ўсё хлусьня, што ты напісаў!—гарачыўся старшыня.—Будзеш сядзець у турме за клевяту!

— Яшчэ пабачым, хто ў турме будзе сядзець,— спакойна сказаў Міхалка, але вочы яго сыпалі іскры.—У Мірона пятнаццаць дзесяцін зямлі, а ты запісаў восем. Сенакос пад барком за гарэлку каму ты аддаў?—Цыпруку, хоць ён і так сена прадае з ранейшых сенажацяў! Язэп самагон курыць на ўсю ваколіцу, ты яго пакрываеш, бо твой кум! А чаму да гэтага часу канакрадаў ня цапнулі? Бо ты...

— Маўчаць!—крычаў старшыня не сваім голасам.—Не ў сваё карыта ня лезь!

— Гэта як раз маё карыта!—грымнуў і Міхалка, стукнуўшы кулаком аб стол, ажна атрамантніца падскочыла і забрызгала атрамантам паперы.

— Гэй, міліцыя!—заравеў старшыня, і жылы на яго ілбу надуліся.—Узяць яго!! контр-рэволюцыю разводзіць!

Два міліцыянэры, пры дапамозе старшыні сельсавету і яго сэкратара, папхнулі Міхалку у цёмны пакой...

Міхалка быў да таго ашарашаны ўсім гэтым, што не бараніўся, калі на яго наваліліся і зьбілі да поўсьмерці. Яму пагражалі рэвальвэрамі і называлі контрэволюцыянэрам...

Назаўтрае, як у Камуне даведаліся, што Міхалка арыштованы, што яшчэ не вярнуўся з сельсавету, дык цэлай грамадою прышлі яго вызваляць.

Праз некалькі дзён старшыня сельсавету быў арыштаваны і вывезены ў акругу.

Газэта „Беларуская вёска" толькі што пасьпела выдрукаваць яшчэ адну корэспондэнцыю пад назваю: „Зьдзекі кулакоў над селькорам", дзе падробна была напісана ўся гісторыя аб тым, як Міхалку білі ў сельсавеце,—як надышлі сумныя, жалобныя дні. Нават сам Міхалка не зацікавіўся прачытаць, што аб ім камсамольцы ў газэту напісалі...

У той час стаялі вялікія маразы.

Вёстка аб сьмерці Леніна абляцела ўвесь Саюз, дайшла і да Камуны ў былым Глухім Бары.

Клюб быў перапоўнены.

Вялікі портрэт Леніна на сьцяне быў у чорнай рамцы.

Чорныя радкі газэт мітусяцца ў вачох Міхалкі.

Там усё пра Леніна.

Настаўнік доўга гаворыць аб жыцьці і працы Леніна.

Нібы цьвякамі ўбіваюцца ў памяць Міхалкі малюнкі з жыцьця Леніна.

Яго жыцьцё— гісторыя рэволюцыі.

Абразы змаганьня за волю прыгнечаных праходзяць кіно-стужкай перад Міхалкай.

Кожны з гэтых абразоў зьвязан з Леніным...

Міхалка іх ніколі не забудзе...

Гісторыя рэволюцыі сваявіднаператвараецца ў адчуваньнях і ўяўленьні Міхалкі, адбіваецца ў яго сэрцы, як у каляровым шкле.

Настаўнік быў майстрам апавядаць. У міхалкі падзеі дзеляцца не хронолёгічна, а паводле яркасьці і романтыкі змаганьня.

Жандары—тоўстыя, адкормленыя, з быдлячымі вачыма; шпегі—хітрыя, спрытныя: часам яны нават зьяўляюцца кіраўнікамі рэволюцыйных гурткоў, провацыруюць на замах, на тэрор; сядзяць у турмах як рэволюцыянэры, каб і там шпегаваць; як цені ходзяць па вуліцах, па закавулках за ахвярамі; праца ў падпольлі; шыбеніцы з сотнямі, тысячамі павешаных рэволюцыянэраў. Напады на цара, на царскіх саноўнікаў. Барыкады на вуліцах узбураных гарадоў. Страляніна. Трупы забітых на вуліцах. Горад увесь у агні і крыві.

А ўсё гэта чынілася дзеля таго, каб маёнтак Глухі Бор зрабіўся-б Камунай...

У настаўніка вочы гараць. Твар белы, як папера, ад хваляваньня. Дрож пранікае мускулы худога твару. Хвалюючы голас пранізвае сэрцы слухачоў. Кожнаму здаецца, што прамоўца выключна на яго глядзіць, толькі да яго гаворыць.

...Ленін ў Сыбіры. Вялікі змагальнік за волю брыдзе па страшэнных сьнягох. Мароз гуляе па прасторах тайгі. Ленін не падаецца: піша кнігі для народу.

...Ленін за граніцай.

Адтуль прыходзяць лісткі на папяроснай паперы. Дробныя, як мак, друкаваныя літары. Натта страшныя для царскай паліцыі гэтыя лісткі.

Баяцца лісткоў „сіцылістаў“, як дынаміту, бомбаў.

У каго знаходзяць лісткі- катуюць на сьмерць.

Закованыя ў кайданах „сіцылісты“ ў каменных мяшкох усё жыцьцё пакутуюць. Усё за гэтыя лісткі.

...У лісткох народ пазнае праўду. Нібы порах на агонь, падаюць словы з лісткоў у думкі мільёнаў працоўных. Пажар паўстаньня бухае па ўсіх куткох ранейшай царскай вялізнай імпэрыі, якая займае шостую частку сьвету.

Надзвычайную сілу надаюць гаротнаму люду гэтыя вузенькія, тоненькія лісткі з густымі чорнымі літарамі.

Люд скідае страх, нібы агідныя анучы, сьмяецца з сьмерці, з мучэньняў. Ідзе тысячамі, мільёнамі наперад, каб вырываць волю з воўчых клыкоў багатых; кідаецца ў полымя бунтаў, каб скінуць з сваіх плеч векавую няволю; ідзе ў турмы, каб адваяваць свой чалавечы гонар.

Усё гэта робіцца дзеля таго, каб Міхалка быў у Камуне сябром, роўным з усімі...

У настаўніка, паводле ходу апавяданьня, мяняецца твар, постаць і голас. Нібы хтосьці яго перамалёўвае, падстаўляе іншага замест яго. Але не—вочы тыя самыя кожнаму пазіраюць у глыб сэрца

А заўсёгды настаўнік быў такі спакойны, ціхі, з слабым голасам.

...Ленін у шалашы.

Хаваецца ад агэнтаў буржуазіі, ад Керанскага, які выдаў загад арыштаваць Ільліча... На Леніна сыпяць розныя паклёпы. Нібы немцы далі яму грошы, каб загубіць Расію.

Потым...

Потым улада ў руках працоўнага люду--у руках бальшавікоў.

Міхалка пералічвае ў памяці ўвесь ход падзей, грамадзянскую вайну, акупацыі на Беларусі. І ён, Міхалка, прымаў маленькі ўдзел у гэтай рабоце пры змаганьні з палякамі.

У часы голаду, калі буржуазея з усяго сьвету хацела задушыць нашу рэволюцыю, Ленін кіраваў новым будаўніцтвам у вызваленай дзяржаве. Ленін дабіваўся, каб усе былі граматнымі, абутымі, адзетымі, у электрычным сьвятле ў добрых памяшканьнях. Ленін стараўся, каб усе народы, якія раней былі прыдушаны пад царскім ярмом, цяпер адраджаліся нанова.

Усё гэта тлумачыць настаўнік перад грамадою ў клюбе Камуны.

Вялікая гісторыя рэволюцыі ў вялікай краіне праходзіць перад вачыма Міхалкі ў сьвежых жывых фарбах.

І ён, Міхалка, насіў гэту гісторыю на сваіх плячох, як мільёны іншых працоўных.

...Памёр Ленін—жыве ленінізм, –чытае Міхалка баразну вялікіх чорных літараў, якія надрукаваны над дробным макам пяці газэтных слупкоў.

Перад Міхалкай адчыніўся сьвет новых думак, новых пачуцьцяў, новых разуменьняў.

Міхалка новым чалавекам стаў. Ён першым у Камуне запісаўся ў партыю Леніна.

## VIII

## Борух—ня той Борух

Боруху цяпер пад пяцьдзесят год. Ён даўно жыве ў вёсцы Глухі Бор. Яшчэ яго бацька тут жыў. Борух калісьці быў гандляром. У яго хаце была маленькая крамка, дзе прадавалася махорка, соль, мыла, дзёгаць, паркалёвыя хусткі і іншыя дробныя рэчы. Гэтым займалася яго жонка. Ён сам езьдзіў па ваколічных вёсках і скупліваў збожжа. На зямлі працаваць вураднік яму не дазваляў.

Калі ў Боруха гандаль часам ня клеіўся, гады ён разам з сялянамі езьдзіў у лес на заробкі. У тэй ваколіцы шляхта мела многа лесу. Гарадзкія купцы іх патроху чысьцілі. Вось з гэтых лясоў Борух вазіў калоды да сплаўнай рэчкі. Доўгі абоз фурманак цягнуўся да рэчкі. Вазакі былі абмазаны смалою. У купецкай шафарні ім выдаваліся „цэтлікі“ на прывезены тавар. Раз на тыдзень плацілі па гэтых „цэтліках“.

Борух, як граматны чалавек, не дазваляў купецкім прыказчыкам абманваць сваіх суседаў. За гэта часта яму адмаўлялі ад заробкаў. У рэшце купцы зусім ня бралі Боруха на працу, як „неспакойнага чалавека“.

Калі заробкаў у Боруха ня было, калі гандаль у яго ня клеіўся, калі ў суседаў ня было ўраджаю,--тады Борух езьдзіў па вёсках спаганяць старыя даўгі, аб якіх у добрыя гады заўсёды забываўся.

- Скручаныя мазгі ў Боруха,—гаварылі сяляне,—калі ёсьць у нас чым заплаціць, тады Борух і носу не паказвае, а калі ў хаце галадуха,—тады тыц з даўгамі!

Борух браў з запыленай паліцы тоўстую біблію і пускаўся ў дарогу.

Надзвычайная біблія была ў Боруха: пузатая, у скураной аправе, вялізная, з вельмі шырокімі палямі вакол тэксту. Пяцікніжжа Майсея падзелена ў бібліі на пяцьдзесят два тыдні году. Адну з гэтых частак Борух чытаў па чарзе ў суботу паводле традыцыйнага сьпяваньня, якое было адзначана над словамі і пад імі спэцыяльнымі значкамі-нотамі. Кожны значок зьяўляўся цэлай фразай сьпеву.

Разьдзелы пяцікніжжа на тыдні служылі Боруху вечным тыднёвым каляндаром. А шырокія палі вакол тэксту былі яго гросбухам, куды пад дыктоўку жонкі занатоўваў сялянскія даўгі дзень-у-дзень.

Уся біблія была сьпісана даўгамі. Што-ж, калі бог Адэнай апекаваўся жыцьцём Боруха, дык няхай у сьвятым пісаньні натуецца і грашовы зварот „гешэфтаў“ Боруха на зямлі, няхай „сьвятыя“ патрыярхі Абраам, Ісаак і Якаў контролююць рахункі Боруха. Вось з гэтых рахункаў некаліс і на небе даведаюцца аб жыцьці Боруха на зямлі... Лепшых дакумэнтаў і ня трэба.

І, сапраўды, вельмі цікава гармоніраваў тэкст старога тастамэнту з новым тэкстам, прыпісаным Борухавай рукою.

На тым месьце, дзе Каін забіў Абэля, Борух напісаў на палях дробнымі літарамі: „Юрка, бэн (сын) Цыпрука, павінен заплаціць за тры фунты солі і фунт дзёгцю“.

Там, дзе Ной ляжаў п'яны, і сыны з яго сьмяяліся, было адзначана рукой Боруха: „Сымон, бэн Янкі, вінават пяць залатовак за гарэлку“.

Мы раней не казалі, што Борух і гарэлкай гандляваў, бо і тады гэта было забаронена. Дзеля гэтага мы не хацелі сароміць царскіх акцызьнікаў, якія за пачастункі дазвалялі Боруху яе прадаваць.

Дзе Якаў абмануў сьляпога бацьку Ісака, было прыпісана Борухам: „Тры фунты селядцоў і пачку сярнічак набраў Мікіта, бэн Паўлюка, альбо Марыля бас (дачка) Барбарчыка Белавуса“.

Борух ня памятаў за кім з памянёных дзьвюх асоб лічыцца гэты доўг. На ўсялякі выпадак успомніў і адну і другую асобу.

Дзе Маісей гаварыў з царом Фараонам аб усіх пошасьцях, якія бог пашле на Эгіпэт, было прыпісана: „солі тры фунты, абаранкаў дзесяць штук, адна хустка, пяць фунтаў белай мукі, тры кварты гарэлкі Тодар, бэн Гаўрылы, набраў на хрэсьбіны“.

Такім чынам, два тэксты запаўнялі біблію. Справы душы і цела былі злучаны ў Боруха ў адно... Борухавы рукапісны тэкст бібліі быў вельмі заблытаны, але Борух напамяць добра ведаў бадай усе даўгі. Яны былі замацаваны ў бібліі толькі дзеля таго, каб паказаць сялянам, што ў яго вядзецца „бухгальтэрыя“. „Што напісана пяром, ня вырубіш тапаром“. „Гросбух“ Боруха у скураной аправе выклікаў ў даўжнікоў давер'е да лічбаў, якія ў ім былі занатаваны.

У вільготныя васеньнія дні Борух езьдзіў па вёсках ад хаты да хаты, спыняў каня і з бібліяй пад пахай уваходзіў у хату.

— Не раўнуючы, як поп па парахвіі,—жартавалі сяляне і няпрыязна паглядалі на Борухаву біблію.

Чалавек—як чалавек, але біблія твая ой у косьці ўлезла. Чаму ты ня прывёз яе ў лепшы час?

Вохаў селянін і з гарцам ішоў у пуставаты сьвіран, каб даць Боруху ў лік даўгоў мерку збожжа...

Борух памятае добра і рэвалюцыю 1905 году.

Вельмі арыгінальна праходзіла яна ў гэтым кутку.

Сяляне з ваколічных вёсак хадзілі тады ў панскі лес па лыкі. Назапасілі сабе лапцёў на тры гады... Праўда, пан пасьля не дараваў за лыкі—паласавалі на лыкі іхнія сьпіны нагайкамі, і грашмі заплацілі ў тры разы болей. Але ў параўнаньні з суседзямі, дык гэткая панская адплата была толькі балюшкай.

У іншых мясцох сяляне бралі з панскіх лясоў не на лыкі, а на хаты, нават „бунтавацца“ пробавалі. Там многія былі закатаваны на сьмерць казакамі.

Адна такая ахвяра была і тут Гэта малодшы брат Боруха, Мэндаль. Ён даставаў ад „сіцылістаў“ забароненыя лісткі. Вураднік вывёз яго адгэтуль зьвязанага, як разбойніка („сіцыліст—горш разбойніка“, гаварыў вураднік). Павезлі Мэндаля ў горад. Ён адтуль болей не вярнуўся.

Гэтая падзея паслужыла папу добрай тэмай для казаньня перад парахвіянамі. Ён гаварыў з амбона, што ва ўсім вінаваты жыды, якія хочуць скінуць цара. Па гарадох,—гаварыў поп,—на іх пагромы робяць. Нішчуць гэтае паганае племя ўсе тыя, хто ў бога верыць.

Па ўсіх вёсках тады гаварылася аб яўрэйскіх пагрnative. Казалі, што нейкія царскія людзі ходзяць па ваколіцы і разбураюць яўрэйскія хаты, а яўрэяў на сьмерць забіваюць Казалі, што гэтыя пагромшчыкі ідуць і сюды—к Боруху.

Каб выратаваць Боруха, яго суседзі пайшлі на „абман“. Наладзілі ў Борухавай хаце фальшывы пагром. Разабралі па суседзях бэбахі з Борухавай хаты, забралі і яго з сям'ёю, пераапранулі іх у сялянскія вопраткі, каб не пазналі „царскія людзі“, што гэта „жыды“ і пайшлі разам з Борухом рабіць пагром ў яго хаце...

Выбілі вокны, паламалі некалькі зэдлікаў, зарэзалі пару курэй Боруха, запэцкалі падлогу крывёю курынай,е а пер'е рассыпалі на

дварэ каля хаты. Імітацыя пагрому выйшла артыстычная. Сяляне адчуваліся неяк нялоўка. Некаторыя жаласьлівыя бабы пачалі рукі ламаць, прычытваць...

— Калі царскія людзі прыдуць,—гаварылі суседзі,—мы скажам, што ўжо зрабілі пагром, перабілі ўсіх жыдоў. А ты Борух такіх плаксівых вачэй не рабі. . Бо царскія людзі пазнаюць цябе. Нашыя вопраткі не памогуць. Сьмялей зрэнкамі вадзі! Гневайся! Во так..

Праз некаторы час усё супакоілася, і Борух вярнуўся ў свае ранейшыя „палацы"...

Пастаяннае такое напружнае жыцьцё, „гандаль у паветры"—як гаварыў сам Борух, вечны страх дзеля таго, што ён „жыд", які „заменчыў пана Езуса", які быў спульнікам Бэйліса перад вайною, які ў часе вайны быў „нямецкім шпёнам", налажылі на выгляд Боруха і на яго характар свой адбітак Борух выглядаў вечна перапуджаным, быў вяртлявы, надзвычайна худы і пры гутарцы падміргіваў вачыма, нібы ведае цікавы сакрэт, але выкрыць ня хоча. Вельмі лёгка было даводзіць яго да сьлёз. Ён плакаў, калі ў сьвяточны дзень вып'е чарку гарэлкі; сьлёзы ліў, калі вясёлую песьню пачуе. Усе свае пачуцьці—нават самыя радасныя—ён выяўляў праз сьлёзы. Калі часам сьмяяўся, дык і сьмех яго быў падобны да ўсьхліпваньняў... Так сама ён стараўся лебязіць перад кожным, ільсьціць ці трэба ці ня трэба, бо „часам прыгадзіцца". Быў ён вечна зьбянтэжаны.

Рэволюцыя перарабіла і Боруха. Перажыўшы разам з сялянамі і немцаў і палякаў, яго зьбліжэньне з суседзямі прыняло зусім іншы характар Яго дачка Мэйта, хоць супроць волі бацькі, выйшла замуж за Язэпа, сына Юркі з суседняй вёскі

— Калі твая дачка за „гоя" выйшла замуж дык і ты, Борух' „гоем" рабіся!—казаў яму аднаго разу Міхалка.

— Ды што ты, браце!—спалохаўся Борух і замахаў рукамі,—ці ня хочаш ты мне сасватаць мужычку за жонку? Мая Хава яшчэ рыпае...

— Не, суседзе,—шчыра зарагатаў Міхалка, -хачу, каб і ты чалавекам стаў...

— Няўжо-ж я па-твойму быдла, ці што?—зьбянтэжыўся Борух.

— Ня тое,—супакойваў яго Міхалка.—Разумееш, гандлю ўжо цяпер няма: усюды коопэратывы.

— То-ж бы-то...—застагнаў Борух —Бальшавікі зарэзалі мяне без нажа... Ня маю з чаго жыць

— Дык ты што, зазлаваўся Міхалка,—можа да палякаў пойдзеш?

— Ой, не. не... бачыш, у мяне зноў людзкая барада А помніш як жаўнеры адарвалі маю бараду?

— Некаторым мужыкам яны і галавы паадрывалі,—пацяшаў Міхалка Боруха...

— Ліха няхай іх возьме гэтых паноў!—зазлаваўся ў сваю чаргу і Борух

— Ну, дык вось слухай, Борух, што я табе скажу. У цябе двое здаравенных хлапцоў. Што яны робяць?

— Бацькаўскі хлеб жуюць ды паветра псуюць.

— Гэта што хлеб жуюць,—усьміхнуўся Міхалка,—вельмі добра, а што паветра псуюць—вельмі кепска.

— Я знаю і без твайго бальшавіцкага тлумачэньня што добра, а што кепска,—казаў Борух голасам вялікага адчаю

— Дык можна, Борух, наладзіць так, каб і паветра не псавалі.

— А як? як?—зацікавіўся Борух і ад нецярплівасьці схваціў Міхалку за руку.

— Мы пастанавілі сходам, каб выдаць табе надзел зямлі. Рэхт?

— Рэхт!

*Ужо два гады як Борухава сям'я працуе на зямлі.* Спачатку было цяжкавата, пасьля навучыліся працаваць ня горш за суседаў.

Часам можна бачыць Боруха за плугам у полі. Сонца толькі што паднялося над лесам. На небе ніводнай хмаркі. Вялізнай фарфоравай міскай неба вісіць над зямлёю. Зьнізу паднімаецца ледзь прыкметны дымок туману. Над сьвежай глебай ўецца жаўранак. Ён сьпявае над самай галавою Боруха. Борух кладзе баразну за баразной, ідзе павольным але моцным крокам наперад. У яго вачох спакойнасьць, якой раней ніколі ня відаць было. У руках адчуваецца павага і цьвёрдасьць, набытыя так сама пры земляробстве. На руках аратая мазалі—новыя мазалі працы, ад якой рука памацнела, зрабілася цяжкай, і, куды ні прыткнецца—астаецца сьлед; адчуваецца, што не гандлярская, а ратайская рука тут пабыла. Твар Боруха абветраны і спалены сонцам, а голас мужыцкі—грубы, моцны і ўраўнаважаны. З усяго відаць, што новы ратай адчувае сябе чалавекам.

— Ведаеш, Міхалка, —сьмяецца часам Борух, —маё ранейшае жыцьцё было нейкай хваробай, тыфусам. Бачыш, я нават пакруглеў цяпер. Глеба—мой доктар. Я так ем пасьля працы, як ніколі раней.

— Фізкультура, брат, фізкультура памагла! — сурьёзна кажа Міхалка.

І сапраўды чалавек зьмяніўся. Яго ўнутраны сьвет, думкі і пачуцьці так сама іншымі сталі. Зьявілася надзвычайнае замілаваньне да роднай зямелькі. Гэтая цяга да краю была ў яго і раней, але нейкая балючая, паломаная. Борух памятае, што калісьці не плехаў у Амэрыку толькі дзеля таго, што вельмі шкадаваў гаёк і ўзгоркі каля рэчкі (хаця сароміўся аб гэтым гаварыць).

Калісьці Борух ня так, як цяпер, цікавіўся акаляючай прыродай. Ён ведае цяпер назвы ўсіх птушак, ведае пароды траваў, назовы розных дрэў. А калісьці сасна, елка, дуб, клён, ліпа і іншыя мелі ў яго адну назву—дрэва. Варона, грак, салоўка, жаўранак, верабей і іншыя мелі ў яго адну назву—птушка.

Борух пачаў разумець і адчуваць хараство прыроды. Раней на гэта ў яго думкі ня служылі—на кожную рэч ён глядзеў з боку гандлярскага—цаніў паводле грашавой вартасьці яго. Цяпер кожнае зьявішча, кожная рэч захапляе Боруха зусім іншай, новай каштоўнасьцю.

Борух гардзіцца сваімі сынамі—першыя касцы ў ваколіцы. Скуль гэты спрыт у іх зьявіўся? У выпярадкі пускаюцца з усімі вясковымі хлапцамі. А жніво? А малацьба? Тады ўся сям'я занята. Ды наогул пры гаспадарцы вечна ўсе працу знаходзяць. Ня тое, што раней.

Па вечарох Борух бывае таксама ў клюбе Камуны—прымацаваны да гэтага клюба. Раней умеў чытаць і пісаць толькі паяўрэйску, цяпер навучыўся і пабеларуску.

— Борух, а помніш біблію?— жартуюць часам старыя сяляне.

— Яна яшчэ ў мяне і цяпер ляжыць,—кажа Борух спакойна.

— А я табе, здаецца, за два фунты мазі і фунт солі вінават,— кажа адзін дзядзька.

— Забыўся...

Борух першы раз у жыцьці забыўся аб такіх справах... Аднак паморшчыў лоб і пачаў думаць. Яго ня так грашовы доўг зацікавіў, як тое, што пачаў забываць такія рэчы... Нарэшце павесялеў—прыпомніў:

— Гэта было пры выхадзе ізраільцян з Міцраім, як бог первянца фараона забіў... У біблії запісана як раз на гэтым месцы.

— Дык колькі-ж табе заплаціць?

— А ня трэба! Ня трэба!—адмеківаўся Борух. Замурую біблію ў запечцы. Няхай на вачох ня будзе...

— Замуруй, замуруй, браце!—спагадна кажа селянін. — Няхай твае ўнукі і праўнукі яе болей ня знойдуць!

Часта Міхалка з Борухам езьдзяць у горад дэлегатамі ад сялян. Мала таго, што яны ў горадзе праводзяць на зьездах свае сялянскія справы, яны зьяўляюцца там яшчэ пажаданымі гасьцьмі: начуюць у чыстых сьветлых пакоях, харчуюцца дарма ў цэрабкопаўскіх сталоўках, слухаюць розныя лекцыі па сельскай гаспадрцы, бываюць у тэатрах. Але галоўным чынам у горадзе іх цікавяць фабрыкі і заводы, дзе ўсё ім паказваюць, як гаспадарам, ад маленькіх ролікаў да вялізных рухавікоў, жалезных асілкаў у некалькі дзесяткаў конскіх сіл. Надзвычайная стройнасьцьпрацы, дзе мускулы людзей замелены мускуламі чыгуна і сталі, захапляюць Міхалку і Боруха сваім харастволі і магутнасьцю. Ветлыя твары сотняў рабочых, якія глядзяць на гасьцей з усьмешкай, гакія блізкія ім, такія родныя.

— Аднаго поля з намі ягадкі,—крычыць Міхалка да Боруха на самое вуха, бо праз грукат і стукат машын ледзь чутны яго словы. Гэта, братку ты мой, і ёсьць змычка гораду з вёской. Мы іх хлебам і мясам кормім, а яны нам цьвякі даюць вопратку, боты і розныя прылады да нашай гаспадаркі. Мазалі і ў іх і ў нас ад аднэй і тэй самай музыкі—ад працы.

З гарою кніг, газэт і іншых падарункаў ад сваіх шэфаў — рабочых з фабрыкі „Комінтэрн“ Міхалка з Борухом едуць да хаты.

IX

**Па новаму**

Па новаму перарэзана ранейшая панская і папоўская зямля. Па новаму перарэзваецца і ранейшы панскі і папоўскі гадавы каляндар. Адно з адным зьвязана новымі ўмовамі працы і новымі настроямі працоўных.

З тым самым імпэтам, як пры дзяльбе панскай зямлі, Міхалка дзеліць год на новыя шнуры. Міхалка цяпер не адзін—ёсьць вялікая грамада камсамольцаў і піонэраў. Яны перахварбоўваюць год ў новыя калёры. Скасаваны старыя царкоўныя сьвяты. Сьвяткуюцца новыя. Толькі некаторыя з старых дзядоў і бабулек ходзяць у царкву за некалькі вёрст.

Найвялікшыя цяпер сьвяты—Кастрычнік у восені, Першае Мая вясною.

Шмат каштавала стараньня Міхалцы грамадзе камсамольцаў і піонэраў гэтая перакройка году на новы лад. Прыходзілася ледзь ня бойкамі адваёўваць новы каляндар. Міхалка ведаў, як называецца гэта барацьба барацьба на ідэолёгічным фронце. Гэты фронт, ведаў Міхалка, самы цяжкі. Стрэльбай і кулямётам тут нічога ня зробіш. Але бяседы, спэктаклі і песьні, а галоўнае новыя ўмовы жыцьця ўзялі верх над старым каляндаром.

Стары каляндар абрастае мохам і пачынае забывацца.

У тое лета Міхалка быў вельмі занят газэтамі. Чытаў ён зусім лёгка і бадай усё сам разумеў. Ён накідваўся на друкаванае слова, як галодны на ежу. Тое, што да сталых гадоў быў няпісьменным,

павялічыла цяпер яго цягу да навукі. Ён хацеў запоўніць цяпер пустыя прагаліны сваіх ведаў. І чым больш ён чытаў, тым больш пустых прагалін стаяла перад ім. А калісьці думаў, што ўсё знае і ведае.

Чытаючы газэту або кніжку, Міхалка спыняўся над кожным незразумелым словам. Даведваўся ў настаўніка, у некаторых камсамольцаў-рабфакаўцаў, якія прыяжджалі з Менску на вакацыі глядзеў у слоўнікі, якімі назапасіўся сам у горадзе. Географію вывучаў па газэтных тэлеграмах. На сьцяне ў клюбе Камуны вісела вялікая карта зямлі. Бачыць Міхалка ў газэце: „Мадрыд", „даеш слоўнік" – думае Міхалка. Бярэ слоўнік. „Дык вось яно што, сталіца Гішпаніі. Знайшоў на карце Гішпанію. Так вось і Мадрыд маленькай кропкай. Пасьля гэтага ця не паглядзець у „Каляндар комуніста" кароткае апісаньне Гішпаніі: які там дзяржаўны лад, якая прамысловасьць, сельская гаспадарка і іншае.

Чытаньне газэт выклікае ў яго патрэбу да чытаньня розных кніжак і кніг. Вельмі зацікавіўся Кітаем, дзе за апошнія гады там нешта бурыцца, кіпіць, як у катле. Ангельскі капітал там арудуе. Кітайскі рыкша (Міхалка ведае і гэтае слова) бунтуецца Там рэволюцыя

А вось забастоўкі вуглякопаў у Англіі! Гэта яго надзвычайна захапляе. Кожны дзень пасьля працы бягом пускаецца ў клюб, упіваецца у газэтныя слупкі...

— Хто бярэ верх: рабочыя ці буржуазія?

Міхалка зьбірае грошы і збожжа для галодных дзяцей забастоўшчыкаў у Англіі. Грыміць на сходах.

- Перамога рабочых над буржуазіяй у Англіі—гэта адна з нашых перамог у сусьветнай рэволюцыі!

Міхалка пустых фраз ня любіць гаварыць. Яго прамовы цяпер кароткія і моцныя Кожнае слова—стук молата па кавадле. Брызгаюць іскры з вачэй прамоўцы...

Сябры Камуны жартам называюць Міхалку „ангельцам". Міхалка, захоплены забастоўкай ангельскіх вуглякопаў, ад „амэрыканца" Сымона, які пяць год таму назад з Амэрыкі вярнуўся, вывучыў некалькі ангельскіх слоў. Кожны раз, як атрымлівае падарункі для ангельскіх забастоўшчыкаў, ён радасна гаварыў „олрайт".

Як скончылася забастоўка у Англіі, ў Міхалкі пачаліся новыя справы. Словы Леніна аб новым будаўніцтве пачалі праводзіцца ў жыцьцё і ў Глухім Бары.

Ужо з вясны перабудавалі стары млын, прывезьлі турбіны, павялічылі будынак. Пры млыне паставілі маленькую электрастанцыю для ваколіцы.

Старыя з дзівам пазіралі на сьвежыя хваёвыя слупы, якія ўкопваліся ў зямлю і стаялі, нібы вялізныя смалістыя сьвечкі, роўнай лініяй, перарэзваючы поле нацянькі ў Камуну. Нацягнулі дрот ад слупа да слупа. Блішчэлі белыя галачкі на слупох. Час ад часу на дроце гудзеў вецер, насьвістваў новыя песьні. Па нацягнутых струнах ёрзаліся вераб'і, як бы сходы ладзілі тут на дроце.

Старыя дзядыківалі галовамі.

Выгляд ваколіцы мяняецца... Трохі як бы і жудасна... Непрывычна Вецер і то паінакшаму засьпяваў.... Усё мяняецца. Твар зямлі новы выгляд прымае...

Мутнымі, выцьвіўшымі вачыма глядзелі дзяды на новыя слупы.

— Як гэта будзе? Што гэта за цымбалы вялізныя?—пыталіся ў Міхалкі.

— Электрыфікацыя будзе!—гаварыў адрывіста Міхалка.

- Як у горадзе? Ляктычнасьць?—дзівіліся сяляне.

А мы што, горшыя за гарадзкіх?—гаварыў Міхалка.

— Так яно, так. Але як гэта будзе сьвяціць? Дзе свае газоўкі падзенем.

— Падзенеце там, дзе і лучыны. А сьвяціць будзе лямпачкамі

— Зноў лямпачкі? Шкляныя?

— Зноў лямпачкі шкляныя. Скуль агонь возьмецца?

— Машына будзе яго даставаць. У млыне такая машына ёсьць. Па дроце у хаты запаўзе агонь, як вогнены зьмей.

— Пажару ня будзе?

— Ня будзе. Пажар толькі ад вашых газьніц і лучын бывае. А тут сьмела сьвяці ў хаце, малаці ў додніку пры электрыцтве. Будзе сьвятлютка, і ніякога пажару ня бойцеся!

У першы раз электрыцтва засьвяцілася на млыне і ў Камуне. Зьбегаліся людзі з усёй ваколіцы глядзець на дзіва. Агонь запальваецца без запалкі. Толькі круць нейкі гузічак- і гарыць... І ня дыміць агонь і смуроду няма... А замест кноту—цянюткія, як павуціна, гроцінкі.

Некаторыя пробвалі прыкурваць папяроску ў лямпачкі.

Халодны агонь. Не бярэ!—жартавалі людзі.

Сьвецяць лямпачкі па хатах, як маленькія сонейкі...

Бабулькі баяліся прытыкаюцца да кнопкі.

— Чаго добрага—пстрыкне і ў шматкі цябе разарве.

Некаторыя да таго баяліся гэтага, „някельнага агню“, што вечарам з хаты ўцякалі.

- Пякельны агонь пячэ, а гэты не пячэ!- аўтарытэтна тлумачылі другія.

А па вечарох маленькая дзяўчынка Міхалкі, Іскрачка, сядзела на сгале пад электрычнай лямпачкай і забаўлялася: прытыкалася пальчыкам да шкла і казала: „зюзя—гам! зюзя—гам!“

За гэтым „цудам“ зьявіўся і другі -радыё.

Высачэзны слуп стаяў каля былых панскіх палацаў. З усіх бакоў ад слупа да зямлі былі прычэплены драты.

На дзядзінцы пасьля працы заўсёды зьяўлялася шмат народу.

- Ды што гэта за радыё! Гэта-ж грамафон!

— Не грамафон, а радыё, -гаварыў Міхалка.—Во цяпер вы чуеце песьні з Менску. Учора вы чулі музыку з Масквы.

— Як-жа чуваць так далёка?

— Дрот ловіць гукі, словы, галасы.

— Дрот! Дрот! Ён табе агонь прыносіць, ён табе з канца сьвету музыку валачэ сюды—усё дрот! І язык у цябе драцяны. Увесь ты, Міхалачка, з дроту!

Звыкліся людзі і з гэтым. А спачатку вельмі пільна ў трубу глядзелі—можа там маленькі чалавечак сядзіць і вырабляецца... Шукалі за сьцяною—можа там які небудзь штукар фокусы робіць.

Старыя сяляне, якія выгадаваліся на падвохах і фальшах, шукалі і тут „падвохаў“ гарадзкіх фокуснікаў. Яшчэ два гады таму назад, як сюды прыехала кіно, яны шукалі за палатном, ці там людзі не хаваюцца. А як пабачылі на экране горад, мора з караблямі, сьнег, дык зусім з панталыку зьбіліся.

— Туман у вочы пускаюць. Ёсьць чараўнікі, якія ўмеюць гэта рабіць...

Некаторыя шапталі малітвы, жагналіся ў вялікім страху. Паказалі ім істужку з кіноздымкамі і чыталі папулярную лекцыю пра тэхніку кіно.

А „цуд“ за „цудам“ ляцеў да іх, нібы ў старадаўнай байцы. З кожным такім новым цудам людзі пераконваліся, што цудаў на сьвеце няма. Кожны раз „Олрайт“ (такую мянюшку ў апошні год далі Міхалцы) ім тлумачыў, што цудаў няма, што да ўсяго чалавек даходзіць сваім розумам.

Прывезьлі трактар, альбо, як некаторыя гаварылі, „тарахтар“.

І „тарахтар“ затарахтаў на вялізным полі Камуны.

Міхалка зноў давай тлумачыць якая сіла цягне:

— Аўтомобіль бачылі?

— Чаму не? Штодня на тракту бачым. На нашых коняй жуду наганяе.

— Тая самая сіла і ў трактара. Вось глядзеце, апускаюцца лемяшы. Іх тры. Бывае і пяць і сем. Апусьціліся... Можна і глыбей забраць. Можна ехаць павольна. Можна і хутчэй.

— Конь гэты не спацее,— жартавалі сяляне,— сыпь як толькі можаш!

Міхалка папрасіў машыніста пусьціць машыну поўным ходам.

Роўныя пласты чарназёму, як лусты хлеба, клаліся ў барозны адна да аднэй. Лемяшы, як бліскучыя мамантавы клыкі, глыбока грызьлі глебу. Расплыўся сьвежы, здаровы пах узаранай зямлі. Над полем кружыліся зусім ня зьдзіўленыя птушкі. Вароны порхаліся ў зямлі клявалі карэньні, шукалі рабачкоў.

Пякло сонца. Трактар блішчэў усімі паліраванымі часткамі. Ён выглядаў жывой сталёвай істотай, нейкім дзівосным аратаем, які як га мог узорваць вялікі шнур.

Сяляне з захапленьнем паглядалі на „сталёвага каня“. З любасьцю песьцілі вачыма кожную частку трактара. Радасьць расла ў грудзёх. Гэта ўжо выключна іхняя мужыцкая машына... Для іх зрабілі яе рабочыя на фабрыках... Каб гаротную зямляробскую працу аблягчыць... У грудзёх сялян расла захаваная любасьць да людзей, што робяць такія машыны...

— А гэта ўсё розум чалавечы!—стукнуў сабе пальцам у лоб адзін з дзядзькоў.

З вачэй гэтага дзядзькі, з яго глыбокіх зморшчын на ілбу зьзяла неахопная гордасьць і шчырая радасьць.

— Розум то розум, але ня твой!—адгаркнууся другі дзядзька.

Першы дзядзька ўзьеўся ад злосьці:

— Хоць ня мой розум, але цяпер і мая сьпіна і мае рукі ня будуць балець ад сахі, як дагэтуль балелі...

— Але ня твой розум!

— Але чалавечы розум...

— Але ня твой...

— Ціха вы!—пачаў іх мірыць Міхалка.—Можа, каб з маленства вучыліся, дык нешта падобнае прыдумалі-б і вы. За тое дзеці вашы такія штукі прыдумаюць, ажна ўвесь сьвет зьдзівяць!

Трактар спыніўся.

Сяляне падышлі да яго. Гладзілі калёсы машыны, яе бакі, як прывыклі гладзіць спрацаванага коніка...

— Бач, корму просіць... Галодненькі тарахтар...—зажартаваў адзін худы селянін, з рыжай вострай бародкай.

— А чым жа-ж кормяць гэтага коніка?—запытаўся ён у машыніста.

— Бэнзынай!—адказаў з усьмешкай машыніст.

Усе абкружылі машыніста, які сядзеў на машыне у бліскучай скураной вопратцы. Абкружылі яго з такою зацікаўленасьцю, як часам абступаюць на рынку суседа, які толькі што добрага каня купіў...

— Карміць трэба, як чалавека ўсё роўна,— жартаваў машыніст.

— Чалавек тая самая машына! сур'ёзным тонам сказаў на гэта Міхалка.

— Але чалавек кіруе машынай, а не машына чалавекам,— сказаў машыніст.

Чалавек, бо ў яго— мазгі.

Хацеў Міхалка пагаварыць аб чалавечых мазгох, але змоўк. Пабаяўся, каб не наблутаць.

— Трэба яшчэ сягоньня знайсьці ў клюбе кніжку аб чалавечых мазгох,— падумаў Міхалка.— Трэба яе пачытаць і добра памазгаваць...

Сьвяціла сонца.

З-пад лесу данасілася да поля камсамольская вясёлая песьня. Да яе прыслухоўваліся той лес, тое поле, тыя людзі, якія колькі год таму назад чулі валачобныя песьні аб залатой царкоўцы на двары ў Івана. Новую песьню чулі тыя бярозкі, якія абламваліся на вянкі ў „русальную нядзелю“.

X

**У будучыну.**

Міхалка з маленства да апошніх часоў перажыў усю гісторыю культуры: ад лучыны—да электрыцтва, ад язды на кані—да самалету, ад старадаўнай сахі да трактара, ад царскага няволыніцтва — да жыцьця ў Камуне, ад забабонаў аб нячыстай і чыстай сіле — да радыё і ленінізму.

Тое, што чалавецтва праваndравала тысячагодзьдзямі, ён прахадзіў гадамі. Нібы перад яго вачыма мільгала кіно-істужка, якая разгортвала на лесьвіцы эпох разьвіцьцё чалавечай творчасьці ад першабытнай пячэры да сучаснасьці.

Яшчэ будучы хлапчуком, Міхалка бачыў і адчуваў нейкую сілу і ў сябе і ў акаляючай прыродзе. Гэта сіла зьбліжала яго, зрадняла з усім, што было, існавала вакол і будзіла яго зацікаўленасьць і назіральнасьць. Гэта сіла мільгала перад яго вачыма aганькамі, якіх нельга было злавіць, як свой уласны цень.

Гэта сіла была на кожным кроку.

Яна цьвіла ў кожным каменьчыку, які прабіваў паветра, кінуты спрытнай рукою Міхалкі.

Яна гайлася ў ветры-віхуры, часала нібы грэбнем саламяныя стрэхі вясковых хатак, круціла крыльлі ветрака і насьвістывала ў комінах, нібы Міхалка на жалейцы.

Яна бухала-гучэла з самадзелкавага пісталета, з якога нябожчык дзед Міхалкі варон пужаў на гумне.

Яна тулілася да луку, якім Міхалка ў гору стрэлы пускаў, неба прастрэльваў, будучы пастушком.

Яна жыла ў імпэце драцяной спружыны старога парасона, які падарыў Міхалцы пан, калі Міхалка служыў пастухом у панскім двары.

Яна была ў вадзе русалкай і млыновыя жорны круціла.

Яна яскравіла ў праменьнях сонца, якія грэлі зямлю. Яна прысмактвалася да чорнай пахучай, як сьвежы хлеб, глебы, нібы дзіцё да матчыных грудзей, і выбівала зьнізу на карак зямлі ўзоры рознабарвных кветак.

Усюды Міхалка адчуваў яе імпэтнасьць. Ён меў прагнасьць заўладаць гэтай скрытнай сілай, гнаўся за ёю ўсюды, нібы за птушкаю.

— Дзе яна, гэта сіла, што пхне і рухае ўсё?

Міхалка хацеў накінуць на яе ўздзечку, як на дзікага каня ў стэпу, закялзаць і быць яе гаспадаром...

З малых год Міхалка быў вынаходцам.

Ён прыдумваў дзіцячыя ветраныя млынкі з рознымі фокусамі, рабіў драўляныя скрыначкі з патаемнікамі, якія ня кожны мог адчыняць. Аднаго разу ён наладзіў у лесе „капэлю“.На галінах дрэў нацягнуў ніткі, як струны. Склікаў хлопцаў і трымкалі там цэлы дзень. Гэта „капэля“ моцна напалохала старую кабеціну, якая грыбы зьбірала. Яна ледзь жывая выбралася з лесу. Пасьля гэтага яна клялася і бажылася, што чула ігру лясуна.

Доўгі час малога Міхалку вабіў замок матчынага куфра. У гэтым замку быў схованы ад Міхалкі вялікі сакрэт. Пакруцяць ключом у адзін бок—замок зачыняецца, у другі бок—адчыняецца. Колькі разоў Міхалка з вялікай зацікаўленасьцю ўглядаўся ў дзірачку замка, але нічога пабачыць ня мог. Тады хлопчык адважыўся на гвалтоўную рэч. Калі матка аднаго разу забылася і пакінула ключ у замку, ён украў замок. З гэтым надзвычайным скарбам Міхалка пабег у поле, разьбіў замок аб камень і шукаў у ім „сакрэту“, якім чынам ён адмыкаецца і замыкаецца. За выкрыцьце гэтага „сакрэту“ бацька яго да крыві лупцаваў.

У другі раз ён быў захоплен тэхнікай малатарні і зрабіў маленечкую малатарню. Найвялікшым яго ідэялам быў гадзіньнік. Ён тады марыў аб тым, што як вырасьце і будзе сам грошы зарабляць, купіць гадзіньнік і разьбярэ яго на самыя драбнюткія кавалачкі... Ён тады шмат чаго даведаецца: знойдзе тую сілу, якая цюцюхкае ў гадзіньніку, нібы сэрца чалавека; выкрые тую істоту, якая паказвае час чорнымі тараканьнімі вусамі па белым кружочку. Ён выведае тады ўсю мэханіку калесікаў, зубчыкаў, сьпіц, шасьцерняў, шрубікаў і спружын, якіх у гадзіньніку так многа, нібы пяску на вуліцы...

У гадзіньніку ўся мудрасьць сусьвету захавана.

Калі ў першы раз праз іхнюю вёску праехаў чалавек на вэлёсыпэдзе, Міхалка ў адзін міг зразумеў усю „машынэрыю“ самаката і пасьля гэтага доўгі час майстраваў драўляны „лісапэт“.

А як Міхалка зрабіўся кавалём, дык стаў хутка і сьлёсарам і зэгармайстрам. Ён умеў рабіць розныя замкі, пісталеты, пачыняў гадзіньнікі і шмат якія “машынэрыі“ разумеў.

Ня гледзячы на тое, што Міхалка тады быў яшчэ няпісьменным, ён уладаў багатай фантазіяй. Ён наслухаўся ад старых людзей многа дзіўных казак з фокусамі-цудамі: сямімільныя крокі асілкаў і дываны-самалёты; жар-птух з сонцам на крыльлях і з месяцам на хвасьце; асілкі, якія вырываюць дубы з корнем, кідаюць булаву ў сорак пудоў у самае неба, праз адну ноч сьцеляць жалезны ток на дзесяць вёрст. Такія казкі былі пахучай расою для дзівосных расьлін яго фантазіі. Гэта быў пэрыяд яго „спружыновай тэхнікі“. Ён думаў над тым, каб усе чары зьдзейсьніць праз сталёвыя спружыны. Ён пробаваў ужыць свой „спружыновы“ мэтад да „сямімільных крокаў“. Ён хацеў змайстраваць спружыновыя хадулі, каб можна было рабіць на іх калі не сямімільных крокаў, дык прынамсі сажнёвыя.

У часе вялікай імпэрыялістычнай вайны, калі Міхалка працаваў у вайсковай кузьні, ён пабачыў, што ўсе казкі старых дзядоў зьдзейсьнены. Усе „цуды“ гэтых казак існавалі наяве. Яму ня было ўжо чаго

прыдумляць. Апрача спружын і калёс, былі куды мудрэйшыя рэчы. Перад імі і „жалезны ток“ чыгункі быў дзіцячай гульнёю. Ен даведаўся аб дынаміце, які зрывае масты, руйнуе камяніцы, меліць у трэскі сталетнія лясы. Нейкія газы нішчаць цэлыя палкі салдат у некалькі хвілін. Адным із галоўных цудаў быў самалёт. Ён ня раз бачыў, як самалёты лунал над зямлёю аграмаднымі птушкамі.

Часам Міхалка ўстане раніцаю і прыслухоўваецца, ці гудзіць варожы самалёт. Маленькай кропкай лунаў ён у небе над галавою і гудзеў, як аграмадны чмель. На яго стралялі з гарматы. У паветры вакол яго тады рваліся снарады. Самалёт круціўся ва ўсе бакі. Дымкі снарадаў выглядвалі шматкамі белай ваты і расплываліся ў дробныя сівыя хмаркі. Часам самалёт кіне ўніз некалькі бомбаў. Яны хоць рэдка, але забівалі людзей і руйнавалі будынкі...

А колькі сілы ў маленькіх бомбах...

Памятае Міхалка, як аднаго разу сяляне знайшлі на полі прыгожую медную трубочку з бліскучай ручкай. Цацкаліся з ёю, пакуль яна зашыпела... Затраслася зямля ад вялікага грому. Некалькі чалавек гэта цацка на шматы разарвала...

Ужо цяпер, калі Міхалка стаў сьвядомым чалавекам, ён зразумеу словы Леніна, які ўвесь час гаварыў: „вайна— вайне!“ Тады толькі, калі людзі ня будуць ваяваць, можна будзе выкарыстоўваць усю магутнасьць сучаснай тэхнікі на карысьць чалавеку, а не на яго зьнішчэньне. А гэта будзе толькі тады, калі ва ўсіх дзяржавах зямлі—пралетарыят будзе мець уладу ў сваіх руках.

Міхалка яшчэ і цяпер ламаў галаву над тым, каб яшчэ нешта новае прыдумаць. Невядомых энэргій і скарбаў у прыродзе вельмі многа. Іх трэба лічыць мільёнамі на кожным кроку.

У апошні час Міхалка вельмі многа чытаў кніг па тэхніцы.

Быў гарачы летні дзень—дзень адпачынку. Міхалка сядзеў у хаце і чытаў у газэце аддзел «Навука і тэхніка». Там была напісана цікавая нататкa аб караблі пустэчы. Ен зьяўляецца аграмадным трактарам, які будзе езьдзіць па пяшчаных пустэчах Афрыкі. Другая нататкa - аб Нью-Ёркскім небаскробу ў семдзесят паверхаў.

Старшы сын Міхалкі, Юрка, і Вань з Паволжжа сядзелі над сваімі паперамі. І адзін і другі пісалі вершы. Іхнія творы ўжо друкаваліся ў газэтах. Хлопцы лічылі сябе песьнярамі. Цяга да літаратуры пачалася ў іх яшчэ тады, калі ў газэце „Беларуская Вёска“ была надрукавана першая корэспондэнцыя Міхалкі. Цяпер Глухі Бор мае некалькі селькораў. У сельсавеце зусім добрыя парадкі. Кулакі прыціхлі. У суседнім сельсавеце жанчына старшынёю. Гэта спачатку некаторым старым было не да смаку, але пасьля звыкліся, а цяпер вельмі давольны.

Дык вось, пасьля тэй корэспондэнцыі Міхалкі, усе пачалі ў газэты пісаць. Ад корэспондэнцый перайшлі да вершаў.

— Глухабораўцы загаварылі рыфмамі, забрынкалі на струнах поэзіі!—жартаваў часта Міхалка.

Юрка і Вань пісалі вершы ўзапар па некалькі штук штодня. Па ўсіх рэдакцыях ляжалі іхнія сшыткі. У «паштовых скрынках» на задворку газэты хлопцы чыталі часта: «Ня пойдзе. Не апрацавана». «Працуйце над сабою». «Мала пралетарскіх матываў». «Пробуйце пісаць прозай». «Радасьці, радасьці больш!». «Чаго сумаваць і сьлёзы ліць?». і іншае ў такім тоне.

Хлопцы не падалі духам. А калі і портрэцікі іхнія былі надрукованы ў «Чырвоным Сейбіце», дык яны так узяліся «апрацоўваць» вершы, ажна Міхалка спалохаўся, каб з панталыку ня зьбіліся...

Ці варта над дрындушкамі галаву ламаць!—прыстае Міхалка.— Скажы, Вань, колькі рыфмаў маеш да слова «сонца?».

Міхалка сьмяецца і давай па пальцах лічыць:

— Валаконцы, бяз конца, сасонцы, гамонцы, ваконцы, старонцы, гараронцы і так бяз конца!

— А ты, Юрка, што яшчэ новага прыдумаў да слова «Беларусь?» Пэўна—гусь, вус, прымус, хлеба кус, Пятрусь, ня руш. Сып, сынок, рыфмамі, нібы картоплю з дзіравага мяшка!

Хлопцы сьмяюцца разам з Міхалкай.

— Як там вашы крынічкі і рэчачкі і белыя авечачкі? не адстае Міхалка.—Лепш, хлопцы, вучэцеся! Чытайце аб радыё, пра гэхніку. Мазгуйце над сур'ёзнымі рэчамі. Вашымі вершыкамі не зацягнеш на сход сялян, як байкамі Крапівы. У яго зусім сьмякалка іншая ў думках і рыфма дарэчная. Яго байка ласкоча. Ад яе люд рагоча. Цьфу, ліха!— плюнуў Міхалка.—У рыфму загаварыў. Відаць, рыфма— пошасьць нейкая, як тыфус. І я ад вас заразіўся! Вашы вершы, хлопцы, для мяне не зразумелыя. Вось, як камары гудзяць: дзун-дзун-дзун! Лепшага сэнсу ня бачу ў іх...

Хлопцы пакрыўдзіліся на Міхалку.

— Вершы пісаць—вялікая навука! - апраўдваецца Юрка.—Мы яшчэ толькі вучымся!

— Вучэцеся! Вучэцеся! Трэба, каб думка была ясная ў вашых пісанінах. Трэба каб...

Міхалка хацеў цэлую лекцыю казаць маладым поэтам аб тым, як пісаць, але шум на дзядзінцы спыніў яго.

— Што гэта за шум?

Міхалка зірнуў на двор праз вакно. І старыя і малыя бягом пусьціліся па дзядзінцу ў бок лесу.

— Няўжо-ж лес гарыць?—устрывожыўся Міхалка і ўскочыў з месца.—У такую гарачыню можа быць і пажар. Зусім магчыма, што пастухі ліха нарабілі ў лесе.

Сонца паліла як ніколі. Пясок быў гарачы, як прысак. Паветра было накалёна да гаго, ажно здавалася, нібы дым расплываецца над зямлёю. Заснула паўднёвым сном зямля. Ад вялікай сьпякоты і птушкі ня сьпявалі.

Міхалка і хлопцы выскачылі на двор.

Відаць было, як у бок лесу ішлі людзі з усёй ваколіцы—ішлі як на кірмаш.

Міхалка ледзь дабіўся, ў чым рэч: на сенакос пад лесам спусьціўся самалёт. Міхалка, Юрка і Вань шпарка шлі туды.

— Шкада,—падумаў Міхалка,—пра авіацыю мала чытаў...

— Здратуюць луг,—прабарматаў ён гаспадарчым тонам.

Вакол самалёта густым кругам стаяла многа народу. Самалёт выглядаў казачнай вялізнай птушкай, якую падстрэліла грамада паляўнічых. Птушка ўпала з гарачага сонца на зямлю. Цяпер паляўнічыя будуць дзяліць здабычу.

Лётчык скінуў з сябе кажух, шлем з навушнікамі і тупаўся каля машыны. Ён нешта правіў, закручваў і адкручваў розныя шрубікі, чысьціў, гладзіў неразумелыя для натоўпу часткі машыны.

Людзі шушукаліся, глядзелі на машыніста з такой зацікаўленасьцю, нібы ён сапраўды істота іншай плянэты. Іх цікавіла яго вопратка, выгляд і голас. Яны перакідваліся з ім слоўцамі.

— Глядзеце, у кажуху ды ў цёплай аблавушыне прыехаў!

— Бо там у вышыні холадна,—тлумачыў лётчык.

— Дык у раі, значыць таксама холадна!— засьмяяўся адзін хлапец.— Чуеш, Аўдоцьця!

Аўдоцьця была самая набожная кабета ў Глухім Бары. І яна тут была.

— Затое ў пекле горача. Мы цётку Аўдоцьцю туды адправім! — нажартаваў другі.

Кіньце глупства таварыць! —загалаваўся стары дзядзька.— Ой, паляруш іх бяры! Каровы ў шкоду палезьлі! Пасту-у-х! Пасту-у-ух!!

— У такую гарачыню, а стада ў полі.

І каровы прышлі на птушку паглядзець.

Людзі выціралі пот з твараў, разважалі, жартавалі, пробвалі пальцамі крыльлі, мацалі пропэлер.

Міхалка падышоў бліжэй. Разгаварыўся з лётчыкам. Той ехаў у Менск.

— Машына пачала баламуціць, і я вось тут спусьціўся. Іншага месца не знайшоў. Не хацелася псаваць сенакосу.

— Нічога не зашкодзіць машына. Вось грамада людзей вытаптала луг,— адказаў Міхалка.— Можа некалі і тут аэродром будзе...

Лётчык зірнуў вакол вострымі вачыма:

— Бадай падыйдзе для гэтай справы луг...

Ён казаў гэтыя словы такім тонам, нібы зараз пачне тут будаваць аэродром.

Лётчык прапанаваў Міхалцы пакатацца ў горад. Самалёт быў на два чалавекі.

— Толькі, таварыш, кажух адзень і шапку на вушы насунь. А то холадна ў вышыні, і два-тры дні ў вушох шумець будзе!— папярэдзіў лётчык.

Юрка пабег па кажух для бацькі. А жонка Міхалкі падняла крык: „Ня пушчу! Каб ён тут трэснуў ня пушчу!

— Міхалка да бога паляціць,— жартавалі людзі.— Абраам яго там півам будзе лаіць і абаранкамі карміць.

Міхалка як бы ня чуў ні прычытаньняў жонкі, ні жартаў суседаў. Яго вочы, як зачараваныя, упіваліся ў машыну... Дзіўная птушка на гэты раз—яго ўласная... Ён паляціць...

Міхалка апрануў кажух, шапку на вушы насунуў. Палез у сядзеньне. Зашпіліўся рэмнем.

Пропэлер гудзеў. Самалёт трапятаўся як жывы. Ад яго шуму ня чуваць было людзкога гоману, ня чуваць было і ляманту Міхалкавай жонкі, якая пагражала мужу:

— Як заб'ешся, дык у хату не паказвайся!...

Але грамадзе было не да сьмеху над спалоханай кабетай. Самалёт так пыхцеў, так грозна шумеў, ажна моцны вецер стварыў, у людзей шапкі зрываў. Людзі з апаскай адскочылі ў бок.

— Глядзеце... На калёсах гумовых па зямлі шмаргануў... Во... падымаецца... Як раз птушка...

— Дзе-ж гэта людзі падзеліся?—падумаў Міхалка. Вецер іх у бок адапхнуў.... Адарвалася зямля.... Уніз апускаецца.... Крылатая зыбка застыгла на месцы, а пад ёю ўсё ўніз едзе. Нехта напірае на зямлю нагамі і топіць...

Спачатку дыханьне стрымалася ў Міхалкі, нешта спёрлася ў грудзёх. Але хутка так лёгка і радасна стала, як ніколі да гэтага часу...

— Каб сто гадоў таму назад над Глухім Борам замільгала-б такая птушка з чалавекам, падумалі-б, што гэта Ільля прарок у агнёвай калясьніцы. Людзі на каленях глядзелі-б на гэты цуд. Маліліся-б...

Але Міхалка доўга думаць над гэтым ня мог.

Стада каля лесу выглядала кучкай кузурак. Будынкі ваколічных вёсак, поле і лес мігацяцца маленечкімі дзіцячымі цацкамі... Нібы малюнкі на паперы. Вузенькім шнурком, ня шырэй звычайнага паяску, дзе-ні-дзе ільдзянее рэчка Сьлізанка. Усё выглядае, як на мапе. Рознакаляровыя клетачкі, кружкі, лініі, геомэтрычныя фігуры.

Самалёт вісіць. Вакол яго, зьверху і зьнізу—шкло, тоненькае ружова-сіняе шкло сонечных абшараў...

Міхалка бачыць сьпіну і патыліцу лётчыка. Загартаванымі рукамі той моцна руль трымае. Дарога вольная—без ухабінаў, без каменьняў... Птушка ледзь нахіліцца на адно крыло, на другое—зыбаецца...

Лётчык павярнуўся тварам да Міхалкі. Вочы блішчаць, як у арла. Сьмяецца, хоць і сьмеху ня чуваць ад ляманту машыны. З запытаньнем падымае палец у гару. Міхалка разумее:

— Яшчэ вышэй?

У адказ Міхалка таксама падымае палец:

— Яшчэ вышэй!

У нізе—туманістая процьма. Дзе-ні-дзе плывуць, нібы рассыпаныя кудзелі воўна, воблачкі. Яны наскрозь пранізаны кулямі сонца. Гараць празрыстым белаватым агнём. Зіхаціць неахопная пустэча. Воблачкі ў пустэчы—казачныя оазысы.

І пустэча і бліскучы круг сонца заглушаны, застыглі ад пераможнага крыку машыны.

Міхалка сьніць сон будучыны чалавецтва. Сэрца б'ецца мацней, чым заўсёды. Кроў гарачым патокам у жылах пераліваецца...

А вунь ледзь прыкметныя вадаспады палыхаюць, нібы рассыпаныя крыльлі дзікіх качак. А вунь у бязмежжы зыбаюцца хвалі сіняватыя з празрыстымі кравянымі жылкамі. Далёка-далёка хадыром ходзяць стады хмарак розных формаў. Горад плавае ў туманістым паветры. Тысячы вежаў шкляных, пэрлямутравых блішчаць. Не—гэта ня горад, а белыя, абсыпаныя крэйдай, горы. Паўзе гара на гару, нібыаграмадная дагісторычная жывёліна. Хвасты выцягнуты, ногі растапыраны. Не, гэта зноў воблакі. Курадымяць яны. Як бы тут толькі што страшнае пажарышча сканала. Нейкія фантаны то ўверх, то ўніз апускаюцца.

На месца зямлі—імгла.

Твар лётчыка гарыць ад блеску вачэй. Лётчык зноў падымае палец у гару:

— Яшчэ вышэй?

— Яшчэ вышэй!!

Два мазалістыя пальцы—лётчыка і Міхалкі—супакоілі сполах віхровага бязбрэжжа.

Людзі заваявалі неба.

Ня ўжо машына на ўвесь сьвет гудзіць страшнай і прыгожай птушкай?

— У будучыну! У будучыну!—сьпявае матор.

Няўжо-ж у даль упёрлася цёмна-сіняя выспа?

Выспа вісіць у паветры, калыхаецца, трасецца, як дзікі вапрук. А бакі ў выспы—квашаніна. Гэта—глыба ночы, адколатая ветрам. Яна заблукалася ў растопленым сонечным мэтале. Сіраціна ночы—чорная выспа загрукала-застукала чыгуном. Навальніца там гуляе. Маланкі крывавяць густыя хмары, запалалі ў агнёвыя зыгзагі, лініямі напамінаюць аграмадныя шкілеты кажаноў.

— Там... унізе дождж!—здагадваецца Міхалка.

Тут—ні ён, ні машына, ні сонца ня ведаюць аб гэтым. Яны адгароджаны рознакаляровымі слаямі паветра.

Сонечнай стралою ляціць Міхалка ў будучыну.

— У будучыну!..

Хто гэта адважыўся раскрываць таямніцы тысячалецьцяў? На чаўне сонечных зьзяньняў яны мелі сваімі хвалямі людзкую фантазію. Містычным блескам малітвенных вачэй людзі пасялялі вышыню багамі.

Сталёвая ластаўка спалохала забабоны абросшых мохам вякоў.

Гудзіць машына.

Міхалку адарваў ад зямлі матор у некалькі дзесяткаў конскіх сіл. Табун крылатых коняй нясе яго ў будучыну.

— У будучыну! у будучыну!—крычыць Міхалка, ахоплены радасьцю. Але голасу свайго ня чуе ў хвалях мэталёвага грукату.

Сонца, нібы агнёвае вока, залоціць даль; яно сыпіць вакол сябе струмені іскраў, нібы Міхалка ў кузьні малатком па гарачаму жалезу.

* * *

У пустым моры паветра зноў пачала выступаць зямля: расла ўверх, нібы выспа з бірузовых вод. Паказалася каляровая мапа сталіцы роднай рэспублікі.

Самалёт апусьціўся на аэродром.

— А вось тут хлявок для нашых сталёвых жывёлін!—пажартаваў лётчык.

„Хлявок“ займаў вялізнае гладкае поле. Пад аграмаднымі паветкамі стаялі ў шэрагі самалёты, як стаеньнікі ў стайне. Было тут многа народу, шмат будынкаў, майстэрні.

Усё нязвычайнае для Міхалкі было тут так звычайна і проста, ажна нялоўка было яму і віду паказваць, што гэта яго вельмі дзівіць.

Лётчык папрасіў Міхалку на абед:

— Ты—мой госьць! Я павінен цябе пачаставаць!

Пасьля абеду Міхалка папрашчаўся. Трэба было ісьці цяпер назад у Камуну пехатой некалькі дзесяткаў вёрст, каб заўтра ў пару стаць на працу ў кузьні.

— Па дарозе людзі дзівіцца будуць, што ў мяне кажух,—падумаў Міхалка.—Няхай сабе завуць мяне лятуном, але я па ўсёй ваколіцы Глухога Бору буду зьбіраць грошы на самалёт „Камуна“.

Міхалка пусьціўся нацянькі палямі і гародамі, каб хутчэй папасьці на шырокі тракт. Ён трымаў кажух у левай руце, як трофэю свайго першага хрышчэньня ў паветры. Думкі аб заваёве будучыны не выходзілі з яго галавы.

Менск. Кастрычнік.
1927 г.

**Ўладзімер Дубоўка**

# Кругі

*Поэма*

### Пасьвячэньне

Пасылаў свае думкі ня раз,
як лэпешы бяз адрасу, у далі.
У прасьцягу іх сьлед не загас:
яны пошчак заўжды выклікалі.

Я цяпер пераглядзеў свой шлях:
вось памылкі, а вось дасягненьні.
Хоць і добра быў вышыты шляк-
для будзённага ўсё-ж ткі адзеньня.

Урачыстыя нашы гады,
пераможная нашае заўтра
заклікаюць: гартуйце рады
і гартуйце вы дух свой упарты.

Не зракаючыся хараства,
не пад слова біблейскіх прарокаў,
я кажу: не працуе хто сам—
зьневажае той працу наогул.

Творчы шлях мой нязьменна адзін:
я шукаю для сіл сваіх выйсьці.
Ты, Адаме, мне кажаш: ідзі,
з пераломнага часу каб выйсьці.

За натхненьне табе прысьвяціў
гэты твор пераходны, ламаны.
У жыцьці давялося ісьці
да яснот праз імглу і туманы.

Калі сьцісьне дачасна імгла,
ты скажы: палыхалі зарніцы,
„и рыдала молчанием глаз
далеко залетевшая птица“...

*Прысьвячаю Адаму Бабарэку*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Надышла і восень няпрыкметна,
гаспадарыць на маскоўскіх сквэрах.
На курорты выехала лета,
каб ня бачыць гэты самы вэрлах.

Дрэвы ў конфецьці гуляюць з ветрам
на ня стрыжаных з вясны бульварах.
Часам сонца усьміхнецца ветла
засмучоным, малакроўным гварам.

Пагуляць ня выйдзеш адвячоркам,
бо надвор'е не уплянавана.
І на небе, —хоць бы табе зорка,
і на небе—дываны з туману.

Пятушыцца месяц асьвятліць нас,
ды, відаць, ня соладка самому.
Вецер хмару ў нос яму націснуў
і— ня рыпайся, крычыць, нітомасьць.

Журавы на поўдзень мілі мераць,
ад прастуды кашляюць з аддалі.
Ах вы, люмпэн-крылыя стварэньні,
асьпірыну мабыць і ня ўзялі?

Гусі шэрыя сьпяшаюцца, гавораць:
— у далёкі край з свайго мы краю.
А гудок, так ласкава, над горад:
— Пачакайце, я вас запытаю...

Ня спыняюцца яны ў прасторы,
разьвітальнае пяюць сталіцы.
З ліквідатарскім такім настроем
не магу ніяк я пагадзіцца.

Лепш за ўсё, дамоў прышоўшы з працы,
у развазе з кнігамі сябрую.
Творцаў даўніх музыка пульсацый
паўстае, праносіцца, чаруе.

Адчуваеш кволую інтымнасьць
да мінулых, вечарам асеньнім.
Пераходзяць скрозь старонак сьцені,
аж на сэрцы адлюстровак зімны.

Раптам—стук у дзьверы. Падыходжу.
Госьць жаданы: лістаносец.
— *Ліст вам!*
Незнаёмы почарк і жаночы.
Я чытаю ўсьпёршыся на ліштву.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## **Ліст**

За вашай творчасьцю даўно сачу
(наколькі падыходзіць слова „даўнасьць“).
Пішу цяпер, жадаючы пачуць
адказ на некаторыя пытаньні.

Адказу гэтага бадай няма
у крытыцы, у кругабежнай прэсе.
Конкрэтнага ня кажучы, яна
нагадвае туман у цёмным лесе.

Напішуць: „добра ўсё, у самы раз“,
а заўтра: „брак настрояў пролетарскіх“.
Ня крытыка, а нейкі самавар:
ўсё залежыць ад староньняй ласкі.

Ї ўражаньне ствараецца само:
гуляе крытыка у „лішку-цотку“.
Замкнула об'ектыўнасьць на замок
і задаволена „на сто адсоткаў“.

Пра здавальненьне нешта ня чутно
у чытачоў ды, пэўна, ў вас самога...
Мяне у вас цікавіла даўно
ідэолёгія, кірунак, мова.

Ідэолёгію, здаецца мне,
акрэсьліў у „Зьвязьдзе“ Ўладзімер Жылка.
Тлумачыць трэба нейкаю памылкай,
што не казалі гэтага раней.

Адносна мовы—крыху ня люблю
шуканьняў, так сказаць, экстравагантных.
Але-ж з поэзіяй вы ўзялі шлюб
і вось наконт поэзіі пытаю.—

Чаму у песьнях вашых не стае
аднэй маленькай справы—чалавека?
Хіба пачуцьці ўсе яго, мае
не закранаюць вашыя павекі?

Знаходжу ў песьнях кветкі, палыны,
рассыпаныя скрозь пялёсткі;
любоў да нашай роднай стараны,
да саламяных стрэх і вёскі...

Ї так далей, і так далей—адно,
або штодзённая прысяга Беларусі.
Ёй прысягалі шмат разоў, даўно.
Навошта зноў?—Дзіўлюся я, дзіўлюся!

Калі чытаеш песьні вашы ўсе,
здаецца, што бязьлюдзьдзе у краіне,
што ветры буйныя поэта наш пасе,
або на выспе у самоце гіне.

Калі-ж людзіна ў песьні мільгане,
дык так пададзена, што проста дзіва.
От, не раўнуючы, маўляў даўней
моладзь на Коляды „казу“ вадзіла.

Ня то жыве, ня то рыпіць „каза“,
гаворыць тое, што крычаць над вухам...
Ї хочацца такое вам сказаць,
што нават сорамна самой мне слухаць...

Спытаюся: ці думалі калі
вы пра вагу ўзятых абавязкаў?
Ці бачыце, куды цяпер зайшлі,
ці бачыце, скажыце, калі ласка?

Чаму ўсё так? Ці доўга будзе так?
Жабрацтва духу—не вялікі гонар.
Аджа-ж літаратура—не тартак,
не пагулянка з клёцкамі за горад...

А покуль што—на гэтым і канец.
Ад вас не вымагаю абяцанкі,
што будзеце пісаць адказ вы мне.
Бывайце!

*Наста Нарутавічанка*

P. S. У кожным разе—адрас у лісьце.
Ад вас хацела-б ліст дастаць я вельмі.
У восень, можа веры не дасьце,
Такі настрой... як у якой пустэльні...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ну і ну! Прызнацца, прывыкаеш
слухаць лямант: вывіхі, ухілы...
Тут-жа лёгіка падстаўная такая,
што жыўцом, здаецца, умагіліць.

Даць адказ?—Перамажы-ж віхуру!
А пакрыўдзіцца—няма прычыны.
Шмат гавораць пра літаратуру,
але гэта, гэтая дзяўчына...

Я пакінуў кнігі ў гэны вечар,
і спакой мяне зусім пакінуў.
Толькі крыўда захавана шэпча
і расьце няўцямна штохвілінна.

На каго?—Ды на сябе самога!
— Ці-ж поэзія вам пагулянка?!
Ах, сказалі праўды вельмі многа
вы, таварыш Нарутавічанка!

Адказаць вам думаў пра кірунак,
напісаць амаль трактат пра гэта.
Але-ж час такі угойны трунак:
усьцішае палкасьць і ў поэтаў.

Ліст паклаў у кніжку запісную,
дзень, другі—і гутарка старая.
Вашы словы, як праз сон, я чую,
а часіна войстрасьць іх сьцірае...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Да вакзалу пехатой прасгую,—
так прыемна ў рокаце няспынным.
Ад Грузін праходжу на Цьвярскую:
скрозь жыцьцё, электрыка, машыны.

Заўтра Менск... Расьце ён разам з намі.
Хутка будзе горадам сапраўдным.
Апрыгожаць фабрыкі мурамі
яго выгляд крыху старадаўні.

Па Савецкай прабягуць трамваі,
у прадмесьці, аж да вёсак бліжніх.
Гэта будзе памятка жывая
ўпартасьці прыгнечаных калішніх...

Так іду і разважаю ў думках,
а новакала Масква-Красуня.
Ноч пярэйдзе цераз горад хутка,
вуліцы-ж нямоўчныя пульсуюць.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Шмат гадоў паветра п'ю Маскоўскае,
маладосьць кунежана Масквой.
Нават пліты, пасьля дожджу коўзкія,
ласкава нітуюцца з хадой.

Шум ліецца кволаю атругаю,
клічыць-вабіць ён на свой пасад.
Зачаруе, скорыць і ахутае...
Сэрца, ты ня глянеш больш назад!

Сотні тысяч з вуснамі гарачымі,
з зыркай палкасьцю сваіх вачэй,
каменіцы нават перайначылі,—
неяк дыхаецца ў іх лягчэй.

Рух расьце, мацнее, пашыраецца,
зоры дзівяцца з сваіх вышынь.
Ах, якое шчасьце гэта раніца
і размах для творчае душы!

Дзедзічы няўдзячнай самай спадчыны
і удзельнікі вось гэтых дзён,—
мы эпоху харaством адзначылі,
мы адзначылі стагодзьдзі харaством.

Сотні тысяч з вуснамі гарачымі,
з зыркай палкасьцю сваіх вачэй,—
мы жыцьцё дашчэнту перайначваем,
перайначым-жа яго ямчэй!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

За кілёмэтрам ідзе кілёмэтр,
грукат хвалюе, ў абоймы бярэ.

З пільнай увагай гляджу праз вакно,
бачу знаёмыя мейсцы ізноў.—

Вязьма пахмурна глядзіць скрозь туман,
руху чамусьці у Вязьме няма...

Бачыш— праносіцца Дарагабуж,
горда трымае лясы на гарбу...

Вось яно Ярцава—дугі сьвятла,
фабрыкі ткальныя бышцам са шкла.

Чорную ноч даканалі агні,
ператвараюць на сьветлыя дні.

Будучнасьць наша з варстатаў і кол
кліча загадна: зірні навакол!

Сьвету старому дарунак мы тчом:
саван магільны ў дарунак дадзём...

За кілёмэтрам дзе кілёмэтр,
грукат хвалюе, ў абоймы бярэ.

З гор паглядае прыгожы Смаленск
цераз *прысады а блоні* свае.

Замак і цэрквы ў даліны глядзяць,
новыя дні ім прышлося зазнаць.

Тут адбываліся *бойкі ня раз,*
тут задрамаў, затрымаўшыся, час.

Сёнешняй бойкі ня чулі вякі,
гэтакай моцнай ня зналі рукі.

Павадкай грознай прайшлі па зямлі,
новы тастамант сусьвету далі...

Сьціх і скарыўся магутны Дняпро...
Вось Беларусі савецкай парог.

За кілёмэтрам дзе *кілёмэтр,*
грукат хвалюе, ў абоймы бярэ.

Я прыгадаў сваю вёску, лясы,
возера Доўжа, засьценак Язы...

Баяла казкі бабуля мне там,
сон ці ня сон гэта ўся *пекнага?*

Час захаваў вось размову адну,
я ўспамінаю, пакуль не засну.—

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

„Ідуць гады, лятуць яны,
кладуць адбітак свой навокал.
Няўцямна прыдзеш да труны,
здавалася-б, яна далёка...

Лятуць гады над намі ў даль,
як птушкі ў вырай, у прасторы.
І, няпрыкметныя амаль,
крыламі шастаюць, гавораць.

За імі музыку чуваць,
у ёй і радасьць, і самота.
У ёй і людзі, і трава,
і багуністае балота...

Як падрасьцеш ты, мой унук,
пачуеш пошчак ціхі, ціхі.
Ні адагнаць, ні прыгарнуць,
ні на дабро і ні на ліха...

У сталым веку будзеш чуць
ты музыку гадоў выразна.
Прыціхнуць гукі, пацякуць.
*як хвалі,* ўзьветраныя разам...

Вось я, унучак мой, цяпер
старой, нядужай раптам стала.
Ужо дзяцей вось і цябе
узгадавала, дачакала...

Сягоньня ты жыцьце пачаў,
маё-ж усё—было учора:
адлюстравалася ў вачах,
і зьнікне у нябыце скора...

А сонца будзе зіхацець,
як і раней, над белым сьветам,
правёўшы сёлетніх гасьцей,
чакаючы другіх налета.

Вось мы пытаемся калі:
чаму ня так, а гэтак дзеіць?
Заўжды цікавыя былі,
а дзе яны адказы дзелі?

Казалі мне калісь даўней
любіў адзін вось так пытацца.
Дык ён, каб ведаць сэкрат дзей,
хадзіў да сонца у палацы.

Чаго? Ця‘ байка ня міне,
мне-ж трэба ўспомніць папарадку.
Яшчэ за паншчынаю мне
казалі гэта на папрадках“...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

За кілёмэтрам ідзе кілёмэтр,
грукат хвалюе, ў абоймы бярэ.

Час даганяем ці шчасьце сваё?
Новую песьню складаем-снуём...

З сьцягам іскрыстым праз цёмную ноч
мкнецца цягнік і грукочыць адно:

Славу сьпявайце працоўнай сьм‘і—
перагмагла яна цяжкасьці міль...

Колы ляскочуць, грыміць паравік,
зноў успамін нарадзіўся, узьнік.

Байка разгортваецца ў цягніку,
думкі, як хвалі, няспынна бягуць

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

..„Жыў чалавек адзін у нас, *)
цікавы вельмі і дапытны.
Ен гэтым у зубах навяз,
пытаньнямі ўсім апрыкраў.

---

*) 1. Казка, падобная да апрацаванаи мною у гэтым творы, ёсьць у зборніку А. К. Сержпутоўскага („Казкі і апавяданьні беларусаў з Слуцкага павету, выд. ІБК, 1926 г. Менск, ст. ст. 94—96) пад назваю „Агонь у сэрцу, а розум у галаве“.

— Чаму вось так, чаму ня так,—
пытаецца ў людзей вясковых.
Не задаволіцца, дзівак,
на два ці тры якія словы.

Казалі людзі, хто што знаў,
а ў рэшце—дзе-ж пра ўсё і ведаць.
— Чаго ты, кажуць, зажадаў?
Каб разумней быць за суседа?

— Як ні старайся, а памрэш
ты дурнем, браце, гэта пэўна.
Ня можна-ж раскусіць арэх,
не сашчыкнуўшы яго з дрэва...

Аднойчы гэты дзеньдзівір
пачуў, а мо' і сьніў зьнянацку,
што студню князь адзін зрабіў,
ды вельмі-ж неяк падзівацку.

Ізруб звычайны—моцны дуб,
а дны—аж тры, на ліха тое:
адно са сьпіжу пад ваду,
ды срэбнае, ды залатое.

Ня сьпіць, ня есьць цікавы той,
пытае у людзей парады.
А тыя круцяць галавой:
былі-б і самі ведаць рады.

Пасьля адзін старэнькі дзед
парадзіў запытацца ў сонца:
яно над сьветам шлях вядзе
і многа ведае бясконца.

Дзяцюк усьцешыўся тады,
паслухаў розуму старога.
Куды ня дойдзе малады?—
Зьбіраецца ісьці ў дарогу.

Акраяц хлеба ў торбу ўзяў
кавалак сала ўзяў для смаку.
Праводзіла яго радня
вярсту ці дзьве, а мо' і з гакам.

Далёка адышоўся ён,
няма цікавага нічога.
Аж чуе нейкі дзікі стогн
за хвоямі, каля дарогі.

2. Казка пададзена не ў харэічных рытмах. больш уласьцівых гэтаму жанру нашае народнае творчасьці (гл хоць бы згаданы зборнік, казкі на ст ст. 93, 167—170), а ў ямбічных, чым аўтар зусім сьвядома працягвае традыцыю нашай літаратуры (напр. „Тарас на Парнасе“) Магчыма, што у далейшым. пры апрацоўцы мною задуманай поэмы ці драматычнага нарысу, у якой я зраблю спробу даць погляд беларускага народу на мастацтва, ад гэтае традыцыі прыдзецца адысьці. узяўшы народныя рытмы.

Бліжэй падходзіць—чалавек
сядзіць на камені, галосіць:
— Няўжо сядзець мне цэлы век,
няўжо цяпер ужо ня досыць?

Падходзіць наш дзяцюк яшчэ,
пытаецца ў яго той самы:
— Куды ты, родненькі, ідзеш?
А мо' ратунку мне дастанеш?

Сказаў дзяцюк куды, чаго,
дакляраваў, як будзе змога,
спытаецца ў сонца для яго,
ці доўга пасядзіць нябога.

Ідзе далей, аж бачыць зноў
яшчэ дзіўнейшую прыгоду.
Стаіць, падпёршы тын плячом,
якісьці дзядзя ля гароду.

Паслухаў скаргу і яго,
паабяцаў зрабіць, што трэба.
А сонца смаліць, як агонь,
бо недалёка і да неба.

Ідзе далей і бачыць там
яшчэ дзіўнейшую падзею.
Сядзіць якісьці важны пан
і піша, мабыць, эпопею.

Засопся ўвесь той небарак,
з ілба ад поту проста рагі.
Атрамант з бочкі набіраў,
быў гэны „каламар“ з-пад брагі...

Перад сабой паставіў пан
люстэрак у жалезнай раме.
Ён піша, хваліць сябе сам...
Відаць таксама пакараны!

Наўкол паперы тэй гара,
і, пэўна, цымусу ў ёй многа:
уважліва ў яе баран
глядзеў, задраўшы ўгору рогі.

Каля яго, на галаве
стаіць яшчэ другі няздара.
— Усё на сьвеце, ён раве,
не параўнаць вось з гэтым дарам...

Ня вытрываў цікавы наш:
— Скажэце, што гэта такое?
— Прашу мяне не турбаваць
і без дакладу не ўваходзіць...

Ну, што парадзіш?—Гей авэк!
Ідзе цікавы зьеўшы мыла,
Відаць той пісар-чалавек
гарбатым пойдзе і ў магілу.

Ажно далей яшчэ дзіўней—
ў рацэ глыбокай дзьве жанчыны
стаяць адна каля аднэй,
ваду ліюць, ліюць няспынна.

Зірнуў на іх і нацянькі
да сонца прэцца наш цікавы.
За лесам, вокам дзе ні кінь,
праменьне, мур стаіць яскравы.

Ужо, лічы, што тут як тут.
Аж на табе: яшчэ здарэньне!
Сядзіць якісьці баламут,
пераграбае сьмецьце жменяй.

Няма калі займацца з ім,—
дайшоў да самага да мейсца.
Падзел тут неба і зямлі,
адсюль да нас і час ліецца...

Дарога—як і ня была,
усё бліжэй ідзе цікавы.
Глядзіць на сонейкаў палац:
там дзіва-дзіўнага ня мала.—

Ад бляску зіхаціць, гарыць,
на вежах стромкіх днююць зоры,
каб, дачакаўшыся пары,
плысьці на сінія вазёры...

Усё са сьвету хараство,
што адышло і што ў наступным,—
у гэты гмах чароўны свой
на схоў сабрала сонца рупна.

Адсюль да нас у добры час
паволі пасылае, дорыць.
Каб аквячаць маглі ня раз
мы дні радасьці і гора...

Час ня спыняе бегу хваль,—
глядзіць цікавы—ўжо ня рана:
пара палуднаваць амаль.
Ідзе на пэрламутны ганак.—

У дзьверы стукнуў ён кійком.
Адтуль чуваць жаночы голас:
— Каго там ліха прынясло?
Ня бразгай так, бо клямку зломіш!

Цікавы наш і не чапаў
тэй клямкі залатой і гладкай.
Аж тут, як пава да курчат,
выходзіць сонейкава матка.

— Чаго прышоў ты аж сюды?
Цікавы кажа:
— За патрэбай.
Дажыўся да такой бяды,
што хочацца пра ўсё мне ведаць.

— Я хочу ў сонейка спытаць,
чаму ня так, а накш падзеі.
Ня мог я сэнсу сам дабраць;
схадзіць парадзілі суседзі.

Яна падумала.
— Ага.
Ну што-ж: чакай, бо зараз будзе.
Пашло яно за небакрай,
каб не маркоціліся людзі.

— Ось, ты тут крыху пасядзі,
Сад паглядзі ды падсілкуйся.
А мне усім трэ' дагадзіць:
каровы зараз прыдуць, гусі...

Тут маці сонейкава прэч
пашла, ды толькі пазяхнула.
Цікавы наш дастаў з-за плеч
з прыпасам свойскім поўны клунак"...

. . . . . . . . . . . . . . . .

За кілёмэтрам ідзе кілёмэтр,
грукат хвалюе, ў абоймы бярэ...

Хвоі пахмурныя бачу праз шкло,
колькі гадоў каля іх працякло...

Шастаюць, шастаюць і шалясьцяць,
грунькам бадзёрасьці пояць прасьцяг...

Чую, здаецца, няспынны іх шум,
так ён хвалюе, хвалюе душу...

Думка сягае ў юнацкую даль:
хвоі, вазёры, каменьне і сталь...

Толькі з туману ільсьняцца агні,
мкнецца нястрымна наперад цягнік...

(*Працяг будзе*)

**Кузьма Чорны**

# Сястра

*Роман у чатырох частках*

## Частка другая

### I

На беразе забруджанае Сьвіслачы ціха дастойваў сабе век свой, калісьці моцны смольнаю хвояю сьцен сваіх, дом. Над ім стаялі яго аднагодкі—тры ці чатыры явары, што ад доўгага жыцьця свайго нават граціць пачалі адзнакі пароды свае. Аднак, паднімаючыся гальлём над домам, яны без утрапеньня глядзелі на яго зьверху. І хоць яны таксама, як і ён, асядалі да зямлі ўсім тулавам сваім, трымаючыся за яе магутнасьцю карэньняў сваіх,—яны мелі яшчэ доўга жыць, перажыць на цэлы можа яшчэ век гэтага свайго таварыша і суседа. За домам зямля—пусты цяпер ў раньнюю вясну агарод; адгарадзіўшыся ад Сьвіслачы домам, а дошкамі ад паабіватых і абшарпаных муроў Гандлёвае вуліцы, гэты кавалак зямлі мог здавацца выспаю спакою сярод буйнага і дробнага клопату вакольных жыцьцёвых нораў і гарадзкога ўтрапеньня. Тут спыняўся час, стомлены вялікім мецяжом жыцьця; тут выростала летам зяленіва расьлін, моцнае-ж надземнае карэньне шматгодняй травы і зімою пад сьнегам захоўвала свой зялёны і белы колер. Дом, са шморганымі дошкамі ганку свайго, жоўтымі калісьці рамамі вокан, глядзеў цераз каламутную рэчку на вясёлы ўзгорак з будынкамі і садам бальніцы на тым беразе. Дом адгарадзіўся ад рэчкі слаўнаю дарогаю, змрочнаю і ціхаю ад дрэваў. Дарога ганарылася назваю прыбярэжнае вуліцы, і на ёй, за колькі крокаў ад вады, пад дрэвамі каля дому і на яго сьценах, так падабраліся спакойныя колеры і выразы, што як бы ўсялякая кіпучасьць, нават у пачатках і канцох сваіх, крытычна аднеслася тут да свайго працэсу.

Драўляныя людзкія будынкі навокал хавалі ад чужога зірку жыцьцё свае за шчыльныя загарадзі, за вонкавую адгароджанасьць ад чужога існаваньня. Стары дом увесь шырокі твар пярэдняе сьцяны свае адкрыў мяккай дарозе, мудра плывучы на магутных хвалях існаваньня і дзейнасьці.

Раніцаю, калі над зямлёю сплывалі і раставалі пасьля ночы засьцілы веснавога туману, над горадам гулі гудкі. Гудкі пачалі дзень бурна і раптоўна; на нейкі час яны перамешваліся з вострым стукам конскіх капытоў, з стукам калёс. Тады стаяў над горадам голас маладога дню, заклапочанага перабудоваю сьвету. Разам-жа крычалі званы ў касьцёлах і цэрквах, крычалі паравікі і стукалі паязды.

Перад гэтым, кагадзе, сьвітаньне было ціхім і пустым. Тады першыя газэтчыкі выносілі з друкарняў навіны і сэнсацыі; звонкая цішыня мералася хвілінамі. У разьніцах канчалі апошнія экзэмпляры жывёлы, машыны чакалі людзей і руху—так калацілася, ня спынялася машына гарадзкога жыцьця. Патроху-ж камень і пясок пад нагамі пачалі гучэць цішэй, згубіўшы зыкі свае ў першай кіпучасьці дню. У горад дзень прыйшоў гатовым да вялікіх жорсткасьцяй у імя вялікай ласкавасьці.

У той час прышоў поезд. Поезд цяжка і панура прыпыніўся. Ён выкінуў з сябе людзей, якім раптам стаў непатрэбным. Тут адбыліся людзкія спатканьні, -радасныя, сумныя, вясёлыя, нудныя. Некаторых і ніхто не сустракаў і для адных гэта было сумна, для другіх радасна.

Над горадам зьявілася сонца.

Тады да дому над берагам Сьвіслачы пад'ясджаў рамізьнік. Пакуль жанчына, якую прывёз ён, разьлічвалася з ім, ён, абыякавы заўсёды да тых людзей, якіх возіць, маўчаў. Пасьля ён спакойна падзякаваў, крута завярнуў каня і паехаў паволі назад. Такім чынам гэтая мясьціна гораду зноў стала зусім пустою. Жанчына разглядзела ў руках заклееньі канвэрт з адрасам, праверыла пасьля нумар дому на сіняй заржавелай па краёх, бляшцы, пасьля пашукала якіх небудзь адзнакаў званка. Званка на дзьверах не знайшлося. Тады жанчына пастукала ў дзьверы

Жанчына здавалася высокаю, адзета яна была так, як адзяюцца ў вялікую дарогу—бяз клопату як ляжа і які выгляд мецьме адзеньне. Твар у жанчыны быў жыцьцярадасны, утомлены. Можа ён толькі здацца мог такім цяпер. Пастукаўшы ў дзьверы, жанчына азірнулася назад— на рэчку, на вясёлы выгляд малых домікаў на тым беразе, на бальнічны ўзгорак, і сьвятло дню упала на яе постаць, каб вызначыць ад бяссоннай змучанасьці ўзбуджанасьць шырокіх вачэй і лёгкую ружовасьць твару. Сьляды заклапочанасьці былі ў вачох, губы былі сьціснуты, і от ужо адзнакі ласкавасьці і упартасьці лажыліся на куты іх. Яна аглядала горад—усё, што відаць было на зямлі і над ёю. У сонечным сьвятле так стаяла яна некалькі момантаў—зусім маладая дзяўчына.

Дзеравяны стук дзьвярэй адкрыў пустую цемень сяней; на двор, на дзявочую постаць на ганку глянуў з дзьвярэй твар другое жанчыны. Дзяўчына падышла бліжэй, і от яна адным окідам вачэй агледзела тую другую—старавагую, трохі ўжо утомленую клапатлівым пачаткам дню; яна стаяла ў цёмных сенях, у накіненай на плечы кароткай, сашморганай скураной вопратцы; яна кагадзе ўстала, або часу ня мела прыбрацца—з-пад паркалёвае хусткі валасы выбіваліся на лоб. Чуць кіўнуўшы галавою, яна спакойным голасам адказала на прывітаньне дзяўчыны. Яна ўзяла ў рукі ліст, рукі яе няпрывычна трымалі незапэцканы паштовымі опэрацыямі конвэрт. Яна зноў агледзела сьпешным зіркам дзяўчыну, але без свайго духовага ўдзелу ўва ўсёй зьяве гэтай. Відаць было, што адвеку і давеку нясконченыя клопат выхаваў у ёй здольнасьць рабіць ўсё і ўдзельнічаць ува ўсім, ня вельмі паглыбляючыся ў самую сутнасьць усяго. Яна й гаварыла нейк сухавата, але так як-бы перад ею быў чалавек, якому даўно знаёмымі сталі ўсе звычаі гэтага дому і асаблівасьці ўсіх яго прыстрояк.

— Няхай бы вы мацней стукалі, можа я адразу не пачула...Даўно казала гаспадару які-небудзь званок прычапіць, а ён не зьбярэцца ніяк... Даглядальнікам ён у гарадзкім садзе, мала калі дома й бывае...

Тады дзяўчына сказала, што ў гэтым лісьце напісана ўсё, што трэба, і што ліст гэты з N ад сваякоў, яна-ж сама толькі што з поезду.

— Ідзеце ў хату,—цьвёрда і ласкава сказала жанчына.

Яны ўдзьвёх увайшлі ў першы пасьля сяней пакой—два вакны ў пусты агарод, папсаваная падлога, веснавое неба ў вокнах і радаснае сонца на сьценах пабеленых вапнаю.

— Сядзецеся, а я прачытаю, што пішуць,—сказала жанчына.

Пасьля як бы адумаўшыся:

— А вы тутэйшая, ці дачасу прыехалі, ці як?

Пасьля гэтых словаў сваіх жанчына захацела чуць усьміхнуцца добраю гаспадыніаю ўсьмешкаю, так паглядзела на дзяўчыну, няўмела і марудна разрываючы конвэрт пазаўсёды зачарнёнымі работаю пальцамі.

— Я прыехала з N.- сказала дзяўчына.

Жанчына чытала доўга, цяжка разьбіраючы непаслухмяныя літары; твар яе так сабраў на сабе ўсе адзнакі ўвагі і пільнасьці, што скрозь іх ніякага іншага пачуцьця ня выявілася.

І тады дзяўчына адчула страшную заклапочанасьць гэтае жанчыны навалаю дробных справаў і няпрыметных ні для кога падзей. Яны абкружвалі чалавека і кожны рух яго рабілі апраўданым для іх. Можа гэта раней так жыла жанчына, толькі-ж сьляды гэтага засталіся на ўсёй істоце яе. Вельмі ўтомленай выглядала яна.

Навокал яе, у гэтым сонечным пакою, стаялі абы як рэчы, зусім не займалі месца, іх было мала. Відаць было, што яны знаходзяцца па-за межамі асаблівае людзкое ўвагі і ня душаць чалавека навальна.

Жанчына згарнула ліст, старанна ўлажыла яго назад у конвэрт. Каля вачэй яе згусьцілася сетка тонкіх маршчын. Яна ўвесь час грымала гэты ліст у руках. Старым раптам зусім зрабіўся твар яе.

— Я памятаю,—сказала жанчына:—памятаю я добра Насьцю. Радзівонаву дачку. Бывала такая порсткая была... Я-ж яе й вынянчыла, над аднэй страхою, можна сказаць, жылі. А пасьля, як пашла яна замуж, дык я яе з таго ня бачыла. Мала яна й бацьку піша. А яго самога, Радзівона, я нейк мала бачу, дарма што брат родны. Так усё жывецца, што няма калі расходжвацца па людзях. А ён тымчасам жыве зусім на другім канцы гораду. Можа яна і пісала што-небудзь яму гэтымі часамі, але я даўно ня бачыла яго. Вы яго ведаеце?

Дзяўчына ўстала, ужо як-бы адчуваючы перад сабою доўгую гаворку з жанчынай; яна прайшлася на пакою:

— Не, я толькі Насьцю ведаю.

— А гэта вы самі Марыля Ірмалевічанка?... Гэта пра вас тут Насьця напісала?

— Пра мяне.

— Вы там з Насьцяй добра знаёмы былі.

— Жылі разам.

— Як разам?

— У адным доме.

— А яна мусіць пастарэла ўжо.

— Я ня ведаю, якою павашаму яна маладою павінна быць. Памойму яна на свае гады вельмі маладою здаецца. Ей год навыгляд каля дваццаці шасьці.

— Ей павінна быць каля трыццаці год.

Жанчына аб нечым падумала. Вочы яе глянулі паверх усяго.

— Я от думаю, —сказала яна, як-бы раптам прыдумаўшы нешта,— сам Радзівон жыве, як гарох пры дарозе, бяз догляду, бяз усякае, як той казаў, сталасьці; от жыве сабе. Адзін і за гаспадара і за гаспадыню. Калі захварэе, дык і ляжыць адзін, няма каму слова сказаць. Насьця, дык яна, з замаладу, была пешчаная, пасьля ўжо ёй цяжка давялося было. А як пашла замуж, хто яе ведае, як яна там і што. Калі яна не пастарэла—мусіць і ня кепска ёй замужам. Жыве. А тымчасам год за годам бацька старэе; я за яго маладзейшая, а й то сілы ўжо мала. Так от усё праходзіць, пераажываецца...

І, памаўчаўшы трохі, зноў загаварыў Радзівон Цівунчык:

— Або хоць бы гэны кватарант мой. От ляжыць бяз нікога роднага недзе ў бальніцы. От ляжыць. Хоць бы пашкадаваў яго хто. Гэты, што застаўся здаровым, дык хоць бы, ліха яму, даведаўся яго. Нават і ня думае.

— Дык сказаць яму трэба.

— Што ты яму будзеш гаварыць. Ен сам павінен дысцыпліну ведаць. Калі сам чалавек ня мае розуму, то ты хоць стрэль яму, нічога ад яго жаднага толку недакапаешся. От што. Гэта правільна, і больш нічога. Дурня ніколі не навучыш. Гэта я казаў, кажу і казаць буду, бо гэта факт.

— Можа ён часу ня мае?

— Якое часу!? Што гэта вы! Які-ж там час, — узяў ды пашоў, от табе час. Яго арыштуюць, што ён ня зьявіцца там на свае тэныя лекцыі, ці што!? Барані божа. Гэта проста такая парода людзей. Сэрца як камень. Цяпер усе такія пашлі. Ты з ім аб дзеле, дык што хочаш можаш. Ён табе зоры з неба дастане. От што. Ён табе можа дагары нагамі унь гэты вагзал перавярнуць. Ты з ім усякае дзела зробіш, дарма што ён здаецца цяперашнім сьветам такім на від плюгавым. Віду, значыць, ня мае. І ня мецьме яго ніколькі. Здрабнеў, от што. А дзялок вялікі. І, гаворачы аб справе, дык ён твой першы прыяцель. А калі пачнецца, скажам, трохі йначай, от, скажам, бяда якая ў цябе на душы ляжыць або гора якое, значыць, душу табе душыць, — то тады ты маўчы з ім. Не гавары нічога, а то кпіны будзе строіць. Ня дай бог. Ён-жа чалавечае душы не прызнае.

Гэта вы пра гэтага кватаранта свайго?

— Не... я на яго слова не скажу. Што ён! Малады хлопец, мала сьвету бачыў, людзей ня ведае. Што ад яго хацець.

Ён змоўк і зноў засумаваў. Пасьля-ж глядзеў ў хвіліну ў вочы Абраму, як-бы пытаючы што. І пашоў, сагнуўшыся ў свой двор. Там, недзе за сьцяною, ён доўга адкашліваўся, моцна пляваў. Праз паўгадзіны зайшоў на кватэру да Абрама паказаць коопэрацыйнае ашуканства: грымаў у руках пачак махоркі, разарваны зьверху і тыкаў пальцем:

— ... от няма, каб усё было добра. Здаецца-ж, казённая справа, дык не. Зусім цьвілая махорка. Нават аж вільгаць грымаецца. Гнілая нейкая.

Тады Абрам пажартаваў:

— Згарыць, скурыцца й зноў ня будзе.

— Ня ў тым справа, што скурыцца. Дым будзе. І не абы які дым. Моцны. (Тут ён падвесяліўся). Як пацягнеш гэнага дыму, дык аж язык на той сьвет уцягне. Але нашто-ж, каб гніль усякую народу прадаваць, я вас пытаю? Яны думаюць сабе — простаму чалавеку што ні падаў, усё ператравіць. Перакурыць, пераесьць... Ды гэта такі й праўда. Працавіты чалавек — хоць ты ваўка зьеш, нічога не пашкодзіць.

Ён засьмяяўся і, закурыўшы цьвілое махоркі, пашоў.

Дык от, гаворачы з Казімерам, Абрам і ўспомніў усю сёньняшнюю гаворку з Радзівонам Цівунчыкам. Успомніў яго крыўду, што дачка забыла на яго, ня пісала даўно нічога яму. Таму ён і выказаў думку сваю, што Маня сама павінна прыйсьці сюды, пашукаць старога Насьцінага бацьку, або прыслаць каго.

— Якога Насьцінага?

— Майго гаспадара, Радзівона Цівунчыка.

Нашто?

— Бо ў N яна жыла там у яго дачкі. Дык яна павінна што прыслаць яму; ён сёньня й так чуць ня плакаў, што дачка забыла яго.

Тут Абрам успомніў:

— Яна магла прыпыніцца ў сястры яго. Зараз даведаемся, дзе яна жыве.

Абрам вышаў. І праз хвілін дзесяць вярнуўся. За ім увайшоў сам Радзівон Цівунчык, І калі падвечар ён быў устрывожаны, сам ня ведаючы чым дык, цяпер зусім і моцна ўзьнепакоіўся.

— Пытаеце адрас мае сястры? Што-ж здарылася, чаму вы мне не гаворыце? От ніяк не магу тлумечьня дайсьці.

— Я-ж вам кажу: сястра яго прыехала (Абрам глянуў на Казімера), дык магла ў сястры вашай прыпыніцца. А нам знайсьці яе трэба.

— А як-жа вы ведаеце, што яна прыехала, калі ня ведаеце нават, дзе яна магла прыпыніцца. От работа!

— Яна заходзіла да мяне.—адказаў Казімер.

— То яшчэ раз зойдзе. Чаму гэта ў вас так цяпер робіцца. Памойму—раз яна сястра, дык павінна да брата ехаць адразу. А то прыяжджае, нікому слова ня кажа, а тут шукай яе. Выбачайце мне, калі ласка, на мой дурны розум так здаецца.

— Тут зусім іншая справа. Доўга расказваць. Хіба калі небудзь пасьля.

— Дык я-ж нічога, калі ласка. Я толькі запытаў. А калі-сястра ваша ў мае сястры прыпынілася, дык я-ж рад вельмі. От і добра. У яе там, сказаць, і прыпыніцца ёсьць дзе. Месца хапае; ага, каб толькі здароўя.

— Дык вы дайце адрас, будзьце ласкавы, я найду.

— Нашто вам даваць адрас, я й сам магу пайсьці з вамі, паказаць вам. Памалу пойдзем, ці што?

— А гэта далёка?

— Ня сказаць, каб блізка.

— Чаго-ж вамісьці, калі далёка. Ня варта ног набіваць.

— Ну, калі ня варта, то ня варта. То я вам дам адрас і квіта

Казімеру аж няпрыемна зрабілася трохі, што столькі гаворкі з такое малое прычыны, як адрас нейкай кватэры. Цівунчык-жа ажывіўся, нават павесялеў трохі, зусім гатовы прыняць самы гарачы і шчыры ўдзел у гэнай і ў ва ўсякай іншай клапатлівай ці непклапатлівай справе. Ён сказаў адрас. Ён доўга тлумачыў яго, узбуджаны, устрывожаны нечым іншым, што ляжала па-за гэнаю гаворкаю і чаго выразна ён і сам ня ведаў. Перад выхадам Казімера ён, разглядзеўшы яго цьвёрдыя выразы твару і ўпэўнены рух постаці, яшчэ трохі пагаварыў:

— А я спачатку думаў, што здарылася якая-небудзь прыкрасьць. От што. Пытаюць сястры мае, а нашто?—нікалі-ж ня пыталі раней. Дык я й сам не магу дадумацца, да чаго гэта ўсё. Усялякія здарэньні могуць быць. Жывучы, ўсё здараецца. На тое мы й на сьвеце жывом.

Казімер стаяў. Абрам глядзеў на іх абодвых. Казімер чакаў, пакуль Цівунчык скончыць або хоць прыпыніцца трохі, тады можна будзе, не пакрыўдзішы яго, пайсьці. Надзвычайная ўзбуджанасьць гэтага чалавека кідалася ў вочы яму. Слухаючы, ён наглядаў яго постаць і твар.

Цівунчык вышаў за ім усьлед. Быў ён у гэты час як бы прышчыблены чым. Здавалася, што нешта сказаць усё хоча ён, ды не гаворыць з-за нейкіх прычын. І гэта мучыць яго. Бо, будучы ўсхваляваны нечым, ці заклапочаны нечым прыкрым і нават пакутным, ён нешта

і іншае трымае ў сабе, што патрэбна для апраўданьня прычын і падзей. Такі быў утрапёны выгляд у яго. Стаяў ён маўклiва ў браме, выткнуўшыся на вуліцу, і ў той момант, як Казімер падаваў руку яму, ён запытаў.

— Вы-ж студэнт?

І выгляд у яго быў такі, як-бы ён думаў аб нечым зусім іншым і нават заклапочаны ім. А гэта мала цікавіць яго.

— Студэнт.

— А на каго вучыцеся?

— На доктара.

Што вы кажаце!?

Ён вельмі зацікавіўся і падступіў бліжэй:

— А калі будзеце доктарам? Колькі вам вучыцца яшчэ?

— Я ўжо доктар.

Ён яшчэ бліжэй паступіў:

— Ужо? Зусім доктар?

Абрам усьміхнуўся. Заўважыўшы гэта, Цівунчык і сам папробаваў вінаватым чынам усьміхнуцца.

— Ці не працуеце вы ў бальніцы якой?

— Працую.

— Ведаеце што я вам скажу?! Хворы там ляжыць адзін, от яны ведаюць - ён востра глянуў на Абрама,—ляжыць ён там хворы. Я вам зараз усё раскажу.—Раптам ён успомніў: а вы-ж здаецца, і самі былі вечарам тады ў мяне, як ён кагадзе захварэў! Дык от якая справа... А вы ў якой бальніцы лечыце? Можа ня ў той, то што тут лішне гаворку разводзіць. У якой вы бальніцы?

Ён прасіў, прыгнуты і хмурны, стары, каб доктар клапаціў аб хворым яго кватаранце студэнце. Пасьля загаварыў аб іншым важным для яго:

— Я чаму хацеў ісьці з вамі?.. Раз, думаю, сястра ваша жыла ў Насьці мае, то можа Насьця хоць вестку якую прыслала. Хоць распытацца мне ў вашай сястры што пра Насьцю. От што.

Абрам глянуў на Казімера. І ўбачыў, што ня трэба яму сьведак пры спатканьні з Маняю. І ён угаварыў Цівунчыка:

Цяпер можа яе й дома няма. Яна й сама сюды прыдзе, калі што будзе, або й так, пагаварыць А вы сёньня нездаровы, дык вам і хадзіць далёка ня варта.

— Я нездароў, гэта правільна.

Я-ж вам даўно казаў, што вы нездаровы.

— Мне вельмі рукі баляць; проста дранцьвеюць. Проста не магу, шануючы вас, падшпіліцца як належыць. А на ногі я крапчэйшы... Ідзеце здаровы.

Ён чагосьці паклыбаў да вагзальнага пад'езду. Абрам моўчкі прайшоў трохі з Казімерам.

Дзённаю стомленасьцю вечар ахутваў горад.

*Казімер ішоў адзін, нясучы ў сабе награмаджэньні пачуцьцяў і думак - сьляды ад нядаўных гаворак і людзей і іх навін і падзей.*

## VI

Яна й не чакала Казімера так хутка. Нават думала яна, што ніхто яе й ня знойдзе, пакуль яна сама ня зьявіцца. Казімер-жа ў той вечар, вышадшы ад Абрама і разьвітаўшыся з ім на першым крыжаваньні вуліц, праз некалькі хвілін быў каля старого дзеравянага дому: вуліцу і нумар дому ён знайшоў адразу. У ваччу яго стаяў твар старога Цівунчыка: „так-так, Прыберажная вуліца, дзеравяны дом, нумар...“ Дзьверы былі на замку і няма чаго было заходзіць.

Вуліца танула разам з дзённым сьвятлом у вячэрнім надыходзе.

Казімер прайшоў па вуліцы і вярнуўся назад. Выходзячы на першую паваротку, пачуў ён радасны пах зямлі: каля дому, за тымі дрэвамі чарнеў пусты агарод. Нават і астаткі леташніх расьлін вылазілі сухімі цырбунамі на вуліцу між дошчак.

Ён-жа думаў аб Мані, і от, хутарам тым і павеяла на ўсе яго адчуваньні. Смутак прынесла яму гэтая веянь пачуцьцёвых успамінаў, і ўвесь ён уздрыгануўся ад напорнасьці духовых сіл.

Гэта не прайшло за ноч і за ўвесь наступны дзень. І от трохі раней учарашняе пары ён зноў быў тут, каля гэтага дому.

Яны былі дома абедзьве. Дзьверы адчыніла жанчына.

Была яшчэ дзённая віднота ў доме, прытульная і шырокая, слаўная, як сам вялікі дзень на зямлі.

Пачуўшы голас яго, яна не пазнала яго і толькі здагадкамі амаль зразумела, што гэта Казя. У гэты дзень яна рыхтавалася зусім вечарам ісьці да яго, каб толькі застаць дома. Аднак, няведаньне конкрэтнасьці ў адносінах да яго і нават у сваіх паводзінах тут пакуль што прыкра непакоіла яе сёньня. Тым часам ён сам дапамог ёй. І як-жа яна ў глыбіні захаваных думак сваіх была ўдзячна яму!

Гэтае спатканьне іх было аднолькава вострым для абодвых; толькі Маня перажывала яго ўсімі парывамі схаваных у глыбіні бур сваіх, Казя-ж—страціў на першы час усю цьвёрдую організаванасьць настрояў сваіх.

Ужо раскідалася да значнай ступені уцыянованась і ўмеркаванасьць, так, як ад нечаканага згіненьня дарогі зьмячваецца і нават прыпыняецца рух на ёй. (Расьпляноўваючы сьвет на часткі і разьлічваючы на самыя найдрабнейшыя часткі ўвесь процэс яго, чалавеку найтрудней ад усяго вылічыць сябе). Цяпер, уваходзячы ў незнаёмы дом, чуючы цьвілы пах цёмных сяней, Казімер (пасьля, праз доугі час, у гэтым ён даваў сабе досыць конкрэтную справаздачу) цяпер, больш як калі, адчуваў яе сястрою сваёю.

Яна-ж страціла ў той момант той грунт, на якім трымалася. Яна цяпер, як ніколі раней, пачула сябе жанчынай, слабай і бязвольнай нават.

У поўдзень гэтага-ж дню, разказваючы жанчыне, гаспадыні сваёй, аб браце, яна верыла, што спатканьне з ім будзе спакойным, як двоіх блізкіх, самастойных і ўпэўненых у сабе паасобку людзей. Нават можа больш гэтага: вечарам яна пойдзе да яго сама, пагаварыўшы прывітаецца з ім і ўспомніць сонечныя дні на пыльных палявых дарогах і скошаныя паплавы за хутарам. Яна чакала вечару, калі ён можа быць дома. Ад стуку-ж у дзьверы і ад мужчынскага, ўсё-ж незнаёмага ёй ужо голасу яна ўздрыганулася ўся, раптам аслабеўшы духова. Праз некалькі дзён яна думала пра гэта і давалася ёй, больш пачуцьцёвымі ўспамінамі, чым думкамі, параўнаць гэта з тымі днямі, калі захварэла маці яе і

была на нейкі час блізасьць яе і Казімера. Так, за ўсё жыцьцё да гэтага моманту яна два разы гэтыя чула, як трацілася сваё „я“ і падначальвалася чужому. цяпер так, як і тады цяжка было ёй думаць аб усіх цяжкасьцях сярод бур сьвету.

Перад самым спатканьнем яшчэ малая гаворка адбылася між Казем і жанчынаю:

— Каго вы пытаеце?

Голас Казімера чуваць быў глуха, бо гаварыў ён ціха.

— Тут... Але можа мне папытаць раней у яе, ці пазваць яе сюды.

— Скажэце ёй, як яна сама захоча.

— А як сказаць?

— Скажэце, што Казя прышоў.

— Брат, што яна гаварыла мне?

Раптам жанчына змоўкла, пасьля сказала:

— Вы пастукайце ў дзьверы, або як вам лепш, бо я пайду.

І як-жа была ўдзячна ёй Маня за гэта. Яна радасна адчула заміласваньне да гэтае ўсё-ж незнаёмае яшчэ, гаспадыні свае.

Яна адчыніла дзьверы. Жанчыны ня было ў асьвечаным перадвячэрнім сонцам пакоі.

— Маня!

Яна папробавала ўсьміхнуцца бледнай усьмешкай сваёю і пашла да яго. Яны стаялі блізка, гледзячы ў вочы адзін аднаму, у першую хвіліну нічога не гаворачы. Раптам Казя напалажыў сястру ў галаву. Тады як-бы ўсё вырашылася.

— Казя!

У гэным незнаёмым ім аб одвым пакоі суджана было спаткацца ім у часе вялікага падарожжа свайго па бурных узмахах жыцьця, плывучы сярод іх, змагаючыся з імі і ўспанаўляючы іх. Усё, што было цяпер вакол іх тут, здавалася ім і было для іх толькі выпадковым, зразумелым, але далёкім.

Яны гаварылі тут нядоўга. Хватаючы абрыўкі і мінулага і сёньняшняга, узварушваючы іх памяцьцю, яны не клапаціліся аб парадку ў гэным, духовым цяпер толькі, матар'яле. Былі яны абое рады, толькі ня радасьцю здаваленьня, а радасьцю перад вялікімі, ня пройдзенымі шляхамі, сэнс якіх выявіцца пасьля. А гэтакая радасьць узвышае і ўпрыгожвае чалавека і вялікім імкненьнем поўніць яго...

... І толькі тады, калі захад канаў ад холаду агню свайго, толькі тады гаворка іх стала гаворкаю тых, што цэлыя гады ня бачыліся.

— ... Работы шукаеш, Маня?

— ... І ня толькі работа прымусіла мяне сюды ехаць, —дзейнасьці хачу... Работу магла я й там мець.

— А больш нічога ня здарылася з табою?

— Я-ж гавару табе.

— Маня! Сястра!

— От усё, што я сказала табе аб гэтым...

— ... аднак-жа, здаецца мне, калі думаю пра першы твой ліст... Разам з тым і гаворка з Абрамам нічога ня высьветліла мне...

Раптам яна агледзела брата, доўга і пільна.

— Пойдзем, можа,—сказала яна.

— Куды?

— От так, з хаты выйдзем.

— А ці надоўга-ж ты прыпынілася тут?

На колькі хачу. У пляменьніцы гэнае жанчыны я жыла ў N.

Ведаю. Даведаўся ўчора... калі ў Абрама быў.

Ты вельмі дружыш з ім?

— Сам ніколі аб гэтым ня думаў.

Сонца заходзіць, бачыш?... Брат, як-жа ты жыў у гэтыя гады... пасьля хутару... пасьля ўсяго. Ну, гавары...

— Хадзем... Ты-ж казала.

І яны пашлі. Па вуліцы, цяпер змрочнай, мяккай колерамі і цішынёю тут, сярод вячэрняга ўтрапеньня вельмі блізкіх адгэтуль пунктаў гарадзкое расплянованасьці і зблытанасьці. Вада губілася ў забруджадых берагох і пахла яна моцна схаванымі і цеснымі нетрамі таго-ж гарадзкога кіпеньня.

— Ты ўсё забрала з сабою?

— Што было—усё забрала.

— А чаго ня было?

Ён захацеў усьміхнуцца ад жарту свайго, але ўзбуджанасаць перашкодзіла ўсьмешцы выбрацца наверх.

— Чаго ня было, таго ня брала.

Не засьмяялася і яна, ідучы поплеч з ім.

— Ведаеш...

Голас яе быў нізкім. Даходзіў ён у некаторых мясцох чуць не да шэпту, аднак натуральнага і прыемнага. Постаць яе вырысоўвалася вечарам мяккімі абрысамі сярод усялякага награмаджэньня адценьняў, колераў і ценяў.

— Ведаеш, мне здаецца важным вельмі цяпер пабыць там...

— Дзе?

— ... там, на хутары, дзе некалькі год ня была, хоць там і перайначылася ўсё. Або да Анці паехаць нарочна... Ведаеш, дзе Анця?

— Ты-ж пісала мне

— Цягне мяне туды. Вялікая любасьць да Анці нават мучыць мяне. Можаш ты ведаць гэта?.. Ты слухай. От гут што. Нічога я раней ня ведала, думала, што ўсё вельмі проста. Анця жыве сабе недзегам, у вёсцы з бацькамі, ты на хутары у нас. І ўсё здаецца добра і ціха. Я была старшаю за Анцю год на пяць. І бяз мяне ўжо гэта ўсё рабілася. Невядома зусім мне, як гэта Анця пашла такою маладою замуж. Можа проста прычыны якія тут былі супроць нават жаданьня яе, ці што іншае, што не прынясло ёй таго, што завуць шчасьцем. Ні аб чым гэтым яна ня пісала мне ў сваіх лістох. Як напіша—дык ўсё аб тым, што зроблена і што трэба рабіць у іх там: надвор'е стаіць добрае, палавіну аўса зьвезлі ўжо; здарылася няшчасьце—закульгавеў конь і прышлося яго за бесцань прадаць; напіша, што жывы і здаровы—от і ўсё. Яна мне за ўвесь час некалькі такіх лістоў была прысдала. Я чытаю іх з вялікім задаваленьнем, чуючы ў іх, як жыве гэтаю работаю сваёю Анця. А як яна з сваім мужам жыве, ці добра, ці кепска, можа дзеці ў іх ёсьць, можа не—нічога невядома мне...

— Пачакай, ты раней мне аб сабе раскажы...

— Дык от я й расказваю.

— Мы пра Анцю пасьля ўспомнім. Як-жа ты жыла і жывеш? Бо у чым ты вінаваціш Анцю,—што яна табе нічога амаль выразнага аб сабе ня пісала, дык у гэтым самым я магу павінаваціць цябе самую. Я от сьмяюся і гавару гэта трохі жартаўліва, аднак ўсё-ж вінавачу цябе...

— Няўжо-ж табе ня цікава пра Анцю ведаць. Яна-ж такая табе родная, як і я.

— Цікава. Але ты мне больш выразна пра сябе скажы.

— Я-ж гавару, як я перажываю весткі пра Анцю. Значыцца, я думаю пра ранейшае. Як мы жылі перад тым, як выйсьці ня вялікі шлях, як самастойна, кожны па свойму, жыць пачалі. Думаю, што замала ў нас было брацкіх адносін і менш ад усяго мы тады клапаціліся аб гэтым. Цяпер я так думаю.

— Так і я думаю.

— Дык от. Нават быў час, што я адчувала сябе як бы вінаватай перад вамі ўсімі.

— Чаму?

— Так. Я ведаю, што ня праўда гэта.

— Няпраўда. Гэта табе толькі здаецца так. І ня можна дапускаць такіх думак. Ня думай так больш ніколі.

— ... Цяпер-жа мне трэба мець работу і... жыць.

— Жыць?

І Казя паглядзеў на яе шырокімі вачмі, насьмешна ўсьміхнуўся нават. Так глядзеў на яе доўгую хвіліну. Ён адчуў, што бура жыцьця панесла яе ў сваім вялікім ходзе, ахваціўшы яе кіпеньнем сваім. А яна, захопленая вялікасьцю буры гэнай з бясконцнымі громамі і цішынёю без утрапеньня,—імчыцца, радуецца ўсяму і сумуе над усім.

У хвіліну гэтую яна стаяла блізка ад яго, абапершыся локцямі на цяжкія надрэчныя балясы на самым беразе, над густою гарадзкою вадою рэчкі, і здавалася яму пакутніцай за ўсё і над усім.

Раптам яна сказала:

— Анця пісала мне, што ўвосень на полі захаладзілася была і доўга праляжала. Пасьля, тручы лён, надумалася пра гэта напісаць мне і напісала. Што тады са мной рабілася! Тут нават і ня ў ёй самой, ня ў Анці ўсё. Зусім можа не. Тут у мяне ўсплыло на памяць іншае. Ты-ж ня ведаеш, што тады было са мною, калі мне давялося лячыць тату, а пасьля хаваць яго. Было толькі добра, што Насьця, пляменьніца гэтай жанчыны, у доме якой я цяпер прыпынілася, што яна была блізка каля мяне ўвесь час. З таго часу мы з ёю нават здружыліся трохі. Дык от чытаю ліст ад Анці, а сама ахоплена навалаю думак аб іншым. Нарэшце ўсё сышлося разам, дык у такую хвіліну я й напісала табе той першы ліст. Калі гэта было?

— Гэта было мусіць трохі больш за тыдзень таму назад.

— Так, ня больш.

— Як гэта ўсё хутка зрабілася.

— Што?

— Яшчэ на тым тыдні ня ведаў я, дзе ты і нават ці жывеш ты на сьвеце, а цяпер раптам перадумаў столькі пра цябе і от стаю з табою разам.

— Толькі ты ня думай, што першы ліст той я пісала табе затым толькі, што ня было з кім пагаварыць аб маім наплыве думак...

— Ты-ж не адна там была...

— З Насьцяю я магла гаварыць пра ўсё. Нарэшце на тэй цукерачнай фабрыцы, дзе працавала, была ў нас блізкая сям'я, чалавек дваццать работніц.

— Завод быў саматужны і прыватны?..

— Няхай сабе...

— Не, дык я так гэта. Гэта проста думка набегла...

— Там ёсьць нават дзьве няпісьменныя дзяўчыны. Былі раней дамашнімі работніцамі. Адна такая васпаватая трохі і вельмі вясёлая, але калі пачне раздумваць аб замустве—сватаецца да яе адзін каменшчык—дык у сьлёзы кідаецца.

— Чаго?

— Ніяк ня можа вырашыць—іцьці ці не.

— Лепш ёй ня ісьці, калі так.

— Можа й лепш. Я нічога не парадзіла.

Цяпер яны маўчалі нейкі час. І от тут Маня сьціснула Казімеру руку:

— Слухай. Калі я не дастану тут работы да восені, ты калі будзеш мець магчымасьць і калі мне трэба будзе гэта, ты паможаш мне...

Яна ня скончыла і выпусьціла яго руку. Пасьля зноў пачала гаварыць:

— Мяне палохае адно...

— Што?

— Тое, што я табе сказала... Што-ж ты можаш падумаць пра мяне! Якое разуменьне мяне можа скласьціся ў цябе. У цябе могуць быць такія думкі, што, пакуль я мела работу, пакуль магла рабіць і вучыцца, датуль маўчала. А калі стала беспрацоўнай, дык і аб табе ўспомніла. Разумееш ты тут мяне? Зноў-же дрэнна... Нібы гэта цяпер я стараюся перад табою апраўдацца ў чым.

— Сястра! Ты-ж ні ў чым не апраўдваешся...

— Ты-ж можаш думаць, што за гэтым я й ехала сюды...

— Табе няма ў чым апраўдвацца.

— Я й так сюды ехаць думала, бо з восені буду мець месца настаўніцы, а мне хацелася-б быць у сваёй акрузе. Толькі думала я ўвесь час, што прыеду сюды пад восень, аднак здарылася іначай. Бо фабрыка тая зачынілася; прадпрыёмства гэта было малое і нямоцнае. І работніцы рашыліся і разьехаліся—хто на іншую работу, а хто ня мог пакуль знайсьці работы. Я там працавала і заработку хватала, а цяпер грошай маю мала. Працавала і адначасна вучылася. Толькі не ў унівэрсытэце—там вельмі шмат працы, а з тых часоў, як тата захварэў, і я яго ўзяла да сябе... Але-ж я табе, здаецца, пісала аб гэтым у тым першым лісьце. Пісала збольшага, ты ведаць павінен.

— Так, гэта для мяне ясна.

— Аднак, калі табе цяжка будзе, ці ня будзе як, то няхай... Даруй мне, братка... Мала што я сказала, я й так да восені дабуду. Але-ж напэўна работу я дастану.

— Ну, аб чым ты гэта гаворыш, ня варта аб гэтым так многа гаварыць. Ня трэба так. Нават калі ты хочаш, я сама ўсё зраблю.

— Што?

— Усё, што табе трэба. Падумаю аб рабоце. А калі табе што цяпер трэба, дык ты гавары зараз-жа. Чаму ты такая...

Яна думала аб ім: дзе-ж дзеўся той хутарскі хлапец, з дрэнна расчэсанымі валасамі і з грубаватымі рухамі плячэй. Аднак нейкі нясьмелы і ціхманы. Нават у апошнія гады перад тым, як разлучыліся яны на гэтыя некалькі год. Быў перад ёю цяпер моцны нейкі для ўяўленьня чужога чалавек, што трымаў у сабе як-бы нейкую цьвёрдую думку сваю; і цяпер, у гэты момант, яна пачула ў ім брата, але іншага, не такога, якім уяўляла сабе, калі пісала яму з таго гораду. Ён быў цяпер у ўяўленьні яе надзвычайна разумным і, як заўсёды ў такіх выпадках, не на карысьць пачуцьцю. Аднак-жа, у наступныя хвіліны, ён напалову разьбіў гэтае яе ўражаньне. Грубым сваім мужчынскім рухам ён схапіў яе руку, моцна пацісьнуў, сказаўшы:

— Не паглыбляйся вельмі ў тое, што ніколі ня будзе аформленым і канчаткова акрэсьленым. Шкодна гэта і непатрэбна. Гэта лішняе. От што. Я ведаю гэта сам праз сябе... Я-ж ведаю, што мы блізкія з табою і чую гэта. Сястра! Сястрыца!

Ён памаўчаў і пасьля моцна пацалаваў яе ў галаву, у валасы над ілбом.

Яна прыняла гэта, як патрэбнае. Ён-жа адчуў, як закалацілася ў ім радасьць, што яна тут з ім.

Цяпер яны доўга маўчалі. Горад запаліў агні, зьменшыў стук свой і клапатлівасьць. Вада пад імі, абмываючы цёмныя, забруджаныя берагі свае, мацней пахла цяпер гарадзкою цеснатою. Неба над горадам навісала густое і непразрыстае. Яно здавалася зьлітым з нечага гулкага і звонкага—з сталі ці пачарнелай медзі. Сталь хмурылася ўсімі адценьнямі ночы і раскідала ў непарадку свае халодныя іскры... Дарога маўчала дзеравянымі загарадзямі, сьценамі дамоў і надрэчнымі балясамі. Ніхто тут ня йшоў і ня ехаў. Палажыўшы рукі з локцямі на халоднае жалеза балясаў, Маня глядзела, як унізе хмурна ляжыць на чорнай вадзе бляск далёкага гарадзскога агню, і саша вады, перабягаючы скрозь яго, ня можа схаваць яго ў сабе. Казімер моўчкі глядзеў на яе блізкую постаць, не гаварыў ні слова і толькі чуў яе радасна. Нават, калі яна, хвілін гак дзесяць памаўчаўшы, пачала ціха расказваць, як Панкрат Малюжыч расказваў ёй аб ім, ён толькі й запытаў усяго:

— Я як-жа ты Панкрата Малюжыча ведаеш?

Доўга яна разказвала пра свае знаёмствы і спатканьні з людзьмі. Шмат чаго ён не дачуў, шмат што разумеў, ня думаючы, і аднак уяўляў сабе: бурная хваля, што ўнесла іх у шырыню сьвету, разлучыла на некалькі год, каб зноў пасьля так спаткацца ім; перайначыўшыся, памацнеўшы, аддзяліўшы шушамець ад чыстага зерня. Нават адны і тыя-ж людзі спаткаліся ім абодвым на дарозе і ўвайшлі ў гэны пункт іх жыцьця. Як-бы нешта агульнае і важнае стала зразумелым ім абоім. Так яны, стоячы тут, адпачывалі. Думкі ў Казімера беглі напорным ходам, захватваючы ўсё ў сябе, нават выпадковыя драбніцы з усяе навакольнасьці. Падначальваючыся ім, ён раптам запытаў:

— Вацю Браніслаўца ты памятаеш?

— Памятаю... Чаму ты ўспомніў?

— Так сабе... Абрам мне разказваў...

— Што табе разказваў Абрам?

— Разказваў, як ён, калі быў у войску, адпрашваўся, каб пусьціў яго Абрам дадому хоць на колькі дзён. Цябе хацеў бачыць, ці што іншае, што да цябе адносіцца.

— Праўда? Гэта ён таму адпрашваўся?

— Абрам гаварыў. Наогул-жа ён Вацю ня любіць.

— За што? Ен слаўны.

— Можа.

— А чаму ён у Абрама адпрашваўся?

— Абрам быў камісарам над ім. Здаецца, з таго часу ён ня любіць пачаў Вацю.

— Чаму з таго часу?

— Ен ня пусьціў Вацю, а той сам уцёк. І Абрам гаварыў, от нават вельмі нядаўна, што гэта па табе ён так сумаваў...

— Гэта зьдзівіла мяне, што ты расказваеш. Нічога я пра гэта ніколі ня ведала, што ён так глыбока адносіцца да мяне...

— Ён цяпер тут. І мусіць дзён чатыры, як я з ім вельмі блізка бачыўся. Быў з ім разам. Утрапёны хлопец нейкі.

— Ён быў няпрыметным там у нас, у дзяцінстве, і пасьля. Да самых апошніх год я мала ведала яго. Нясьмелым нейкім ён мне першыя часы здаваўся...

— Мне так здаецца і так я д маю: ён і цяпер мусіць цябе з думак сваіх не выпускае. Цяпер мне ўсё робіцца ясным. Аб нечым падобным ён гаварыў усё вечарам нядаўна ў аднэй п'янай кватэры. Пасьля-ж, як Абрам разказваў мне...

Казімер заўважыў, што яна ня слухае. Думае і глядзіць некуды далей. І ён змоўк.

— ... Казя!

Ён уважліва глянуў на яе.

— Братка!

— Што, ну?

— Я от што... Чаго ты гады ўцякаў з хутару да маці свае?

— Нашто ты йзноў думаеш аб усім няважным?

— Хіба гэта няважнае?

— Але нашто яго выкопваць.

— А я думаю іначай.

— Ты-ж гэта ня думаеш, гэта-ж ня з думак тваіх.

Яна моцна сьціснула абедзьве яго рукі. Тады ён з вялікаю бярэжлівасьцю адвёў яе рукі і павёў яе поплеч сябе далей па дарозе. На скрыжаваньні вуліц яны завярнуліся назад.

Цяпер яна ішла за ім, як слабейшая за яго.

Быў вечар. Пара была—папярэднiца першых хвілін ночы. Стары дзеравяны дом зусім маўчаў, унырыўшыся і ўсімі сваімі колерамі ўвайшоўшы ў сьцены свае. У другой палавіне яго, дзе жылі незнаёмыя насельнікі, жыло слабае сьвятло; вокны, зложаныя з псклейваных кітам кавалкаў шкла, абмываліся ад ценяў ночы гэным слабым сьвятлом. Бледны водблеск ад іх ляжаў на зямлі—нясьмела і нярухома. Зямля дыхала веснавою сілай.

— Заўтра да цябе, Маня, я зайдуся раней, як сёньня, ты тут будзеш?

— Пакуль што тут.

— Заўтра больш дасканала і практычна пагаворым... А можа ты да мяне зойдзеш; калі хочаш, вядома.

— Прыду.

Адчыняючы дзьверы, Маня сказала:

— Незамкнёна. Дзіўная гэта мая гаспадыня. Толькі другі дзень я ў яе, а думаецца, што здаўных мы жылі ўвесь час разам.

Яна схавалася ў сенцах, і Казімер пашоў вельмі паволі.

Дзеравяны тротуар гэтай ціхай вуліцы гнецца пад нагамі ўсімі сваімі саматужнымі змацаваньнямі. Навокал маўчыць дзерава, камень і жалеза.

(*Працяг будзе*)

**Язэп Пушча**

# Асеньнія песьні

I

Сам ня знаю, што сяг оньня я сыграю, -
толькі струны ліры узьнімаюць граньне.
Параходы ў ходзе, падаюць сыгналы;
хвалі размываюць цёс гранітных граняў.

Хвалі узьнімаюць на Няве трывогу,
бы ў душы поэты тнеўныя усплёсы.
Як ня ўспомніць тут мне чорную дарогу,
і свайго юнацтва дзень сьветлавалосы.

Зябка мне і сэрцу ў паліт оне штацкім,—
ўзьняўся вецер золкі на заліве Фінскім.
Я стаю ля сьценаў Акадэміі мастацкай,
прад вачмі маімі вяліканы сфінксы.

Ці ўзьвіецца дух мой творча-сакаліны,
і ці ўдасца толькі мне іх разгадаці?
Пралажылі людзі рэйсы-каляіны,
пралажылі ўсюды: праз паветра й гаці.

Я-ж тулюся ў суме да самотных статуй,
і сьляза спадае на граніт і мармур.
Беларусь краіна,—найміцай астатняй,—
ў апранасе рванай днём і ноччу хмарнай.

Ой, Зямля-Плянэта і браты-народы!
Я спраўляю штодзень страшнае маленьне:
расьпяваю псальмы аб краіне роднай,
расьпяваю ўвечар, стаўшы на калені.

Сашчамляю рукі і ўзьнімаю ўгору,—
хоць ня містык духам, не манах пакорны.
Бачу на панэлях бяспрытульны горад,—
не магу ўхапіцца аніяк за корні.

Пэўна вечна жыць мне з песьняй бяспрытульнай;
вырадкам праслыць, знаць, суджана ад роду.
Выйду на дарогу, на сустрэч Матулі;
можа прыйме сына, не знайшоў што броду?

Я злажу вітаньне ня ў чэрствых словах;
мо' прыгорне цела і душу уцешыць?
Пазрываюць ветры з стрэх старых салому,
і мне з ёй усьцелюць пуцявіны, сьцежкі.

Будзе дзень сьвяточны, дзень другога прыйсьця:
прыдзе Маці з Сынам, на услоне сядуць...
Расшумяцца клёны, расшумяцца лісьця,—
будзе сьвяткаваньне песеннае ў садзе.

Прыдуць з песьняй тыя, што сабе ня лгалі,
што сьлязуranялі на сырым кургане...
Параходы ў ходзе, падаюць сыгналы,
хвалі размываюць цёс гранітных граняў.

II

Трасецца асеньні заплаканы вечар;
цьвятлівыя далі азглелі, сьсінелі.
Стаяць замарозкі ў душы чалавечай,—
ніяк не сагрэцца пад шэрай шынэляй.

Азяблае цела ў трагічным уздыме;
зямлі нагату акрывае лістота.
Хто з крыжа краіну расьпятую здыме?
Ўзываю, малюся у грэшнай істоце.

Я грэшнік сягоньня, - о грэшнік вялікі:
глумлюся ў душы над дарамі сьвятымі;
страчаю, мінаю і юдавы блікі;
ня гнуся каленьмі ў бажніцы, сьвятыні.

Раскаяньнем сэрца ніяк не расчулю;
ад болю ня рвецца,—сьціскаецца ў камень.
Услаўлю народ свой я песьняю чулай,
хоць целам павісну на востры паркане.

Хоць зоры, часамі, і месяц бялявы
іскрыстасьцю сыплюць на строфы-прыгоршні;
услаўлю ўсё-ж тое, што вартае славы,
прад ім і схілюся у дзень свой апошні.

III

Даліны адвеялі шумам аўсяным,
адвеялі хвалі аўсоў залацістых.
Зьбірайцеся, песьні, у вырай з гусямі,—
прастор асыпае настрояў квяцістасьць.

Ў дуброве трывожны шчапаецца пошчак;
трасецца пад клёнам ільняная восень.
Ажоўклыя косы ёй дождж апалошча,
а сівер асушыць сухім сугалосьсем.

На беразе возера ў вечар асмуглы
начлежнікі полымя больш не распаляць.
Вяршаліны шалыя неба абугляць
і далі лістамі крывавымі сплямяць.

Прайдуся па шораху лёгкай хадою,—
хай цела ашорхне і сэрца марозам.
Азябнуць хачу, прытуліўшыся долу;
ад песень, мэлёдый хачу ацьвярозець.

IV

Словы мае, словы—песьні агнявыя,
ў полі на кургане вецер дзіка вые!

Крыльлямі лапочуць чорных птушак зграі;
віхар на кургане танец сьмерці грае.

Да яго прысела з жоўтым тварам восень,
і музыку ў танец, танец сьмерці просіць.

Кінуў ён на вотлех самаграі гусьлі:
струны забрынчэлі; сьмех разьятрыў вусны.

Цела у экстазе, у шалёным спрыце,—
сёньня восень—дама, сёньня віхар—рыцар.

На кургане танец зданьня—ценяў чалавечых,—
косы расплялiся на худыя плечы.

Восень бліжай к сэрцу персі прытуляе,—
аніяк ей не сагрэцца... Роспач... Лямант.

Віхар завіхрыўся, ўскінуў плашч таемны.—
ў цемені, сузмроку згасьлі зор імгненьні.

Жоўтымі лістамі зашуршалі далі,
і эта псальм жалобны ветры ў полі ўзьнялі.

Віхар, рыцар сьмерці, апусьціў калені,
галавой схіліўся перад целам акалелым.

# Лісты да сабакі

I

Жыву цяпер я ў шумнае сталіцы,
далёка ад цябе, мой любы дружа.
Ляжыць акраец хлеба на стальніцы,
а ў збане на вакне юнацтва ружа.

Вятры павеюць хутка золкай сьцюжай,
і ліст крывавы свой яна уроніць.
Праходзіцьме натоўп з душой няўхлюжай
і ў гразь утопча, апусьціўшы скроні.

І толькі я адзін, поэт бяздомны,
над ім схілюся й акраплю сьлязамі.
Тады забросьнеюць душы затоны,
калі ў грудзёх мой дух зусім мне займе.

А покуль: б‘е жывой вады крыніца
і хваля творчая гарачым пульсам.
Нашто-ж мне падхалімам быць, крывіцца
і ў хмары ўрэзвацца чырвоным буслам?

Лепш вольным птахам рэзаць шыр нябёсаў,
і супраць ветру размахнуць крыламі.
Хто хоча—кпіце над пяснярскім лёсам,
і бэсьце, лайце у гандлярскай краме.

Трывожнасьць рытму песьню агартае,—
нязнана-востры боль у адчуваньнях.
Мне лепей быць звычайным-бы ратаем,
чым грэх з сябе змываць ў атрутнай ваньне.

Даруй, што я пішу табе аб гэтым,—
тваё нутро гатоў яшчэ расчуліць.
Вартуй, вартуй лепш хату да расьсьвету,
вуглоў каб не разьнесьлі людзі вуліц.

Я ведаю—цяпер у вас там восень,
і ночы чорныя жуду калышуць.
Вятры лісты ажоўклыя разносяць
і намятаюць гурбамі ў зацішак.

І ты адзін правёў у ноч такую,
правёў мяне ў далёкую дарогу.
Гадзіну гэту кожны год сьвяткую
і слухаю, ці ў дзьверы хто ня дрогне.

Ніхто, ніхто! Зацяты ланцугамі...
Хтось рукі заламаў у далях сініх.
Вартуй, мой дружа, родны ганак,—
пішу аб гэтым я табе з Расіі.

II

Успомніў восень я пятнаццатага году,
і у ваччу зьмяёй узьвіўся чорны шлях.
Ніводзін дзень ня ведаў ласкавай пагоды,—
за навальніцай навальніца сьмерці йшла.

У гэту восень стаў народ наш сіратою,—
ўздыхнулі цяжка хвалі віленскіх вазёр.
Ў капліцы дзён жахлівых брат сканаў з сястрою;
у сьлёзна-золкім небе згасла радасьць зор.

Ніхто з людзей ня мог адчуць наш боль трагічны;
была страшная зяб,—рыпелі косьці дрэў,
карэньні іхніх ног былі ў крыві крынічнай.
Выгнаньня дзень, бы злодзей краўся па двары.

І ты стаў бежанцам у гэты дзень закляты,—
пайшоў па шчасьце у чужацкую зямлю.
Ты выць пачаў пад крыжам і пад хатай
і вочы сьлёзныя закатываць ў імглу.

Ты познай восеньню ў палёх глухіх брадзяжыў,—
знайсьці прыстанішча сабе ніяк ня мог.
Імгліліся жудою хмары сыпкай сажы,
а ты пад імі выў і грыз балотны мох.

І ты, і гаспадар твой сталі жабракамі;
калі-ж вас людзі праганялі з-пад вакна,
тады чало сьціскаў ты лапамі—рукамі
і церні вырываў з пакутнага вянка.

Ішлі гады, міналі дні падзей суровых,
вяртацца сталі ўсе ў асірацелы дом.
Зьмянілі шум даўнейшы свой лясы, дубровы,
і поле зарасло бадыльнікам кругом.

Ад мяса і крыві набухлі жылы глебы;
да іх вярнуцца ты ня змог, ня здолеў больш.
Твой гаспадар цябе зьмяняў на бохан хлеба,
па целе па тваім тады прабегла дрож.

Пайшоў ты ад сваіх, галоў на дол схіліўшы,
да бацькі да майго, дзе я цябе й сустрэў.
Падумаў ты:—у сьвеце гэтым многа лішніх,
і смагла сьлёзы піў, што падалі са стрэх.

Былі ці ня былі ў нас родныя нагуры,
а толькі мы адзін другога сталі разумець.
Замоўклі рэволюцыі вялікай штурмы,
атрэслі клёны ў сінь листоў ажоўклых медзь.

І я пайшоў у горад за нязнанай славай,
а ты астаўся там-жа пад страхой старой.
Ліста мне ад цябе ніразу ня прыслалі,
хоць ты й пісаў яго вячэрняю зарой.

Туга і боль душу пабілі мне на раны,
і я пачаў успамінаць цябе часьцей,
пачаў выходзіць на шляхі-дарогі раньнем
і запрашаць к сабе няведамых гасьцей.

Ўспамінаў аб табе ўсё-ж нікому не расьсеяць;
і знаю я, калі вярнуся ў родны дом,
адно спазнаешь ты, спазнаў як Одысэя:
прымі-ж ты ад мяне гарачы мой паклон.

III

Ці я ў тэатры, ў рэсторане п‘яным,
дзе радасьць расьпіваюць пад джаз-банд;
усюды зрок вачэй блакітных вяне,
і ўсюды бачу я жалобны бант.

Няхай сабе я сёньня й страшна хворы,
ня трэба ўсё-ж рэцэптаў для душы,
Сталецьцямі гараць і сьвецяць зоры,
і іх вятры ня ў сіле затушыць.

Няхай, няхай гавораць так і гэтак,
а я пішу табе ўжо трэці ліст,
няхай сабе аблаяць і ў газэтах,
мо‘ ўспомніць часам хто калісьць.

Мой дружа, ці-ж у гэтым рытмы песень
і смутак нашай сонечнай красы?
Калі поэт галоў на грудзі зьвесіць,
няўжо краіне ён тады ня сын?

Мне часта зябка й холадна бывае,
і ўсе-ж ніхто ніразу не сагрэў,
не цалаваў-жа здраднымі губамі
ніколі я лістоў, апаўшых з дрэў.

Стаю вось перад Зімнім тут палацам
і ўвесь, ня ведаю й чаго, дрыжу.
І сам ня ведаю, чаго гак плачу...
Хто там? Прыдзі хутчэй і укрыжуй!

Канец хай будзе ўсім маім цярпеньням;
няхай лісты разьвеюцца з асін,
з чала краіны вырву ўсе-ж я церні,
каб болю іх ня ведаў болей сын.

Няўжо мне ранаў песьня не загоіць,
што гэтакі трывожны б'ецца пульс?
Поэт, які ня ведае агоній,
ня здолее уславіць Беларусь.

Ой, гэта слова, слова дарагое!..
Ах, дружа мой, заўсёды рытм саб'е!
Я-ж напісаць хацеў зусім другое,
хацеў у госьці запрасіць цябе.

Адно вось толькі думы не пакоіць:
ці ўдасца ўсе-ж даехаць да мяне?
Ну, скажам, адвязуць к чыгунцы коні,
аж бліснуць зоры ў полі з-пад саней.

А там білет, і ты ў вагоне спальным;
ты сьнедаць зможаш ў рэсторан зайсьці,
у ім зімою зелянеюць пальмы,
і думаеш, зімы няма ў жыцьці.

А на вакзал, на сьветлую плятформу
прыду я сам, прыду цябе сустрэць.
Адзін другога горача прыгорнем,—
даўно, даўно ня меў такіх я стрэч.

Ня ўсьпееш з дому перадаць вітаньня,
яшчэ вочы будуць ў радаснай жальбе,
і тут-жа раптам горач развітаньня,—
ў сталіцы не дазволяць жыць табе.

Адзет ня будзеш ты ў парадны кіцель,
ня будзеш мець заслугі— медаля,
зьбягуцца і абступяць цябе гіцлі,
і будзе шмат іх: дзе ні стань, ні глянь.

Жыві, жыві, знаць, дома лепей;
услухвайся ў таемны шум і шэпт,
чужыя людзі ходзяць каля склепу,
пільнуй! Цябе цалуе твой Язэп.

# Ліст ад сабакі

Добры мой поэт, прабач,
што доўга ня было ліста.
Твой сьлёзна-горкі плач
хацеў я днямі залістаць.

Усё хацеў, каб як астыць
пад ветра-сьвіст з прысад.
Атрымаць лісты, лісты...
ніяк ня здолеў адрэсат.

Знаць ня знаю—жыў ён, не,
ці блудзіць з хэўрай валацуі?
Толькі крук тырчыць ў сьцяне,
чаплялі за які ланцуг.

Дом зусім, зусім раскрыт,
цяпер я ў ім вартую сінь.
Бачыш, стыль які і рытм,
заместа бацькі піша сын.

Добры мой, лісты твае
калі мне прачытаў твой брат,
гойсаць стаў я па траве
і пасабачаму стаў рад.

Выць пачаў на млечны шлях,
каб ён яшчэ сьвяціў ярчэй,
пасля лёг каля шуля
і сьлезы хлынулі з вачэй.

—- Дзе мой бацька, дзе радня?
Жыву вось тут, жыву адзін,
я штоночы і штодня
ня маю радасных гадзін.

Добры мой, пішы яшчэ,
пішы навіны мне свае.
З песьняй жыць куды лягчэй,
душа ня хоча з ёй сівець.

Часта я гляджу у даль,
ці вобраз твой ня ўбачу там?
Разьвявае лёгкі шаль
ў даліне сонечнай туман.

Не пайду я з-пад вакна,—
твой чую крок ў людзкой хацьбе.
Увесну, як прыедзешь к нам,
я першы абніму цябе.

Выйду, стрэну ля варот,—
такі, такі ўжо ў нас закон.
Будзе мой сьмяяцца рот,
і цалавацца буду языком.

Знаю, знаю, ты жывы,
цябе ніхто не запражэ...
Будзь-жа, будзь здароў, жыві;
цябе цалуе моцна Жэк.

**Тарас Гушча**

# Залаты прамень

*Да дзесятае гадавіны Кастрычніка*

*Казка*

У кожны момант і на кожнай мясьціне зямлі адбываюцца найцікавейшыя рэчы і складаюцца самыя дзівосныя казкі, падобныя іншы раз да праўды, і праўда, яшчэ болей цікавая часамі, як сама казка. Але скрыжалі зямлі, дзе запісваюцца казкі-праўда і праўда-казка, так рознастайны і так багаты, што людзі вечна будуць іх чытаць і ўсяго не перачытаюць. І трэба вельмі ўважна прыглядацца, каб і на самым малюсенькім куточку гэтых скрыжаляў расчытаць гісторыю аб вялікіх падзеях.

Вось і тут, у гэтым лесе, здарылася нешта падобнае. Аб гэтым я і буду расказваць, толькі заранёй прашу памятаць, што гэта—казка.

На горцы лясок стаяў, і лясок гэты ня так вялікі. Каля горкі сям-там прабіваліся крынічкі, і рэчачка вывівалася збоку. Было нават і азярко і балотца,—ну, словам усё было. Для адных істогаў, якія жылі ў гэтым лесе, гыя маленькія крынічкі паказваліся непраходнымі вялікімі рэчкамі, а азярко—бясконцым акіянам, а ўсё гэта разам здавалася ім цэлым сусьветам. Другія-ж пазіралі на гэта іначай... Адным словам сярод лясного грамадзтва ня было пагоджанасьці ў поглядах на разуменьне „вялікае“ і „малое“. Але гэта так сабе, між іншым. А важна было вось што, і гэта трэба адзначыць: усе сходзіліся на думцы, што той лад, якому падпарадкавалася лясное грамадзтва, ёсьць адвечны закон, устаноўлены з самага пачатку ўтварэньня сьвету, як выяўленьне пэўнай гармоніі дабра і хараства. І лічылася вялікім блюзьнерствам ня толькі протэставаць, а нават і думаць, што гэты лад патрабуе некаторых зьмен і направак. А патрэба ў такіх зьменах і некаторых папраўках напэўна-ж была, бо калі да гэтага ладу падыйці з меркаю нават звычайнай крытыкі, то ў ім ня цяжка знайсьці заганы і нават, калі на тое пашло, і несправядлівасьць. І гэта можна давесьці фактамі. Напр.: ці справедліва, што на кволенькія былінкі нападае тля і высмоктвае іх мядовы сок? ці справядліва што на самую горачку дзе так слаўна грэе сонца, не дапускаюцца брусьніцы, чорныя ягады, ну і хоць-бы сабе дзераза? Чаму горкія асіны маюць права лапатаць на ўвесь лес, а нізенькі верасак змушан туліцца да зямлі і маўчаць? Чаму адным—сонца, а другім цень? І нарэшце, чаму адны павінны прыносіць ахвяры, каб на іх трупах будавалі свой дабрабыт другія?

Усе такія факты- а іх можна было-б і значна павялічыць ці не знаходзяцца ў супярэчнасьці з гармоніяй дабра і хараства? А калі гэта так, то чаму-ж не змагацца супроць несправядлівасьці? І яшчэ адно важнае пытаньне: як магло стацца, што лясное грамадзтва лічыла гэты лад, як выяўленьне пэўнай гармоніі дабра і хараства?

Каб адказ на такое пытаньне стаў ясным, трэба паглядзець, што рабілася тут уночы. Але перад гэтым трэба зазначыць яшчэ вось што (для мае казкі яно таксама мае значэньне). Ня гледзячы на гэтую гармонію дабра і хараства, лясное грамадзтва адчувала, што яму чагось не дастае, што над ім ёсьць нешта

жыцьця. Разумеецца, на гэта была свая прычына, але аб ёй лепш падумайце самі, бо я баюся, каб мая казка вам не надакучыла. Дык буду казаць далей.

Прыгожства чараў, павабнасьць таемнасьці, страх цемры, вялізарнасьць нябесных прастораў і жах перад бесконцасьцю і бязмежнасьцю сусьвету паказвалі тут цёмныя маўклівыя ночы. І асабліва паважна было тут тады, калі вандроўніцы-хмаркі пасплываюць з неба, а само яно расквеціцца нязлічонымі агоньчыкамі-зорачкамі і вышле ў дарогу бліскучы кружок месячыка. І вельмі прыгожы былі гэтыя зоркі. Іх было так многа і так яны часамі разьмяркуюцца ў бяздонных глыбінях неба, што становяць сабою самыя вычварныя постаці і фігуры, вабячы сваім храраством і недасяжнасьцю. Далеч утварала гэтыя прыгожыя злучэньні зорак: такая ўжо ўласьцівасьць яе, бо далеч, як ніякі ў сьвеце мастак, умее паказаць рэчы ў найпрыгажэйшым выглядзе. Ад рухлівых пераліваў бляску зорачных агнёў разлівалася ва ўсе канцы сьвету нейкая таемная сіла і так ці іначай кратала ўсе істоты і змушала іх тым ці іншым спосабам адгукацца гэтай сіле.

І тады ў лесе пачыналася нешта надзвычайна цікавае. З лясных гушчараў выходзіў *лясун* і *стукаў у далоні*. Гэта ён падаваў знак, што пачынаецца ноч. Яго мяккі ляскат касматых рук падхоплівалі бліжэйшыя дрэвы і разносілі па ўсім лесе. З дуплястых асін вылятали совы, вітаючы лясуна крыкамі „ківі!“, „ківі!“ На іх мове гэта значыла „жыві!“, „жыві!“ З трушчобаў выпоўзвалі павукі, бясшумна, як цені, а з-пад кары вылазілі сьветлякі і запальвалі свае зялёныя ліхтарыкі, каб пасьвяціць павуком, бо павукі павінны былі разьвешваць на дрэвах тонкаструнныя арфы. А прызначэньне іх было дваякае: як струмант для музыкі і як спосаб да жыцьця самых музыкантаў. Тонкія, зялёныя голачкі на хвоях і лісьцё на іншых дрэвах пачыналі сьвяціцца такім жудасным і маркотным бляскам, што у лесе рабілася нейк страшна. А туман, узьнімаючыся з нізін і з-пад гнілых пнёў, дурманіў лес і дадаваў нізом і іх насельніцтву яшчэ болей цемры і таемнасьці.

Калі такім парадкам усё было падрыхтована, лясун надзяваў на сябе адзежу, сатканую з лісьцяў і з ганюсенькіх нітак, што пралі русалкі з кудзелі-моху, а на галаву ўскладаў карону, перавітую гірляндамі дзеразы з блуклівымі агончыкамі, і выходзіў на горку. У руках яго была бліскучая палка, зробленая невядомымі майстрамі з гнілушак, і гэтаю палкаю праводзіў па струнах арфаў, што разьвешвалі павукі ад дрэва да дрэва. Струны дрыгацелі і поўнілі ўвесь лес акордамі музыкі, *ня чутнай для чалавечага вуха*. Музыка гучэла доўга, аж покі месяц ня зрушваў з сярэдіны неба. Гэтая музыка чаравала лес і ўсе істоты. Пакорна і нярухліва стаяў лес і ўсё, што было ў лесе. Тады лясун выступаў з прамоваю. І зьвінелі, як звон, яго словы па лесе.

„Слухайце, слухайце, высокія дрэвы, нізкарослыя кусты, пахучыя краскі і дробная трава! Слухайце і вы, пташкі, жукі і мушкі і ўсе, слухайце голас надзорных глыбінь! Я выклікаў вас да жыцьця і даў вам сілу і рухі і ўсялікія здольнасьці, каб чэрпаць асалоду. Я палажыў карункі на вашы галовы, умыў іх буйнымі росамі, убраў брыльлянтамі і запаліў дыямэнты, сабраныя з зорак, з месяца і з бліскучых зьнічак, каб ведалі вы моц і вялікасьць таго, хто шчодра асыпаў вас дарамі і вызначыў вам лёсы. Праведзены граніцы кожнаму з вас, каб у сваіх граніцах вынконвалі вы маю волю. Не пераступайце гэтых граніц, не зайдросьце малыя вялікім, слабыя крэпкім, бо гэтым парушаеце волю маю. Узьнiмiце вочы вашы ўгару: ёсьць там зоры

вялікія і зоркі малыя. Калі-ж малая зорка захоча стаць вялікаю, я палю яе пякучым агнём, а бліскучы сьлед ад яе, што блісьне на адзін толькі міг, ёсьць знак мае кары. А калі вы будзеце пакорны і ня пераступіце закону майго, я ўзьнясу вас вышэй зорак, і вечна вы будзеце піць асалоду. Дык слухайце і бойцеся парушыць волю маю!"

Гаварыў лясун, і словы яго закалыхвалі лес і ўсё, што было ў лесе. А месяц спусьціўшы свае бледныя, тонкія ніці, ціхусенька дакранаўся да яго і навейваў яму адпаведныя сны, што яшче болей замацоўвала той сьветапагляд і тую філёзофію, што злажылася ў лесе.

Так праходзілі цэлыя гады і вякі.

Але кожная зьява і кожная рэч на сьвеце знаходзяцца пад уплывам розных чыньнікаў, і чыньнікі гэтыя часта зусім процілежных катэгорый. І бывае такі момант, калі сілы чыньнікаў розных уплываў стыкаюцца, як у полі крыжавыя дарогі, перасякаюцца ў якім-небудзь месьце, каб падпарадкаваць сабе гэтую зьяву ці гэтую рэч, каб ужанесьці яе на сваёй пуціне.

Так было і тут.

Паслала сонца свае праменьні на зямлю, каб сагрэць яе, разьвеяць туман і прынесьці ей радасьць і шчасьце. Адзін прамень ад сонца а яму было прызначана заранiць у сэрцы створэньням на зямлі новыя мыслі аб новай праўдзе і справядлівасьці на сьвеце,—праходзячы неасяжныя прасторы, згубіў дарогу на зямлю і заблудзіў у глухой цемрадзі сусьвету. Доўгія вякі блукаў ён у міжплянэтных прасторах сярод халодных пустэляй, шукаючы зямлі і не знаходзіў яе. Схадзіў ён з канца ў канец увесь млечны шлях, агледзіў усе плямы туманнасьцяў, заходзіў на ўсе вядомыя і невядомыя людзям плянэты, насіўся па-над зорнымі краямі, зазіраў і ў іншыя краіны тэтага страшнага ў сваёй бязьмежнасьці сусьвету, а дарогі на зямлю не знаходзіў. І толькі часамі сьвяціўся ён ружовым зьзяньнем у бяздоньнях неба, і такою лагоднаю усьмешкаю калыхаўся яго бляск вечарамі ў пустых багнах неба. І гады вясялей рабілася на зямлі. Сьнегавыя вяршыны гор адбівалі гэтае зьзяньне і самі запальваліся ружовым або залатым бляскам. І гады шырэй рассоўвалі свае граніцы прасторы зямлі, лагадней пазірала поле, а вада ў рэчках, азёрах і ў морах калыхалася ружовымі хвалямі, як распушчанае ў агні золата. Гэтая радасьць снавалася і ў тонкарунных хмарках, бо адно толькі адбіцьцё залатога променя ператварала іх валокны ў ружовыя шаўкі. Весялела паветра, станавілася лёгкім і празрыстым, спавіваючы зямлю цяплынёю і радаснымі лятуценьнямі аб чымся бясконца сьветлымі і добрым. І гэтае няяснае прачуваньне новага жыцьця калыхалася тады ўсюды. А сам залаты прамень ні на момант ня спыняўся ў сваіх шуканьнях дарогі на зямлю і ніколі ня траціў надзеі знайсьці яе, каб выпаўніць сваё прызначэньне, хоць і многа было яму перашкодаў у гэтым блуканьні. Яму засланялі дарогу праменьні ад іншых плянэтаў. Варожа сустракалі яго маўклівыя пустэлі. Мрокам, туманам і хмарамі закрывалася зямля.

Ноч, цёмная ноч ляжала над лесам. Месяц зрушыў з сярэдзіны неба, і зноў правіў лясун сваё літаньне і казаў свае прамовы. Як звон зьвінелі яго словы па лесе, і чуўся ў іх надзвычайны патос. І зьдзівіўся раптам лясун, прыпыніў сваю прамову на самым цікавым месьце абвёў лес зяленымі вачамі. Нічога падобнага ня бачыў ён раней: на тонкіх голачках хвояў і на лісьці іншых дрэваў пагас пусты, халодны

зялёны бляск, а замест яго іскрыліся жывыя, рухлівыя ружовыя агоньчыкі, а лес і ўсё, што было ў лесе, высока паднялі галовы і весела насьмейваліся.

Задрыжала рука ў лясуна, бліскучая палка, зробленая з *гнілушак*, выпала з яго рук і раскідалася. Шугнулі совы ў дуплястыя асіны, і кінуліся хавацца па цёмных кутках павукі.

Тут і канчаецца адно зьвяно казкі. А калі-б хто запытаўся, што-ж тут здарылася, то гэтым ён паказаў-бы, што няўважна слухаў байку, чым моцна пакрыўдзіў-бы... ну, баечніка

2/X—1927

**А. Мрый**

# Колектыў Яўмена

Дарагія госьці прыехалі да ўдавы Домны Лямцюговай —дачка Адарка і зяць Хвёдар. Дачку яна ня бачыла дужа даўно, здавалася ёй, ці ня з таго часу, як заварылася гэтая каша, як народ на народ пайшоў, як паноў пачалі рэзаць ды вяскоўцам волю далі! Тады і пачалося гэта новае жыцьцё! Домна кінула вёску ды пачала з сынам Яўменам жыць на гэтым пасёлку, які людзі празвалі „комунай Яўмена“. А як аддала замуж сваю ядыную дачку Адарку ў чужую, дальнюю вёску, вярстоў за 50, дык зусім адна стала жыць на гэтым, туды яму дарога! колектыве. Ня любіла Домна гэты колектыў і колектыўшчыкаў, ой як ня любіла. Хоць і жыла з сынам, у якога была жонка Матруна і маленькі сынок, але ўсімі думкамі рвалася ў старую вёску, у якой жыцьцё амаль што не зьмянілася! А тут, на пасёлку, Домна часта шкадавала сябе, адчуваючы поўнае адзіноцтва: жыву, як колас у полі, адрэзана ад бога і людзей! „Колектыўшчыкі“ —паводле яе думак—гэта ня людзі, а д'яблы, якіх бог калі-небудзь ды пакарае!

Домна частавала сваіх гасьцей, чым было. Госьці елі са смакам, бо праехаліся, а яна скардзілася на сваё жыцьцё.

Зяць Хвёдар сядзеў на лаўцы каля вакна, еў мала, а больш пыхкаў піпкай ды аглядаў хату.

Хата была новая, на дзьве палавіны. Дзьверы ў другую палавіну былі адчынены —там брыкала цялё,пад печчу скігагала парасё, па хаце спацыравалі дзьве чубаткі і певень. Вокны былі вялікія, сьветлыя, падлога роўная чыстая.

А Домна скардзілася:

Што толькі ў нас дзеецца, дык вы й веры не дасьцё! Яўмен перавярнуў усё дагары нагамі. Мазгі мае—як не мае! Сама ня ведаю, ці я жыву, ці мяне ліхаманка калоціць. Усё па-новаму, па-новаму...

Адарка заўважыла:

— У Нямеччыне як быў, наглядзеўся, а пасьля у Чырвонай арміі шышкай быў, дык цяпер і сам ня ведае, хто ён.

— Быў сын, як сын. Хоць бедна, ды ціха, супакойна жылі. Ты служыла ў пані, так-сяк патроху жылі. А цяпер на панскую зямлю селі, дык чыста адурэлі, як калясо, усё круціцца...

— Не, пра паноў кіньце! загаварыла Адарка. Мала яны наштурхалі нас? Мала я ад пані гора бачыла? Восем пудоў важыла: прыбяры, перавярні гэта жлукта з боку на бок, ды яшчэ пасадзі ў фаэтон, сама не магла ўзьлезьці. Адзін раз стала на падножку, дык і ўсю біньдзюгу перакуліла.

А ўсё ў бога сьмерці прасіла. Бывала прыду я да пані, як ужо цара скінулі, а яна ляжыць ды стогне ды бога просіць, каб хутчэй памерці ды ня бачыць, як дабро яе расьцягваць будуць. А ведала яна, што гэта будзе, разумная паня была.

— У самую бальшавіцкую рэволюцыю выпруцілася, як быццам ведала, што канец панству прышоў!

Хвёдар сказаў:

— Што й гаварыць! Каб паноў ня выгналі, дык Яўмен не адбудаваў бы такой хаты!

Было відаць, што Хвёдар зайздросьціў Яўмену.

Домна заўважыла гэта і сказала нездаволена:

— Адбудаваў, адбудаваў, хоць ваўкоў ганяй! Стадола, а ня хата. Нават супакойна заснуць нельга. Усе здаецца, што нехта ў вокны глядзіць.

Хвёдар зарагатаў і запытаўся:

— На што Яўмену вокны такія вялікія?

— Вярзе такое, што і ў галаву не палезе: кажа, што трэба, каб паветра ды сонца было больш! Я яму колькі разоў *казала ды лаяла* Халера на цябе, кажу яму, сваімі вокнамі толькі косьці мае старыя прастудзіш. Трэба каб дух быў у хаце!

— А што Яўмен кажа?—*зацікавіўся Хвёдар.*

А Яўмен усё грубіць: трэба па-новаму, па рэволюцыі, жыць. Трэба, каб у хаце нейкая кубатура была!

— Кубатура? разам перапыталіся і Адарка і Хвёдар.

Але-ж! Кубатура! Я і ня ведаю, што гэта. Яўмен цяпер *шмат балбатні ўсякай гародзіць,* усё *нейкія* модныя, перакручаныя словы вярзе ды ўсе палец уверх узьнімае. Вось глядзі, Адарка!

Домна паспрабавала перадражніць свайго сына Яўмена, але нічога *ня выйшла.* Троху памаўчаўшы, прыбіраючы са стала, сказала:

— Сягоньня відаць вернецца Яўмен. *Пашоў на перавыбары,* а Матруна да суседкі пашла, ды яшчэ дагэтуль няма. У нас жа хата ад хаты на вярсту.

Хвёдар усьміхнуўся і глядзеў *на* чыстую падлогу. Яму хацелася плюнуць, але нейкае нязвычнае пачуцьцё чыстаты стрымлівала яго. Нялоўка адчуваў сябе у гэтай хоць мужыцкай але чыстай хаце. Урэшце падняўся, выйшаў у другую хату. Вярнуўшыся, сказаў, зірнуўшы на кут:

— *І праўда, у вас усё па-новаму.* Вунь і багоў няма. Разбазырылі Ці ня комуністым зрабіўся Яўмен?

— Блізка што так! Ужо больш году, як вынес усіх багоў! Цяпер жывём, як паганцы!

Адарка ўстрапянулася:

— *Як жа так? А ты нічога? Куды-ж ён іх?*

— Хто-ж яго ведае, супакойна адказала Домна. Адзін абраз я схавала, забаранила, можа і *ўспомніць калі-небудзь* бога, можа і прыгадзіцца на ўсякі грэх А толькі, Адарачка, адступіўся ён ад нас. І маліцца ня моліцца нейк! Як агруціў нехта! Пабягу іншы раз да Гапкі, у яе хата абстаўлена ўся абразамі. Бягу, думаю: памалюся там, ды паплачу, а прыбягу туды, як леду паклаў хто ў сэрца. А яшчэ як прыслухаюся, што вярзе на бога Яўмен, сынок мой, дык і ахвота маліцца прападзе! Як паганцы ў граху жывём.

Хвёдар засьмяўся:

А мы дык няшчасныя людзі! Няма ў нас ніякае кубатуры!

Хвёдару вельмі спадабалася гэтае слова, і ён некалькі разоў са сьмехам пераказаў яго.

— Табе сьмех, а мне гора —зьвярнулася да яго Домна. Хадзіў як голая ў гэтай кубатуры Куточка цёплага няма ў хаце. Пустэльня! Усе сьніцца старая хатка: за печ залезем, пагрэемся, а тутака і печы такой няма... Усе па-новаму ў нас..

Адарка запыталася пра жонку Яўмена Матруну Толькі раз і бачыла яе, як Яўмен прывёз з „віроў“. Тады Матруна ня вельмі спадабалася ўсім фарсістая баба была! Домна адказала, што ўсё было-б *добра, але ў думку Яўмена тымча і на матку вокам ня зірк*

— Два месяцы ўжо, як радзіла сына! дадала яна.

Адарка на цыпках падышла да калыскі, асьцярожна рассунула полаг, зірнула і шчыра сказала. вялікі расьці! вялікі расьці! вялікі расьці! Адышоўшы заўважыла:

— Нічога сабе пузанок! А ружовы які?! Як-жа завуць?

Домна неяк дзіўна ўсьміхнулася і шэпатам загаварыла:

— Лепш ня пытайце! Ня ведаю як і сказаць вам, любенькія! Дзіцёначка-ж ня ксьцілі. Як ні прасіла я—нічога не памагло... Яўмен даў сваё імя!

— Ой ну? Якое-ж?

— Проста грэх. Зусім не чалавецкае імя. Акіянам назваў. Спачатку брыдка было, а цяпер нічога, як быццам другое імя і не падыходзіць.

Адарка аж рукамі пляснула ды галавой заматала.

— Акіянчык! Божа-ж мой! Нейкае ліха ўсьсела на чалавека!

— Яго дурны поп ксьціў,—рэзюмаваў Хвёдар, падымаючыся з лавы.

Ён пачаў разглядваць лёзунгі, плякаты і малюнкі, якія былі разьвешаны па сьценах. Хвёдар ня бачыў сэнсу ў гэтым, ды й чытаць амаль што ня ўмеў. Але ўважліва разглядаў пана, кулака і цара, крытыкаваў іх разбухлыя выкручаныя ногі, тоўстыя гумалятавыя зады, хціўыя, заграбастыя рукі і разяўленыя воўчыя зяпы. Гэта ўсё было яму зразумела і бяз подпісаў, гэта паводле яго думкі „лоўкая была крыгыка“. За тое другіх плякатаў ён зусім не разумеў и доўга думаў над імі, аж галава засьвярбела. Асаблівую ўвагу ён зьвярнуў на нейкі даўжэнны ланцужок то вялікіх, то зусім дробненькіх чалавечкаў, якія трымалі ў руках чырвоныя сьцягі. Нічога не зразумеўшы, Хвёдар адышоў у бок і, паказваючы на чалавечкаў, тры разы смачна плюнуў.

Домна засьмяялася.

— Яўмен кажа, што нельга харкаць на падлогу. Муштруе нас, як чорт які. Ня так стаў, ня так сеў. Трэба ўсе рабіць па канстытуцыі, як ён кажа,

— Твой Яўмен захварэў па панства! Хоць гол пакуль што, дык затое хванабэрыі шмат.

Домна нічога не адказала Хвёдару, толькі пальцам тыцнула ў бок дзьвярэй. Там стаяла зграбна зробленая скрыначка з пяском.

Хвёдар вытрашчыў вочы:

А-а! Пля-валь-ні-ца!

Домна рэзанёрна перадражніла Яўмена:

- Ня плюй на падлогу, хвароба прыліпне!

Хведар падняў на сьмех Яўмена.

Адарцы раптам захацеляся ўступіцца за Яўменку. Ей няпрыемна зрабілася, што яго на сьмех падымаюць. Іншая справа, каб ен сам тут быў, тады, можа-б, яна яго яшчэ з большым запалам лаяла, а цяпер Адарка прыпамятала, што і настаўніца ім пра гэта трубіла... Набраўшыся духу, яна перабіла Хвёдара:

— А я чула, што харкавіньне высыхае, а там ёсьць нейкія казюлькі, яны лётаюць у паветры і пралязаюць у чалавека...

— І Яўмен слова ў слова кажа,—кіўнула Домна.

Хвёдар падскочыў. Яму дужа не да спадобы было, калі яго жонка Адарка пачынала мудрагеліць ды вырашаць супранатуральныя пытаньні.

-- Скуль ты чула лухту гэту?—накінуўся ён на жонку.

Настаўніца казала!

— Схавайся ты са сваёю настаўніцаю! Торба сьвятая! Казюлькі пралазяць у чалавека? А хто іх бачыў гэтыя казюлькі?.. Чаму мухі, камарня ды машкарня не пралазяць?

Адарка ня ўнімалася.

— Многа ты ведаеш? Цёмны, як гарбуз! Тамака такія казюлькі, што вокам ня ўбачыш!

— Разумная знайшлася! Нехта падпарыў цябе! Калі ня ўбачыш вокам, дык і няма!

Хвёдар не хацеў больш гаварыць на гэту тэму. З практыкі ведаў, што калі ўлезе д'ябал у яго жонку, дык ніякім вожыгам ня выганіш яго адтуль, а толькі наслухаешся розных ня вельмі прыемных для мужчыны мянушак. Лепш справіцца з ею дома. Тады ён часьць Адарцы дыхту!

Адарка падсела да маткі і слухала яе. А матка гаварыла:

— Цяпер уся праца наша па гадзінах вядзецца. Як проклятыя працуем. Вунь, зірні!

Павесіў плюгавы гадзіньнік, ды мне здаецца, што ўсяродку ў мяне сядзіць, ды тыхае, тыхае!

II

Дзьверы адчыніліся. Увайшла прыгожая маладзіца. Гэта была Матруна. Дала дзеньдобры, зірнула на гадзіньнік, падышла да калыскі. Дзіцёнак яшчэ спаў. Яна схапіла вядро і выйшла з хаты. Домна кінула ёй усьлед:

— Падой спачатку Анпяратрыцу, а тады ўжо Антанту!

Хвёдар заёрзаў на лаўцы ад сьмеху:

— Хвароба на ўсіх вас! На выстаўку трэба Яўмена!

Домна тлумачыла:

— Дзьве кароўкі ў нас, ды кабыла. Нядаўна прывяла дужа добрага жарабочка. Дык Дзянікіным празваў. Спаклалі ужо Дзянікінага гэтага самага...

Хвёдар памаўчаў троху, а потым пачаў усьміхацца. Як відаць надзвычайна ўдалая думка прышла яму ў галаву, і ён пасьпяшыў выказаць гэту думку. Лавіў толькі момант.

Домна жалілася, што сын ні ў чым яе ня слухае: прасіла ў Яўмена на хустку, дык ня даў, сказаў, што заробіць у лясьніцтве — тады купіць, а цяпер газэту трэба выпісаць. На газэту ёсьць, а матцы няма!

Домне ўсё, што ні рабіў яе сын Яўмен, здавалася дзікунствам. Каля сьцяны стаялі тры тапчаны, засланыя саматканымі коўдрамі. Домна сказала: Вунь, зірні! Упокат ужо ня сьпім, як у старой хаце. Нарабіў тапчанаў, набіў сенам. Адным словам як у заежджым двары. Хоць падарожных пускай.

Хвёдар, хітра сьмяючыся, запытаўся:

— Мамка, я чуў, ці праўда толькі гэта, што ты свайго Яўмена ня менш як 8 дзён раджала?

Домна аўтаматычна кіўнула галавой.

Вярнулася Матруна з вядром малака. Радасна сказала:

— Зірні, маці! Анпяратрыца сёньня яшчэ больш дала! Шклянак 30 будзе.

Адарка не паверыла:

— Ня можа гэтага быць! Я-ж ведаю гэтаю Анпяратрыцу! Гэта Красулька?

— Не красулька, а Панедзя!

— Дык Панедзя яшчэ менш давала! Што-ж вы ёй даеце? Нашу-ж Пяцёну, каб яе агні высмалілі, цыркаеш, цыркаеш, усё жыльле павыцягнеш, а ўсяго таго малака з дзьвюх каровак—крупеню забяліць, ды дзіцёнку.

Матруна пачала падрабязна тлумачыць пра Яўменавы „фокусы“ з каровамі, пра турнэпс, бульбу, ды буракі, што прыбаўляюць малака.

Домна зірнула ў вакно і заўважыла Яўмена.

Шапарнула Матруне: Выгань цялё ды парася, а не—лаяцца будзе.

— Не пасьпееш ужо! Убачыць, дык яшчэ сьмяшней будзе.

Яўмен ужо ўваходзіў у хату. Гэта быў чалавек гадоў 30, абголены, з шырокім тварам, высокім лобам і шапкай белых, як кужаль, валасоў. Высокі рост, шэрыя жывыя вочы, магутныя плечы і выпуклістыя грудзі—усё гэта рабіла Яўмена бязумоўна прыгожым чалавекам.

Яўмен быў ня менш рады гасьцям, чым матка.

— Вось добра, што вы завярнулі! Даўно ня бачыліся! Як жа вы жывеце?

Хвёдар глядзеў на Яўмена і ня верыў вачом сваім.

Няўжо гэта Яўмен? Сталасьць, самаўпэўненасць, задаволенасьць! Адказаў усьміхаючыся:

— А што мы? Чапаемся патроху! А вось у вас дык усё дагары нагамі!

Яўмен раней добра ведаў Хвёдара, нават супольна быў з ім яшчэ ў старой арміі.

— Больш,—сказаў ён:—пастарому нельга жыць—затруць. Ды і самому хочацца жыць вальней, чысьцей, хоць троху пачалавецку. Вось на два дні адлучыўся, дык ужо сьвінушнік з хаты зрабілі—цялё ды парасё ўвалаклі!

Матка распалілася:

Табе праціўна ўсё, што матка зробіць! У цябе няма бога ў сэрцы! На дварэ-ж мароз, а цялё яшчэ дзіцёнак, няхай хоць пагрэецца!

— Ат! звыкліся ў гразі жыць! Смурод ды нечысьць! Ёсьць жа цёплая пуня!

Хвёдар усё ўглядаўся ў Яўмена:

— Да цябе цяпер і на кані не пад'едзеш! Усё хочаш жыць на шырокую нагу! Двор вялікі, нават тратуары паклаў...

—Ня сьмейся Хвёдар! На новым месцы трэба па-новаму і жыць Я цяпер ніколі не зьвярнуўся-б на старое месца, у вёску. Як падумаю, у якой цясноце ды крыўдзе жывеце вы, дык шкода мне вас!

Ня вёска,—а пекла! Вулачкі, закавулачкі, праваліцца ім. Хата адна на другую лезе! Пажар, дык ўсё скіпіць! Ні кусточка, ні гаёчка. Гола ўсё, як калена. Дрэваў ня любяць...

Дзіцё ў калысцы прачнулася і моцна заявіла аб сваіх правах. Матруна падышла да калыскі. Яўмен запытаўся ціха: а рукі ня мыла?

Матруна адказала: забылася! і пашла да мыцельніка. Яўмен узяў на рукі Акіянчыка.

Дзіцёнак лыпаў вочкамі, плюшчыўся ад зімовага сонца! Adарка умяшалася:

— Адкуль гы чысьцеха! такой стаў? Бажаволіш! Рукі пагнаў жонку мыць! А калі нам часта некалі ня толькі памыць, а нават зьесьці, як чалавеку.

— Што другое, а гэта трэба! А то сьвіньням мяшала, з гаршкамі вазёкалася, а потым да дзіцёнка!

На дварэ зьявілася нейкая кучмастая галава і закрычала ў вакно:

— Яўмен вярнуўся ці яшчэ няма?

— Вярнуўся Яўмен адказаў ён сам:—Заходзь, Зьмігрок! Увайшоў ня дужа стары гаспадар і, даўшы дзень-добры, адразу перашоў да справы:

— З раёну прышлі па нашай заяве білеты на выйгрыш. Тады мы ўсе ўзялі ўскладчыну. Па два рублі з двара Дык ці ёсьць у цябе?

— Ёсьць, ёсьць!

Хвёдар недаверліва памагаў галавою:

— Эйш ты! Ня гое, дык другое, а ўсё вернуць на старое! На што гэта глупства—выйгрышы?

— Выйграеш чорта лысага

Домна пачала бубнець Адарцы: Як на хусту прасіла, дык няма, а чорту ў зубы дык ёсьць.

Яўмен супакоіў:

— Будзе табе хуста, ня зьвер, у лес не ўцячэ, а **дзяржаве чаму** не дапамагчы! Наша-ж!

— Багата яна табе дала?

— А ці-ж мала? Ці жылі-б мы тут, каб не яна?

Адарка нічога не разумела, на што гэтыя білеты.

— А як ня выйграеш, дык у вагонь кінеш?!

Хвёдар аўторытэтна заявіў:

— Канешне, выйграе чорта лысага!

Хоць ня выйграем, страта невялікая! А грошы не прапалі, па білетах процанты даюць!

Перашлі да сваіх сялянскіх спраў. Перабралі ўсё жыцьцё па костачках: колькі падатку наклалі, колькі ўжо сплацілі, колькі жыта намалацілі, які прыплод жывёла дала! А бабы пра лён, пра воўну казалі, пра суседзяў, пра забойствы, пра новых камандзёраў, пра комсамольцаў, ды піянэраў, якія ўжо паўсюды расплядзіліся і гнуць сваю лінію! Шмат аб чым ёсьць гаварыць, калі больш як 5 гадоў ня бачыліся!

Госьці начавалі, а як на другі дзень яшчэ ў досьвітку зьяжджалі яны з двара, Яўмен прасіў радню:

— Вясною прыяжджайце. Тады будзе добра ў нас!

— Прыедзем, прыедзем! На твае фокусы, Яўмен, толькі й паглядзець! Здаецца і сам заварыў бы кашу, зірнуўшы, як у вас усё як у гаршку кіпіць!

### III

Вясною Хвёдар і Адарка зноў наведаліся на Яўменаў колектыў. На ўсім раёне толькі і гаварылі што пра гэты пасёлак! Як увайліся госьці ў хату, Хвёдар пачаў крыгыкаваць:

— Усё нутро адбілі, покуль праехалі па вуліцы. Як у горадзе, брукам выслалі. І гратувары, як у паўятовым горадзе. Нават двор і той забрукаваў!

Хацелася яму завесьці доўгія спрэчкі, ды цёшча пасадзіла за стол і пачала частаваць.

Хвёдар захапіў з сабою гарэлку. Тлум падняўся. Зяць разышоўся і пашоў атакай на Яўмена

— Ты кажаш, што трэба жыць па пляну, дружна, грамадой! Глупства! Грамадой не разбагацееш! Вунь двор брукам выслаў, што з гэтага?! А што далей, што далей будзе? Што будзе з твайго пасёлку? Чуў я, што ты яшчэ нешта замышляеш?

— Што далей будзе? Лепш будзе, чым цяпер!

— Комуню будзеце заводзіць?

— А што-ж? Мы не такія ўжо цёмныя! Наш пасёлак будзе, як у Нямеччыне! Галоўнае ў тым, што ўсё робім дружна, грамадой па пляну. Цяпер будзе ў нас школа, хата-чытальня. Ніхто нам не дапамагае. Самі!

— На якого радзімца?— не ўнімаецца Хвёдар. На шыю сабе лішні цяжар. Багацеі знайшліся!

— Я ведаю, што з вас ніхто-б тэтага ня узьлюбіў. У вас заікніся—дык заплююць.

— Скажу табе па праўдзе,—хітра кажа Хвёдар:— я першы забіў бы цябе, каб ты ў нас гэта пачаў...

— Чаму?

— Не даеш супакойна жыць!

— Не даю ў гразі калупацца! Так! Дык у турму сеў бы!

— Што-ж там такое? Гады два адседзеў бы! За тое радзімца зжыў бы!

Яўмен сьмяецца.

— Слухай, што мы яшчэ надумалі! Цяпер будзем у вольны час гліну вазіць. Абмажам хаты у сяродку і знадворку. Як у хахлоў будзе: і цепла і чыста!

Хвёдар робіць сур'езны твар, хітра сьмяецца і просіць Яўмена:

— Скажы мне на міласьць, ці ня зьбіраецеся вы свае фіназоміі вымазаць як усяродку, так і знадворку?

Матруна, Адарка, Домна, (і нават маленькі Акіянчык), зарагаталі.

Яўмен весела сказаў:

Сьмяешся ты з зайздрасьці! Бачыш, што ў нас людзі ўзяліся за розум! Доўга спалі, цяпер перасталі быць дурнымі!

Домна стала за Хвёдара:

— Спалі, а цяпер дык зусім ня сьпім! Апантаная нейкая ўсьсела. Вы толькі паслухайце! Яўмен кажа, што з будучага году будуць разам, кучаю, засяваць зямлю!

Хвёдар нічога не сказаў на гэта, ён пачухаў калена, гады пад пахай, перайшоў потым на сьпіну і як нейкую таемнасьць паведаміў Яўмена:

А ўсё такі, хоць ты культурны ты чалавек, блох у цябе ліха ведае колькі! Ці не гадуеш ты іх на сельска-гаспадарчую выстаўку? Дык беражыся, калі кожная з іх ад вальготнага жыцьця, будзе па 10 пудоў. Як скокне на ляшку, дык задавіць і цябе і тваю культуру.

— Ну й лухту панёс! спыніла яго Адарка. Кінь ужо! Насусьліўся! Дагаворышся чорт ведае да чаго!

Вылезьлі з-за стала. Яўмен прапанаваў Хвёдару адпачыць, а сам сабраўся ісьці да суседа, каб забраць у яго газэты.

— І я з табою пайду! заявіў Хвёдар. Палаюся яшчэ з тваім суседам.

Мужчыны вышлі з хаты

Праз некалькі хвілін у хату ўвалілася цэлая куча людзей на чале з Яўменам. Ззаду ўсіх плёўся Хвёдар. Усе былі ў незразумелым хваляваньні. Яўмен прыбег бяз шапкі.

Бабы ўспалашыліся.

— Што? Што там? Гавары!

Яўмен махаў газэтай і на ўсю глотку, жадаючы перакрычаць усіх і самога сябе, як на трыбуне тулка адчаканіў:

— Наш паселак выйграў! Гурра!

— Што выйграў, каб табе праваліцца!— сказала матка.

— 5.000 выйграў.

Усе аслупянелі Ніхто не паверыў гэтаму.

А Яўмен, супакоіўшыся троху, не зьвяртаючы ўвагі на страшэнны тлум, які ўзьняўся ў хаце, гаварыў свайму суседу Зьмітраку:

-- Цяпер у нас усё будзе! Трактар, клюб, школа, электрычнасьць...

А матка заўважыла Адарцы:

— Цяпер у мяне хуста напэўне будзе!

Максім Лужанін

# Да 10-й гадавіны Кастрычніка

Адным будаваць, а другім бараніць.
Паслужым, браточкі, паслужым краіне!
Ня дарам адлічаны ночы і дні,
і кожны карысьці прынесьці павінен.

Пад кволыя песьні раджаецца дзень,
прыносіць і радасьць, і смутак, і шчасьце
Напісан закон: усялякай хадзе
аднойчы прысуджана быць і пагаснуць.

Страчае аднолькава зьветралы гвар
бяду і ласкавасьць, і кліч перагасы:
штодзённа пужлівая здань хараства
выходзіць павольна з-за белых балясаў.

Выходзіць у водгульлі сьпеваў другіх —
кратаць цішынёю парваныя струны;
і ў песьнях—адзнака ня нашай тугі,
і погляд вачэй, паінакшаму сумны.

У кроках—крыжуецца сёньнішні боль,
на вуснах яе за наступнае боязь:
ніякі шалёны нялюдзкі прыбой
інакшай трывогаю думак ня ўпоіць.

Чамусьці шукаем вянкоў перамог,
ня даўшы слабому руку дапамогі.
Калі-б выпадкова адзін дапамог,
прасьцерлася-б ніц перад ім перамога.

І ночы праносяць акволены чад,
і дні акрываюцца стомленым хмелем—
і мкнёмся кахаць і кахаем дзяўчат,
а роднай краіны любіць ня умеем.

Адным будаваць. а другім бараніць...
Паслужым, браточкі, паслужым краіне!
Ня дарам падлічаны ночы і дні,
і кожны карысьці прынесьці павінен!

**Т. Кляшторны**

# Праксэда

I

..Мы ня так, як тысячы другіх..
Пад цыліндрам душ не замыкаем,--
Не стаім на сьцежках крыжавых,
І ў кішэні камень ня трымаем.

Мы жывем ня толькі для красы.
Кожны крок мы дасягаем боем..
І ня сум, як восень каласы,
Точыць душы нам запоем.

Мы умеем чэсна ваяваць,
Мы ўмеем плакаць і сьмяяцца,
А ня ўмеем слабых катаваць
І законам моцных закрывацца.

. . . . . . . . .

Было так:
Я помню як цяпер
(хоць гады не пакідаюць сьледу),
Пакахаў дзяўчыну афіцэр,
Пакахаў прыгожую Праксэду.

Пакахаў,
Каб туманамі кроз,
Як віном. упіцца на хвіліну..
Цалаваць, як восенскі мароз
Лебяду цалуе каля тыну.

Афіцэр жаданьнем паланён,
Паланён,—
Бы дарагімі снамі,
Каб дваццатай восені півонь
Адарваць... пакінуць пад нагамі.

II

Панічу дзяўчыны ня купіць
Какаінам палу бяз трывогі...
Ня румянку белую касіць—
Абрываць юнацкія дарогі.

Не стаіць разгублена адна
З надламаным вегразем Праксэда..
У бары пахмельле бяз віна,
У бары крывавая бяседа.

Хто ня ведаў назвы „партызан“,—
Хто Сьцяпана храбрага ня ведаў!
За злачынства,
Крыўду і абман,
За Праксэду,—
Любую Праксэду,

Ен пашоў,
Каб нячуваны боль
Прамяняць на баявую зброю
Не шкада ў рабінавую золь
Налажыць мужыцкай галавою.

Мы ня так,
Як тысячы другіх...
Пад цыліндрам душ не замыкаем...
Не стаім на сьцежках крыжавых,
І у кішэні камень ня трымаем

Мы умеем чэсна ваяваць.
Мы умеем плакаць і сьмяяцца.
А ня ўмеем слабых катаваць
І законам моцных закрывацца.

Зайцу дыхаць некалькі хвілін
У зубах разьюшанага зьвера
Задыміўся злосны какаін
У нікчэмным сэрцы афіцэра.

Ен дае у вечары загад
У адказ адважным партызанам
Частаваць штыкамі і пажарам
Сапамяныя шарэнгі хат.

III

А Праксэда,
Бедная Праксэда,
У каханьні бачыць забыцьцё...
Ад дарог пакрыўджанага дзеда
Адарвала дзеўчыну жыцьцё.

Заўтра—дым
Няведамае заўтра..
Што любіць?..
Аб чым пашкадаваць?!..
Мо' і жыць ня трэба і ня варта?
Мо' ня варта сэрца надрываць?

У душы,—
Бы ў кратары вулькана —
Чалавек змагаецца і зьвер...
Ёй шкада адважнага Сьцяпана,
І ёй дораг зараз афіцэр.

І ці ёй згадаць,
Што робіцца на сьвеце.
Мары дым
Каханьне—алькаголь...
Пахавал най дрожжу на плянэце
Шалясьціць рабінавая золь.

Запылалі бацькавы сялібы.
А ў палацах пеніцца віно...
Стары сьвет становіцца на дыбы
У барацьбе за п'янае „даўно“.

IV

Ня віном залечываюць раны,
А душу атручваюць віном...
...І Праксэда піша да Сьцяпана
У начы трагічнае пісьмо:

Любы дружа!
Дымам і пажарам
Рушаць сьвет за нейкія грахі..
Што рабіць?!..
Аб шчасьці я ня мару,
Абарваны дальнія шляхі

Дзе шукаць чароўную заранку?..
...Нейкім хмелем кружыць галаву...
Дарагі!...
Я зараз паланянкай
У палацах Генрыха жыву..

Тут цяпер
За п'янымі сталамі
Прапіваюць нейчае жыцьцё...
..Шчасьця—сон,—
Зьявілася гасьцём
І згарэла дзесьці па-за намі..

Што любіць?!..
Чаму цяпер паверыць?.
Мо' да тэй заранкі не дайсьці..
Ад папа, ксяндза да афіцэра—
Сволачы, брадзягі, падляцы!..

Ня віна нап'юся—палітуры,
На грудзёх павешу КІМ...
...Толькі ты, мой дружа, на хаўтурах
Не кажы аб дальнім дарагім.

Не кажы,
Што я цябе кахала,
Не кажы, мой дружа,
Не кажы!..
Нашы дні—крывавая навала,
А каханьне—толькі міражы.

Загубіла доля пуцявіну
Між абвалаў чорных і трывог...
Я хачу ў трагічную часіну
Хоць загінуць з Кімам на грудзёх

У душы,
Бы ў кратары вулькана,
Чалавек змагаецца і зьвер..
Я люблю адважнага Сьцяпана,
І мне дораг зараз афіцэр.

Я калісьці
Аднаго кахала,
Толькі ты пра гэта не кажы!
Калі сьвішча лютая навала,
То каханьне- толькі міражы...

. . . . . . . . . . .

V

Панічу дзяўчыны ня купіць
Какаінам палу бяз трывогі...
...Ня румянку белую касіць
Абрываць юнацкія дарогі ..

. . . . . . . . .

У палацы пеніла віно,
У палацы плакалі гітары .
Неяк дзіка месяц за вакном
Дагарау, бы дымная сігара ..

Хто там?!..
Хто там?!..
Хто там, адкажы!?..
Хто там ходзіць, -
Будзіць за сьцянамі?!..
Хто там гочыць войстрыя нажы?..
Адкажы!
Ці то здані там,
Ці міражы? .

...Зарасьлі дарогі туманамі...
Цемра!..
Ноч!..
І слота,
І жуда!..

Неяк дзіка чокаюць бакалы...
Раптам:
- - Стой!..
- Страляем!..

— Стой!
— Брыда!..
— Стой!..
—А то ня будзе мала!..

І застыла ўсё, бы маўзалеи,
Ад жуды заледзянелі дзьверы...
Толькі нехта... ціха .. з-за плячэй
Замахнуў штылет на афіцэра.

— Ай!..
   І кроў заплямілa паркет...

У палацы скончана бяседа ..
І трагічна у руках Праксэды
Анямеў надломаны штылет...

. . . . . . . . . . . . . .

Панічу Праксэду ня купіць
Какаінам палу бяз трывогі...
. .Ня румянку белую касіць—
Абрываць юнацкія дарогі .

.. Усё прайшло...
   І з гэтае пары
Многа казак ходзіць па айчыне
Пра гаі і цёмныя бары,
Пра імя адважнае дзяўчыны...

VI

Ня шумеце ветры за вакном, -
За сталом вясёлая бяседа...
За сяброўскім радасным віном
Успомніў я прыгожую Праксэду ..

Помню я,
   Я помню як цяпер
(хоць гады не пакідаюць сьледу),
Як загінаў польскі афіцэр
Ад рукі адважнае Праксэды.

Ня згубіла дзеўчыне жыцьцё
Тых гадоў навала—навальніца,
Ня цьвіла калі у цемры дзён,—
Ня цьвіла над краем зараніца ..

Мы жанчын, як тысячы другіх,
Ня трымаем толькі для пасьцелі .
... Крыўдна мне,
   Што звычаяў старых
Туманы ў сталецьцях не дагледі.

Мы ня ўмеем туманамі кроз
Упівацца палка на хвіліну,—
Цалаваць, як восенскі мароз
Лебяду цалуе каля тыну.

Мы жывём ня толькі для красы...
Кожны крок мы дасягает боем...
Нейчы сум, як восень каласы,
Точыць сэрца мне запоем.

Менск 26 X 1927 г.

**Кузьма Чорны**

# Спатканьне

Была восень.

Пачынала разьвідняцца, і было спакойна на вясковай вуліцы. У белаватым змроку блішчэла нярухомая дажджавая вада; у абложаных картаплянікам хлявох сьпявалі пеўні. Маўчалі клёны і грушы каля хат, трымаючы на абсохлым за апошнія пагодлівыя дні гольлі сваім астаткі пачарнелага лісьцьця.

У гэты час дрэнна адзеты чалавек прыйшоў у вёску.

Ноч была гольkі змрочная, белаватая. Цяпер-жа, пад дзень яшчэ відней было, і дрэннае адзеньне чалавека было прыкметным: падпяразаная суконная жыкетка калмацілася ўнізе сваёю няроўнаю аборванасьцю, лапці шморгаліся па вільготнай дарожнай зямлі—чалавек, відаць, быў угомлены.

Такім от стомленым крокам чалавек падышоў да вёскі і вельмі ўважліва агледзеў новыя крайнія хаты. Тут мясцамі ляжала яшчэ нескарыстанае пры будоўлі дрэва, пахла сьвежымі, кагадзе напілаванымі, дошкамі Новым зрубам бялела здалёк студня. Яшчэ, пахла ральля і зьедзеная жывёлаю да самых карэньняў паплаўная асеньняя трава.

Далей на вуліцы было цямней--хаты стаялі тут гусьцей, чарнелі платы і гусьціліся дрэвы. У шмат якіх хатах сьвяціліся вокны, шастаньне-ж сячкарні недзе ў гумне не парушала спакою і цішыні безутрапёнага расьсьвітаньня.

Па вузенькім тратуару, з тонкіх аполкаў, чалавек прайшоў канец вуліцы, агледзеўся вакол і зьвярнуў у вузкі двор каля панурае хаты. Кудлаты і нязграбны малы сабака папрабаваў бурчаць, пасьля сьціх. Пасярод двара ляжалі наколаныя дровы, і недзе ў хляве сумавала ахрыплым голасам цялё.

Чалавек пастукаў у дзьверы. Неўзабаве жаночы голас запытаў з сяней:

— Хто?

Чалавек адказаў:

— Я, Антось...

Голас у жанчыны раптам стаў зьдзіўлёным і як-бы радасна ўзбуджаным раптоўнаю навіною:

-- Антось, няўжо! Братка, як-жа гэта?!

Жанчына адчыніла дзьверы, прапускаючы чалавека ўпярод, у хату.

У сенцах пахла мукою і сырою бульбаю; у хаце было трохі душна і цемнавата. Малая лямпачка стаяла на стале, сярод хлебных скарынак і лыжак, ня прыбраных яшчэ ад вячэры. Лямпа давала чырванаватае сьвятло, і ў ім хмурыліся пабеленыя сьцены, кагадзе абмазаная глінаю печ... Стары гадзіньнік, вырысоўваючыся на сьцяне шырокаю лапінаю, вельмі павольна і няроўна адбіваў свой такт. Вокны, застаўленыя ўсялякімі дробнымі рэчамі, сінелі пачаткам маладога дню.

— Братка, Антоська! –зноў сказала жанчына.

І памаўчаўшы трохі, заплакала.

— Чаго-ж ты!?

— Горна мне нейк.

— Чаго?

— Аб табе... ці здароў ты хаця?

— От бачыш-жа, здароў, калі прываloкся сам. Пеша йшоў.

Чалавек быў малады. Толькі старыла яго няголеная нейкі час барада. Ён сеў на лаву, палажыў каля сябе свой невялікі клунак і пачаў скідаць растаптаныя лапці. Анучы ў лапцях былі мокрыя.

Жанчына стаяла пасярод хаты, падпёршы твар левай рукою і глядзела на яго.

— А я чакала раней цябе, думала што тады неўзабаве як-небудзь прыбудзеш; як толькі ты тую вестку прыслаў. Ажно толькі цяпер... мусіць цяжка вельмі...

— Нічога. Толькі пакуль дакуманты справіў... А так усяго было. Вядома, што гараваць даводзіцца... А тут зьмены нейкія, канец вёскі адбудован новы.

— Гэта паадсяляліся з вуліцы,—цесна вельмі.

Жанчына выцерла твар ад сьлёз і села побач на лаву. Яна на выгляд была старэйшаю за брата. Сялянская задумёнасьць і заклапочанасьць была ўва ўсёй яе постаці. Яна моцна пазяхнула, паправіла на галаве валасы і, усё яшчэ нейк устрывожана, ціха гаворачы з братам, пачала мыць бульбу ў вялікім дзеравяным вядры.

Пачаўся дзень. Зрэдку з вуліцы чутны сталі галасы, скрыпела коваратам студня і зусім блізка іржаў маладым голасам конь. Сьвятло днію прабілася ў хату праз вокны, і лямпа траціць пачала сьвятло сваё. З вулічнага вакна відаць стала: за пустым агародам—незабудованым пляцам на тым баку вуліцы, ападаў тонкі асеньні туман над паплавамі. Скрозь яго разорваны засьціл, абрысоўваўся лес, ці кусты; нехта хадзіў там па агародах, высокі, апрануты ў кароткі кажух.

Змрок ночы хутка распоўзваўся.

Не пакідаючы гаварыць з сястрою, Антось глядзеў на вакно і далей, што было за ім.

— Тут усё як і было на самай вуліцы,—сказаў ён сам сабе.—А от хата гэтая Янкава толькі зьнесена.

Сястра заўважыла:

— Янка памёр. а сыны павыяжджалі, недзе вучацца. Дык пляц цяпер Мікалаю Крываногаму аддалі—гаспадара на яго ня было: тыя як паехалі. дык так і пуставаў ён. Мікалай хату будзе некалі на вясну ставіць.

— А хто аддаў пляц? Янкавы сыны?

— Не, уся вёска, на сходзе.

— А сыны?

— А нашто ім пляц? Яны можа сюды доўгі час і вачэй не пакажуць. Іх галовы іншым заклапочаны.

Жанчына пашла даіць карову. Антось падвесіў на вешала над комінам анучы, каб прасохлі.

Кароткая асеньняя раніца. На вуліцы ужо крычалі дзеці, бягучы ў школу.

---

Тут, у гэтай знаёмай хаце, мала што з вонкавага боку зьмянілася за апошнія некалькі год. Сьцены бяліліся, мусіць, некалі летам—яны пацямнелі трохі. Каля печы было натупана вільгаці; стаялі кашы з бульбаю, ляжала бярэма насечанага дробна і зьвязанага перавяслам лому. Антось глядзеў на вокны, пазастаўленыя ўсялякімі дробнымі рэчамі, і пазнаваў выразы рам, больш толькі пачарнелых з таго часу... Унь у дварэ суседняя сьцяна, да яе прыроблена падпаветка, пад якою дскадзены непілованыя дровы. Такі выгляд мела гэтая сьцяна і тады

Але тады іначай усё было ў самога Антося. Тады ён быў зусім маладым хлапцом і як пакідаў хату гэтую, знаёмую з малых дзён, для таго каб застацца ў маёнтку Рымашох за парабка. Бо на аднэй дзесяціне поля нельга было нічога зробіць, і Антось пакінуў і хату і дзесяціну гэтую сястры сваёй, якая была замужам за чалавекам з-пад тых-жа самых Рымашоў—Хвёдарам Маліноўскім—чалавекам гультаяватым і горкай п'яніцай. Наймаўся ён на падзённую работу, і сястра з дамашняга гора папала ў другое. Тады Антось нават нічога не захацеў браць ад сястры—адмовіўся ад свае часткі з хаты і дзесяціны, выбіраючыся за парабка ў маёнтак і пакідаючы ўсё сястры.

Аднак-жа нават і пасьля гэтага, калі да дзьвёх дзесяцін Хвёдаравых далучылася дзесяціна жончына—і тады нічога не зьмянілася. Хвёдар піў яшчэ больш і штодня катаваў Агату. Агата пачала хварэць.

Маёнтак Рымашы былі далёка, і Антось усяго толькі некалькі разоў быў у сястры свае Агаты. Пачуцьцё братняе блізасьці да яе было амаль заўсёды загублена ў навале штодзённых клопатаў і работы з цямна да цямна. Пасьля, як маёнтак Рымашы быў аддзелены ад роднае вёскі польскай мяжою, з тых часоў толькі адзін ліст атрымала Агата ад брата. Апошні-ж раз бачыліся яны, калі Антось вярнуўся з царскай вайны. Тады некалькі дзён прабыў у роднай хаце—у прыглушанай бядотамі і мужам-п'яніцай сястры. Пасьля пайшоў назад у маёнтак—дзяліць яго між усімі парабкамі. Але праз некаторы час—парабак застаўся парабкам і так, як і раней, кожны вечар прыходзіў дадому раззлаваны і стомлены на панскім полі. І ўсё грэў у сабе думку якнебудзь вярнуцца да сястры, як-небудзь узяць сваю частку з тае хаты і дзесяціны, што-небудзь прыкупіць на выплатку і пачаць жыць іначай. Бо гады праходзілі, і не хацелася дажываць веку так у парабкох. Родная-ж вёска моцна цягнула яго да сябе.

---

— Дзе-ж Хвёдар?—запытаў Антось, раптам успомніўшы.

Агата чуць усьміхнулася, пільна гледзячы ў вочы брату.

— Няма Хвёдара.

— А дзе?

— Другі год няма ўжо..... Разлучылася я з ім. Не магла жыць больш.

— А дзе-ж ён цяпер?

— Ня ведаю. Недзе работу знайшоў і выехаў з вёскі. Прысуджаную сваю частку з маёмасьці прадаў і так паехаў. Ня вельмі даўно паехаў, а то трохі тут-жа ў хаце жыў, пасьля ў суседа трохі. Суд хату мне прысудзіў, бо сын са мною застаецца і падрастае, зараз гаспадаром будзе Цяпер лепш жывецца мне.

— А гаспадарка?

— Зямлі прырэзалі Дык я адна ўсе і упраўляюся. Уладзіку трынаццаты год ідзе... ты яго мусіць не памятаеш. Вучыцца цяпер.

— Дык табе лепш жывецца?

— Лепш. Я ажыла проста. Можна стала разлучыцца лёгка з Хвёдарам, поля больш стала, толькі што самой рабіць давялося.

— А Хвёдар хіба не дамагаўся ўсяе гаспадаркі?

— Дамагаўся, але толькі часткі і то меншую яшчэ. А то хацеў мяне зусім прагнаць, каб я йшла няма ведама куды. Тады ён проста прапіў-бы ўсё, такая натура ў яго... Але самае важнае што нейк іначай пачуваю сябе... Цяпер, летам гэтым паднаўляць хату буду, ужо запісалася на дзерава, адпускаць будуць. Падвясну буду каня пераменьваць стары, дрэнна робіць. Гаксама дапамогі папрашу, мусіць дадуць мне, як удаве.

Агата ўсьміхнулася ізноў, пры слове „ўдаве“.

Уладзік усхваціўся з пасьцелі і хутка адзяваўся. Ён быў тонкі і рухавы. Схваціўшы з стала хлеба, ён, прыціскаючы пад пахаю кнігі, пабег у школу.

— Сястра, сказаў Антось:—а я думаў, што ты таксама сохнеш ад жыцьця як і тады, калі бачыў і ведаў. І сам дзіўлюся, як гэта мог я думаць нават, ведаючы пра тое жыцьцё, браць якую-небудзь часьць з тае беднае гаспадаркі. Усё інакшым цяпер здаецца мне. Я ня ведаю, што і як буду я рабіць цяпер, чым займуся, але рад я чуць ад цябе ўсё гэта

---

Пасьля паўдня Уладзік з дзядзькам Антосем выбраліся ехаць у лес. На дварэ падмарожвала. Чулася блізкая зіма. Тонкая плёнка лёду лажылася на ваду. Як выехалі за вёску—лёгкім холадам пацягнула з поля. Конь паволі йшоў па прымёрзлай трохі гразі, на сушэйшых мясцох пробаваў бегчы. Хлапчук весела патузваў лейцы. На грэблі праламалі калясьмі плыткую лужыну, якая пасьпела ўжо зацягнуцца трохі лёдам. Пробаваўісьці ледзьве прыметны дробны і сухі сьнег.

Лістапад, 1927 г.

**Крапіва**

# Певень

Прыпертыя лесам да самай рэчкі, схлупіліся ў кучу шэрыя местачковыя хаты, абкружылі ўзгорак, а з ім і цэркаўку, нудна-шэрую, апушчаную. Абступілі і нібы слухаюць казань яе хрыплых, языкастых званоў

А крокаў за яго ад цэркаўкі—няпоўная сямігодка. Яно сур'ёзна нельга сказаць, што яна няпоўная: кожную зіму яна бывае поўна аж цэраз верх. Але клясаў у яе малавата—пяць усяго. Пяць клясаў—пяць настаўнікаў. А кватэры пры школе толькі на дваіх. Жыве пры ёй загадчык Храновіч—чорны, як камінар, пануры. А жонка яго бялявая, блёндыністая. Пад аднэй страхою з імі жыве настаўнік Ячны. Гэты сам белы, як сьмятана, а жонка ціхая і чорненькая, і завуць нават яе —Галачка. У Храновіча і прыплод некі ёсьць. Ня ведаю—хлопчык ці дзяўчынка.

Вышла гэта раз загадчыха, устаўшы раніцаю, у калідор, а там певень ляжыць. Ляжыць і не ўцякае: грэбень белы і вочы белымі павекамі закрыты. Сам ляжыць, а ў дзюбе запіску трымае. Разгарнулі, прачыталі:

„У сьмерці маёй прашу нікога не вінаваціць. Уміраю, бо не магу болей жыць—замучыла мяне маё курынае сумленьне. Не на тое-ж дадзены мне шпоры, каб разрываць імі гытунёвыя карані наградах найбліжшага прыяцеля майго гаспдара. Не, не хачу жыць курам на сьмех! Сьмерць! Сьмерць! Сьмерць!“

Праз дзьве гадзіны вестка аб гэтым нязвычайным здарэньні хадзіла па ўсім мястэчку.

Вакол здарэньня стварыліся цэлыя лягенды. Пашоў дзей, што напярэдадні нехта бачыў пеўня разам з рабою курыцаю ў школьнай павеці. Ён нібы трымаў у кіпцях бутэлечку з воцтам і горка плакаў, а яна клапатліва клыпала і выцірала яму вочы пер'ем свайго крыла. Некаторыя гаварылі, што певень загубіў сябе з прычыны няшчаснага каханьня. Другія, наадварот, гаварылі, што ў пеўня выкрылі вялікую растрату гаспадарскага дабра.

Здарэньне гэта, кажуць, вельмі ўзрушыла і некаторыя колы курынага грамадзянства Кажуць нават, што адзін певень так расчуліўся ад усяго гэтага, што залопаў крыльлямі і, заміж таго, каб пракрычаць ку-ка-рэ-ку!, прадэклямаваў:

Маё ўчора—ячменнае мора,
Маё заўтра—пякельны крупнік,—
Хаи же вецер з асінавым веццем
Залацісты пагушкаюць трупік.

Якія-б там наогул чуткі не хадзілі, праўда адно—усе вельмі шкадавалі пакойніка. Бо трэба такі па сумленьні прызнацца, што гэта быў самы лепшы, самы большы ў мястэчку певень; адзін грэбень яго чаго варт быў. А хвост жа! Дай божа кожнаму добраму такі хвост. А ўжо які ён спрытны быў да песень ды да дзявочага насеньня, дык пра гэта

ведала кожная курыца ў мястэчку. Дык вось і шкадавалі. „Ці такія, казалі, злачынствы робяць людзі, дый то нічагусенька, а ён... Што ён гэтакае мог ужо зрабіць, каб праз гэта жыцьцё загубіць?“

Але мэдычны агляд паказаў, што тут самагубства магло яшчэ і ня быць. Справа ў тым, што над левым вокам у пеўня знашлі некую крывава-цёмную пляму. Зноў жа была няпэўнасьць, ці сапраўды сам певень пісаў перад сьмерцю запіску, бо почырку пеўня на паперы ніхто раней ня бачыў, а на градах ён быў зусім іншакшым. Почырк на запісцы скарэй быў падобен на почырк настаўніка Ячнага. А між іншым ня відаць было, каб Ячны пеўня калі чыстапісаньню навучаў— адкуль жа такое падабенства? Сталі шукаць ды выпытваць. І сабралі вось якія весткі: 1) адзін хлапец, выганяючы нараніцу кароў пасьвіць, бачыў, як Ячны вышаў у адным споднім на двор і, глянуўшы ў гарод, нагнуўся, узяў колік і шыбнуў туды колікам; 2) колік, які напярэдадні загадчыха бачыла на надворку, апынуўся ў гародзе на тытунёвых градах Ячнага. Пашлі глядзець грады: тытунь добры, зялёны, лапушны,—лісьці, як сьвіныя вушы, вісяць, але шмат карэньняў наверсе, а некаторыя калівы зусім павыграбаны.

Вечарам у Храновіча цэлая вайсковая нарада адбылася—ён, жонка і швагір. Гаварылася аб тым, як браць ворага—у лоб ці абходам. Пастанавілі на суд не падаваць: певень жывёліна не такая ўжо й вялікая; суд прысудзіць толькі страту вярнуць—колькі там чаго прыйдзецца. Ды тут ня ў страце справа, страта—гэта пусьцяковіна, а вось крыўда! галоўнае—крыўда! За крыўду ўзяўся адплаціць сам загадчык:

— Я-ж яму дапяку. Толькі, пакуль што, яму ні слова не гаварыць,—перасьцярог ён жонку.

Ня ведаю, як яно ўжо далей было, а толькі загадчыку акруговага аддзелу асьветы прынесьлі раз два лісты. Два жудасныя лісты.

У адным з іх пісалася:

„Паважаны таварыш загадчык!

Сьлёзная просьба да Вас: прыбярэце Вы, будзьце ласкавы, з мае школы гэтага хулігана, гэтага чубараўца Ячнага. Ён ня толькі настаўнікам ня можа быць, яго ў добрай вёсцы за сьвінога пастуха не згадзілі-б. Дзеці ў яго распушчаны, як парасяты; на заняткі нікогі акуратна ня прыходзіць. А самае галоўнае тое, што ён дэзэртыр і контррэволюцыянэр, і я, чалавек адданы савецкай уладзе, не магу жыць з ім пад адною страхою. Яго нават усё мястэчка заве „Белы“, бо белы ён ня толькі зьверху, але і ў сярэдзіне. Калі трэ' было служыць у Чырвонай арміі, дык ён уцёк, а тут сябраваў з бандытамі і прымаў у сябе польскіх шпіёнаў. Я сам бачыў, як раз ноччу ад яго выходзіў адзін з белым арлом...“

У другім было напісана.

„Таварыш загадчык!

Не магу, не магу і не магу! Прашу пераводу! Або я, або загадчык Храновіч! Душа яго чорная, як і ён сам. А з дзецьмі ён абыходзіцца горай, як з якою жывёлаю. Салдат не катавалі так пры Паўле І-ым, як ён лупцуе сваіх дзяцей. Двое ад яго пабояў ужо ляглі ў труну, трое аглухлі, а пяцёра ляжаць у пасьцелі. Апрача гэтага, ён яшчэ і контрабандай займаецца. Ён перахоўвае контрабанду, а часамі і сам на граніцу езьдзіць. Яго жонка ўся ў контрабандным шоўку ходзіць...“

— Слухайце, Сьцяпан Пятровіч,—сказаў загадчык аддзелу назаўтра аднаму з інспэктараў,—Вы, здаецца, хутка будзеце ў тых краёх? Вазьмеце, калі ласка, гетыя лісты ды паглядзеце, што там такое. Я думаю, што гэта ўсё глупства. А калі што якое, дык прыдзецца адаслаць лісты, каму належыць.

Сьцяпан Пятровіч зьявіўся ў мястэчка нек раптам і нязвычайна. Нязвычайнага там нічога, праўда, і ня было: прыехав ён са станцыі на сялянскай фурманцы, як езьдзіў і заўсёды, але заняткі ў школе яшчэ толькі што пачыналіся, дзяцей і палавіны ня было—жывёлу пасьвілі. Вось дзеля гэтага і здавалася настаўнікам, што інспэктар зьявіўся нязвычайна. Усе думалі: „Чаго-ж бы яму такою парою прыяжджаць? Гэта нешта ня так". Яны заглядалі інспэктару ў твар, стараючыся штонебудзь разгадаць, але пачало ўжо зьмяркацца і ўбачыць на твары нічога нельга было. Абыходзіўся ён з настаўнікамі, здаецца, як і заўсёды. Вось толькі, калі Храновіч і Ячны сталі запрашаць кожын да сябе павячэраць і перанаачаваць, інспэктар абадвым падзякаваў. Пашоў у чайную, перакусіў, а прышоўшы, лёг у клясе на стале, падлажыў пад галаву портфэль і накрыўся палітом.

У інспэктара былі свае меркаваньні—ён проста баяўся плётак наконт хабара і ўсё такое, але настаўнікаў гэта вельмі напалохала.

Нельга сказаць, каб інспэктару вельмі мякка спалася, і таму прачнуўся ён досыць рана. Яшчэ не расплюшчыўшы вачэй, ён пачуў у клясе галасы. Гаварылі двое. Адзін—нізкі, глухаваты бас, другі—тэнар, даволі мяккі і прыемны.

— Эх, Мікіта Захаравіч,—гаварыў тэнар, чуе мае сэрца, што не з дабра гэта ўсё. Яшчэ ваша супружніца, калі сварылася са мною, пагражала, што вы мне дапечыце. Вось я й мяркую, што ня іначай, вы з сваім пеўнем нарабілі гэтай калатушы.

— Ня я з сваім пеўнем, а вы з маім, Сяргей Тодаравіч,—адбубніў яму бас.

— Эх, не памяркоўны вы чалавек, Мікіта Захаравіч—пеў далей тэнар.—Ну, кокнуў я вашага пеўня, дык чорт з ім. Падумаеш—важнасьць якая! Ён жа сам і пятай часьці таго ня варт, што тытуню мне напсаваў.

— Крыўдна вельмі, Сяргей Тодаравіч.

Ерунда—крыўдна, глупства—крыўдна!... Добра-ж, калі ён здаволіцца гэтым праклятым пеўнем, а калі возьме дый у комплексы загляне? Што мы яму пакажам? Комплексаў у нас, як вы самі ведаеце, жук начхаў... А прызнайцеся сумленна, Мікіта Захаравіч—здорава вы там на мяне напісалі?

— Самую маласьць, Сяргей Тодаравіч. Толькі ўпамянуў, што вы у Чырвонай арміі ня служылі і што ад вас раз чалавек выходзіў з белым арлом.

— Нясумленны-ж вы чалавек, Мікіта Захаравіч,—такой сусьветнай чапухі нагарадзіў. Вы-ж самі добра ведаеце, што з Чырвонай арміі мяне па хваробе звольнілі, я-ж вам нават і кніжку чырвонаармейскую паказваў. А чалавек з арлом—Сьцёпка Стукач Вы-ж і самі былі на спэктаклі, як ён жандара польскага граў.

— Ды гэта што. Вы ў даўгу таксама, напэўна, не засталіся—яшчэ мудрэй расьпісалі мяне.

— Я? Ды я, можна сказаць, нічога й ня пісаў. Напісаў толькі, што вы з дзецьмі трохі жорстка абыходзіцеся і што ваша жонка ў шоўку ходзіць, дык невядома адкуль ён.

— І набрахалі, Сяргей Тодаравіч. Я толькі раз і пасварыўся на Сідорчынага хлопца, а біць—ніколі й пальцам не крануў: вы-ж гэта самі добра ведаеце. А ў жонкі – які-ж там шоўк. Адзін толькі шаль на галаву я з Менску прывёз, дык і то ня ведаю——ці шоўк нават гэта.

— А ведаеце што, Мікіта Захаравіч?——сьцішыў тэнар голас.

— А што?

— Як наш госьць наконт чарачкі? Ужывае?

— Ды хто-ж яго ведае, можа-б яно і не пашкодзіла.

— Давайце адважымся, Мікіта Захаравіч,—возьмем паўбутэлечкі. Галачка яечню спражыць, а ў вас агуркі слаўныя ёсьць,—ваша жонка ўмее саліць. А ўжо на абед дык—так і быць: вока за вока і зуб за зуб—няхай цяпер мой певень прападае. Зарэзаў ужо. Галачка такі крупнік зварыць, што—дзяржы язык... Дык давайце зложымся па дву-злотцы ды я зьбегаю прынясу камсамолачку. Госьцю люба будзе і самі па чарацы цюкнем... за мір.

— Дык у мяне, Сяргей Тодаравіч, тры капейкі не хапае.

— Ну што-ж зробіш? Няхай ужо маё і тут пераходзіць—я далажу тры капейкі.

Сьнедаючы, інспэктар весела пагдядаў на Галачку і храбустаў агуркі, якія пасьля чаркі ішлі асабліва гладка. У перарывах паміж храбусьценьнем ён расказаў настаўнікам, што едзе па справе ў суседні раён, а да іх заехаў па дарозе толькі пераначаваць.

Праз гадзіну інспэктар выехаў, а пеўня, што гатаваўся яму на абед, зьелі загадчык Хранозіч з настаўнікам Ячным. За мір.

**Крапіва**

# Жаба ў каляіне

Пагода—проста нібы дым.
У вёсцы рух, у вёсцы ўздым,—
Упарта кліча сенажаць,
І ні старым ні маладым
Тут некалі ляжаць.
Сьцяжынкі зранку па расе
На сенажаці праз гароды
Укрылі луг, нібы гусей
Стракатыя чароды.
Грабель мільганьнем, звонам кос
Трымцяць ліловыя прасторы.
І вось, нібы ў зялёным моры,
Плыве бухматы воз.
Далоньню ўцёршы потны лоб,
Як паміж рыфаў, паміж коп
Лахматы капітан яго вядзе.
Ён важнасьць твару надае
І, каб ня стала, загадзе
Сваёй адзінай конскай сіле,
Якая й так напруджвае ўсё жыльле,
Ён пугай пары паддае.
Яно хоць „сілы“ троха й шкода,
Ды некалі—стаіць пагода,
Аж смагне, ныючы, асірацелы куст.
А жабе вельмі не пад густ
Вось гэта музыка такая:
І сонца горш цяпер пячэ,
Скарэй і бусел яе ўбача,
І, як яна тут ні ўцякае,
Як ні скача,
У цень нікуды не ўцячэ.
А ўсё двуногі гэты госьць
З сваім вялізным возам!
Апанавала жабу злосьць,
І падказаў ёй жабін розум:
„Ага, ну-ну!“
Ты пажыві яшчэ хвіліну,—
Вось толькі сяду ў каляіну,
Плячом пад кола таркану

І к чорту воз перавярну.
Тагды—капут, і ты мяне ня зловіш,
Бо галаву напэўна зломіш".
І—скок! жабоцька сьмела
Ды ў каляінку села.
Тут колам—хрась!.
І кроў і гразь..

. . . . . . . .

Пад кола, жаба, не падлазь.

Ці не такі-ж і кожнай жабы лёс,
Што лезе пад савецкі воз?

# Зубы

У мамы зубы забалелі.
Каб вы такой прыёмнасьці ня мелі.
За скіўіцу ўхапіўшыся рукою,
Ня знойдзе месца сабе маці
Ні на дварэ, ні ў хаце
І енчыць, ходзячы з пакою да пакою.
Шчака ўзьнялася, як гара,—
Аж проста зайздрасьць бярэ Волю.
І вось, скрывіўшыся, надзьмуўшы губкі,
Яна таксама енчыць з болю:
— Ой, мама, боля зубкі“
(А Волі—года паўтара).

---

Калі плаксівага сустрэну я поэта,
Дык мне заўсёды сцэнка гэта
На памяць просіцца сама—
Юнак нагадвае мне Волю:
Ен стогне ад зубнога болю,
А зубак то ў яго й няма

## Ня губі сябе, дзяўчына

Ня губі сябе, дзяўчына,
Ня йдзі замуж за саўчына,
Ох, ня йдзі!

Ён кахае скрозь кабету
Офіцыйна, па дэкрэту —
Ой, глядзі!

І цалуе небараку
Толькі ў плянавым парадку
Акурат.

Акуратна па раскладу...
Ну якую-ж дасі раду? —
Бюрократ!

Не зважае, што ты жонка,—
Ня душа ў яго—суконка:
Фармаліст.

Хочаш лішнюю забаву,
Падавай яму заяву—
Цэлы ліст.

І падаўшы, ўсё-ж такі ты
Не абойдзеш валакіты
Ўсе адно:

Як ня ўгодзіш свайму „заву“,
Ён цябе й тваю заяву—
Пад сукно.

Ён мяркуе так і гэтак,
Што пара ўжо з пару дзетак,
Каб таго...

Толькі гляне як начальства
На такое вось нахальства
На яго?

Як начальства коса гляне,
Дык саўчын адразу зьвяне-
Сам ня рад;

Задрыжыць, і пал пагухне:
Каб ня ўзгрэлі, што разбухне
Апарат.

Ня любі-ж, глядзі, саўчына
Ды ня траць свайго, дзяўчына,
Хараства.

Што-ж ты зробіш бюрократу?
Што спагоніш за растрату?
Чорта з два

**А. Бабарэка**

# Аб разуменьні мастацкай творчасьці і аб некаторых пытаньнях у вывучэньні беларускай літаратуры[1])

I.

Ведай. брат малады, што ў грудзях у людзей
Сэрцы цьвёрдыя быццам з каменьня.
Разаб'ецца аб іх слабы верш заўсягды,
Ня збудзіўшы сьвятога сумленьня.

Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш,
Абрабіць яго трэба з цярпеньнем.
Як ударыш ты ім—ён. як звон, зазьвініць,
Брызнуць іскры з халодных каменьняў.

Такі запавед пакінуў М. Багдановіч песьняру. Тым больш каштоўны гэты запавед, што ён у сябе зьмяшчае разуменьне мастацтва, якое *складалася вякамі людзкога вопыту* і якое *знайшло* сваё выражэньне ў гэтым вершы. Наша-ж літаратурная моладзь, выходзячы з сялянскіх і рабочых гушчаў і часта прайшоўшы добрую жыцьцёвую школу, у мастацтве на мае яшчэ вопыту, а цераз тое самае часта зусім нехаця зьяўляецца творцаю такіх літаратурных твораў, якія ўжо адным фактам свайго зьяўленьня ў сьвет становяцца пашыральнікамі няглыбокіх разуменьняў аб мастацтве сярод грамадзтва. Спадкамі такіх зьяваў бывае ўрэшце тое, што выражаецца словамі: „поэтаў шмат, а поэзіі няма“. Вось чаму вялікае значэньне набывае запавед М. Багдановіча.

У чым-жа зьмяшчаецца разуменьне мастацтва, выражанае вершам „Песьняру“? Разьмежаваньнем двух момантаў у прыродзе мастацтва вызначаецца асноўная адзнака гэтага разуменьня. Першы момант—мастацтва, як т в о р ч а я  д з е й н а с ь ц ь чалавека, прадуктам якое зьяўляецца мастацкі твор. Другі момант—м а с т а ц т в а,  я к  т в о р ч ы  д з е й н і к, інакш кажучы, мастацтва, як об'ект творчага абуджэньня суб'екта. Гэта моманты выказьніка і дзейніка. Іх адзінства зьмяшчаецца ў руху. Зьместам першага моманту зьяўляецца: поэт—дзейнік і мастацкі твор—выказьнік, а другога: мастацкі твор—дзейнік і суб'ект (чытач, слухач, глядач)—выказьнік. Адгэтуль самая істная адзнака адзінства даных момантаў, якая вызначае сабою і разуменьне мастацтва,—гэта ф о р м а л ь н а с ь ц ь. Такім чынам паняцьце аб мастацтве гэта ўжо грэці яго момант, момант сынтэзаваньня мастацтва, як выказьніка, і мастацтва. як дзейніка, на падставе іх формальнасьці. Гэта разуменьне і знайшло сабе выражэньне ў вершы М. Багдановіча.

Леонардо да Вінчы калісь казаў, што справа скульптара—гэта вызваліць і ўсім паказаць статую, захаваную ў в а  ў с я к і м куску мармуру. А вядома-ж, што дзе йдзе справа аб вызваленьні, там ужо мысьліцца і разуменьне працы і таго, што з ёю зьвязана. Пра гэты

---

[1]) Гэты артыкул зьяўляецца ўводнаю часткаю кнігі аб творчасьці Ул. Дубоўкі, падрыхтаванай аўтарам да друку ў травені месяцы 1926 г.

момант, момант руху дзейніка, і зазначае М. Багдановіч, калі кажа, што трэба „каваць“, „гартаваць“ і „церпяліва абрабіць“, а потым ужо паказаць—„ударыць“. Але неабходнаю ўмоваю кожнага дзеяньня зьяўляецца, апрача дзейніка, яшчэ і об‘ект, на які гэтае дзеяньне пераходзіць ад суб‘екту, і наадварот. У М. Багдановіча і гэты момант знаходзіць сваё выражэньне, адначасна зьмяшчаючы ў сабе агульную характарыстыку матар‘ялу творчасьці і аснову для вызначэньня каштоўнасьці мастацкага твору. Поэта кажа: „трэба з сталі каваць“... Вядома, што тут сталь не літаральнага значэньня, бо-ж матар‘ялам поэтычнай творчасьці зьяўляецца ня сталь, а слова. Кажучы-ж „з сталі“, поэта зазначае на момант адбору матар‘ялу для творчасьці, а таксама на тую адзнаку, якая вызначае яго, як матар‘ял, прыгодны і неабходны для азначанай мэты. „Сталь“--гэта адзнака неабходнага матар‘ялу для поэтычнай творчасьці. Гэта значыць, што ня ўсякае слова (у шырокім сэнсе яго разуменьня) можа быць прыгодным для творчасьці. Прыгодна толькі тое, што носіць у сабе адзнакі моцы, цьвёрдасьці, супорнасьці, чыстасьці, што здольна накаляцца і ахаладжвацца і што —гэта самае галоўнае—здольна мяняць сваю форму пад рукою мастака, застаючыся ў істоце сваёй усё той-жа стальлю. Але асаблівасьці прыроды слова вызначаюць сабою і асаблівае значэньне яе характарыстыкі. што дадзена М. Багдановічам адзнакаю сталі. Тут важна пакуль што зазначыць на першы момант у творчасьці—гэта момант выбару і адбору матар‘ялу, у аснове якога палягае прадстаўленьне аб ідэальнай каштоўнасьці твору.

Далей ужо йдзе другі момант творчасьці, які выражаны словамі „каваць“, „гартаваць“... Гэта момант узьдзеяньня суб‘екта на абраны матар‘ял, на об‘ект, момант надаваньня яму пэўнай формы, у выніку чаго і зьяўляецца мастацкі твор. З гэтым момантам зьвязана ўжо думка пра сродкі і спосабы, якімі апрацоўваецца матар‘ял. Вызначаючы гэтыя моманты, я не кажу, што яны абавязкова асьведамляюцца поэтам у часе творчасьці. Зусім наадварот, усе яны могуць праходзіць несьвядома для самога поэты, гэта значыць, што поэта зусім ня мысьліць, што вось яму трэба выбраць матар‘ял і г. д. Такая думка перашкодзіла-б самому выбару. Тут я хачу толькі зазначыць, што самыя гэтыя моманты ёсьць у творчасьці і што няхват аднаго з іх, або не гармонічнае іх праходжаньне ў сьвядомасьці асобы няўхільна цягне за сабою немагчымасьць творчасьці; яны асноўныя ўмовы ўсякай творчасьці, а значыць, і літаратурна-мастацкай.

Вынікам узаемадзеяньня мастака—суб‘екта і матар‘ялу—об‘екта зьяўляецца тое, што мы называем мастацкім творам, у дадзеным выпадку поэта называе яго вершам. Але цікава тут тое, што М. Багдановіч у сваім вершы выяўляе тыя асновы, без якіх не магчыма вызначэньне каштоўнасьці мастацкага твору з боку яго якасьці. У сьвядомасьці поэты ёсьць прадстаўленьне, ці праўдзівей, разуменьне аб якасьці, якую павінен мець яго твор, каб мець пэўнае значэньне, каб набыць пэўную каштоўнасьць. У яго ёсьць ідэал якасьці твору. Для М. Багдановіча ён зьмяшчаецца ў тым, што вызначаецца такімі адзнакамі, як сталёвасьць, гібкасьць і звоннасьць вершу і яго здольнасьць выбіваць „іскры з каменьняў“, абуджаць „сьвятое сумленьне“ у сэрцах людзей. Гэта значыць, што і мастацкі твор, які выходзіць з-пад пяра поэты ці пісьменьніка, павінен насіць у сабе вызначаныя якасьці. Ідэал якасьці ў творчасьці адыгрывае вялікую ролю ў вызначэньні сродкаў і спосабаў апрацоўкі матар‘ялу і яго формаваньня. Цераз гэта самае ён становіцца тым зьвяном, якое становіць адзінства

дзейніка і выказьніка, об'екта і суб'екта, поэты і чытача. Бязумоўна, адзначаныя вышэй якасьці, як адзнакі ідэалу твора, у дачыненьні да слоўнага твору маюць свае конкрэтныя асаблівасьці і свой характар. Ня вызначаючы іх, тут важна зазначыць, што ўсьведамленьне ідэалу якасьці твору зьяўляецца неабходнай умовай творчасьці. Адсутнасьць яго цягне за сабою вытворчасьць прадуктаў малакаштоўных па якасьці і часта не адпавядаючых эстэтычным патрэбам, а цераз гэта бязьсілых зрабіць уплыў на чытача.

У сьвядомасьці М. Багдановіча жыве яшчэ адно прадстаўленьне, як умова творчасьці жыцьцяздольных мастацкіх твораў. Поэта ведае, што жыцьцё мастацкага твору не канчаецца з яго стварэньнем, а наадварот, з гэтага моманту яно пачынаецца. Ён ведае, што мастацкі твор пасьля свайго стварэньня становіцца об'ектам (формальным) людзкіх адчуваньняў і ўспрыяцьцяў. Вось таму поэта носіць ў сабе ідэал стану сьвядомасьці іншых суб'ектаў пасьля ўспрыяцьця мастацкага твору, ідэал вынікаў пасьля прачытаньня твору, ідэал творчасьці чытача, носіць у сабе тое, што Ул. Дубоўка выразіў сказам: „каб словы нарадзілі такжа словы“ („Наля“). М. Багдановіч кажа, што верш павінен адгукнуцца ў адчуваньнях, пачуцьцях і наогул у сьвядомасьці чытача звонам і іскрамі з каменьняў, павінен абудзіць „сьвятое сумленьне“. Звон і іскры з каменьняў—вось Багдановічаў ідэал творчасьці чытача. Яны ўжо твор чытача, як сынтэз дзейніка (мастацкі твор) і выказьніка (сам чытач). Гэты твор, які не абавязкова выражаецца ў слове, ня ёсьць яшчэ разуменьне аб мастацкім творы. Ён толькі другі момант, неабходны для стварэньня разуменьня аб мастацкім творы, аб чым мы ўжо зазначалі вышэй. Звон, іскры і „сьвятое сумленьне“, як адзнакі творчасьці чытача, зьяўляюцца адначасна ўмоваю жыцьцяздольнасьці мастацкага твору. Інакш кажучы, мастацкі твор павінен быць такім об'ектам, які, уваходзячы ў сьвядомасьць чытача, робіць у ёй рэволюцыю, усьведамленьне-ж яе неабходнасьці поэтам зьяўляецца абавязковай умоваю творчасьці жыцьцёвых і жыцьцяздольных мастацкіх твораў.

Такім чынам, у вершы М. Багдановіча „Песьняру“ знайшлі сваё выражэньне неабходныя ўмовы мастацкай творчасьці. Перад усім гэта такая сьвядомасьць асобы, у якой гармонічна злучаны ў адно цэльнае здольнасьць адбору матар'ялу і прадстаўленьне аб прыгоднай каштоўнасьці: здольнасьць надаваньня матар'ялу формы і прадстаўленьне аб каштоўнасьці твору, або ідэал якасьці твору; усьведамленьне ў неабходнасьці рэволюцыі ў сьвядомасьці чытача, або разуменьне яго эстэтычных патрэбаў і ідэал творчасьці чытача. Зноў паўтараю, што не ўсьведамленьне самім поэтам прысутнасьці ў сабе такой сьвядомасьці, але яе наўчнасьць, як дадзенага ў яго прыродзе, зьяўляецца асноўнаю ўмоваю творчасьці і падставаю для таго, што дае права на імя мастака. Выражэньнем і выяўленьнем гэтай сьвядомасьці зьяўляюцца толькі мастацкія факты, гэта значыць творы.

## II

Прырода слова. Вышэй я сказаў, што яна мае асаблівасьці. У чым жа гэтыя асаблівасьці? Калі мы што гаворым, то гэта значыць, што ў нас адбываецца пэўны матар'яльны процэс, у якім бяруць удзел органы нашае мовы. Вынікам гэтага процэсу зьяўляецца тое, што мы называем гукамі, словамі, моваю, праўдзівей будзе, калі мы скажам, што самы гэты процэс мы ўспрымаем як гучаньне. Але кажучы, што гукі—вынік, мы тым самым ня выключаем разуменьня аб прычынах, інакш

кажучы, аб тых фактарах, што выклікалі гучаньне. Гэтыя апошнія ёсьць таксама пэўныя матар'яльныя процэсы, што адбываюцца ўнутры нашага організму, зноў такі, як вынік пэўных узаемадзеяньняў. Гучаньне (гукі, словы, мова) у дачыненьні да гэтых апошніх процэсаў зьяўляецца як-бы іх выяўленьнем і выражэньнем. Адначасова-ж пасьлядоўнае паўтарэньне дадзеных процэсаў урэшце так цесна зьвязваецца ў нашым прадстаўленьні, што зьяўленьне аднаго з іх па неабходнасьці выклікае як-бы роўналежнае яму прадстаўленьне другога. Адгэтуль пачынаецца ўжо вылучэньне з гучаньня асобных гукаў, слоў і іх асмысьленьне. Ня спыняючыся падрабязна на дадзеных пытаньнях, зусім яшчэ не закранутых беларускаю навуковую літаратураю, мы толькі зазначым, што слова мае дзьве стораны: адна—матар'яльная (гучаньне) і другая—формальная, гэта значэньне, якое зьвязваецца з гукамі, словамі (фактычна матар'яльны процэс другога парадку); другая старана як-бы надбудова над першай. Праўдзівей гэта ня дзьве стораны, а два моманты адзінага процэсу мовы ў полі двух пунктаў гледжаньня: суб'екта і об'екта. Пры гэтым, значэньнем папярэджваецца гучаньне (гукі-словы) у тэй асобы, якая іх вымаўляе, і, наадварот, гукі выклікаюць значэньне ў таго, хто іх слухае і ўспрымае.

Тое самае і ў мастацтве: значэньне найчасьцей падсьвядомае (пэўны стан псыхікі творцы) нараджае адпаведную гармонію гукаў-слоў (верш, песьня, поэма і г. д.). З другога боку, гэтая гармонія гукаў-слоў нараджае значэньне ў таго, хто яе ўспрыймае, хоць гэта значэньне і неаднолькавае ў пэўнай меры з значэньнем першым з прычыны таго, што поэтычная мастацкая творчасьць (асабовая) не настолькі масавае зьявішча, наскольки сама мова. У тоежсамасьці гэтых зьяў зьмяшчаецца і іх адрознасьць. Тоежсамасьць іх у тым, што абедзьве гэтыя зьявы (мова і мастацкае слова)—гэта мова людзкой псыхікі. Адрознасьць-жа ў тым, што мова (у звычайным разуменьні) зьява масавая, штодзённая, якая служыць выражэньню і пачуцьцяў і думак і служыць сродкам комунікацыі, сувязі між людзьмі; поэтычна-мастацкая, літаратурная мова— і перш за усё зьява асабовага выяўленьня чалавека. Вядома, гэта ніколькі не перашкаджае таму, што яна цераз асабовае выяўленьне выражае і масавае, выражае апроч станаў сьвядомасьці поэты і пісьменьніка і ўсякі іншы зьмест рэальнага. Апроч таго, трэба сказаць, што мастацкае слова перад усім служыць выражэньню асобых старон людзкой псыхікі, менавіта, т. зв. эстэтычных пачуцьцяў, або, іначай кажучы, служыць выражэньню ўсіх зьяваў быцьця чалавека ў іх эстэтычнай ахварбоўцы.

Пасьля вызначэньня прыроды слова становіцца зразумелым, чаму ў поэзіі заўсёды існуюць як-бы два кірункі. Адзін з іх аддае перавагу гукавой старане пры вызначэньні каштоўнасьці матар'ялу і твору. Інацай кажучы, гэтая плынь поэзіі на першы плян высоўвае матар'яльны бок слова, яго гучаньне. Другая плынь робіць наадварот: аддае перавагу значэньню, гэта значыць, тым прадстаўленьням, вобразам і паняцьцям, якія выражаюцца словам. Адгэтуль і ў літаратурнай навуцы зьмены школ „формальнай“ і „ідэолёгічнай“. Вядома, што абодва ўхілы—гэта крайнасьці. Самою прыродаю слова павінны ўжо вызначацца плыні мастацтва і навукі аб ім. Гармонічнае адзінства вызначаных старон слова—гэта ўмова як мастацкасьці твору, так і яго жыцьцяздольнасьці і здатнасьці.

Усё гэта зазначана таму, што верш М. Багдановіча „Песьняру“ зьмешчаны ў разьдзеле „Думы“. Гэта дае падставу мысьліць, што М. Багдановіч пры выбары матар'ялу ў дадзеным выпадку галоўную

ўвагу аддаваў значэньню слова. Такім чынам, можна сказаць, што матар'ялам для вершу „Песьняру“ былі думы пра песьняра, яго творчасьць, яго дачыненьне да твораў, думы пра чытача, яго дачыненьне да мастацтва і наагул пра ролю і значэньне літаратурна-мастацкага твору. Фактычна гэта цэлыя проблемы, разьвязваньню якіх прысьвечана шмат навуковай літаратуры на іншакраёвых мовах.

І вось, калі ўзяць гэта пад увагу і параўнаць хоць-бы нават тое, што кожнаму з нас вядома пра гэтыя пытаньні, з вершам М. Багдановіча, выкаваным з гэтых проблем, то перад намі ўва ўсю веліч выявіцца значэньне таго, што называецца зазвычай талентам, і веліч тэй працы, якую мы называем мастацкаю творчасьцю.

Перад М. Багдановічам стаяла якраз такая-ж задача, што і перад скульптарам, пра якога казаў Леонардо да Вінчы. М. Багдановічу з усіх зазначаных вышэй проблем творчасьці і ўсіх разьвязваньняў, што прыдбаліся яго сучаснасьцю, трэба было вызваліць і паказаць „статую“, вызваліць і паказаць поэтычны вобраз, што быў захаваны у „куску мармуру“, пры чым вобраз такой празрыстасьці, што ў ім, як у люстры адсьвечвалася-б дума людзкая ад глыбі вякоў і, як ў фокусе нярухомым, крышталілася-б дума людзкая вякоў наступных. Тварыць такія вобразы гэта і значыць тварыць мастацтва і тым самым выявіцца таленту.

Ясна, што за вершам „Песьняру“ паўстае талент, і талент глыбокі, яго творцы. Але, апроч гэтага, перад намі і самы верш, як об'ект, як чыньнік, пра які можна судзіць, вызначаць яго каштоўнасьць і ўтвараць пэўнае аб ім разуменьне.

Да рэчы сказаць, задача сучаснай беларускай крытыкі якраз і зьмяшчаецца ў тым, каб вызначыць каштоўнасьць прыдабытых ужо, як за мінулы час, так і за цяперашні, беларускіх літаратурна-мастацкіх твораў, як у васобку кожнага, так наагул твораў асобных пісьменьнікаў і поэтаў. Гэта зьявіцца асноваю для ўтварэньня разуменьняў аб іх, што ў сваю чаргу стане тым грунтам, на якім льга будзе пабудаваць навуку аб беларускай літаратуры.

Наконт вершу М. Багдановіча „Песьняру“, на падставе вышэй зробленных зазначэньняў можна заключыць, што гэты верш сапраўды мастацкі, верш, які зьяўляе сабою глыбокі вобраз людзкіх дум аб творчасьці, вобраз выкаваны з „куска мармуру“, што называецца проблемаю мастацкай творчасьці, або проблемаю тэорыі каштоўнасьці мастацкіх твораў. Карацей кажучы, гэта вобраз таго, што льга азначыць такімі разуменьнямі: поэт (ці наагул мастак)—творчасьць (як выказьнік і дзейнік)—чытач. Гэтаму матар'ялу М. Багадновіч надаў стройную форму, якую схэматычна можна выразіць так: п. < ч. < т. і т. > п. > ч. Тут дзьве гармонічныя лініі, з якіх першая, ідучы ад поэты, зьнікае ў чытачы цераз слабасьць твору, а другая цераз моц твору разростаецца, убіраючы ў сябе і поэта і чытача. Іначай кажучы, першая ідзе ад „нечага“ да „нічога“, а другая ад „нечага“ да „ўсяго“. Сярэдзіна ліній—твор. Тут, бязумоўна, можна парознаму адценьваць высьвятленьне адзначанай мною схэмы, але існасьць, яе адна, якую можна выразіць так: у каго „поэты“ больш, як чытача і творчасьці, той зусім не поэта, і наадварот—там дзе „поэты“ менш, як творчасьці і чытача—там сапраўды поэта; тая творчасьць, у якой растае поэта і чытач—творчасьць мастацкая: яна жыцьцяздольна і, як кажуць, няўмірушча.

Ня спыняючыся на разьвіцьці разуменьняў поэты, творчасьць, твор і чытач, што можа быць прадметам асобнай працы, мы абмяжоўваемся

зробленым зазначэньнем на матарь'ял, з якога створан верш „Песьняру“, на каштоўнасьць самога вершу і на годнасьць яго творцы. Калі ўспомніць пра асаблівасьці прыроды слова, як матар'ялу мастацкай творчасьці, то выявіцца, што ў годнасьці поэты і яго-ж недахваты. Яго адбор матар'ялу, аснованы ў пераважнасьці на надаваньні асаблівай каштоўнасьці значэньню слова, даў магчымасьць прасьлізнуць у яго твор некаторай нячыстасьці слова, як гучаньня беларускай мовы. Гэта—такое слова, як „абрабіць“, што мае падвойны сэнс і слова „брызнуць“, як русіцызм. Апроч таго нячыстасьць у выразе „сэрцы цьвёрдыя, быццам з каменьня“, дзе зборнае імя „каменьне“ засланяецца прыназоўнікам „з“, і таму ў выразе гэта зборнасьць зацяняецца і як-бы губляецца, адгэтуль нязвычайнасьць гучаньня выразу ў кантэксьце. Але гэта і толькі.

Не разбіраючы падрабязна вершу з боку яго гучаньня, зазначым на тое, што разьмераная і напорная рытмічная гучнасьць, якая ліецца з глыбі на поверх (аснова вершу анапэстычная), у цэлым суладжана з значэньнем. Разгляд-жа наогул гучальнай стараны творчасьці М. Багдановіча можа паслужыць прадметам асобнай і цікавай працы, асабліва калі адыходным пунктам у гэтай працы ўзяць асаблівасьці прыроды слова, а пры суджэньні аб гучаньні за ідэал: суладжанасьць усіх асаблівасьцяў у некаторым адзінстве.

III

М. Багдановіча, зазвычай, прывыклі лічыць поэтам так званага „чыстага хараства“, для якога „мастацтва для мастацтва“ галоўны кірунак творчасьці. Ня месца тут падрабязна спыняцца на вырашэньні пытаньня, што такое „мастацтва для мастацтва“. Мы толькі скажам словамі К. Каўцкага, што мастацтва для мастацтва ставіць сабе мэтаю ня толькі зрабіць эфэкт на публіку, але і на самога мастака. „І першыя мастакі, якія практыкавалі мастацтва для мастацтва, гэта, быць можа, тыя чорныя шымпанзэ, якія барабанілі па дуплістым дрэве не дзеля таго, каб забаўляць публіку, а самых сябе[1])“. Я з свайго боку дадам, што такія мастакі падобны дзецям, якія забаўляюцца рознымі цацкамі. Праўда, некаторыя вершы М. Багдановіча можна прылічыць да „мастацтва для мастацтва“, калі іх разглядаць паасобку, а ня ў сувязі з усёй яго творчасьцю. Але вось разгледжаны верш „Песьняру“ мае такія ўласьцівасьці, якія даюць аснову для суджэньня аб Максіму Багдановічу, як поэце, для якога ёсьць нешта большае, чым „мастацтва для мастацтва“. Такім фактам зьяўляецца сама форма вершу, менавіта форма адозвы. („Ведай, брат малады“...), форма звароту да маладога грамадзтва. Гэта ўжо кажа пра тое, што для М. Багдановіча дорага мастацтва ня як забаўка для сябе і другіх, а як нешта большае, як адзін з элемэнтаў таго быцьця, што вызначае сабою сьвядомасьць. Мастацтва для яго ў гэтым разе зьяўляецца элемэнтам быцьця, што адыгрывае не апошнюю ролю ў вызначэньні і сьвядомасьці грамадзкай (грамадзкая форма). Яно той чыньнік, што мае вялікае выхаваўчае (у шырокім сэнсе) значэньне для маладога пакаленьня Ікепскую паслугу робяць М. Багдановічу тыя крытыкі, якія, быць можа, і хочучы паставіць творчасьць М. Багдановіча на вялікае ўзвышша, прыбіваюць да яе шыльду „мастацтва для мастацтва“ і тым самым зводзяць яе на тую ступень, пра якую кажа К. Каўцкі.

---

[1]) К. Каўцкі, „Размножение и развитие в природе и обществе“ М. Гиз. 1923 г.

Гэтым-жа фактам адкідаецца дастасаваньне да М. Багдановіча некаторымі крытыкамі шыльды імпрэсыяністага, бо, як бачым, ужо ў вершы „Песьняру“ выражаецца ня толькі першае ўражаньне, што кінулася ў вочы поэту, але ўскрываецца глыбіня тэй задачы, якая стаіць як перад мастацтвам, так іперад маладым пакаленьнем яго творцаў

Ня будзем тут падрабязна даводзіць недакладнасьць у дастасаваньні да ўсёй творчасьці М. Богдановіча такіх адзнак, як мастацтва для мастацтва або імпрэсыянізм. Яны з пункту гледжаньня соцыялёгічнай вартасьці мастацтва ня вытрымліваюць аніякай крытыкі. Падрабязны разбор гэтых пытаньняў завёў-бы нас далёка ад прадмету нашага сёньняшняга суджэньня, а таму мы абмяжоўваемся агульнымі зазначэньнямі, выходзячы толькі з аднаго факту ў творчасьці М. Багдановіча. Але і адзін факт, які адкрываецца ў якой-бы ні было галіне людзкога пазнаньня і які ня можа быць падпарадкаваны гіпотэзам або тэорыям, што існавалі да гэтага новага факту, да шчэнту разбурае гэтыя тэорыі і дае аснову для пабудовы альбо новай альбо перабудовы старой. Такія зьявы мы наглядаем ува ўсіх навуках. Тое-ж самае і тут. Такі факт творчасьці М. Багдановіча, як верш „Песьняру“, разбурае ўсе суджэньні аб яго творчасьці, як аб мастацтве для мастацтва або як аб імпрэсыянізьме, для суджэньняў большых і бліжэйшых да праўды. Падобных-жа фактаў у М. Багдановіча ёсьць шмат, а яны і зьяўляюцца дастатковаю асноваю для таго, каб праверыць праўдзівасьць тых меркаваньняў, якія мелі месца ў дачыненьні да творчасьці М. Багдановіча.

Для кожнага суджэньня праўдзівага неабходнай умовай зьяўляецца дастатковая аснова, без якое ўсякае меркаваньне становіцца падобным дому, пабудованаму на пяску, або таму картачнаму доміку, які робіцца дзецьмі для свае забаўкі. Зазначаем гэта таму, што нешта падобнае да суджэньняў аб творчасьці М. Багдановіча сталася і ў суджэньнях аб творчасьці некаторых іншых поэтаў.

З прычыны гэтага ў наступным разьдзеле неабходна спыніцца яшчэ на адным вершы Алеся Гаруна, так хутка забытага нашым грамадзтвам, а асабліва шмат якімі з сучасных маладых поэтаў і пісьменьнікаў. Гэты верш мне ўспамінаецца ў зьвязку з разглядам творчасьці Ул. Дубоўкі, які ў сваіх творах выконвае не адзін з запаведаў і М. Багдановіча і А. Гаруна.

## IV

Алесь Гарун, таленавіты і слаўны поэта-рабочы, самавучка, бясчасна, як і М. Багдановіч, зышоўшы ў магілу, пакінуў пасьля сябе невялікую па колькасьці, але вялікую і глыбокую па якасьці і сваёй каштоўнасьці спадчыну творчасьці, у якую яшчэ ніводнае вока крытыкі не заглядала, каб вынесьці на сьвет яе пэрлы. Ніхто з маладых поэтаў таксама ня рупіцца заглянуць у гэту, кажучы словамі М. Багдановіча, „студню са сьлязамі“, у якой сьвецяцца „пуцяводныя зоркі“. Але гэта творчасьць не памерла, бо яна падобна таму ручайку, пра які казаў сам А. Гарун:

„Цячэць ручайка вось—і ту яго ня стала.
Няма яго, схаваўся у зямлі,
А недзе—тамака рака зямлю прарвала
І воды той ракі па лузе пацяклі[1]).

[1]) Матчын дар, стар. 51

Так і творчасьць А. Гаруна. Яна схавалася ў зямлю нашай літаратурнай сьвядомасьці, каб выплысьці, як рака. І вось, калі прыраўнаваць творчасьць Ул. Дубоўкі і яго насьледоўцаў да ракі, то толькі ў гэтай літаратурна-мастацкай рацэ праменіцца і выплыўшы ручайка творчасьці А. Гаруна, як праменіцца ў яе адзінстве ручайка творчасьці і М. Багдановіча. Асабліва гэтым двуядыным сьвятлом адсьвечваецца першы зборнік вершаў Ул. Дубоўкі „Строма“. Але пра гэта будзе далей.

Цяпер перад намі верш А. Гаруна „Поэту“. Няхай прабачаць мне чытачы, што я не адсылаю іх да зборніку „Матчын дар“, а тут цалкам выпісваю гэты верш. Мо‘ня ўсякі мае цяпер гэты зборнік, а па-другое, я хачу даць магчымасьць самому чытачу разважыць і праверыць нашы суджэньні, а разам з тым і прасякнуцца глыбінёю і веліччу значэньня беларускай літаратурна-мастацкай, менавіта мастацкай, творчасьці, як аднаго з чыньнікаў у пашырэньні і афармленьні матарыялістычнага сьветагляду. Адначасна-ж, нам здаецца, павінна расьці пазнаньне ролі і значэньня пролетарскай ідэолёгіі ў справе соцыялістычнага будаўніцтва новага жыцьця.

Што кажаш мне, поэт, а праўдзе тэй, што будзе?
Мне сэрца кроіцца ад крыўды нашых дзен!
А бачу добра й сам, ідуць да праўды людзі,
Расьцець яе жаўнер і шырыцца загон.
Марудна, братачка! І покуль сонца ўзыйдзе,
Дык вочы выесьць нам салоная раса,
І покуль першы дзень людзкога шчасьця прыйдзе,
Мільёны сэрц праткне гароты злой каса.

Пакінь, пакінь сьпяваць а праўдзе тэй, што ў небе!
Яна чужая нам таемных праўда сіл.
Яна ня сходзіць к нам у канечнае патрэбе,
Калі пакуты дзень так доўгі і ня мілы!

Прашу цябе, мой брат, сьпявай аб нашым горы,
Аб тым, што ёсьць цяпер і што даўней было,
І што на ўсякі твар кладзець, як плуг, разоры,
І што ў мільёнах душ разоры правяло.
Прашу цябе, сьпявай аб горы песьнь адну ты,
І наш гаротны лес рабі яшчэ цяжэй.
Тагды убачыш сам, парвуцца духа путы,
І будзе ясны дзень да нас тагды бліжэй [1].

Не магу ўстрымацца, каб ня выказаць тут-жа свайго дачыненьня да гэтага вершу, як да выяўленьня „чыстага мастацтва“, у сэнсе мастацтва, не заплямленага аніякаю пасрэднасьцю, аніякаю робленнасьцю ці то надумнасьцю або штучнасьцю. Такога мастацтва ня могуць замяніць цэлыя вазы вершаў некаторых сучасных поэтаў. І сапраўды, якая непасрэднасьць пачуцьця, якая непадкупная шчырасьць, якая глыбіня і моц перажываньня, якая яснасьць і суладжаная цэльнасьць і закончанасьць вобразу, яго жыцьцяздольнасьць, што кіпіць у гэтым нярухомым, але празрыстым, вакне мастацкай творчасьці! Але як-бы мне ні хацелася выказаць сваё адчуваньне, мы яго спыняем і даём

[1]) Па запісаньню верш адносіцца да часоў дарэвалюцыйных.

магчымасьць нашым чытачом самім перажыць усю глыбіню гэтага вершу, пабыўшы некаторы час, так сказаць, гаруністам. Цяпер-жа выкажам свае думкі пра гэты, сапраўды, пэрл творчасьці.

У гэтым вершы Алесь Гарун гаворыць як-бы ад імя чытача, і самы верш прадстаўляе сабою як-бы выхапленае з размовы поэты з чытачом слова апошняга. Такая вось форма дадзенага вершу. Гэта не адозва спрактыкаванага поэта-мастака да маладога пакаленьня. Гэта проста непасрэднае выражэньне накіпеўшага і набалеўшага ў душы чытача, проста чалавека, не спакушанага яшчэ „культураю". чалавека, што мае здаровы густ да прыгожага, вялічавага і наогул да ўсяго таго, што называецца мастацкім. Тым большая яшчэ каштоўнасьць твору, што поэта ня мудрыў, а здолеў душою прасякнуцца ў душу чытача і выразіць усе яго адчуваньні, пачуцьці і патрэбы ў галіне мастацкага. Гэта здольнасьць, якую Кузьма Чорны выражае такімі словамі, як „няпрыкметна душою ўвайсьці ўва ўсе таямніцы, што ў жывых істотах захованы. увайсьці ласкава і ціха, з чыстымі думкамі і адчуваньнямі", а потым „пайсьці па зямлі, ахваціць яе сабою й сказаць кожнаму: вось я бачу, чую, адчуваю цябе. І пачынаю адчуваць у цябе тое, чаго ты й сам можа не адчуваў[1])".

Гэта здольнасьць увайсьці ласкава і ціха ў душу чалавека і вынесьці адтуль на сьвет, паказаць людзям усё захованае ў яе глыбінях, паказаць яе багацьце або беднасьць, яе вялікасьць або мізэрнасьць, яе паўнату і цэльнасьць, шукаць якую запаведаў яшчэ М. Багдановіч або пустэчу—і ёсьць умова глыбокай мастацкай творчасьці, а таксама і аснова для вызначэньня ў поэты таго, што мы называем глыбокім талентам, або поэтам знаўцам чалавечай душы.

Нічога няма цяжэй як перавыхаваць сябе, бо самай галоўнай і асноўнай умоваю перавыхаваньня ёсьць пазнаньне сябе самога. Пазнаць-жа сябе—гэта нялёгкая справа. Ці перажывалі вы калі стан сьвядомасьці, калі, чытаючы той ці іншы верш або апавяданьне ці аповесьць, вы пачыналі адчуваць, што вось настрой, які выражаны вершам ці наогул творам, і самі вы некалі перажывалі, што той ці іншы гэрой падобны да вас саміх, быццам ён сьпісаны з вас; угледзеўшы-ж гэта ці не ахапляў вас асаблівы настрой, і вы пачыналі думаць: „дык і я-ж такі", або „вось той і той якраз гэтакі", а адгэтуль ужо, часта мо'й зусім бесьсьвядома, ў глыбі сваёй істоты, вы разважалі ня быць такім, або быць падобным да такога. Я не памылюся, калі скажу, што не адзін з нас перажываў такія станы сьвядомасьці, чытаючы мастацкія творы таленавітых пісьменьнікаў або поэтаў.

І вось, калі вы перажывалі гэта і зараз яго возьмеце пад увагу, дык перад вамі выявіцца ўся веліч, глыбіня і значэньне вышэйзначанай здольнасьці пісьменьніка прасякаць у чужыя постаці, здольнасьці пераўвасабляцца, і ацэніце правільна яе, як аснову для вызначэньня ў пісьменьніка наяўнасьці таленту, які характарызуецца вось гэтаю здольнасьцю. Вы зразумееце, якую вялікую справу робіць пісьменьнік або поэта, які творыць мастацкія рэчы, узяўшы за матар'ял свае творчасьці жыцьцё, як яно ёсьць, калі пясьняр сьпявае „аб тым, што ёсьць цяпер і што даўней было, і што на ўсякі твар кладзець, як плуг, разоры, і што ў мільёнах душ разоры правяло". Такі поэта ня скажа так агульна, што „ў грудзёх у людзей сэрцы цьвёрдыя, быццам з каменьня", бо

[1]) К. Чорны. „Пачуцьці", апав. „Вечар".

ўгледзіць „духа путы“ і разоры. Яго творчасьць не „ударацьме“, як першага, а будзе рваць гэтыя путы, будзе нішчыць разоры, якія дзеляць усё чыста на два сьветы ці, як кажа Ул. Дубоўка, на „нельга“ і „льга“.

Вядома, існасьць тут адна ў абодвых відах творчасьці, толькі яна, ў полі двух пунктаў гледжаньня. Першы з іх (М. Бадановіча) больш суб'ектыўны, уласны, дзякуючы чаму ўся кіпучасьць пачуцьцяў праходзіць праз лёд розуму, і таму гэтыя пачуцьці набываюць выгляд сьціснутага, сталёвага ядра, якое тоіць у сабе ў потэнцыі нявычэрпную моц і магчымасьці, праўда, ня толькі свайго „я“, але і пэўнага колектыву. Другі (А. Гаруна)—больш об'ектыўны, „альтруістычны“, дзякуючы чаму кіпучасьць пачуцьцяў выліваецца непасрэдна, растапляючы ў сабе, таксама непасрэдна, пачуцьці і адчуваньні „я“ колектыўнага.

Тэрміны „суб'ектыўны“ і „об'ектыўны“ ўжыты тут умоўна і імі толькі характарызуецца форма выяўленьня і выражэньня псыхікі чалавека, або розныя пункты гледжаньня на адну і тую-ж існасьць. І сапраўды, і першы і другі вершы зьяўляюцца выражэньнем суб'ектыўных станаў сьвядомасьці і адначасна-ж цераз гэта суб'ектыўнае выяўленьнем і об'ектыўнага. У гэтым іх тожсамасьць, якая зьмяшчае ў сабе адрознасьць іх. Форма першага—гэта выяўленьне існасьці ў яе, так сказаць, статыцы, другога-ж—у дынаміцы. Магчымасьці ў потэнцыі і тыя-ж магчымасьці ў сваім выяўленьні, у дзейнасьці—гэта іх адрознасьць.

У асноўным тут дзьве формы выражэньня агульнага: агульнае ў форме „я“ і агульнае ў форме „не-я“. Умовімся першую называць „ідэальнаю“, а другую „рэальнаю“. У першай форме існуе „не-я“—у потэнцыі, а ў другой—„я“ ў потэнцыі, пры дзейнасьці „я“ ў першай і „не-я“ ў другой. Гэта значыць, што „я“, выражаючы свой стан сьвядомасьці, можа зьявіцца выяўленьнем і „не-я“ (ідэальная форма) і, наадварот, выражаючы „не-я“, „я“ тым самым знаходзіць у гэтым сваё выяўленьне (рэальная форма). Ня будзем падрабязьней разьвіваць гэтых палажэньняў, бо ў мэтах нашай працы важна зазначыць на існаваньне двух відаў мастацкіх твораў: ідэальнай формы і рэальнай

V

Спынімся тут яшчэ на некаторых старанах вершу А. Гаруна ў параўнаньні яго з Багдановічавым.

У вершы М. Багдановіча выражана разуменьне творчасьці, як выказьніка, дадзены вобраз ідэальны ў яго пэршым моманце станаўленьня. Верш-жа А. Гаруна ажыцьцяўляе ў сабе рэальны вобраз творчасьці, як дзейніка, вобраз у яго другім моманце станаўленьня. Цікава, як-жа ў гэтым другім аспэкце выражаюцца ўмовы мастацкасьці, а значыць, і жыцьцяздольнасьці твору, як чыньніка рэволюцыі ў стане сьвядомасьці чалавека, у поле якога ўваходзіць той ці іншы мастацкі твор.

Галоўная адзнака мастацкасьці тут выражаецца, як патрабаваньне мастацкай праўды, праўды ня тэй, „што будзе“, ня тэй, „што ў небе“, а праўды тэй, што ёсьць, што на зямлі. Ня дарма, да рэчы сказаць, ёсьць прыказка: „праўда вочы коле“. а ясна, што ўсякае дзеяньне выклікае супроцьдзеяньне, якое па сіле роўна першаму. Адгэтуль сілаю мастацкага твору вызначаецца сіла і размах рэволюцыі ў сьвядомасьці чытача. Гэта якраз і ёсьць тое самае, што на мове М. Багдановіча называецца „з сталі каваць, гартаваць гібкі верш“ і „брызнуць іскры з халодных каменьняў.

У істоце чалавека існуюць нявычэрпныя магчымасьці для выяўленьня сваёй існасьці, але кола выяўленьня гэтых магчымасьцяў абумоўліваецца і абмяжоўваецца тымі гісторычнымі ўмовамі і тымі эканомічна-соцыяльнымі дачыненьнямі, у якіх жыве чалавек. Словам, абмяжоўваюцца і вызначаюцца сучасным чалавеку станам культуры, як быцьцём, у коле якога жыве чалавек. На мове А. Гаруна—гэта разоры і „путы духа". І вядома, што каштоўным будзе той факт, які зьнішчыць хоць адну разору або разарве хоць адно пута і, такім чынам, пашырыць круг выяўленьня тых магчымасьцяў, якія захованы „ў таямніцах жывых істотаў". Засыпаць-жа разору ці парваць „духа путы" можа толькі той чалавек, які гэтыя путы і разоры пазнаў; адгэтуль каштоўна тая творчасьць, якая ўвасабляе ў вобразах мастацкіх ці, іначай кажучы, матар'ялізуе ў формах мастацкага слова самасьвядомасьць чалавека, менавіта—чалавека, а ня рэчаў, розных адцятасьцяў і „праўды тэй, што ў небе", што наглядаецца ў шмат якіх зборніках сучаснай літаратуры. Толькі цераз такую творчасьць, толькі цераз такія мастацкія вобразы „я" можа пазнаваць сябе і не-сябе і абуджацца да дзейнасьці, да творчасьці, у якой-бы форме яна ні выражалася, ці ў форме змаганьня з ворагам, ці ў форме працы над пабудоваю новага жыцьця і інш.

Разуменьнем самасьвядомасьці чалавека тут і акрэсьліваецца кола таго, што мы называем мастацкім і што называем мастацкаю праўдаю. Гэтым-жа самым вызначаецца і прадмет мастацтва. Нельга тварыць з таго, чаго зусім няма і ня было. Значыць, той твор, які прэтэндуе на праўду выражэньня і выяўленьня, скажам, самасьвядомасьці чалавека будучыны ня ёсьць яшчэ зьява мастацтва тэй самай будучыны. Праўда, калі ў такім творы чалавек будучыны зьяўляецца толькі ідэальнаю формаю ажыцьцяўленьня рэальнай існасьці, праўды тэй, што на зямлі —гэта будзе мастацтва, але зноў такі ня будучыны, а сучаснасьці. Гэта асобны від творчасьці, які павінен зьмяшчаць у сабе ўсе адзнакі мастацкасьці, як і іншыя віды. Мастацкім зьяўляецца і другі від творчасьці, які суладжвае ў адзінства ідэальную існасьць і рэальную форму. Такія-ж злучэньні, як існасьць і форма ідэальныя, мы можам толькі ўмоўна лічыць за мастацтва: гэта фактычна тое самае „мастацтва для мастацтва"; а такое злучэньне, як існасьць і форма рэальныя, інача кажучы, „не-я" роўнае сабе,—зусім ужо не мастацтва, а хутчэй, скажам, можа быць у лепшым разе мастацкаю фотографіяй.

Словам, у вершы А. Гаруна дадзена такое проблематычнае разьвязаньне існасьці мастацкасьці і жыцьцяздольнасьці мастацкага твору: „я" роўнае „не-я" і „не-я" роўнае „я"—вось аснова і мастацкасьці і няўміручасьці твораў. І гэта блізка да праўды, бо сьцьвярджаецца гісторыяй разьвіцьця сусьветнай літаратуры. „Суб'ектыўнае" жывуча тады, калі яно зьяўляецца выяўленьнем „об'ектыўнага", і наадварот: выяўленьне „об'ектыўнага" тады жывуча, калі яно ёсьць выражэньне „суб'ектыўнага". Гэта і ёсьць аснова двух кірункаў у разьвіцьці формаў мастацкай творчасьці: кірунку ідэальнай формы і кірунку формы рэальнай.

Верш „Песьняру" М. Багдановіча належыць да ідэальнай формы, а верш „Поэту" А. Гаруна да рэальнай. І тут цяжка казаць аб тым, якой з гэтых формаў аддаць перавагу. Абодва вершы адпавядаюць умовам творчасьці мастацкай, а таму абодва аднолькава каштоўны, бо абодвы вершы мастацкія. Мастацкасьць іх зьмяшчаецца ў тым, што ў першым—„я" растапляе ў сабе „не-я", а ў другім—„не-я" растапляе ў сабе „я". „Не-я" гэта ў вершы А. Гаруна ажыцьцяўляецца ў вобразе чытача, які тоіць у сабе „я" самога поэты, як стваранае тоіць у сабе дух творцы.

Цікава тут-жа зьвярнуць увагу на рытмічныя асаблівасьці, якія *зьвязаны ў гэтых поэтаў-мастакоў з рознымі формамі.* Верш М. Багдановіча (формы ідэальнай) рытмічна пабудаваны на трохдольнай аснове; верш А. Гаруна — на двухдольнай. Далей, верш М. Багдановіча ў форме адозвы, а верш А. Гаруна ў форме монолёгу. Абедзьве гэтыя формы—*фактычна формы размовы, накіраванай ад я да ты, іначай кажучы,* кожная з іх прадгадвае сабою об'екта, да якога зьвяртаюцца. І вось, у абодвых гэтых выпадках рытмічнае гучаньне вершаў працякае як-бы знізу ўверх. Узмацненьне націскное ў абодвых выпадках прыпадае не на пачатак асновы, а на яе канец, інача кажучы, у вершы М. Багдановіча анапэстычная аснова (◡ ◡ I), *а ў вершы А. Гаруна* ямбічная (◡I). Гэта як-бы пераход слабога гучаньня ў моцнае, які ў першым выпадку адбываецца больш павольна, а ў другім—больш напорна. Даўжыня самога гучаньня ў абодвых вершах аднолькавая (у *вершы М. Багдановіча 3×4 (чатыры трохдольных мэтрычных адзінкі),* а ў вершы А. Гаруна 2×6, а і 3×4=12 і 2×6=12). Бязумоўна, што аднолькавасьць у даўжыні гучаньня тут узята, як ідэальная або норматыўная, за межамі якой пачынаецца ўжо рэальная адрознасьць *абодвых гучаньняў. Першы верш вызначаецца больш спакойнай,* павольна-разьмернай і цьвёрдай рытмічнай плыньню; другі—больш запальна-кіпучаю, напорнаю і перарыўнаю. Першая плынь працякае праз чатыры парогі ўзвышшэньняў, а другая праз шэсьць, расстаўленых на лініях аднолькавай даўжыні ў абодвых выпадках. Пры гэтым трэба заўважыць на ўласьцівасьць першай лініі павялічваць лік парогаў, у той час, як другая вызначаецца здольнасьцю зьменшваць іх праз разбурэньне. Павялічэньне парогаў на трохдольнай аснове зазвычай адбываецца ў пачатку гучаньня, і тады мэтрычная адзінка набывае выгляд такі: (◡I) („Ведай, брат малады"...). Пры разбурэньні-ж парогаў на двухдольнай аснове мэтрычная адзінка набывае выгляд такі: (◡◡) („Мне сэрца кроіцца ад крыўды"). Гэтыя зазначэньні належаць толькі да рытмічных гучаньняў узвышальнага характару, у якім адкрыты перад намі вобразы вершаў А. Гаруна і М. Багдановіча. Яны прадстаўляюць сабою, кажучы словамі Багдановіча, як-бы вокны „у іншы сьвет", менавіта, ў сьвет культуры ў адрознасьць ад сьвету прыроды.

Так, вершы А. Гаруна і М. Багдановіча гэта нярухомыя вобразы-*вокны „ў іншы сьвет",* адкрытыя ў рытмічным гучаньні ўзвышальнага парадку. Пры гэтым вокны з асобай уласьцівасьцю адкрываць перад людзкім вокам жыцьцё ў шырыні, адваротна-залежнай ад адлегласьці чалавека ад вакна. Чым бліжэй мы стаім каля вакна, тым шырэйшыя перад намі прасторы расьцілаюцца, і наадварот, чым далей ад яго мы, тым і кола прастору вузейшае, але затое большая глыбіня адкрываецца перад нашымі вачыма. У першым-жа выпадку мы бачым толькі паверхню. Вось чаму суглядаюцца нявычарпаныя глыбіні праз такія мастацкія вокны, як творы Шэксьпіра, Байрона, Гётэ і шмат інш., ўсё тым большыя, чым далей адыходзіць у вякох чалавецтва ад гэтых вокан. Вось чаму вельмі цяжка адкрываць ўсю нявычэрпную глыбіню мастацкіх твораў сваіх сучасьнікаў і ўжо на гэтай аснове ствараць такія разуменьні аб творах, якія б набліжаліся да абсалютнай ісьціны. Аднак-жа гэта цяжкасьць ніяк не перашкаджае бачыць у сваіх сучасьнікаў таленты і адрозьніваць іх ад не-талентаў, ад пасрэднасьцяў, ад вышкаленых майстроў, рамясьнікоў і проста рабочых—рознай кваліфікацыі—літаратурнага слова. На гэта, як паказана вышэй, беларуская мастацкая літаратура дае досыць падставаў, каб судзіць у гэтай галіне больш менш беспамылкова.

## VI

„Быцьцём вызначаецца сьвядомасьць“ —вось праўда марксызму. Ды ўся бяда ў тым, што ня кожны правільна разумее гэтую праўду, ня кожны гэтую праўду перааdчуў сваім нутром. Часта ў нашай сучаснасьці можна спаткаць, нават сярод пісьменьнікаў, людзей з няшырокімі даля-і сьветаглядамі, *якія, не жадаючы ўсьвядоміцца ў тым*, што і іх уласны стан сьвядомасьці вызначаны быцьцём, імкнуцца вызначаць сваёю сьвядомасьцю навакольнае быцьцё. Такія людзі нагадваюць сабою тых птушак, якія здольны завучыць некалькі слоў і выгаворваць іх бяз жаднага разуменьня іх значэньня або сэнсу. Для чалавека-ж мала завучыць, трэба яшчэ і разумець завучанае. Трэба ясна сабе ўявіць зьмест разуменьняў „быцьцё“ і „сьвядомасьць“, трэба бачыць межы між гэтымі разуменьнямі, каб ведаць, што сапраўды азначае вышэйпададзенае палажэньне, разумець ўсю глыбіню яго значэньня і адсюль ужо рабіць адпаведныя вынікі для практыкі. І вось яшчэ Ф. Энгельс у лісьце да І. Блоха і інш. зьвярочваў увагу на правіловае разуменьне Марксавай формулы. Ён пісаў: „...Палітычнае, праўнае, філёзофскае, рэлігійнае, літаратурнае, мастацкае і г. д. разьвіцьцё аснована на экономічным. Але ўсе яны уплываюць адно на другое і на экономічную аснову. Справа стаіць зусім ня так, што экономічнае становішча зьяўляецца адзінай актыўнай прычынай, а рэшта зьяўляецца пасыўнымі (нядзейнымі) фактарамі. Не, тут узаемнае дзеяньне на аснове *экономічнай неабходнасьці, якая ўрэшцэ выявіцца...*“ [1]) *Гэта значыць*, што факты і палітычныя, і філёзофскія, і літаратурныя і г. д. у пэўны момант свайго існаваньня зьяўляюцца таксама элемэнтамі таго быцьця, якім вызначаецца сьвядомасьць. Груба кажучы, поэзія, хоць яе будзе і мільёны пудоў, але калі гэта поэзія знаходзіцца толькі ў галаве тэй ці іншай асобы, то гэта поэзія ня ёсьць яшчэ поэзія, а толькі сьвядомасьць, вызначаная пэўным колам быцьця; калі-ж гэта поэзія матар'ялізавана ў слове, калі яна ўжо літаратурны факт, якім, скажам, карыстаюцца ну хоць-бы ў школах пры выхаваньні дзяцей, гэта поэзія ўжо элемэнт самога быцьця, якім вызначаецца *пэўная* свядомасьць.

Гэтаю ўвагаю я хачу сказаць тое, што вершы і Багдановіча і Гаруна, калі яны дачыняюцца нас, як об'екты да суб'екта, яны ўжо быцьцё, якога нельга абмінуць пры суджэньнях аб такіх прадметах, як беларускае мастацкае слова, разуменьне мастацкасьці, разуменьне дачыненьня поэты да матар'ялу сваёй творчасьці і да твораў і, нарэсьце, месца і значэньне літаратурна-мастацкіх твораў у справе формаваньня тых ці іншых сьветаглядаў у грамадзтве.

Вось чаму нельга адкінуць мінулага разьвіцьця беларускай мастацкай літаратуры, калі хочам правільна зразумець і ацаніць значэньне сучаснай, калі хочам назнаць каму належыць стварэньне таго ці іншага літаратурнага факту— таленту ці пасрэднасьці і г. д.

Вывучэньне і дасьледаваньне мінулага беларускай мастацкай літаратуры для сучаснасьці мае наогул вялікае значэньне і асабліва для далейшага развіцьця самой-жа літаратуры. Калі параўнаць стан вывучэньня нашай літаратуры з станам вывучэньня і дасьледаваньня літаратур у іншых краёх, то трэба прызнаца, што ў нас у гэтай справе ня ўсё стаіць добра. У вывучэньні, скажам, такіх літаратур, як расійская, украінская, нямецкая, француская, англьская і інш., ёсьць ужо багатыя традыцыі і багатыя вынікі. Там ёсьць надзвычайна багатая

[1] Выпісваю з „Введения в изучение искусства и литературы“. Зборнік артыкулаў, складзены В. А. Десницким. Ленгиз 1923 г., стр. 32

літаратура наконт самых рознастайных пытаньняў мастацкай літаратуры. Есьць літаратура і крытычнага і навуковага характару. І не зважаючы на гэга там і далей ня спыняецца справа вывучэньня і дасьледаваньня *мастацкай літаратуры як у яе мінулым, так і ў сучасным* стане быцьця.

Дазволь, чытачу, з прычыны асаблівай важнасьці паўстаўшага пытаньня крыху спыніць сваю ўвагу за парогам творчасьці Ул. Дубоўкі, якая становіць сабою прадмет нашай думкі ў дальнейшым, і кінуць вокам на далявід беларускай мастацкай літаратуры і яе вывучэньне. *Мы абмяжуемся тут толькі некаторымі меркаваньнямі ў парадку пастаноўкі пытаньняў.*

Справа ў тым, што навукі аб беларускай літаратуры яшчэ няма Ня будзем тут казаць аб прычынах, яны больш-менш сьвядомаму чалавеку вядомы. Толькі Кастрычнікавая рэволюцыя дала магчымасьці нарадзіцца і ёй. Усе тыя спробы, а іх вельмі мала (Янчук, Карскі ды Гарэцкі і ўсё), спробы нарысаў беларускай літаратуры далёка ня вычэрпваюць сучасных патрабаваньняў і задач, што стаяць перад навуковаю дыялектычна-матарыялістычнаю думкаю. У лепшым разе яны зьяўляюцца толькі выяўленьнем наяўнасьці літаратурных фактаў і распарадкаваньнем іх па прынцыпу часу, ці то зьяўленьня, ці бытаваньня або па належнасьці твораў да таго ці іншага аўтара. Але трэба сказаць, што і ў гэтым кірунку, кажучы словамі Я. Купалы, яшчэ ня ўся работа зроблена. Няма, напр., нават поўных кнігапісных паказьнікаў як самой мастацкай літаратуры, так і літаратуры аб ёй, а таксама і рознага роду нататак аб ёй.

Вядома, што ў справе разьвіцьця беларускай навукі пра літаратуру павінна адыграць вялікую ролю перш-на-перш крытыка. Беларуская мастацкая літаратура мае ўжо некаторую маёмасьць літаратурных твораў. Адгэтуль вынікае ўжо неабходнасьць адбору іх, як асновы для навукі пра літаратуру. За гэты адбор і павінна ўзяцца беларуская марксыцкая крытыка. Кажучы „адбор", мы пад гэтым разумеем вызначэньне каштоўнасьці кожнай рэчы, якая складае маёмасьць беларускай літаратуры, вызначэньне каштоўнасьці ўсіх літаратурных фактаў і зьяваў, якія засталіся нам у спадчыну. Гэта-ж і ёсьць задача крытыкі.

Але як у нас стаіць справа з крытыкай? Ці разьвіваецца яна? Крытыкі нашаніўскай пары (а часта і сучаснай) перш за ўсё ставілі перад сабою задачу паказаць той ці іншы літаратурны факт перад грамадзтвам, як фактар культурна-нацыянальнага адраджэньня Беларусі, карыстаючы дзеля гэтага розныя сродкі. Часткаю гэта традыцыя перадалася і ў сучаснасьць, выяўляючыся ў новых кірунках „паказваньня". *Прыкладам, наша крытыка часта любіць карыстацца* тэрмінамі, запазычанымі з іншакраёвых літаратур, і імі кваліфікуе тыя ці іншыя беларускія літаратурныя факты, часта не зважаючы на тое, што беларускія творы па сваёй існасьці зусім не адпавядаюць запазычаным разуменьням. Замест гварыць разуменьні, робяцца запазычаньні, і зазвычай пад іх падганяюцца асобныя элемэнты творчасьці таго ці іншага пісьменьніка бяз сувязі з цэлым. Запазычанае-ж разуменьне прышываецца да цэлага, словам, часткамі кваліфікуецца цэлае. Гэта можна тлумачыць тым, быць можа, што некаторыя крытыкі імкнуцца паказаць, што і ў беларускай літаратуры былі такія зьявы, як і „ў людзей".

У іншакраёвых літаратурах, і крытычнага і навуковага характару, аб мастацкай творчасьці тварыліся і зараз творацца разуменьні на падставе пэўных фактаў і зьяваў, і гэтыя разуменьні выражаюцца тымі ці іншымі тэрмінамі. Усякія новыя факты ці іх сыстэмы выклікаюць стварэньне і новых разуменьняў і разьвіваюцца нятэрміны, а разуменьні, і калі-б гэтага апошняга ня было, то не адна-б навука і іншакраёвая не сягнула да агульналюдзкіх узвышшаў.

У навуках іншых краёў пэўным тэрмінам азначаецца разуменьне, якое абхапляе пэўны круг фактаў, рэчаў ці зьяваў у той ці іншай галіне людзкога пазнаньня. Вось гэты момант часта і абмінаюць нашы крытыкі, перасаджваючы той ці іншы тэрмін з чужога краю на родную глебу. У выніку за мёртвым ня відаць і жывога: разуменьне нараджаецца ня з фактаў, а з перасаджаных тэрмінаў. Так, гэта цікавае зьявішча. Часта добрыя імкненьні крытыкаў дасягалі (дасягаюць і цяпер яшчэ!) зусім адваротных вынікаў. І гэта зразумела. Прычэплівайцца да тэй ці іншай літаратурна-мастацкай творчасьці, якая мае сваю ўласную каштоўнасьць, шыльда романтызму або сымболізму, або рэалізму і г. д., бо ў гэтай, бачыце, творчасьці ёсьць такія элемэнты. І вось чытач правярае правіловасьць такой ацэнкі ці такога кваліфікаваньня шляхам параўнаваньня з літаратурнымі рэчамі і зьявамі іншых краёў, што зьявіліся грунтам для стварэньня такіх разуменьняў, як романтызм, сымболізм і інш., тэрміны якіх прыстасовны і да беларускіх твораў тым ці іншым крытыкам. Параўноўвае і ўрэшце нечаканы вынік: „бедная беларуская літаратура" і моцнае, часам, слоўца ў агарод крытыка. І на яго боку праўда, бо для чытача патрэбна ня шыльда. хоць-бы і залатымі літарамі напісаная, ня шыльда, хоць-бы і з моцным „эўропейскім" словам, а ключ, мэтад да правіловага зразуменьня літаратурна-мастацкіх фактаў, да правіловай ацэнкі яго, а адгэтуль ужо і ключ да стварэньня правіловага разуменьня аб пэўных фактах мастацкай творчасьці.

Даць гэты ключ чытачу і падставу для навукі—вось сапраўдная мэта крытыкі. Бо й сапраўды, калі хто, ня маючы такога ключа, а казаў, што „ў беларускай-жа літаратуры няма нічога", то ў гэтай няпраўдзе было шмат і праўды. Ну, што ёсьць у беларускай літаратуры ад тых іншакраёвых разуменьняў, тэрмінамі якіх хрысьцяць нашых пісьменьнікаў крытыкі? Што за романтызм, прадстаўнікамі якога лічацца Баршчэўскі, Рыпінскі і інш? Або што за сэнтымэнталізм у асобе Марцінкевіча. Або што за сымболізм у постаці волата беларускай песьні Я. Купалы, ці што за імпрэсыянізм або „мастацтва для мастацтва" ў адзінстве творчасьці М. Багдановіча і г. д. і г. д.? Бязумоўна, такое кваліфікаваньне і разьмеркаваньне па рангах—вялікая памылка. Яно зьніжае каштоўнасьць нашых пісьменьнікаў і зьмяншае (калі зусім ня зводзіць да нуля) значэньне іх творчасьці ў сям'і літаратур сьвету, вядома, сьвету не буржуазнага, не капіталістычнага, а сьвету новага, сьвету рабочых і сялян, сьвету прыгнечаных народаў, якія зараз абуджаюцца, адраджаюцца і йдуць на зьмену сьвету, што аджывае свой кругабег і існаваньня, і панаваньня, і задаваньня таноў на ўсе чатыры стораны сьвету. І сапраўды, мала хто зацікавіцца Я. Купалам, гэтым асілкам беларускай песьні—прачытаўшы ў аднаго вельмі паважанага крытыка, што ў Купалы ёсьць „агностыцызм" Спэнсэра ці некага іншага, не памятую ўжо.—Вось, скажа той, што гэтае прачытаў пра Купалу, Амэрыка. І якія спрытныя гэтыя беларускія поэты: нашто, кажуць, сваёю мазгаваць, калі чужыя ўжо даўно адмазгавалі...—І хіба „агностыцызм"

цікавы у Купалы, а ня сам Купала, як творчая постаць. І няўжо гэта на „агностыцызм“ пішуцца вершы, песьні ці поэмы, а не на нешта большае. Нашто-ж гады „трактаты“. І ці ня зьвернецца той, хто хоча ведаць гэту „агносію“, да першакрыніцы, скажам, хоць-бы да таго самага Спэнсэра. Я ня ведаю ці „агностык“ ці проста „гностык“ той, хто выдумаў „агностыцызм“, але што Я. Купала не „агностык“ гэтаму ўжо сьведка яго пладавітая творчасьць, значыць, ён шмат знаў і ведаў, калі меў што казаць людзям (грэцкае ἄγνωστος=невядомы).

Купала ў нас яшчэ ня вывучаны, як і іншыя. Тэрміны-ж романтызм, сымболізм, імпрэсыянізм і інш. азначаюць разуменьні пэўных кірункаў, зьвязаных з пэўнымі сьветаглядамі, якія вызначаліся грамадзкімі адносінамі на аснове экономічнага і культурнага стану таго ці іншага краю ў пэўны гісторычны момант. Зьмяняліся гэтыя апошнія, дык распадаліся ўзросшыя на іх аснове і сьветагляды і ўзрасталі новыя. Так, скажам, романтызм быў рэакцыяй супроць рацыяналістычнага кірунку XVIII стагодзьдзя і ў сваю чаргу зьмяніўся рэалізмам. Ён быў выражэньнем індывідуалістычных імкненьняў пачатку XIX ст. знайсьці спакой у патайным, змрочным і надгорным сьвеце. Такіх сьветаглядаў, як цэльных сыстэм, мы не знаходзім у беларускай творчасьці, бо для іх разьвіцьця на Беларусі ня было адпаведных умоваў. Ёсьць асобныя элементы, але па іх характару кваліфікаваць цэлае творчасьці ёсьць памылка.

## VII

Асаблівасьці бытаваньня, жыцьця і гісторыі Беларусі, асаблівасьці ўмоваў экономічна-соцыяльнага і культурна-нацыянальнага разьвіцьця Беларусі, якія яе вылучаюць і адрозьніваюць ад іншых краёў, не маглі ня ўплываць на вызначэньне характару грамадзкай сьвядомасьці, а цераз гэта і на характар беларускай літаратуры.

У географічным становішчы Беларусь займае цэнтральнае месца Эўропы- -гэта стык Усходу і Заходу, Поўначы і Паўдня яе. Гісторыя Беларусі ведае не адну плынь, што праходзіла праз Беларусь з усіх гэтых бакоў у процілежны. Праз Беларусь праходзіла не адна плынь імпэрыялістычная, што імкнулася захапіць гэты стык пад сваю абладу. Адгэтуль спрэчкі за Беларусь, цяганьне яе то на поўдзень, то на поўнач, то на захад, то на ўсход. Адгэтуль-жа і наплывы на яе як экономічнага, так і культурнага характару. Сапраўды, гісторыя Беларусі—гэта гісторыя крыжа -вобраза і сымболя, які так часта фігуруе ў беларускай творчасьці, асабліва ранейшай пары.

Гэта ўсё зьяўляецца агульнаю асаблівасьцю быцьця Беларусі, якое вызначае сабою ў асноўных рысах асаблівасьці як сьвядомасьці, так і характару беларускай мастацкай творчасьці ў той ці іншы кругабег і якое стварае ўрэшце самабытнае літаратурнае быцьцё. Адгэтуль выплывае неабходнасьць у вывучэньні гісторыі беларускай мастацкай літаратуры вызначыць зьмест разуменьня „самабытнасьці“, што адрозьнівае беларускую літарару ру ад самабытных літаратур іншых краёў. Туж ужо патрэбна вялікая, нават чарнавая яшчэ, праца па вывучэньню літаратурна-мастацкіх твораў на беларускай мове. Болей таго, я-б сказаў, патрэбна „рэвізія“ ўсяго, што напісана пабеларуску, рэвізія ў сьвеце дыялектычна-матар'ялістычнага сьветагляду, у выніку якое напэўна шмат што адсеецца ад гісторыі беларускай літаратуры, або набудзе праўдзівае значэньне ў яе разьвіцьці.

Я не сьцьвярджаю, але, быць можа, што ў выніку такой працы прыдзецца такіх пісьменьнікаў, як Баршчэўскі, Рыпінскі і інш, аднесьці да гісторыі польскай літаратуры на Беларусі[1]), а такіх як Шпілеўскі, Пшчолка і інш да гісторыі расійскай літаратуры на Беларусі. Патрэбны дакладныя адзначэньні ўсіх *літаратурных плыняў*, што мелі месца на Беларусі, а дзеля гэтага неабходна стварэньне адпаведных і разуменьняў, адкінуўшы тыя з запазычаных тэрмінаў якія не адпавядаюць сапраўднасьці і фактычна змазваюць гісторыю беларускай літаратуры ды абніжаюць яе каштоўнасьць і значэньне як аднаго з чыньнікаў адраджэньня Беларусі, а ў сучасны *момант і чыньніка* соцыялістычнага будаўніцтва.

Фактычна гісторыя беларускай літаратуры пачынаецца з пары Ф. Багушэвіча. *Літаратуру* да багушэвіцкага кругабегу неабходна вывучаць як літаратуру на Беларусі, якая адыграла негатыўную ролю ў справе адраджэньня беларускай літаратуры. Гэта *літаратура была* чыньнікам імпэрыялістычных імкненьняў, з аднаго боку, панскай Польшчы, а з другога, царскай Расіі да захапленьня Беларусі ў свае рукі. Літаратура *была* чыньнікам імпэрыялістычных змаганьняў між гэтымі краямі, была зброяй іх дзейнасьці, накірованай да асыміляцыі Беларусі. Пісьменьнікі да багушэвіцкага кругабегу, пішучы ў *пераважнасьці на* польскай або расійскай мовах, карысталіся беларускай, як мясцовай, гутаркай пануючых моваў, з мэтай, у пераважнасьці, паказаць сапсаванасьць *гэтых моваў на* ўскрайнах або крэсах. Яны карысталіся беларускай мовай, як сродкам таго, што ў выніку прывяло беларусаў да чуманьня, што іх мова—гэта мова *мужыцкая, хлопская*, і ў лепшым ужо разе, простая; прывяло да таго, што беларус-селянін пачаў казаць „выйсьці ў людзі" або „вывесьці ў людзі", што адзначала небходнасьць ці патрэбу для таго, хто *хоча лічыцца чалавекам*, успрыняць адну з людзкіх моваў або польскую або расійскую, а сваю адкінуць. І ня ведалі, мусіць, тыя пісьменнынікі, што „ўсё плыве і ўсё мяняецца", што колькасьць пераходзіць у якасьць і надварот. І калі-б яны ведалі, што факты ўжываньня імі беларускае мовы ўрэшце стануць у супярэчнасьць з тымі формамі, у якіх яна *мела месца, то, напэўна-б*, яе стараніліся нават і ў тых выпадках, калі яна бралася як об'ект нечага сьмешнага і забаўнага.

Сталася-ж урэшце вось што. Літаратура на Беларусі да багушэвіцкага кругабегу дала фактычны матар'ял, які сьцьвярджалася існаваньне ў тым краі, што часта называўся *нават не сваім імем*, нечага „самабытнага", нечага асаблівага, што не ўкладаецца ў рамкі польскага або рускага. Вось гэта і было той супярэчнасьцю, якая разьвіваючыся ў *зазначаных рамках*, урэшце прывяла да разбурэньня саміх рамак і паўстала, як факт самабытнага і самастойнага жыцьця беларускай літаратуры. Такім чынам, літаратура да-багушэвіцкага кругабегу адыграла ролю далакопа для сваіх-жа, з аднаго боку, шляхэцкапольскіх, а з другога, царска-расійскіх тэндэнцый ў Беларусі, а значыць і ў літаратуры. Яна *міжвольны далакоп тых* сьветаглядаў, у якіх адводзілася месца і „беларускаму элемэнту". Марцінкевіч найвысшы пункт прадвесьня беларускай літаратуры, ён завяршальнік да-багушэвіцкага кругабегу.

Так сталася ня толькі ў літаратуры. Вядома таксама, што і К. Каліноўскі зьявіўся на фоне *шляхэцка-польскіх дачыненьняў* да царскай

[1]) Пар. з думкамі Ўс. Ігнатоўскага аб „беларускай школе" у польскай літаратуры („Кароткі нарыс культурна-нацыянальнага адраджэньня. „Вольны сьцяг" №№ 3. 4. 5. 6)

Расіі і, урэшце, стаў першым сьвядомым далакопам польскіх прэтэнзій на Беларусь і першым піонэрам у справе політычнага адраджэньня Беларусі. У гэту пару выступае і Ф. Багушэвіч, а таму яго творчасьць набывае асаблівае значэньне ў гісторыі беларускай літаратуры, калі-б параўняць, то такое-ж значэньне, якое меў Т. Шэўчэнка ў гісторыі ўкраінскай літаратуры. Ня дарма некаторыя лічаць Ф. Багушэвіча, і не без падставы, бацькам беларускай літаратуры.

Багушэвіч зьяўляецца ў шэрагу іншых сваіх сучасьнікаў найяскравейшым выявіцелем беларускай сьвядомасьці свайго часу, як нечага самабытнага. Вось чаму ён і першы творца таго літаратурна-мастацкага быцьця, якое вызначыла сабою кірунак літаратурнай (а праз гэта і грамадзкай) сьвядомасьці на такі доўгі час, як да Кастрычнікавай рэволюцыі, і якое ня страціла свайго значэньня і ў сучасную пару. З Багушэвіча пачынаецца жыцьцё беларускай літаратуры, якое выносіць на сьвет такіх таленавітых поэтаў, як Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч, А. Гарун, З. Бядуля і інш. Гэта жыцьцё беларускай літаратуры ў яе адраджанізьме. Адраджанізм - галоўная адзнака першага кругабегу жыцьця беларускай літаратуры. Тут ужо выяўляюцца парасткі таго „сынтэзу і стройнай сугучнасьці романтызму жыцьця з яго рэалізмам“, пра які кажа Я. Пушча ў прадмове да свайго зборніку вершаў „Vita“, калі яго разумець як сугучнасьць романтыкі жыцьця з яго рэальнасьцю, а не як сынтэз літаратурных кірункаў.

Другі кругабег у жыцьці беларускай мастацкай літаратуры ўжо зьвязваецца з Кастрычнікавай рэволюцыяй і імкненьнем да стварэньня беларускай пролетарскай літаратуры. Вядома, што будзе і трэці кругабег, у якім жыцьцё беларускай літаратуры дасягне свайго найвысшага разьвіцьця, каб даць урэшце месца новаму кірунку беларускай літаратуры, як літаратуры ўжо соцыялістычнай грамады. Зараз беларускае прыгожае пісьменства ў сваіх найяскравейшых праявах знаходзіцца напярэдадні гэтага трэцяга кругабегу ў разьвіцьці беларускай мастацкай літаратуры.

## VIII

Ува ўсякай творчасьці адрозьніваюцца два фактары: 1) тое, з чаго творыцца, або матар‘ял і 2) тое, што творыць, або творчая існасьць. Адзінства гэтых фактараў зьмяшчаецца ў сьвядомасьці таго, хто творыць. Па-за сьвядомасьцю пачынаецца адрознасьць гэтых двух чыньнікаў творчасьці. Сама творчасьць абумоўліваецца наяўнасьцю ўзаемадзеяньня паказаных фактараў у сьвядомасьці, якое зьмяшчаецца ў тым, што кожны з фактараў у гэтым адзінстве адмаўляецца другім. Першы фактар—матар‘ял—мае характар узгляднa пасыўны і бясформны; другі—творчая існасьць мае ў сабе пачатак актыўнасьці і формы. Бясформнае адмаўляючы форму становіць сьвядомасьць, як творчую існасьць, матар‘ялам; у сваю чаргу пачатак формы, адмаўляючы бясформнасьць, становіць матар‘ял формаю сьвядомасьці. Ад такога ўзаемадзеяньня сьвядомасьць перастае быць уласнасьвядомасьцю і пераходзіць у твор, які прадстаўляе сабою як-бы сынтэзу сьвядомасьці, як матар‘ялу, і матар‘ялу, як формы сьвядомасьці, але ні тое ні другое, узятае ў васобку. Такім чынам, твор гэта ёсьць матар‘ялізаваная сьвядомасьць у аформованым матар‘яле. Ён прадстаўляе сабою як-бы застыўшы процэс творчасьці, у якім сьвядомасьць становіць аформованы праз матар‘ял зьмест вышэйшай ступені свайго разьвіцьця.

Віды творчасьці вызначаюцца матар'ялам, які становіць сабою ў сьвядомасьці адзін з фактараў самой творчасьці. Так літаратурна-мастацкая творчасьць вызначаецца словам, выяўленчае мастацтва фарбамі і лініямі, музычная творчасьць—гукамі і т. д. Слова ў творчым процэсе ўяўляе сабою матар'ял, як нешта ўзгляднa пасыўнае і бясформнае. Поэта або пісьменьнік, апазнаючы гэты матар'ял сваею творчаю існасьцю, адмаўляе яго бясформнасьць і надае формальнае адзінства рознастайнасьцям яго і гучаньня і зьначэньня, вынікам чаго і і зьяўляецца літаратурна-мастацкі твор. Але матар'ял не зьяўляецца адзіным фактарам у вызначэньні відаў творчасьці. Поруч з ім вялікае значэньне мае і другі фактар. Характар творчай існасьці, якім вызначаецца накіраванасьць самой творчасьці ў сэнсе задаваленьня тых ці іншых патрэб або ў сэнсе неабходнасьці разьвязаньня паўстаўшай жыцьцёвай задачы, вызначае сабою і віды творчасьці. Так, калі мы кажам мастацкая літаратурная творчасьць, то *адзнака „мастацкая" ў дадзеным выпадку* грунтуецца на другім фактары, які прадстаўляе сабою асобага роду творчую існасьць *чалавека ці, праўдзівей сказаць, асобны яе кірунак*, што выклікаецца эстэтычнымі патрэбамі чалавека. На задаваленьне гэтых *патрэб у першую чаргу* і йдзе літаратурна-мастацкі твор, як і наогул усякае мастацтва. Гэта, бязумоўна, не выключае таго што мастацтва служыць і іншым інтарэсам Мы тут толькі зазначаем, што гэтым і іншым інтарэсам мастацтва служыць не беспасрэдна, а толькі цераз задаваленьне эстэтычных патрэб.

Літаратурна-мастацкі твор, як і ўсякі іншы прадукт творчасьці, па-за межамі сьвядомасьці зьяўляецца як-бы мёртваю яе формаю. Ён пачынае жыць толькі тады, калі зьліваецца ў некаторае новае адзінства (у адрознасьць ад творчага адзінства) у сьвядомасьці чытача, слухача і г. д. У гэтым адзінстве ён, як пачатак формы ўжо становіцца як-бы ў супярэчнасьць з матар'ялам сьвядомасьці. Твор цераз адмаўленьня формы робіцца зьместам ужо новага моманту ў разьвіцьці сьвядомасьці. Разьвязваньнем гэтых супярэчнасьцяй зьяўляецца разуменьне аб творы або крытыка. Такім чынам, крытыка гэта як-бы застыўшы процэс чытаньня, новае формальнае адзінства рознастайнасьцяў зьместу сьвядомасьці, які складаецца, з аднага боку, з літаратурна-мастацкага твору або іншага продукту мастацтва, а з другога—з усялякага іншага матар'ялу, *набытага жыцьцёвым вопытам*. Крытыка зьмяшчае ў сабе і тое, што ад твору, і тое, што ад сьвядомасьці, *ці іначай кажучы, што ад асьвядомленага матар'ялу*. Гэта другі ўжо момант у разьвіцьці сьвядомасьці па лініі мастацкай творчасьці.

Трэцім момантам ці ступеньню ў гэтым разьвіцьці зьяўляецца *навука аб мастацтвах. У адзінстве навуковага пазнаньня мастацкі твор* зьяўляе сабою і форму (твор, як форма матар'ялізацыі сьвядомасьці) і зьмест (твор, як зьмест крытыкі ці наогул разуменьня чытача). Гэтыя форма і зьмест адмаўляюцца тут адцятасьцю, у выніку чаго ўтвараецца чыстае разуменьне або паняцьце мастацкаго твору, якое ўваходзіць у склад *ужо трэцяга формальнага адзінства рознастайных ад*цятасьцяў, іначай кажучы, яно складае адзін з элемэнтаў тэй ці іншай гіпотэзы або тэорыі, або сыстэмы паняцьцяў.

Кожная з вызначаных галін разьвіцьця сьвядомасьці не зьяўляецца нечым абмяжованым і нямаючым адна на другую аніякага ўплыву. Разьвіцьцё сьвядомасьці абумоўліваецца ўзаемадзеяньнем усіх галін людзкога пазнаньня, і ў гэтым разьвіцьці вялікую ролю адыгрываюць

і моманты творчасьці па мастацкай галіне. Бязумоўна, высокасьць і вялікасьць мастацкага твору залежыць перадусім ад вялікасьці і багацьця рознастайнасьцяў матар'яльных, як аднаго з фактараў творчасьці. Багацьцем матар'ялу вызначаецца і ступень разьвіцьця як крытычнага, так і навуковага. Пры гэтым самым важным момантам ува ўсіх трох родах творчасьці, аб якіх казалася вышэй, менавіта: літаратурна-мастацкай, крытычнай і навуковай, зьяўляецца момант надаваньня рознастайнасьцям матар'ялу формальнага адзінства, ці іначай кажучы момант творчасьці форм. Усякая творчасьць ёсьць творчасьць форм. Спыняецца творчасьць, але формы ня зьнікаюць. Яны як-бы сьлед творчасьці. Яны мёртвы, калі знаходзяцца за межамі чалавечай сьвядомасьці, і жывуць, калі пападаюць на поле гэтай сьвядомасьці. У сьвядомасьці яны жывуць, як-бы распадаючыся, для таго, каб увайсьці элемэнтамі сваімі ў склад новай вышэйшай формы, што ўтвараецца на грунце першых.

**Праф. І. І. Замоцін**

# М. А. Багдановіч[1])

(*Крытычна-біографічны нарыс*)

*Тэматыка ў творчасьці М. Багдановіча; сувязь яе з крыніцамі творчасьці; яе зьмест. Тэматыка беларускай прыроды і быту. Тэматыка соцыяльна-культурных проблем; псыхолёгічныя тэмы ў поэзіі М. Багдановіча. Тэматыка, зьвязаная з літаратурнымі крыніцамі у творчасьці М. Багдановіча; яго мастацкі фольклёрызм, славянскія заходня-эўропейскія тэмы і мотывы ў яго поэзіі Ідэолёгічны бок у поэзіі М. Багдановіча; пытаньни аб яго пэсымізьме.*

Як відаць з папярэдняга нарысу, крыніцы творчасьці М. Багдановіча ўкладваюцца ў нескладаную параўнаўча схэму: бацькаўшчына і ўплывы, з ёю зьвязаныя, сучасныя поэце соцыяльна-культурныя проблемы і настроі і, нарэшце, уласна літаратурныя крыніцы яго твораў. Гэтыя крыніцы абумоўлівалі сабою яго тэматыку, узятую ў асноўных групоўках яго тэм і мотываў.

Тэматыка—гэта тое, аб чым гаворыць поэта; тое, у што ён перастварае крыніцы творчасьці, г. зн. і свае нагляданьні над вакольным жыцьцём і свае інтымныя ўнутраныя перажываньні. Але тэматыка—гэта і тыя формальныя шляхі, г. зн. сюжэты, жанры, композыцыйныя схэмы, па якіх ідзе перагварэньне крыніц творчасьці ў закончаныя мастацкія вобразы, малюнкі, сцэны,—у цэлыя творы. Вось чаму тэматыку можна разглядаць і як суму мастацкіх зарысовак жыцьця, і як суму мастацкіх способаў, г. зн. сюжэтаў, мотываў, жанраў, пры дапамозе якіх аформляюцца гэтыя зарысоўкі. У першым выпадку аналіз тэматыкі будзе галоўным чынам соцыялёгічны, які ўвязвае зьмест творчасьці з соцыяльна-культурнымі абставінамі эпохі; у другім выпадку ён будзе галоўным чынам формальна-мастацкі, г. зн. будзе раскрываць формальную прыроду сюжэтаў, мотываў, жанравых пабудоў у творчасьці.

У гэтым нарысе я маю на ўвазе соцыялёгічную ацэнку тэматыкі М. Багдановіча, пакідаючы формальную ацэнку для спэцыяльнага этуду, які павінен быць прысьвечаны агляду яго поэтыкі.

Тэматыка творчасьці М Багдановіча, узятая ў роўніцы свайго зьместу, у якім адлюстроўваецца асабовае жыцьцё поэты і яго адносіны да вакольнай рэчаіснасьці, бязумоўна, займе ў гісторыі беларускай літаратуры нашаніўскае пары выдатнае месца, як па рознастайнасьці тэм, так і па іх орыгінальнай апрацоўцы.

Возьмем тэмы, якія зьвязаны з першай крыніцай—бацькаўшчынай поэты і яе ўплывам на яго. Гэтыя тэмы праходзяць праз асобныя разьдзелы яго вершаў- і праз творы 1908—1917 г.г., якія ня былі зьмешчаны ў „Вянку“, і праз самы зборнік „Вянок“ Іх вельмі шмат, іх ня трэба пералічваць: за выключэньнем некаторых вершаў, якія маюць сваім зьместам выключна інтымныя перажываньні поэты або абставіны яго жыцьця на чужыне (галоўным чынам у Яраслаўлі), або, нарэшце, некаторых (таксама далёкіх па тэме ад уражаньняў бацькаўшчыны) твораў, як нерытмованы верш „Над морам“ (№ 22), рэшта неразлучна

---

[1]) Гл „Узвышша“ №№ 2 і 3

зьвязана з бацькаўшчынай і адлюстроўвае яе поўна і living рознастайна. Пры гэтым заслугоўвае ўвагі тая асаблівасьць здольнасьці М. Багдановіча, што ён—больш лірык, чым эпік,—амаль у кожным вершы настолькі перамагае свой прыродны мастацкі індывідуалізм, што часта дае тыповыя зарысоўкі беларускай прыроды і жыцьця, якія вызначаюцца той умоўнай об'ектыўнасьцю, якая даступна ня кожнаму лірыку. Вось чаму ў вершах М. Багдановіча на беларускія тэмы мы знаходзім ня проста агульныя імкненьні поэты да бацькаўшчыны, але і конкрэтныя адлюстраваньні беларускай прыроды, беларускага быту і псыхікі працоўнага беларуса,—адным словам, усе тыя тэмы, якія дазваляюць крытыку-соцыолёгу ўвязаць лірыку поэты з соцыяльна-культурнымі абставінамі жыцьця яго часу.

Зарысоўкі беларускай прыроды мы знаходзім у целым шэрагу вершаў, напр., у №№ 9, 10, 11, 12, 13, 14, 15, 16, 17 і г. д. у першым разьдзеле і яшчэ больш у разьдзеле „Вянок“, дзе першыя тры цыклі вершаў амаль усе скомпанованы на фоне малюнкаў беларускай прыроды. Але, вядома, ня тое толькі важна, што М. Багдановіч малюе ў сваіх вершах прыроду: гэта робяць і другія поэты яго пары. Важна тое—з пункту погляду крытыка-соцыолёга,—у якой меры ўдаецца М. Багдановічу падвесьці ў гэтым выпадку сваіх чытачоў да таго пазнаньня жыцьця, якога соцыолёгічная крытыка з поўным правам шукае ў творах мастацтва. У гэтым пункце якраз і ёсьць уласьцівая М. Багдановічу асаблівасьць яго тэматыкі беларускай прыроды: ён удачна схоплівае якраз яе абагульняючыя рысы і дае звычайна сьціслыя, але ў той-жа час, бязумоўна, тыповыя, зарысоўкі беларускіх краявідаў і пэйзажаў. Гэта тым больш звярочвае на сябе ўвагу, што поэта да 1911 году ня бачыў беспасрэдна беларускай прыроды, а пазнаваў яе апасрэднымі шляхамі (цераз апавяданьні другіх асоб, апісаньні, ілюстрацыі і г. д.). І тым ня менш даволі прачытаць некалькі юнацкіх яго вершаў, якія напісаны яшчэ да 1911 году, напр. „Лясун“ (№ 11), „Старасьць“ (№ 12), „Асеньняй ноччу“ (№ 14), „Падвей“ (№ 15) і г. д., каб схапіць агульны колёрыт і нават агульныя вобразныя адзнакі пэйзажу беларускага лесу і поля. Поэта не дэталізуе сваіх малюнкаў, таму што ён піша не на аснове асабовага вопыту, а больш па дагадцы, інтуіцыйна; ён опэруе тут нязначным лікам мазкоў і контураў для сваіх зарысовак (цёмная пушча, мох, сьпелая брусьніца, галіны вальхі і г. д.), але дзякуючы ўдачлівай композыцыйнай растаноўцы і адпаведнай рытміцы і рыфмоўцы ад гэтых нязначных лікам і простых элемэнтаў малярства атрымоўваецца закончанае тыповае цэлае, якое робіць ураханьне конкрэтнасьці і колёрытнасьці. У наступныя гады, калі ў яго, дзякуючы паездцы на бацькаўшчыну ў 1911 годзе, набраліся ўласныя ўражаньні ад беларускае прыроды, яго малюнкі сталі прыкметна дэталёвей, але захавалі гэты пераважны ўхіл у бок абагульненьня і тыпізацыі. У гэтых адносінах, як прыклады, асабліва цікавы вершы „Ізноў пабачыў я сялібы“ (№ 49, 1913 г.), „Споўненае абяцаньне“ (№ 50, 1913 г.), „У вёсцы“ і „Вэроніка“ (№№ 183—184, 1911-12 г.); у гэтых вершах заросшая травой сяліба, прарэзаны чыгуначным насыпам і заліты сонцам бор, убогі вясковы краявід, з крывой ігрушай і разнаколёрным макам, адзічэлы сад пры старасьвецкім доме—усё ўзьведзена ў шэраг няштучна-простых і ў той-жа час мастацка-закончаных тыповых малюнкаў, якія бязумоўна даюць чытачу пазнаньне беларускай прыроды, ўзятай у мастацкіх абагульненьнях.

Ухіл да тыпізацыі—гэта адна з асаблівасьцяй тэматыкі М. Багдановіча, у тым ліку і яго тэматыка прыроды. Другая асаблівасьць—

увязка з малюнкамі прыроды вобразаў і малюнкаў мітатворчага зьместу. Ізноў-жа гэта не вынаходка М. Багдановіча. Карыс аньне мітатворчымі мотывамі ўласьціва і другім беларускім поэтам. Ды і наогул у эпоху М. Багдановіча, калі ажывіўся ў літаратуры мастацкі фольклёрызм, зварот да міту, легенды, народна-поэтычнага вобразу зрабіўся адным з мастацкіх спосабаў ў поэзіі, асабліва ў школе сымболістых, паасобку, напр., у Бальмонта, Блока, А. Белага і інш. Але адносіны М. Багдановіча да мітатворчасьці—свае, асаблівыя. Ён не навязвае народным міталёгічным вобразам тых ці іншых сымболісцкіх настрояў і перажываньняў, але ўспрыймае гэтыя вобразы беспасрэдна, проста, з якойсьці дзіцячай наіўнасьцю і даверчывасьцю, г. зн амаль зусім так, як ён, мабыць, успрымаў іх у маленстве з апавяданьняў бацькі і з першых кніг для чытаньня. Гэта зусім ня значыць, што поэта не падняўся вышэй народнага сьветаразуменьня,—гэта значыць усяго, што ён здолеў успрыняць гэта сьветаразуменьне і памастацку яго выказаць; вось чаму яго малюнкі прыроды ня толькі тыповы па свайму конкрэтнаму зьместу, але яны псыхічна блізкія да народнага ўспрыяцьця прыроды. Адсюль зразумела, што малюнкі прыроды, зарысованыя М. Багдановічам у мітатворчых тонах, ня робяць ураджаньня вузкай тэндэнцыйнасьці, а ўспрымаюцца лёгка і жыва. Такім чынам, і тое прозьвішча „Лесавік“, якое было дадзена поэту адным з яго крытыкаў у першыя гады яго супрацоўніцтва ў „Нашай Ніве“, не павінна ў сучасны момант гучэць, як дакор яго літаратурнаму дзівацтву, а хутчэй як прызнаньне за ім мастацкага чуцьця да народнай мітатворчасьці. У кожным выпадку ўсе вершы на тэмы з беларускай прыроды, напісаныя ў мітатворчых тонах, чытаюцца і зараз з вялікай цікавасьцю і робяць вялікае ўражаньне сваёй беспасрэднай блізкасьцю да народна-поэтычных вобразаў і мотываў (напр. „Хрэзьбіны лясуна“—№ 9, „Лясун“—№ 11, „Старасьць“ - № 12, „Падвей“—№ 15, „Зьмяіны цар“—№ 23, „Срэбныя зьмеі“—№ 33, цыкль „У зачарованым царстве“—№№ 91—98).

Трэцяя асаблівасьць М. Багдановіча, якая датычыць зьместу яго тэматыкі наогул і тэматыкі прыроды ў паасобку,—гэта няўхільнае для яго малюнкаў прыроды ідэёвае або псыхолёгічнае іх аформаваньне, якое надае яго малюнку пэўнае ўнутранае адзінства і асьвятленьне. Прысутнасьць у мастацкім творы адзінай асновы, якая яго аб‘ядноўвае, думкі, або, прынамсі, адзінага настрою, які яго прасякае,—гэта, можна сказаць, элемэнтарная ўмова мастацкасьці, без якой праца мастака слова ня можа лічыцца закончанай. У гэтым выпадку М. Багдановіч робіць тое, што павінен рабіць кожны поэта, які мае сваё мастацкае чуцьцё. Але ўсё пытаньне якраз у тым, як ён гэта робіць. Ён не надае сваім малюнкам якіх-небудзь пэўных філёзофскіх формул або мотываў (напр., з галіны пантэізму або з галіны містыкі, якою карысталіся ў яго час сымболістыя), не надае ім таго ці іншага тэндэнцыйнага асьвятленьня—публіцыстычнага або моральнага; ён проста ўвязвае з імі свае асабовыя перажываньні або мотывы свайго асаблівага светаадчуваньня, але ўвязвае шчыльна, да ступені пранізваньня гэтымі мотывамі ўсіх частак яго поэмы; пры гэтым яго асаблівыя перажываньні ў гэтым выпадку не выпадковыя і не разлучныя, таму што ўсеяны групуюцца вакол аднаго стрыжня—і якраз не навокал прыроды, ўзятай сама па сабе, але прыроды, ўзятай у сэнсе яе ўплыву на чалавечую псыхіку, на склад нашага сьветаадчуваньня,—значыць у сэнсе, так сказаць, яе чалавечай значымасьці.

Такім чынам, малюнкі беларускай прыроды, нарысованыя М. Багдановічам, могуць быць названы складанымі, паколькі яны складаюцца

з трох частак: асноўнага фону—рэальнага малюнку прыроды, верхняга напластаваньня—мітатворчых контураў і вобразаў і адзінага ідэёва-псыхолёгічнага аформаваньня, якім прасякнута ўся зарысоўка ў цэлым. Але пры гэтай складанасьці яго малюнкі просты і суцэльны, бо ніводная частка іх ня выходзіць з агульных рамак, і, наадварот, усе часткі зьліваюцца для чытача ў адно агульнае ўражаньне. У вадным з ранейшых сваіх артыкулаў („Літаратурная спадчына М. Багдановіча"—„*Полымя*" 1927, № 3) *я прыводзіў некаторыя прыклады сваясаблівай* апрацоўкі ў М. Багдановіча тэматыкі прыроды. Малюнак прыроды, ўзяты як nature morte, спачатку ажыўляецца ў яго мітатворчым зьместам, а затым і nature morte і народны міт яднаюцца ў адным ідэёва-псыхолёгічным аформаваньні, якое падказана сьветаадчуваньнем поэты і яго адчуваньнем прыроды. Я напомню гэтыя прыклады, верш „Возера" і „Над возерам" (т. I, №№ 90 і 93). У першым з іх малюнак прыроды ажыўляецца мітам аб загінутым лясуне, пры чым і малюнак прыроды і міт зьвязаны ў адно мастацкае цэлае думкай аб мінулым даўнейшым, у якое сіліцца заглянуць сучаснае. У другім—таксама малюнак прыроды, якая ўся ажыўлена і стылізавана ў духу жывой мітычнай сцэны (русалкі, якія забаўляюцца ў праменьнях месяца), а абодвы малюнкі, зьлітыя ў адно цэлае, прасякнуты адным настроем усёперамагаючай цішыні і спакою надышоўшай ночы. Такіх прыкладаў можна прывесьці даволі шмат. Уважлівы чытач знайдзе падобную-ж апрацоўку тэмы ў вершах „Лясун"—№ 11, „Старасьць"—№ 12 „Вадзянік"—№ 94, „Дзесь у хмарах"—№ 107, „Падымі у гару сваё вока"—№ 113 і інш.

Гэта трохскладаная або, так сказаць, трыадзіная пабудова малюнкаў прыроды ўжываецца М. Багдановічам ня толькі тады, калі ў яго тэму ўваходзяць элементы народнай мітатворчасьці, але і ў іншых *выпадках, г. зн. калі няма наяўна мітычных вобразаў і ўяўленьняў,* з тэю толькі розьніцай, што гады на месца народнай міталёгіі поэта ўводзіць сваё анімізаваньне прыроды, і такім чынам композыцыя яго малюнкаў няўхільна захоўвае сваю сваясаблівую складанасьць. Прыкладамі можна прывесьці наступныя вершы: „Вось і ноч"—№ 27, „У небе ля хмары грымотнай"—№ 97, „Цёплы вечар, ціхі вецер"—№ 101, „Добрай ночы, зара-зараніца"—№ 102, „Плакала чета"—№ 106 і інш. Тут усюды мы *бачым, як поэта сам, уласнымі* мастацкімі сродкамі, ажыўляе прыроду, дапаўняючы гэтым адсутны ў даным выпадку ў яго пад рукой матар'ял народнай мітатворчасьці: наогул-жа малюнак прыроды і тут застаецца трохскладаны, г. зн. складаецца з конкрэтнага рысунку nature morte, з анімізаваньня некаторых зьяў прыроды, якія ўваходзяць у склад гэтага малюнку, і з ідэёва-псыхолёгічнага настрою, які яднае ўвесь малюнак.

У залежнасьці ад першай крыніцы творчасьці (бацькаўшчына і яе ўплыў) знаходзяцца ў М. Багдановіча таксама і тэмы бытавога зьместу. Насычаць тэму бытавым зьместам па дагадцы, ня маючы бес*пасрэдных крыніц і нагляданьняў, было ўжо куды цяжэй, чым праро*бліваць гую-ж работу ў адносінах да тэм прырода-апісальнага характару. Таму ў першых вершах М. Багдановіча, якія былі напісаны яшчэ да паездкі яго на бацькаўшчыну ў 1911 годзе, бытавыя зарысоўкі нявыразныя, малаконкрэтныя і нагадваюць некаторыя агульныя шаблёны як папярэдняй, так і сучаснай яму беларускай поэзіі. Возьмем для прыкладу верш „Мае песьні"—№ 2, „На чужыне"№ 3, „Над магілай"—№ 17, „Скрылась кветамі"—№ 20, „Над магілай мужыка"—№ 25, „Дождж у полі і холад" № 26 і г. д. У гэтых вершах бытавыя зарысоўкі зводзяцца да паасобных рысаў і выразаў: „доля горкая мужыцкая",

„бедная, далёкая старана“, „адзінокая магіла... каля шляху“, „старая магіла сьцяпная“, „труна. . халодная магіла... здабытак бедака“, „радзімая старонка глухая... няшчасная доля яе“ і інш. Пасьля паездкі ў 1911 годзе бытавыя зарысоўкі прымаюць больш конкрэтны выгляд і месцамі вырастаюць да высокага майстэрства. Гэты паварот у яго бытавым малюнку адчуваецца ў зазначаным ужо вышэй вершы „Ізноў пабачыў я сялібы“—№ 49, асабліва-ж гэта прыкметна ў цыклі „Мадонны“ („У вёсцы“ і „Вэроніка“ № 183-4), дзе бытавы фон („вёска... летняю рабочаю парой“, „старасьвецкі дом паноў Забелаў з цяністым адзічэлым садам“ і дзіцячыя гульні у абставінах ціхага мястэчка або хутара) зарысованы ўжо паіншаму, конкрэтна і колёрытна; па гэтых зарысоўках можна констатаваць ня толькі беспасрэднае знаёмства поэты з бытам Беларусі (у паездку 1911 года), але і першыя ўдачныя спробы мастацкага абагульненьня бачаных ім бытавых малюнкаў. Такія малюнкі пасьля 1911 года наогул усё больш і больш удаюцца поэце. Аб гэтым сьведчаць, напрыклад, такія вершы, якія ўваходзяць у „Вянок“, як „Ціхі вечар, зьнікнула сьпякота“ і „Па ляду, у глухім бары“ (№№ 128—129), у якіх бытавыя малюнкі (стары млын і млынар, які замаўляе дзявочую прысуху; глухі пасёлак з трох хат і гаспадар, які робіць абыход свайго поля), хоць і вельмі сьціслыя, але аднак у той-жа час увязаны з якімісьці беспасрэднымі асабовымі ўражаньнямі поэты ад беларускага быту. Між іншым, для першага з гэтых вершаў захавалася ў аўтографах поэты дата 1912 году: такім чынам, ён склаўся пасьля паездкі 1911 года; можна дапушчаць такую-ж прыблізна датыроўку і для другога вершу, час напісаньня якога дакладна не ўстаноўлены. Такую-ж конкрэтную і ў той жа час мастацка-закончаную зарысоўку быту мы знаходзім у тых вершах, якія прысьвечаны гарадзкому жыцьцю („Вянок“, цыкль „Места“—№№ 131—134, 137); у прыватнасьці вершы, тэмаю якіх зьяўляецца гарадзкое жыцьцё Вільні (№№ 131—132), зьвязаны з беспасрэднымі ўражаньнямі ад той-жа паездкі поэты на бацькаўшчыну ў 1911 годзе, і таму ў іх бытавыя малюнкі распрацованы асабліва колёрытна і дэталёва. Трэба адзначыць, што гэта мастацкае ўдасканаленьне бытавога малюнку не абмінула пасьля 1911 году і такіх твораў поэты, якія напісаны на гісторычныя тэмы. Я маю на ўвазе некаторыя вершы, якія ўвайшлі ў цыкль „Старая Беларусь“ („Вянок“—№№ 123—127) і датаваны 1912—1913 гадамі; у іх поэта, кіруючыся сваімі ўражаньнямі ад гісторычнай Беларусі, якія ён набыў ў Вільні, надае і гісторычным малюнкам быту конкрэтны і колёрытны выгляд. Тое-ж самае можна сказаць і пра некаторыя творы, якія былі напісаны ў гэтую пару на народна-поэтычныя тэмы; напр., бытавы бок поэмкі „Мушка-зелянушка“ таксама выпаўнены ў тонах мастацка-рэальнага малярства.

З першай крыніцай тэматыкі М. Багдановіча ўвязваюцца, нарэшце, і тэмы з галіны народнай псыхікі, у апрацоўцы якіх у поэты таксама заўважваецца некаторая эволюцыя. Першы момант у гэтай эволюцыі— зарысоўка прыгнечанай псыхікі працоўнага беларуса, які пакутуе і ў той-жа час няўхільна пакорны сваёй цяжкай долі; гэтыя зарысоўкі зроблены ў мінорных тонах старой літаратурнай народніцкай романтыкі, якой М. Багдановіч сваячасова аддаў некаторую дань. Для прыкладу зазначым на вершы: „Мае песьні“ (№ 1), „З песень беларускага мужыка“ (№ 16-І), „Над магілай мужыка“ (№ 25). Тут перажываньні працоўнага беларуса адбіваюцца, як цяжкае жыцьцё ў роднай краіне, як бязупынная, цяжкая праца, як непрасьветнае гора і, нарэшце, як сьмерць і халодная магіла—адзіны выхад з беднасьці і няволі. Чарговы

момант у эволюцыі тэм з галіны народнай псыхікі—зарысоўкі яе больш бадзёрыя і актуальныя, пабудованыя ўжо ў іншым, чым раней, рэгістры. Тут адбітак народнай нядолі і зьвязаных з ёю настрояў працоўнага чалавека пераходзіць часта ў протэст супроць социяльнай несправядлівасьці старога ладу жыцьця і нават у прадчуваньне блізкага соцыяльнага зруху. Другі з двух вершаў, якія маюць агульны загаловак „З песьняў беларускага мужыка“, у якім соцыяльнае адцураньне багатых ад людзкой беднаты адбіваецца вобразна ў выглядзе вялізнай каменнай сьцяны, канчаецца пытаньнем аб тым, каго пахавае пад сабою гэта сьцяна, калі яна абваліцца: „Што-ж будзе, як дрогне, як рухне яна. Каго пад сабой пахавае?“ Гэтае пытаньне, укладзенае ў вусны працоўнага, соцыяльна пакрыўджанага чалавека, гучыць, як яго намёк на страшнае будучае, і гаворыць аб яго абуджанай сьвядомасьці. Таксама першая з чатырох эпіграм (з цыклю „Усьмешкі“—№ 43) зьмяшчае ў сабе зусім ня двухсэнсавае пярэчаньне мужыка, які зразумеў сваю няволю, па адрасу таго заняволеньня, якое ўтворана для мужыкоў панамі: мужык ужо ведае, што зямля стаіць не на трох кітах, але на мужычай сьпіне, і гэта веданьне хутка ў яго вырасьце ў протэст супроць панскага прыгнечаньня. Бязумоўна, вершаў на тэмы з галіны народнай беларускай псыхікі наогул у Багдановіча мала: для апрацоўкі такіх тэм у яго ня было даволі матар'ялу, таму што, жывучы, галоўным чынам, ў інтэлігэнцкім асяродку, ён мала сутыкаўся з бытам працоўнага чалавека. Але і тыя не шматлікія апрацоўкі тэм гэтай катэгорыі, якія мы толькі што прывялі, гавораць аб тым, што ў гэтых адносінах поэта стаяў на ўзроўні перадавых настрояў і перажываньняў сваёй эпохі.

Другую групу крыніц творчасьці М. Багдановіча мы азначылі, як соцыяльна-культурныя і псыхолёгічныя проблемы сучаснай поэту эпохі. У папярэднім нарысе было ўжо сказана, пад якімі ўплывамі маглі скласьціся соцыяльна-політычныя погляды М. Багдановіча. Як яго бацька, так і тое грамадзкае і кніжнае атачэньне, у асяродку якога ён разьвіваўся ў юнацкія гады, стварылі ў ім адмоўныя адносіны да соцыяльных супярэчнасьцяй яго часу, але разам з тым не далі яму выразнай грамадзка-політычнай програмы. Адсюль усе соцыяльныя тэмы яго вершаў варочаюцца каля аднаго цэнтру—каля пярэчаньняў супроць соцыяльнага зла, і каля набалеўшых пытаньняў соцыяльнага неўпарадкаваньня; часамі гэтыя пярэчаньні вырастаюць у гарачы протэст супроць соцыяльна-політычнага прыгнечаньня, што бывае, галоўным чынам, у тых выпадках, калі поэта прысьвячае соцыяльную тэму цяжкаму становішчу беларускага народу наогул і, у прыватнасьці, соцыяльнаму прыгнечаньню працоўнага беларуса. Такіх вершаў на соцыяльна-політычныя тэмы параўнаўча мала, але яны напісаны з вялікім ўздымам пачуцьця і па ідэёваму афармаваньню належаць да найбольш вытрыманых і выразных. Сюды належаць наступныя вершы: „З песьняў беларускага мужыка“ (№ 16, I-II), „Над магілай мужыка“ (№ 25), „Дождж у полі і холад“ (№ 26), „Пан і мужык“ (№ 43,I), „Народ, беларускі народ“ (№ 47), „Эміграцкая песьня“ (№ 58), „Мяжы“ (№ 59), „Пагоня“ (№ 84), „Краю мой родны“ (№ 142), „Зразаюць галіны таполі“ (№ 145), „Рушымся, брацьця, хутчэй“ (№ 146), „Нашых дзедаў душылі абшары лясоў“ (№ 147), „Вы, панове, пазіраеце далёка“ (№ 164) і інш. У большасьці з іх поэта ставіць пытаньне аб соцыяльным стане працоўнай Беларусі (№№ 16, 25, 26, 43, 47) і вырашае яго, як ужо вышэй было заўважана, нявыключна ў тонах народніцкай романтыкі, але і больш конкрэтна—шляхам заклiку да протэсту і барацьбы супроць соцыяльнага

і нацыянальнага прыгнечаньня бацькаўшчыны; гэты протэстуюча-заклікаючы настрой асабліва адчуваецца ў вершах №№ 47, 84, 145-147; першыя два з іх— „Народ, беларускі народ" і „Пагоня"—і ў ідэёвай і ў мастацкай апрацоўцы прыкметна вылучаюцца з шэрагу іншых; асобнае месца паміж соцыяльна-нацыянальных тэм, апрацованых М. Багдановічам займае верш „Эміграцкая песьня" (№ 58), дзе поэта так конкрэтна і ў той-жа час эмоцыянальна разьвінае перад чытачом пытаньне аб эміграцыі на яго бацькаўшчыне ў дарэволюцыйную эпоху. У некаторых вершах гэтай групы поэта выходзіць з сфэры соцыяльна-нацыянальнай тэматыкі і ставіць пытаньне аб соцыяльных супярэчнасьцях сваёй эпохі наогул, у шырокім ахопе, і трэба падкрэсьліць, што ў гэтым выпадку соцыяльная тэма бярэцца ім глыбока і апрацоўваецца закончана ня толькі ў мастацкіх, але і ў грамадзкіх адносінах; зазначым, напрыклад, на верш „Мяжы" (№ 59) і „Вы, панове, пазіраеце далёка" (№ 164).

Да гэтай-жа другой групы вершаў поэты, якія ўвязаны з соцыяльнымі і псыхолёгічнымі проблемамі, далучаюцца ўсе вершы, напісаныя ім на псыхолёгічныя тэмы, якія маюць ня толькі асабовую, аўтобіографічную, але і агульначалавечую цікавасьць. Гэтых вершаў шмат; можна нават сказаць, што большасьць вершаў Багдановіча,—нават такіх, якія на першы погляд шчыльна зьвязаны з прыродай або бытам,—абавязкова распрацоўваюць тую ці іншую псыхолёгічную тэму, якая надае ўсяму вершу канчатковае аформаваньне, што падказана адным з мотываў аўтарскага сьветаразуменьня. Але, бязумоўна, ёсьць група вершаў гэтага парадку, якія, так сказаць, par exellenc псыхолёгічны. Зазначым некаторыя з іх. Перагартваючы першыя два разьдзелы вершаў, мы спатыкаем паміж іх цэлы шэраг тэм, якія апрацаваны ў роўніцы псыхолёгічных проблем і настрояў; такія, напр. наступныя тэмы: пачуцьцё бадзёрасьці і душэўнага ўздыму („Мая душа"—№ 28), каханьне мацней сьмерці („На могілках"—№ 53), страта блізкага чалавека, як бязвыходнае гора („За газэтай"—№ 60), проблема ўзаемнага каханьня( „Сонэт"—№ 61), шчасьце і радасьць маладосьці („Маладыя гады"—№ 76), („Вышаў з хаты – № 77 , маладосьць, як крыніца жыцьцярадасьці („Мы гаворым удвох"—№ 81), пачуцьцё адзіноты („Ужо пара мне да дому зьбірацца"—№ 82), балючасьць успамінаў („Разрытая магіла" – № 108) і г. д.

Цэлы шэраг вершаў Багдановіча перадаюць рознастайныя адценьні пачуцьця прыроды, якое ў поэты было пачалавечаму вялікасна і артыстычна-густоўна; гэтыя вершы расьсеяны па абодвых першых разьдзелах першага тому,—асабліва-ж іх шмат паміж вершаў „Вянка"; такія, напр., вершы: „Прывет табе, жыцьцё на волі", „Блішчыць у небе зор пасеў", „Добрай ночы, зара-зараніца", „Ціха па мяккай траве", „Вечар на захадзе ў попеле гушыць", „Пады́мі ў гару сваё вока", „Па-над белым пухам вішняў (№№ 99, 100, 102, 103, 104, 113, 114 і т. д.). У гэтай групе вершаў прырода ўспрымаецца, вядома, так, як яна адбіваецца на чуткім апараце псыхікі поэты; але разам з тым паміж рознастайных выпадкаў выяўленьня ў поэты пачуцьця прыроды спатыкаюцца і выпадкі тыповыя, г. зн. уласьцівыя наогул чалавечай псыхолёгіі. Паміж тэм псыхолёгічнага зьместу нельга не адзначыць яшчэ дзьвёх, якія маюць вялікае значэньне для зразуменьня асобы поэты і прыроды яго творчасьці; гэта тэмы, пасьвечаныя пачуцьцю каханьня і пачуцьцю самасьвядомасьці мастака. Першая з гэтых тэм распрацавана М. Багдановічам з вялікім піэтэтам і глыбінёй; пачуцьце каханьня ў яго вельмі рэдка мяжуе і з пачуцьцёвасьцю і звычайна трактуецца як зацікаўленасьць у другой псыхічнай організацыі, або, нават, як імкненьне да другой

псыхікі, душэўна роднай і блізкай; і хоць большасьць яго вершаў на тэмы аб каханьні навеяны яго асабовымі юнацкімі знаёмствамі і захапленьнямі,—захапленьнямі ў большай частцы романтычнага і нават плятонічнага характару,—тым ня менш у яго лірыцы каханьня можна стрэць шмат мотываў, тыповых наогул для пачуцьця каханьня, якое заснована на моральным сваяцтве і адпаведным захапленьні (напр., „Пад ценьню цёмных ліп"—№ 38, „Учора шчасьце толькі глянула нясьмела"—№ 42, „Зорка Вэнэра", романс № 115, „Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы"—№№ 69, 268, „Я вспоминаю Вас"—№ 283 і інш.). Таксама і ў вершах, якія напісаны на тэмы аб мастацкай самасьвядомасьці поэты і наогул аб прыродзе яго творчасьці (напр., Скрылась кветамі"—№ 20, „Ціхія мае ўсе песьні"—№ 29, Пэўна любіце вы"—№ 31, „Замерзла ноччу шпаркая крыніца"—№ 41, „Ліст да Ластоўскага" № 44, „Просьценькі вершык"—№ 46, „Калі ў ракавіну цёмную жамчужніцы"—№ 158, „Вы кажаце мне, што душа ў поэты"—№ 163, „Бывае, вада перапоўніць"—№ 243, „Двайняткі"—№ 244, „Ёсьць гэткая японская забаўка"—№ 246 і інш.) мы знаходзім поплеч з чыста асабовымі прызнаньнямі поэты, якія ўскрываюць інтымныя бакі яго творчай працы, таксама апісаньне і аналіз некаторых агульных тыповых мотываў псыхолёгіі творчасьці. Нельга прайсьці маўчаньнем і тую невялікую паранаўча групу вершаў, дзе поэта гаворыць аб сваім самаадчуваньні хворага чалавека, на якога цёмная здань блізкай сьмерці кідае ўжо сваецені, якія творчую радасьць робяць больш змрочнай. Такія, напр., вершы: „Я бальны, бяскрыдлаты поэт"—№ 6, „Ня кувай ты, шэрая зязюля"—№ 119, „Ой, чаму я стаў поэтам"—№ 151, „Даўно ўжо целам я хварэю"—№ 152. У іх, вядома, поэта гаворыць аб сабе, аб сваёй хваробе, аб сваім блізкім канцы; але і тут між асабовых яго настрояў можна знайсьці тыповыя рысы звычайнай чалавечай псыхікі цяжкага прадчуваньня,—няздарма ў вершы „Ня кувай ты, шэрая зязюля" поэта дае свайму прадчуваньню народна-поэтычнае аформаваньне, атуляючы яго ў „згукі бацькаўшчыны", і тым самым як-бы ня хоча абасабляць сваёй суб'ектыўнай жыцьцяпорнасьці ад тыповых мотываў народнага гора і цярпеньня.

Трэцяя крыніца тэматыкі М. Багдановіча—гэта літаратурныя ўплывы і—скажам шырэй—яго літаратурныя сымпатыі і імкненьні. У гэтай крыніцы гры плыні: *беларуская народна-поэтычная творчасьць*, блізкія поэту славянскія літаратуры і літаратура заходня-эўропейская, галоўным чынам, нямецкая і француская.

Сувязь М. Багдановіча з беларускай народна-поэтычнай творчасьцю, выхаваная ў ім з маленства яго бацькам і сваяцкім асяродзьдзем, якое яго атачала, а пасьля замацованая адпаведнымі кніжнымі ўплывамі, праходзіць цераз шмат якія яго творы, і можна нават сказаць, што яго тэматыка і стыль наогул носяць сьляды ўплыву народнай поэзіі. Сабраць паасобныя рысы гэтага ўплыву і прыкласьці да іх гісторыка-літаратурны аналіз чарговая тэма ў дасьледваньні творчасьці Багдановіча. Але калі гаварыць аб больш выразных яго тэмах, якія беспасрэдна і поўнасьцю зьвязаны з народнай творчасьцю, дык гэта значыць гаварыць аб яго мастацкім фольклёрызьме. У гэтай галіне Багдановіч зьяўляецца вялікім майстрам: ён ня толькі ўвёў у абыход беларуска-мастацкай літаратуры цэлы шэраг тэм з галіны народнай творчасьці (тэм міталёгічных, легендарных, бытавых, гісторычных), але і апрацаваў іх з максымальным набліжэньнем да народна-поэтычнага стылю. Сюды належаць яго невялікія поэмы „Мушка-зелянушка" і „Максім і Магдалена" і шэраг вершаў, якія напісаны ў мастацка-

фольклёрысцкай манеры: „Песьня пра князя Ізяслава Полацкага“ з „Слова о палку Ігараве“ (№ 35), „Скірпуся“ (№ 73), „Страцім-Лебедзь“ (№ 85), „Цёмнай ноччу лучына дагарала“ (№ 67), „Як Базыль у паходзе канаў“ (№ 68), „Вершы беларускага складу“ (№ 86), „Уся ў сьлязах дзяўчына“ (№ 117), „Сумна мне, а ў сэрцы смутак ціха запявае“ (№ 118), „Ой, грымі, грымі, труба, ўранку рана“ (№ 253) і інш. Як мастак фольклёрысты Багдановіч займае выдатнае месца паміж поэтаў сваёй пары, *і яго творы гэтага парадку заслугоўваюць дэталёвага вывучэньня.*

Другая група тэм, якія зьвязаны з літаратурнымі крыніцамі,—гэта тыя тэмы, якія поэта набыў з галіны літаратур славянскіх—паасобку украінскай, расійскай, сербскай. Конкрэтна пакуль што можна гаварыць толькі аб перакладах і насьледваньнях, тэмы для якіх узяты з паказаных літаратур. Больш усяго мы знаходзім перакладаў з украінскіх поэтаў (Шэўчэнкі, Крымскага, Чарняўскага, Олэся, Самойленкі, Франко), куды менш з расійскіх поэтаў (Пушкіна, А. Майкова, Розэнгейма) і адно насьледаваньне сербскаму эпосу ў выглядзе *быліны* „Сьмерць шэршня“ (№ 238), напісанай у жартаўлівым тоне. Пры больш дэталёвым дасьледаваньні гэтай групы вершаў Багдановіча, мабыць, удасца ўстанавіць і некаторыя ўплывы на яго з боку, напр., украінскай і расійскай поэзіі яго часу (напр., поэзіі сымболістых).

Куды больш прыкметна захапленьне поэты заходня-эўропейскімі літаратурнымі крыніцамі. Тут мы знаходзім вялікую групу вершаў, перакладзеных з Вэрлена (№№ 210—230), пераклад аднаго ўрыўку з Вэрхарна (№ 231), шэраг перакладаў з Шыльлера і Гэйнэ (№№ 202—208), адзін пераклад з фінскага поэты Рунэбэрга (№ 201), два пераклады з антычных поэтаў (№№ 199—200—верш Горацыя „Памятнік“ і ўрывак з „Мэтарморфоз“ Овідыя). Апроч таго, ў Багдановіча ёсьць некалькі выдатных па тэматыцы і стылевай апрацоўцы насьледаваньняў эўропейскім і па-заэўропейскім літаратурным жанрам; гэта вершаваныя творы на скандынаўскія, гішпанскія, пэрсыцкія і японскія мотывы. Цікава адзначыць, што ў выбары чужаземных аўтараў і іх твораў для перакладаў і насьледаваньняў поэта ішоў па лініі сваёй звычайнай тэматыкі: ён выбіраў тое, што адпавядала яго настроям і зьвязаным з імі тэмам і мотывам псыхолёгічнага зьместу (пар. пераклады з Вэрлена), і таксама тое, што ідэёва зьвязвалася з хваляваўшымі яго пытаньнямі беларускага адраджэньня (такія, напр., некаторыя пераклады з украінскіх поэтаў).

Тое, што М. Багдановіч ўвёў у беларускую мастацкую літаратуру тэмы і мотывы заходня-эўропейскай і—нават больш—часткова сусьветнай мастацка-літаратурнай творчасьці і разам з тым знайшоў у беларускай літаратурнай мове сродкі для перадачы, і перадачы высокамастацкай, гэтых чужаземных тэм і жанраў,—гэта складае бязумоўную заслугу Багдановіча, як мастака слова, і яго пераклады і насьледаваньні *таксама чакаюць свайго дасьледчыка.*

Кароткі агляд тэматыкі М. Багдановіча з боку яе зьместу гаворыць аб тым, што пастаўленыя поэтай тэмы былі вельмі разнастайны і зусім адпавядалі яго шырокаму разнастайнаму ўспрыйманьню жыцьця. Ня гледзячы, аднак, на гэту разнастайнасьць, усе тэмы поэзіі Багдановіча сходзяцца каля аднаго цэнтру -яго сьветаадчуваньня і сьветапазнаньня. Як-жа ён, выходзячы з сваіх поглядаў на вакольнае жыцьцё і на чалавечыя адносіны, ўвязвае сваю тэматыку ў адно цэлае. Ставячы такое запытаньне, мы вяртаемся, такім чынам, да ідэолёгічнага *боку яго творчасьці, аб якім ужо гаварылася* ў разьдзеле VII гэтых

нарысаў. Калі браць яго ідэолёгічную позыцыю па лініі соцыяльна-палітычнай, дык яна ў агульных рысах можа быць ахарактарызована так: выхаваны бацькам-народавольцам, ён прайшоў у сваім ідэолёгічным росьце цераз фазу настрояў актыўнага народніцтва, потым, калі быў гімназыстым, аддаў некаторую дань захапленьню палітычнымі тэорыямі Прудона, Бакуніна і інш., уважліва і прыхільна супыніўся на соцыялёгічных падставах Міхайлоўскага і яго папярэднікаў, накшталт Ножына, і ўсё гэта ўвязаў з сваімі гарачымі сымпатыямі да беларускага адраджэньня, узятага ў яго соцыяльна-нацыяльных імкненьнях. Усё перадуманае і перажытае М. Багдановічам у гэтай галіне, праўда, не дало яму выразнай грамадзка-палітычнай праграмы, але ў кожным выпадку яскрава адмежавала яго ад інтэлігэнцкага мяшчанства і паставіла ў шэрагі тэй перадавой інтэлігэнцыі, якая, востра разумеючы адмоўныя бакі старога палітычнага і соцыяльнага укладу жыцьця, горача супроць іх протэставала і шукала выхаду ў шырокім абнаўленьні жыцьця ў палітычных і соцыяльных адносінах. Для Беларусі, інтарэсамі якой Багдановіч жыў з вучнёўскіх гадоў, гэта абнаўленьне павінна было стаць нацыянальна-соцыяльным, паколькі краіна разам з агульным соцыяльным прыгнечаньнем перажывала і прыгнечаньне нацыянальнае. Так склаўся Багдановіч—ідэолёг: гарачы ўдзельнік беларускага адраджэньня, ён разам з тым жыў у пастаянным прадчуваньні і чаканьні тых палітычных і соцыяльных зрухаў, якія павінны былі вырашыць набалеўшыя пытаньні ў адносінах ня толькі Беларусі, але і сучаснага яму соцыяльнага ўкладу жыцьця наогул. Гэта шырокае асьвятленьне тэматыкі,—больш выразнае ў тэмах, якія зьвязаны з яго бацькаўшчынай, і больш расплыўчатае ў тэмах, якія ахапляюць наогул яго эпоху,—мы, сапраўды, і павінны констатаваць у большасьці яго вершаў. Застаецца яшчэ пытаньне аб яго пэсымізьме, які паасобнымі мотывамі часамі ўваходзіць у яго творчасьць. Вырашаючы гэтае пытаньне, перш за ўсё нельга паняцьце пэсымізму ўжываць у якімсьці няпэўна-шырокім і таму ня маючым ніякіх акрэсьленьняў сэнсе. Пэсымізм, прыстасоўваючы яго да мастака слова, можа быць пэсымізмам філёзофскага зьместу, калі ў сьветапоглядзе поэты ёсьць пэсымістычная аснова, якая склаўдаецца часамі пад пэўнымі філёзофскімі ўплывамі або пад уплывамі наогул соцыяльна-культурнага ўкладу жыцьця яго эпохі. Пэсымізм-прыстасоўваючы да пісьменьніка-мастака, як і да ўсякага чалавека, можа быць пэсымізмам псыхофізіолёгічнага характару, калі пісьменьнік па самому складу свайго здароўя і сваёй псыхікі мае нахіл да вялага, маркотнага, часамі іпохондрычнага ўспрыняцьця рэчаіснасьці. Нарэшце, пэсымізм можа быць формай абывацельскага сьветаадчуваньня, калі чалавек, у грамадзкім жыцьці індыфэрэнтны і індывідуальна-нявыяўлены, жыве вяла, абыяк і, замыкаючыся ў вузкае кола мяшчанства бытавога і моральнага, даходзіць да апатыі і да ўтраты ўсякай жыцьцярадасьці. Апошні від пэсымізму ня мае ніякіх адносін да М. Багдановіча. Першыя два віды часткова маглі яго захапіць. Я ўжо меў выпадак сказаць вышэй (раз. VII), што эпоха магла накласьці на яго ў гэтым сэнсе некаторы адбітак, паколькі і соцыяльна-культурныя яе абставіны і некаторыя літаратурныя плыні гэтага часу выклікалі пэсымістычныя настроі ў некаторых колах інтэлігэнцыі. Акрамя таго, стан здароўя М. Багдановіча таксама ўносіў часамі ў яго творчасьць сумныя ноты, якія гармонічна зьліваліся з пэсымістычным сьветаадчуваньнем. Але, дапушчаючы гэты некаторы ўхіл поэты ў пэсымізм першага і другога віду, трэба зрабіць дзьве сур'ёзныя агаворкі: па-першае, т. з. „пэсымізм“ Багдановіча ня быў філёзофска абаснованы, таму што мы ня

бачым у яго ніякага захапленьня філёзофіяй пэсымізму (напр. Шопэнгаўэрам, Гартманам), як гэта было ў некаторай часцы інтэлігэнцыі к XIX—п. XX стаг., і таму ён зводзіўся толькі да паасобных настрояў і матываў, якія ня мелі стойкага і пастаяннага характару; па-другое, упадак яго псыхікі, які набліжаецца да пэсымістычнага сьветаадчуваньня і зьвязаны з яго хваробай, таксама ня быў пастаянным і, судзячы па яго вершах, выяўляўся ўсяго часамі, як нейкі пароксызм хваробы, і пасьля ізноў праходзіў, калі часова ўзмацнялася здароўе, а з ім разам вярталася бадзёрасьць і некаторая жыцьцярадаснасьць. Гэтым, вядома, і тлумачыцца, што вершаў, у якіх адчуваецца некаторы ўпадак жыцьцярадаснасьці і часовая утрата веры ў значнасьць жыцьця, у Багдановіча параўнаўча мала (пар. „Цемень“—№ 18, „Над морам“—№ 22, „Прыдзецца, бачу, пазайздрыць бяздольнаму Марку“—№ 79, „Усё у жыцьці мне даўно ўжо абрыдла“—№ 247). Апроч таго, я павінен паўгарыць тут, што ўжо сказаў і вышэй, што Багдановіч заўсёды перамагае тыя пэсымістычныя настроі, якія часамі ў яго бывалі: ён перамагае іх бадзёрымі адносінамі да лепшага будучага як сваёй бацькаўшчыны, так і чалавечага жыцьця наогул; ён перамагае іх сваёй бязупыннай і таксама бадзёрай працай на літаратурнай ніве, сваім служэньнем хараству жыцьця, як аднаму з фактараў культурнага росту чалавецтва. Гэта перамога сумных настрояў асабліва прыкметна ў празаічных творах поэты (крытычнага, публіцыстычнага, этнографічнага і іншага зьместу,—гл. II том збору твораў), дзе пэсымізму няма ў яго месца.

У гэтым нарысе застаўся ня высьветленым яшчэ адзін бок творчасьці М. Багдановіча—гэта яго поэтыка, у прыватнасьці яго стыль. Пытаньне аб формальна-мастацкім баку яго поэзіі вымагае спэцыяльнага нарысу, які павінен быць пабудаваны ня толькі на яго вершах, але і на яго крытычных і гісторыка-літаратурных артыкулах, якія ўваходзяць у другі том яго твораў. Мастацкая тэхніка Багдановіча наогул ўяўляе сабою вельмі значную зьяву ў гісторыі беларускай літаратуры: цікавасьць да яе павялічваецца яшчэ і тым, што сам поэта як у мастацкіх, так і ў празаічных сваіх творах даў накіды сваіх поглядаў на мастацтва і ў прыватнасьці на поэзію. Перагляд усяго матар'ялу—як тэорэтычных палажэньняў поэты, так і яго мастацкіх способаў, якія выявіліся ў яго творах,—вялікае і цікавае дасьледчае заданьне.

**К. Кундзіш**

# „Альбо грай, альбо скрыпку аддай“...

*(Зборнік вершаў А Александровіча „Угрунь“)*

Сам па сабе пяцігадовы поэтычны стаж, які лічыцца за Александровічам, не зьяўляецца, бязумоўна, выстарчальным для выяўленьня ўсіх творчых мажлівасьцяй поэты. За гакі невялікі, параўнаўча, кругабег часу толькі рэдкія таленты пасьпяваюць разгарнуцца ва ўсёй сваёй шырыні. У большасьці-ж выпадкаў творчае разгортваньне адбываецца павольна, удзячныя вынікі дасягаюцца толькі пры ўпартай і ўважнай працы. Пры такім стане рэчаў роля таго, хто дае ацэнку літаратурным фактам, становіцца асабліва цяжкай і адказнай.

На мой погляд, задачаю крытыкі ў такіх выпадках зьяўляецца ня столькі неабходнасьць хваліць ці лаяць поэту, сколькі неабходнасьць паклапаціцца прасачыць яго працу над словам. дапамагчы яму знайсьці свае слабыя стораны для таго, каб ён мог прадумаць іх і пазбыцца ад іх у наступным.

На вялікі жаль, не заўсёды рэцэнзенты нашы кіруюцца такімі добрымі намерамі, не заўсёды добрасумленна ставяцца, па-першае, да таго, пра што яны гавораць, а па-другое, і да сябе, паскольк і яны бяруцца не за сваю справу. Менавіта вось так. Часта людзі, якія ня маюць нічога агульнага з літаратураю, бяруцца судзіць пра яе і пры тым „з птушынага палёту“, павярхоўна, як быццам разабрацца ў літаратурным факце так-жа лёгка, што ў сваіх кішэнях. Мэтад гакой „крытыкі“ звычайна такі: выцягваюцца дзьве-гры выпадковыя цытаты. бадай заўсёды няўдалыя, гаворыцца пра іх дзьве-гры таксама выпадковыя словы, „падпушчаецца“ крыху ідэолёгіі —і рэцэнзія гатова...

З прыкладам такой рэцэнзіі чытачы могуць азнаёміцца на старонках „Зьвязды“ ў № 225 за 2/X—27 г., што напісана пра Александровічаў зборнік „Угрунь“. Я ня ведаю, ці пісаў яшчэ хто больш дурныя рэцэнзіі як гэна, але яна, кажучы шчыра, назвыш усякага глупства. А трэба адзначыць, што тон яе самы, што называецца, прафэсарскі, які не дапушчае супярэчак. Слоў шмат, а клёку—ні на гарэлы шэляг. У Александровіча вельмі шмат недахопаў, але паважаны „крытык“ Джугар іх... не заўважыў. Захлёбваючыся ад вялікага захапленьня, ён дайшоў да таго, што палічыў патрэбным пахваліць нават і такі ляпсус, як:

> Пяю ня лірыку,
> а эконом-надстройку (?!?)

Дзе, калі і ў якіх марксыстых вычытаў Джугар, што існуе якаясьці „эконом-надстройка“? Аджа-ж гэта значыць не разьбірацца нават і ў асноўным, у элемэнтарным, што даступна разуменьню вучняў першых груп сямігодкі. А што калі і сапраўды, зважаючы на тон рэцэнзіі, Джугар зьбіраецца ў прафэсары? Уяўляю сабе, якія сухазем'і ён нам адшукае з цягам часу!

Але даволі. Я зусім не зьбіраюся полемізаваць з Джугаром, хай ён сабе „папісвае“ —папера церпіць. Мая задача—прасачыць Александровічаву працу над словам і пастарацца вызначыць асноўную натуру яго творчасьці, соцыялёгічную, хоць бы ў самых агульных рысах.

Першыя яго зборнікі выклікалі самыя супярэчныя погляды крытыкі.—Зьяўленьне кожнага яго зборніку спатыкалася хвальбою адных; больш строгія паказвалі на вялікі лік недахопаў, рабілі праўдзівыя заўвагі і праводзілі няспыннае змаганьне за ўзвышэньне якаснай стараны вершу.

Трэба адзначыць, што ўсё тое што заўважалася як хібнае ў дачыненьні яго першых зборнікаў, у большасьці выпадкаў адносіцца і да апошняга—„Угрунь“.

За пяць гадоў Александровіч выпусьціў пяць зборнікаў. Зважаючы на такую багатую творчую продукцыйнасьць, я прымушаны аднесьціся да Александровіча больш строга, чым-бы гэтага хацелася, тым больш, што некаторыя лічаць яго ня толькі ўжо зусім вырасшым поэтам, але нават і павадыром цэлай групы поэтаў—урбаністых. Тое, што Александровіч завяршыў неякае кола свайго разьвіцьця, дасягнуў дзе-якіх вынікаў, застыў на гэтым і далей ня кратаецца, зусім правільна. Але тое, што ён можа быць настаўнікам, узорам для больш маладых поэтаў, зьяўляецца ня толькі памылкай, але і наогул крайнім непаразуменьнем. Александровіч настолькі яшчэ слабы, настолькі вучань, што і казаць пра гэта не даводзіцца, у кожным разе стала.

Самае хворае ў Александровічавай творчасьці—гэта пладавітасьць. Ён мала працуе над сабою. Ён (ракавая назва!)—сапраўды бяжыць угрунь. Якасны бок яго творчасьці замяняецца колькасным. Гэта вялікі недахоп. Больш удзячныя вынікі маглі-бы зьявіцца, каб ён трымаўся правіла „лепш менш, але больш добра“.

Але, як відаць, ён далёкі ад гэтага і на ўсёй яго творчасьці ляжыць адлюстровак сьпешкі, недавяршонасьці, няздольнасьці адрозьніць добрае ад дрэннага, адрозьніць, што варта друкаваць, а з чым і пачакаць.

Характар такой нясталасьці, такіх неабдуманых выпадковасьцяй гібельны для поэты. Ці ня таму Александровіч не адчувае і слова, як жывога організму: яно ў яго вершы заўсёды неякае драўлянае, мёртвае.

Вось тыя асноўныя недахопы, якімі вызначаліся першыя яго зборнікі.

Ня лепш было ў яго і з ідэолёгіяй. Зьвязаўшыся ў пачатку свайго творчага шляху з поэтамі сялянскай орыентацыі, ён ня здолеў у чужой для яго навале (стихии) знайсьці свайго ўласнага стылю. Як гаражаніну, горад быў для яго больш блізкім і больш зразумелым. Гэта Александровіч урэшце скеміў. У зборніку „Па беларускім бруку“ гучаць ужо гарадзкія мотывы. Пасьля ў зборніку „Прозалаць“ гэтыя мотывы пашыраюцца і ўрываюцца больш настойліва, больш загадна гучаць. Усё-ж вызначыць, чым поэтам, песьняром якіх пластоў гарадзкой грамады зьяўляецца Александровіч, паводле гэтых зборнікаў было надзвычайна цяжка.

Праўда, некаторыя перадумовы былі для гэтага, але ўсё-ж яны ня былі так яскрава выяўлены, каб можна было зрабіць паводле іх беспамылковыя вывады. І толькі ў апошнім зборніку „Угрунь“ ключ гэты даецца нам мэмуарнаю паэмаю „Дваццаць“.

Пачну ад яе. Перш за ўсё цікава прасачыць тое, як Александровіч прышоў у літаратуру. Як ён сам заяўляе, адбылося гэта з ім зусім выпадкова. Да гэтага ён „лазіў на каштаны і кожны раз і неяк лоўка рваў картовыя штаны“, „галубоў ганяў са сьвістам“, лазіў „цішком праз плот у сад за яблыкамі“ (калі так,—значыць у суседні) і кожны

вечар гуляў „у вайну з панамі“. Гэтым, зразумела, справа не абмяжоўвалася. Якая гэта была вайна, каб заставаліся і „ваўкі сытыя і авечкі цэлыя“, а дзеля гэтага „вакно, і не адно у гэты вечар“ адказвала за вясёлы характар поэты. І так кожны дзень: „ну, а заўтра?—Заўтра зноў“... (ст. 100).

Бацькі, як відаць, не маглі пагодзіцца з такою натураю сыноваю, яны прыстроілі яго ў шавецкую, і будучы поэта стаў „клеіць абсацы“, адначасна быў панамаром, падфраньціўся і ў „лякавых ботах валондаўся па бульварах“, і ня тое каб абы як, але цэлымі днямі Запытаньне: калі-ж гэта ён працаваў? Нейкае цудоўнае майстэрства і, як кажуць, па ўсе рукі.—Александровіч адначасна і шаўцом быў, і панамаром, і „валондаўся“ па бульварах... Не раўнуючы—„і шавец, і кравец, і ў дуду ігрэц“...

Але вось надышоў кругабег окупацыі. Прышлі дні дыму, жудасьці і вагню. Пачаліся пагромы. „Мірныя“ забавы поэты скончыліся, бо „сіла чорная па гораду прайшла“, пакінула „як расы зарою на байдане, так па бруку выбітага шкла“. Аутар сам, хоць і вышыбаў калісьці шыбы такжа, але тут спалохаўся. Якая непаступовасьць! Але гэта — між іншым. Сапраўды-ж ён ня спау у шайку: з пагрому ён бег і трымаў „пад пахай скрыначку патоптаных ірысак, а за пазухай дзьве пары панталон“ (ст. 104)...

Магчыма—паводле прыслоўя „ад прыбытку галава не баліць“?!

Але час ішоў. Прышлі чырвоныя. Стала зусім цяжка жыць, прыходзілася стаяць у чарзе, давалі на дзень чацьвёрку хлеба і нават не чацьвёрку, а „залатнік“. Наогул у Александровіча крыўды было многа:

Дзе там пералічыш.
абіраюць голь:
выдаюць сярнічкі.
а хаваюць соль. (ст. 107).

Непасрэдна пасьля ўстанаўленьня савецкай улады пачалося культурнае і экономічнае адраджэньне Беларусі.

Аўтар стау чытаць Янку Купалу і не абы-як чытаць, а „пералістываць“. Вышылі яму кашулю ў васількі, і стау ён пасьля гэтага частым гасьцём рэдакцый. Пазнаёміўся з Бядуляй, з Чаротам і „выпадкам зрабіўся чытачом беларускіх газэт“. Ну і ну! Хадзіў, бадзяўся па рэдакцыях, перазнаёміўся з поэгамі і пасьля гэтага толькі стаў чытаць беларускія газэты і то „выпадкам“! Слова гэта яму. відаць, вельмі падабаецца. Што-б ён ні рабіў, усё ў яго выходзіць „выпадкам“. І вершы ён таксама, мусіць, пачаў пісаць выпадкам: „з кім павядзешся, ад таго і набярэшся“. *Дальш—больш.*

Аўтар ня толькі перастаў лаяць савецкую ўладу, але нават становіцца камсамольцам, ня спыняючыся па даўнейшаму „бурапеніць“. Толькі абставіны сталі некалькі іншымі. Раней біў шыбы, гуляў па бульварах, цяпер-жа стаў хадзіць з сонцам на нажы (дарэмная трата часу!) і выпіваць па чарачцы—другой, ні разу ня выходзячы па-людзку з піуной. [1]) „Моцна ён уцягнууся ў такое жыцьцё і толькі выпадкам (ізноў „выпадкам“!) „вынырнуў з атручаных богем“. Але ці вынырнуў? Канчае поэму аўтар ізноў тым-жа богемскім „заліхвацтвам:

— „Эх, любая моладасьць! Дваццать год!

— Вып‘ем, таварыш, да дна!...“

---

[1]) Чытач можа задзівіцца. навошта Александровіч агласіў такія мэмуары? Не магу нічога адказаць на гэта, а перадаю слова ў слова яго прыгоды паводле „поэмы“ „Дваццать“.

Такім чынам, нават пры даволі абеглым праглядзе і этых мэмуараў, ня робячы лішне дэталёвага аналізу, можна зрабіць беспамылковыя вывады ў адносінах да ўсёй Александровічавай творчасьці, таму што мэмуары напісаны вельмі шчыра. Яны (будзем зваць іх поэмай, як сказаў аўтар) зьяўляюцца, як я ўжо сказаў, тым ключом, якім „ларчик“ адмыкаецца вельмі проста.

Першае, што трэба падкрэсьліць, гэта тое, што жыцьцё над Александровічам яхідна пажартавала. Усё, да чаго ён прышоў зараз, адбылося з ім „выпадкам“. Каб ня было гэтага выпадку, ён практыкаваўся-б зараз у чым хочаце, але толькі ня ў літаратуры.

Па-другое тое, што ён ні ў якім памеры не зьяўляецца прадстаўніком рабочае клясы ў літаратуры, ні ў якім памеры--сялянства. Той пласт гарадзкое грамады, з якога вышаў Александровіч і які ён зараз адлюстроўвае ў сваёй творчасьці, зьяўляецца міжлеглым паміж пролетарыятам і буржуазіяй, гэта тое, што звычайна завецца мяшчанствам

Не даводзіцца спрачацца з тым, што мяшчанства перад рэволюцыяй сваімі ўнутранымі сымпатыямі і экономічна бліжэй за ўсё прымыкала да буржуазіі. Буржуазія карысталася мяшчанствам як тэй масай, якой яна магла запаўняць, кітаваць і запаўняла той шырокі і востры разрыў, што ўтварыўся быў між ёю і пролетарыятам.

У гады грамадскае вайны мяшчанства, бязумоўна, выконвала да некаторага стойню контр-рэволюцыйную ролю. Асноўнымі яго меркаваньнямі, якімі яно жыло, былі: куды вецер дзьме, чыя перамагае, тая і наша...

Белапалякі рабуюць магазыны, расстрэльваюць мірных жыхароў,- мешчанін выпаўзае з сутарэньня і валачэ, што спатрэбіцца: пару панталон, ці яшчэ што. Прыходзяць чырвоныя,—мешчанін крычыць: „Нашы! Чырвоныя! Парад!“. Але час цяжкі, няма хлеба, голад—і мешчанін пачынае лаяць савецкую ўладу. Ён нездаволены. Ён вымагае, падавай яму—і толькі. Адкуль і як—яго мала абыходзіць.

Ліквідуецца фронт. Жыцьцё пачынае наладжвацца. Перадышка. Пачынаецца *палаcа* мірнага будаўніцтва. Праводзіцца нацыянальная політыка. Мешчанін усё гэта бачыць, у яго зоркія вочы, і ён пачынае кеміць, што „як быццам перамен ніякіх не прадбачыцца“. Спакойна— і ён прыстройваецца: апранае вышытую ў васількі кашулю, прымае, так сказаць, патрэбны знадворны выгляд, а затым залічаецца ў камсамол. Адсюль і далейшыя крокі.

І ўсё-ж, мяшчанскай існасьці ніякімі хітрыкамі не затуліш: дзе ня дзе яна і высьлізьне.—

Буржуазны Захад кратаецца, строіць супроць нас розныя пляны. Здаецца, вось-вось пачуем кліч—да зброі! Кожнага з нас цікавіць пытаньне,—што-ж чакае Захад і Саюз ССР у наступным. І вось, мешчанін не знаходзіць лепшага спосабу, як зьвярнуцца за дапамогаю да цыганкі-варажбіткі:

> Чорная. Стан прыгожы.
> Быць ці ня быць?—Паварожым! (ст. 123).

Такая псыхолёгія ўжо ў кожнага мешчаніна. Ён застаецца забабоншчыкам і да гэтага часу.

Гэту ўсю мяшчанскую існасьць Александровіч імкнецца вельмі часта ня толькі затушаваць, але і надаць ёй характар бунтарства, рэволюцыйнасьці. Гісторыя з бацькам, якая перададзена ў гэй-жа поэме „Двацаць“, як нельга лепш сьцьвярджае гэта:

Раз п'яны страсануў гарадавога,
Трасануў, пяючы марсэльезу.—
...Гаварыла яшчэ, што азартам
Аб калена зламаў „селядзец“.

Ніякага, бязумоўна, у гэтым гэройства няма, ды і дзе там п'янаму было да бойкі з гарадавым. Але няхай сабе так. Такая справа магла быць. Чапіцца ня варта. Я ня маю гэтага на мэце. Але вось тое, што бацька біўся з гарадавым ня проста так сабе дзеля п'янага задаваленьня, а яшчэ і сьпяваў марсэльезу,—ёсьць ужо затушоўваньне, ідэалізаваньне. Рэволюцыйнасьць зусім ня ў гым, каб, ушчаўшы бойку з гарадавым, сьпяваць марсэльезу, а ў організованым выступленьні мас. Такі анархізм нічога агульнага ня мае з сапраўднай рэволюцыйнасьцю. Адным словам, асноўнае, што мы знаходзім у гэтай поэме, гэта мяшчанскі быт да рэволюцыйнага і пасьля рэволюцыйнага часу. [1])

Але гэта, так сказаць, „особая статья“. Куды больш важна прасачыць, як аўтар адлюстроўвае наша сучаснае будаўніцтва. Для пролетарскага поэты, якім лічыцца Александровіч (як я ўжо казаў—зусім памылкова), паказаць сапраўдны размах творчых магчымасьцяй рабочае клясы—ёсьць сапраўдны экзамен „на аттестат зрелости“.

Ня кажучы лішніх слоў, трэба прызнацца, што Александровіч гэтага экзамену ня выграмаў. Ужо ў самым эпіграфе, якім адчыняецца цыкль вершаў „Віратлівы разьбег“, спатыкаецца асноўнае неразуменьне таго, *пра што аўтар гаворыць*

„Як добра жыць!
Цаглінкаю румянай
Будуем новыя, нязнаныя нам дні“.

„Цаглінкаю румянай“—гэта зразумела, аўтар, падкрэсьляе гэтым рэволюцыйнасьць нашага будаўнітва. Такая-ж „цагельная“ рэволюцыйнасьць спатыкаецца і ў іншых мясцох зборніку. Нават атрутны газ, „удушливый“ газ з адпаведных нашых хэмічных заводаў, паводле яго аднаго вершу, павінен быць не абы якім, а чырвоным.. Умри, Денис, а лучше не напишешь!“.

Але чаму мы будуем „нязнаныя дні“? Пролетарыят зусім ня думае, што ён будуе менавіта такія дні. Наадварот, ён вельмі добра ведае. што робіць у гэты час. Мы нават пэрспэктыўны плян на пяць гадоў наперад складаем. А паводле Александровіча выходзіць, што пролетарыят „ня ведае, што творыць“.

---

[1]) Наколькі далёка зайшоў быў згаданы ужо Джугар у сваім хваленьні Александровіча, пакажу навочна выняткам пра гэту поэму —„Разьдзел—20 год—цікавы, паскольку у мастацкіх формах там адбіта наша (???) нядаўняе змаганьне і жыцьцё поэты і яго сям'і“. Таварышы чытачы, *што гэта такое? Жарты? Зьдзекі? Ці* крайчяя тупасьць рэцэнзента?

Гэты-ж самы Джугар ніводным словам ня ўспомніў, не асудзіў вышэйзгаданага вершу пра цыганку-варажбітку

Адзін толькі рэцэнзент (гл. „Сав. Бел.“ за 25 IX-1927 г. № 218 (2110), тов І. Г—скі.—знайшоў у сабе выстарчальную колькасьць грамадзкага муства, каб зусім лепш ня успомніць у сваёй рэцэнзіі гэтай паэмы“ і каб падкрэсьліць усю недарэчнасьць вершу пра цыганку-варажбітку.

Калі аўтар сапраўды думае так, дык няма чаго гэта валіць з хворай галавы на здаровую, няма зачым прыпісваць гакую недарэчнасьць пролетарыяту.

Налёт такога неразуменьня, нясталасьці і лёгкасьці падыходу адчуваецца рашуча ва ўсім цыклу вершаў.

Ня у першы год
К нам новы год
Ідзе чорнарабочым.

Чаму чорнарабочым? Ну, няхай сабе да гэтага часу ён прыходзіў такім, але зараз у нас уся ўвага на індустрыялізаваньне краіны, чаму-ж ён ня ідзе кваліфікаваным рабочым? Аджа-ж у іх адчуваецца вялікая няхватка. Я зусім не стаю за гэты вобраз, але я хачу падкрэсьліць гэтым недарэчнасьць Александровічавага вобразу, галоўным чынам— неорганізаванасьць яго. „Новы год“, г. зн. чорнарабочы, „вязе нам песьні з паднябесься ў зорных санках“... Штука хітрая! Няхай падумае над ёй аўтар. Я ўжо не кажу пра тое, што й радкі „ня ў першы год к нам Новы Год“ таксама выстарчальна нязграбныя.

VIII Усебеларускаму зьезду Саветаў ён дае такі загад: „Налева—леваю! Я заклікаю стройна“. Ну, а правую куды? Таксама налева? Ці правая нага контр-рэволюцыйная і яна не заслугоўвае таго, каб ёю такжа крочылі на леза? Якія тут жарты? Няўжо Александровічу зажадалася, каб зьезд прадэфіляваў перад ім на левай назе? Шкода, вельмі шкода, што зьезд не зьвярнуў увагі на такі загад. Вось быў-бы малюнак!

Калісьці Маякоўскі сказаў:

Кто там шагает правой?
Левой! Левой! Левой!

Гэта было сказана вельмі добра і да толку. Разумець гэта трэба так (тлумачу адмыслова для Александровіча).—Ідзе вялікая маса народу, усе ідуць стройна і ў ногу, але ёсьць паасобныя суб'екты, якія парушаюць гэту хаду,—ідуць ня ў ногу. Маякоўскі перанёс гэты вобраз у псыхолёгічны плян, надаў яму дзейнасьць. Скажу больш ясна: калі ўсе за саветы, дык хто там сьмееісьці насупроць гэтага. Вось як трэба разумець гэты вобраз. Александровіч, як відаць, не зразумеў яго і выкарыстаў яго пасьмешнаму да недарэчнасьці.

Там-жа Александровіч заклікае сьпяваць „Дубинушку“ і будаваць новыя масты:

— Эх. маць. трохтварая!
Дубініцу зацягнем
І пасгавім новыя масты

Ня ведаю, ці варта гаварыць яшчэ і пра тое, што, бязумоўна, з мацяршчынай і дубінушкай ніякага соцыялізму не пабудуеш. Думаю, што гаварыць ня варта. А аўтар менавіта так зьбіраецца асушаць балоты, будаваць новыя масты і будынкі. Пра тэхніку ён і ня думае. Толькі наўдачу яго хто паслухае. Няхай сабе бурапеніць, „агітуе“. [1])

---

[1]) У часе друкаваньня гэтага нумару „Узвышша“ вышаў першы нумар часопісі „Культура и революция“. У гэтым нумары. ў артыкуле „О старинных традициях и современном культурном строительстве“ т. Н. Бухарын наконт „дубініцы“ от што піша: „Пора бросить идеализацыю „дубины“, которая есть не что иное, как принадлежность чуть ли не каменного века Все эти „самобытныя“ черты техники физиологии, быта пора п о с к о р е е (курсыў аўтара. Рэд.) сдавать в исторический архив“. Р э д а к ц ы я

Зусім мала ўвагі аўтар вылучае новаму быгу. У зборніку „Угрунь" гэтай тэме прысьвечаны толькі адзін верш —„Завязка".

— Засьвісьцеў [1]) гудок фабрычны.
Знача кідай свой варстат.
Першы раз, было й нязвычна,
Я пашла ў народны сад.

Так. Ішла ў народны сад, а папала чамусьці да ракі. Пачала кідаць у яе кветкі. Адкуль ні ўзяўся—ідзе насустрач хлапец, відаць, вельмі разьвязны, таму што ні з таго ні з сяго зьвяртаецца да яе з такімі словамі:

„Як цябе, дзяўчынка, клікаць?
Што сароміся, скажы?"

*Дзяўчына, паводле першых радкоў, выяўляецца пужлівай, сьціплай:*

„Ці застацца, ці ўцякаць?"

задае яна пытаньне сама сабе і застаецца з хлопцам да досьвітак. І гэта называецца новы быт, новае каханьне?! Як сабе хочаце, але не за гэткі „быт" змагаецца наша сучаснасьць. *Александровіч ня бачыць* і ня ведае яго. А праявы новага быту прыкметны і ў клюбах, і ў народных будынках, і ў грамадзкіх сталоўках і ці мала дзе. Трэба толькі добра прыгледзіцца. Трэба ня шукаць яго каля ракі.

З формальна-мастацкага боку справа ў Александровіча яшчэ горшая. Я ўжо казаў, што Александровічава творчасьць завяршыла пэўнае кола свайго разьвіцьця, кола само па сабе вельмі вузкае. Далей творчасьць не пасуваецца. Александровіч застыў, не працуе над сабою і ўяўляецца мне як поэта, які ўжо сформаваўся, але такім, пра якога можна сказаць: „не красаваў, але адкрасаваў". Вось чаму я разглядаю яго як пэўную выразна закончаную велічыню.

Усё гэта я кажу для таго, каб чытач не знайшоў якой-небудзь супярэчнасьці між уступнаю часткаю майго артыкулу і панаступнаю. Гэта затым, што ўсё сказанае ў частцы ўступнай я адносіў да тых поэтаў, *якія няспынна разьвіваюцца, упарта працуюць над сабою і выходзяць* на вялікі літаратурны шлях, чаго нельга сказаць нават і ў самым малым стопню пра Александровіча.

У рэцэнзіі Джугара пра гэту старану Александровічавай творчасьці сказана так: „Угрунь" як сваім зьместам, так і формаю паказвае, што поэта ўзышоў на высшую ступень сваёй творчасьці. Верш лёгка чытаецца. Няма шаблёну. Няма штампу. Верш перасыпаны жывымі эпітэтамі"...

З гэтай цытаты я падкрэсьляю выражэньне „высшую ступень сваёй творчасьці". Менавіта сваёй, але ня творчых дасягненьняў поэтаў нашага часу.

Што-ж датычыцца таго, што вершы лёгка чытаюцца, дык гэта тлумачыцца тым, што рытміка іх страшэнна шаблённая, прымітыўная, паводле таго:

Эх, сасоньніца—сасна.-
Дні суровыя..
Бервяно да бервяна—
хата новая.

Або яшчэ:

Бывала імчыцца
вей—вецер
і веццэ
лёгкім павевам авее...

[1]) Хоць „лунных лап" у зборніку і шмат, але іх не чапаю Трэба-ж, тав. Александровіч, граматыку ведаць! Куды больш правільней было-б „засьвістаў".

Такая сапраўды „ігрывая“ лёгкасьць у выстарчальных памерах нагрузла ў зубах, кінулі яе поэты, от так, гадоў дваццаць назад. Да рэчы сказаць, і раней да таго ў колькі-небудзь сталых поэтаў падобную рытмоўку адшукаць цяжка. Джугар гэтага ня ведае, і затым яму здаецца, што гэта—верх орыгінальнасьці. Гэтым ён, бязумоўна, выкрывае толькі сваю няпісьменнасьць ў літаратуры і нічога, апрача гэтага, больш не даводзіць.

А гукавыя „эфэкты“ другога прыкладу пабудованы цалкам на капыл „сею, вею, сею, вею, сею вью“...

Тое-ж самае і з эпітэтамі. Як я даводзіў ужо, цаглінка „румяная“ зусім ужо не такі новы эпітэт, пры чым да беларускай мовы ён неяк і не пасуе. У Александровіча-ж усё або румянае, або чырвонае. Нечаканасьці ў такіх эпітэтах ніякай няма.

Узяць хоць-бы такія радкі, якія ў Джугаровай рэцэнзіі падаюца, як узорныя ў дачыненьні да эпітэтаў:

Шчасьцем агністым,
вясьняна бурлістым
думкі нясуцца (?!) віхрыста
угрунь.

Старэй такіх эпітэтаў у беларускай літаратуры быць нічога ня можа. Пры чым разьмеркаваны яны ў вершы так, што гучаць страшэнна траскучай рыфмоўкай, няпрыемнай для мала-веле несапсаванага вуха.

А вось такія эпітэты, як „гордая сіла“, „песьня залатая“, „сьветлая радасьць“, „вечар румяны“, „песьня стазвонная“, „вясна залатая“, „дні залатыя“—такжа новыя?—ня думаю, каб знайшоўся такі дзівак, які палічыў-бы іх такімі. Такіх-жа ня мала. Нямала і „залатых“. Да ведама Александровіча і Джугара: ужываць эпітэт „залаты“ час ад часу ня шкодзіць, але ня шкодзіць таксама пачытаць у тав. Леніна пра тое, якілёс чакае „золата“ у соцыялістычнай грамадзе...

І гэта яшчэ не такая бяда. Горш тое, што вельмі часта гэтыя эпітэты неапраўданыя:

Рабочыя адважныя (?!)
на фабрыку ідуць.

Таварышы! Ці ня можна крыху ясьней казаць? Што гэта за фабрыка такая, што трэба мець адвагу вялікую, каб туды зайсьціся!

Спатыкаюцца таксама і не апраўданыя вобразы, пры чым—у большым памеры, чым неапраўданыя эпітэты. Неорганізаванасьць іх, а часта і недарэчнасьць, кідаецца на вока нават каб і не хацеў заўважыць гэтага. Іх нельга абыйсьці моўчкі, бо гэта асноўнае ў форме. Куды-ж далей кратацца, калі верш дрэнна організаваны? Гэта значыць, ня ўмець пісаць вершы. Пра сасну гаворыцца, што яна ляжыць на фабрычным дворышчы, яе пілуюць і раптам аднекуль чамусьці не дарэчы выплывае дарога, пры якой „як сьлёзы - апілкі“ (ст. 8). Дарога гэта адно, а фабрычнае дворышча—гэта другое. Пры чым нават больш таго, калі Александровіч гаворыць нам пра пільню, дык мусім растлумачыць яму, што пілуюць тады не на дворышчы, а ў адмыслова прыстасаваным месцы.

А вось характар другога недагляду:

„Сонца гасіць ліхтар свой“.

Гэта, значыцца, што сонца на скалах гары шпацыруе з нейкім „ліхтаром“. Кажу з нейкім, бо ліха яго ведае што гэта за „ліхтар“. Аўтар можа хацеў сказаць, што „сонца, як ліхтар, пагасла“, або „сонца ліхтаром пагасла“ (што таксама дрэнна), але сказаў так, як... лепш ня можна.

І птушкі—вясьнянкі
сасонцы да сонца
зайграюць на гусьлях зялёных... (ст 9).

У чым тут справа, ня ведаю. Гусьлі—музычны інструмант. Зялёныя гусьлі, значыць гальлё дрэў, вобраз зусім магчымы і зразумелы. Але як на гусьлях-гальлі могуць іграць птушкі—ня ведаю. Думаю, што не здагадаюцца і чытачы. Гэты самы вобраз бадай даслоўна паўтараецца яшчэ і ў другім вершы „Дзьвіна“ (ст. 79).

Птушкі-вясьнянкі
пяюць спазаранку
у сасоньніку
як на гармоніку.

Тое-ж самае. Птушкі ніяк ня могуць сьпяваць на гармоніку. Ня ведаю, хто гэта наогул можа. Аўтар? Можна даць вобраз паводле такой схэмы—сьпевы птушак гэта граньне гармоніка, але ні чуць ня так, як гэта робіць Александровіч. Крыху няясна і тое, ці птушкі пяюць беларускія песьні, якія мы завём вясьнянкамі; ці птушкі гэта і ёсьць вясьнянкі. Калі правільна першае меркаваньне, дык цікава было-б даведацца, якімі спосабамі правёў аўтар гэту птушыную „беларусізацыю“. Калі правільна другое, дык маем падставу запытацца, калі-ж гэта Александровіч, беларускі поэта, больш грунтоўна беларусізуецца сам?

Спыняцца для рэшты няпісьменных ляпсусаў, „лунных лап“, я ня буду.

Ёсьць недагляды чыста граматычныя. Ня буду спыняцца і для іх. Зьвярну ўвагу толькі на адзін ляпсус, даволі кур'ёзны. Аўтар, як відаць, ня справіўся з рыфмаю: „налёт“—„сьлёз“ і пакінуў яго, ніколькі не клапоцячыся гэтым.

Родны мой горад,
пушнай асфальту
люблю пасваволіць.
бывае налёт..

Вось такімі „налётамі“ пакутуе ўся яго творчасьць. Александровіч хацеў сказаць, што бываюць такія хвіліны, калі яму хочацца „пасваволіць“, але сказаў—„налёт“... Гэта неахайнасьць проста незразумелая. „Альбо грай, як гавораць, альбо скрыпку аддай“. Я скажу так: альбо пішы, альбо кінь, калі ня можаш працаваць сур'ёзна. Гэта я не кажу, зразумела, па адрасу Александровіча, зусім не. Александровіч, зразумела, уладае такім-сякім талентам, але яму пара ўжо прызадумацца над сабою і пачаць працаваць упарта, не спадзяючыся што нехта за яго папрацуе. Бяз упартай працы нічога людзкага ня будзе. Гэта—першае.

Другое.—Трэба гнаць ад сябе такіх „крытыкаў“, як Джугар, і оныя з ім. Яны толькі шкодзяць. Ня ведаючы нічога самі, адурачваюць другіх.

А галоўнае, паўтараю, трэба працаваць і працаваць. Не зашкодзіць прыглядзіцца, як працуюць другія, і паўчыцца ў іх. Рада сяброўская.

**Ю. Дрэйзін**

# Кастрычнік і беларуская музыка

Гісторык беларускае музыкі будзе падзяляць гісторыю яе на два востра адмежаваныя адзін ад аднаго пэрыоды: беларускую музыку да Кастрычнікавае рэволюцыі і беларускую музыку пасьля рэволюцыі. Гэтая адмежаванасьць датычыцца перш за ўсё тых музычных форм, якія культываваліся ў першым і другім пэрыодзе. Што-ж тычыцца зьместу музыкі, дык ня трэба забывацца на тое, што ў музыцы форма і зьмест найчасьцей шчыльна злучаны і нават зусім зьліты адно з адным, залежаць адно ад аднаго. Для выяўленьня пэўнага зьместу патрабуецца пэўная форма, а апошняя залежыць, бадай што заўсёды, ад чыста фізычных магчымасьцяй,—ужываньня пэўных інструмантаў, наяўнасьці музычных колектываў (оркэстраў і тэатраў, камэрных ансамбляй) і інш.

Гаворачы наагул, кожную нацыянальную музыку можна падзяліць з формальнага боку на дзьве галоўныя часьціны: фундамант і надбудову на ім. Фундаментам нацыянальнае музыкі зьяўляецца народная, нацыянальная песьня (з далучэньнем музыкі да народных скокаў), надбудоваю-ж—ўсё тое, што мы называем „мастацкай музыкай“, г. ё. усё тое, што композытары, узброеныя ўсімі ведамі сучаснае музычнае навукі, утвараюць на аснове народнай песьні для выкананьня на ўсіх тых інструмантах, што зьявіліся ў выніку шмат векавога агульна-эўропейскага музычнага разьвіцьця.

З гэтага пункту погляду рэзкая адмежаванасьць адзін ад аднаго двух пэрыодаў у гісторыі беларускае музыкі робіцца зусім наяўнай. Да Кастрычнікавае рэволюцыі мы маем толькі фундамант беларускае музыкі, пасьля рэволюцыі і дзякуючы выключна рэволюцыі пачынае ўгварацца надбудова. Называючы народную песьню фундамантам, мы ўжываем форму аналёгіі. Калі гэтую аналёгію, мы прадоўжым, дык „мастацкай“ музыкай (надбудовай) мы можам назваць усё тое, што будуецца на фундаманце,—сьцены з вокнамі і дзьвярыма, страху, усе знадворныя аздобы будынку, пакоі ў ім і ўсё іхняе абсталяваньне. Апошнія гады ў музычных і наагул у культурніцкіх колах беларускіх можна часта пачуць спрэчкі на тэму: што важней, народная песьня альбо мастацкая музыка? Я-б назваў гэтыя спрэчкі сьмешнымі, бо і тое і другое аднолькава важна: бяз фундаманту будынку не пабудуеш, але з другога боку—трэба, папершае, помніць, што мы жывём не ў якім-небудзь XV ці XVI сталецьці, што Кастрычнікая рэволюцыя ёсьць рэволюцыя XX сталецьця, і нас ужо ня можа задаволіць тое, што задаволіла-б, можа быць, у XVI сталецьці, і што жыць на адным фундаманце, які-б ён ні быў моцны і прыгожы, жыць ня маючы навокал сябе сьцен і над сабою страхі, ніякім чынам немагчыма.

Што-ж такое беларуская песьня, гэты фундамант беларускае музыкі, якія яе музычныя годнасьці? Усе дасьледцы беларускае песьні сьведчаць аб тым, што яна адзначаецца надзвычайнаю мэлёдычнасьцю, нейкай задушэўнасьцю, сардэчнасьцю сваіх матываў, поэтычнай задумёнасьцю шчыра-музычным хараством. Аб чым-жа сьведчаць гэткія рысы беларускай песьні? Відавочна, што народ, які стварыў гэтую

песьню, павінен быць народам музычным, народам з прыроджаным і моцным пачуцьцём музыкі. А ў гэтым разе можна паставіць і далейшае пытаньне: чаму беларусы, якія стварылі такі прыгожы фундамант музыкі, як сваю народную песьню, не пабудавалі на працягу шматвяковае свае гісторыі на гэтым фундаманце мастацкае музыкі? У адказ на гэта дазволю сабе прывесьці вытрымку з таго, што ўжо даводзілася пісаць два гады таму назад.[1] „Гэтае зьявішча тлумачыцца тымі экономычнымі, грамадзкімі, палітычнымі і іншымі абставінамі, у якіх жыў беларускі народ дагэтуль. Гэтыя абставіны зрабілі тое, што беларусы якраз у той час, калі ўва ўсёй Эўропе вельмі шпарка ішло музычнае разьвіцьцё, г. ё. у другой палове XVIII і ў XIX сталецьці, ня мелі свае беларускай нацыянальнай інтэлігэнцыі. Інтэлігэнтныя сілы, якія вышлі з нетраў беларускага народу, існавалі, і было іх нямала, але набывалі яны сваю інтэлігэнтнасьць, выхоўваліся і вучыліся ў школах ніжэйшых, сярэдніх і вышэйшых альбо польскіх, альбо расійскіх. Яны ў большасьці адрываліся ад свайго народу і працавалі сярод чужой культуры і на карысьць гэтае чужой культуры. Дый калі-б яны і захацелі працаваць на карысьць свае роднае нацыянальнае культуры, дык не маглі-б з прычыны тых самых грамадзкіх і палітычных абставін, аб якіх ведама ўсім і якія былі зьніштожаны толькі 10 год таму назад Вялікаю Кастрычнікаваю рэволюцыяю. Гэткім чынам і вышла, што, як пісала калісьці „Сав. Беларусь“, такі „ўжо быў агульны лёс Беларусі: яна гадавала для расійцаў і палякоў вялікіх мастакоў у розных галінах мастацтва і культуры“ („Сав. Бел.“ 1923 г. № 231, арт. „Ад кустарніцтва да мастацкай творчасьці“). У галіне музыкі магчыма паказаць такіх вялікіх мастакоў, беларусаў паходжаньнем, як Глінка і Манюшка. Глінка нават і ня ведаў, мусі быць, беларускае песьні, а Манюшка ведаў яе, любіў яе, карыстаўся ёю ў сваіх творах. Карыстаўся ён беларускаю песьняй у опэрах Галька, Sielanka, Pobor rekrucki. Але зрабіў ён опэры не беларускія, а польскія. Вось чаму ні Манюшку, ні тым болей Глінку ніякім чынам немагчыма лічыць культуртэгэрамі беларускае музыкі“.

На працягу ўсяго XIX сталецьця мы можам констатаваць толькі зьбіраньне і запіс беларускіх песень. Такіх зьбіральнікаў было нямала, але ў аграмаднай большасьці сваёй гэта былі дылетанты, без належнай музычнай адукацыі. Справу сваю яны, аднак, зрабілі і маюць сваё досыць пачэснае месца ў гісторыі беларускае музыкі (Абрамовіч, Радчэнка, Шыдлоўскі, Чарноўская, Баршчэўскі, Раманаў, Равінскі, Шэйн, Грыневіч, Янчук, Чарны, Казура, Тэраўскі, Сербаў і шмат іншых).

Толькі ў пачатку XX сталецьця пачынаюць зьяўляцца творы беларускае мастацкае музыкі, але надта асьцярожна, неяк палахліва. Спаміж гэтых твораў можна адзначыць толькі два, якія маюць сякое-такое значэньне. Гэта—опэра „Залёты“, напісаная Кімонт (тэкст Марцынкевіча), і аркэстравая сюіта Л. Рагоўскага. Па фактуры сваёй абодвы гэтыя творы тэхнічна досыць прымітыўныя, а опэра „Залёты“, апроч гэтага, напісана яшчэ на ўзор старых нямецкіх „зінгшпіляй“, дзе музыка чаргуецца з гутаркамі.

На захадзе ад нас, у заходняй Беларусі (на Літве і ў Польшчы) такі стан рэчаў цягнецца і дагэтуль. Зусім ня чуваць, каб там штокольечы зроблена было ў галіне мастацкае музыкі. Дзіўнага тут нічога няма, бо і ўва ўсіх іншых галінах жыцьця стан рэчаў у заходняй

[1] Гл. газэту „Савецкая Беларусь“ 1925 г. № 124.

Беларусі мала чым зьмяніўся ў параўнаньні з дарэволюцыйнымі часамі, а ў адносінах да беларусаў і зусім не зьмяніўся, толькі што замест русіфікацыі пачалася полёнізацыя. Адсюль і ясна, што той процэс утварэньня беларускае мастацкае музыкі, які ідзе ў нас, пачаўся і разьвіваецца толькі, як я ўжо сказаў, дзякуючы Кастрычнікавай рэволюцыі. Але аб гэтым ніжэй.

Як стаяла да рэволюцыі на Беларусі справа з музычнаю асьветай? Можна сьмела сказаць, што гэтае справы зусім ня было. На ўвесь аграмадны „Западный край“, на былыя губэрні: Віленскую, Ковенскую, Гародненскую, Менскую, Віцебскую, Магілеўскую і Сувалкскую, існавала адна дзяржаўная музычная школа („Русского музыкального общества“) ў горадзе Вільні. Яна была досыць добра пастаўлена і мела добрых настаўнікаў ува ўсіх галінах музыкі. Апроч яе, ў двух-трох гарадох існавалі невялічкія прыватныя музычныя школы з далёка ня поўным лікам прадметаў навучаньня. Яны цягнулі даволі мізэрнае існаваньне і мелі мала вучняў. Але што найважней, гэтымі школамі, як дзяржаўнай у Вільні, так і прыватнымі, фактычна магло карыстацца толькі заможнае насельніцтва, буржуазія і злучаныя з ёю інтэлігенцкія групы. Гэтыя групы, аднак, хоць і мала, ўсё-ж такі так-сяк абслугоўваліся ў музычных адносінах, бо нямала па буйных дый дробных гарадох Беларусі працавала паасобных прыватных настаўнікаў музыкі. У дадатак можна адзначыць, што ў сярэдніх жаночых школах (гімназыях, інстытутах, эпархіяльных вучылішчах) вучылі іграць на роялі і сьпяваць, а ў мужчынскіх (гімназыях, рэальных вучылішчах) арганізоўвалі духавыя оркэстры і хоры, якія выступалі на афіцыйных урачыстасьцях. Музычнаю асьветаю гэта назваць, зразумела, цяжка, дый такою асьветаю зноў такі карысталіся тыя-ж заможныя слаі насельніцтва.

Існаваў, праўда, адзін тып вучылішчаў, дзе навучаньне музыцы пастаўлена было больш-менш паважна. Гэта былі настаўніцкія сэмінарыі. Вывучалася там добра харавая справа, вучылі іграць крыху на скрыпцы. Мэтай гэтага навучаньня было ўтварэньне будучымі вясковымі настаўнікамі школьных хароў у вясковых школах. Вось тут і зьнікала ўся тая карысьць, якую магла-б мець добрая пастаноўка музычнае справы ў настаўніцкіх сэмінарыях. Бо што пялі ў вясковых школах? На дзьве трэці рэпэртуар быў царкоўны, і ня болей аднэй трэці аддавалася народнай песьні. Гэтая народная песьня на Беларусі была тая-ж, што і ў Маскоўскай, Разанскай, Калужскай і г. д. губэрнях. Штучным чынам, гвалтам выганялі, давілі беларускую песьню. Як выключэньне, часам як нейкі кур'ёз можна было пачуць у школе беларускую песьню напрыклад, „Чаму-ж мне ня пець“, распашыраную з лёгкай рукі вядомага Агрэнева-Славянскага. Вось такая музычная асьвета, якая давалася ў вясковых школах (і ў ніжэйшых школах гарадзкіх), і было ўсё тое ў галіне музычнае асьветы, што атрымлівалі працоўныя гушчы да рэволюцыі.

Некалькі слоў аб становішчы музыкаў да рэволюцыі. Музыкі былі людзі трэцяга гатунку, апроч тых, якія мелі вышэйшую музычную адукацыю. Апошніх на Беларусі было вельмі мала. Яны складалі корпорацыю пэдагогаў Віленскага музычнага вучылішча, а, апроч яго, па буйнейшых гарадох Беларусі працавала ня шмат такіх музыкаў прыватнымі настаўнікамі музыкі (галоўным чынам піаністыя). Уся іншая маса музычных работнікаў, сярод якой часта сустракаліся вельмі здольныя і сапраўдныя мастакі, няшчадна эксплёатавалася рознымі антрэпрэнэрамі, гаспадарамі, прадпрыемцамі. У параўнаньні з іншымі профэсіямі

працоўнага люду, становішча музыкаў было нейкае прыніжанае, і *пагляд на музыкаў, як на „скамарохаў“*, з часоў сярэднявякоўя цалкам і канчаткова ня зьнік. Самі музыкі мала протэставалі супроць гэтага становішча, бо самасьвядомасьці было надта мала. Цалкам на службе ў буржуазіі (у тэатрах, рэстаранах, кіно) яны і адчувалі сябе і вялі сябе, як пакорныя слугі яе. Яны зусім не займалі ў грамадзянстве таго месца, якое маглі займаць па тэй карысьці, што прыносілі альбо маглі-б прыносіць гэтаму грамадзянству.

І вось прышоў Кастрычнік. Каб уявіць сабе значэньне Кастрычнікавай рэволюцыі ў той галіне культуры, якая нас цяпер цікавіць, трэба мець на ўвазе наступнае, прымаючы пад увагу коратка намаляваны вышэй стан рэчаў перад рэволюцыяй: на паверхню жыцьця вышлі новыя слаі грамадзянства, тыя слаі, якія і ствараюць сапраўдны „народ“ ужо аднэй сваёй масай, г. ё. гушчы рабочых і працоўных сялян. Адсюль і паходзяць усе вынікі рэволюцыі: 1) зьмена становішча песьні, якую і стварыў народ, 2) воля разьвіцьця нацыянальнае культуры, у даным выпадку нацыянальнае музыкі, 3) нячуванае дагэтуль пашырэньне музычнае асьветы і зьмена яе форм і зьместу, 4) зьмена становішча музычных працаўнікоў. *Усё гэта больш-менш яскрава выявілася ўжо* і ў нас на Беларусі і ў паказаным парадку мы і разгледзім справу.

Разам з воляю разьвіцьця нацыянальнае культуры (як беспасрэдным вынікам нацыянальнае політыкі савецкае ўлады) беларуская песьня загучэла вольна і голасна, загучэла так, як аб гэтым калісьці толькі *марыў народны поэта Беларусі Янка Купала:*

Гэй жа, брацьці, усе мы разам
Песьню запяём,
Дружна, сьмела, на сьвет цэлы
Аб жыцьці сваём!

Загучэла песьня па вёсках і гарадох, па школах і хатах-чытальнях, па клюбах і концэртных залях. Тыя музычныя дзеячы, якія раней з немалаю небясьпекаю для сябе працавалі асьцярожна і, можа быць, крыху палахліва, як популярызатары беларускае народнае песьні, цяпер атрымалі магчымасьць разгарнуць сваю дзейнасьць ушыркі і ўглыбкі. І яны ў поўнай меры разгарнулі гэтую дзейнасьць. Тут на першым месцы трэба паставіць найвыдатнейшага з популярызатараў беларускае песьні, вельмі талентнага хормайстра У. В. Тэраўскага [1]). Калі да рэволюцыі беларуская песьня складала вельмі значную частку рэпэртуару тых хораў, якімі на працягу свайго жыцьця кіраваў Тэраўскі па розных гарадох СССР, дык цяпер яна пачынае запаўняць увесь гэты рэпэртуар. У 1917 годзе Тэраўскі працаваў у Менску. Хор яго дайшоў да ліку 50 сьпевакоў і прыняў офіцыйную назову „Беларускі народны хор“. Гэты хор потым злучыўся з драматычнай трупай, якая давала спэктаклі з музыкай і пяяньнем у „Беларускай хаце“ і ў клюбе імя М. Багдановіча. Пазьней гэтая трупа стала Беларускім дзяржаўным тэатрам (1-м), *у якім Тэраўскі і працуе дагэтуль як хормайстар.* Але Кастрычнікавая рэволюцыя дала Тэраўскаму магчымасьць пашыраць беларускую песьню ня толькі яе рэальным мастацкім выкананьнем, але выданьнем зборнікаў яе гармонізацый і ўласных харавых композыцый, пабудаваных на грунце народнай песьні. У 1920 годзе Тэраўскі выдаў у Менску

[1]) Агляд усяе музычнае дзейнасьці У. В. Тэраўскага гл. у газэце „Савецкая Беларусь“ 1927 г. № 191.

трохгалосны сьпеўнік з 25 нумароў. У 1922 годзе вышаў у Бэрліне яго „Лірнік", харавы зборнік з 100 нумароў, сярод якіх ёсьць яго ўласныя гармонізацыі і композыцыі, а таксама і гармонізацыі Кашына, Шымкуса і Рагоўскага. У 1926 годзе Тэраўскі напісаў вайсковы сьпеўнік з 30 нумароў. Як хормайстар БДТ 1, Тэраўскі скампанаваў альбо апрацаваў (на грунце народнае песьні) вокальную частку музыкі да п'ес: На купальле, Каваль Ваявода, Кар'ера Брызгаліна, Кастусь Каліноўскі, Панскі Гайдук. Апроч пералічанага, Тэраўскі мае нявыдадзеных яшчэ каля 100 харавых нумароў уласнае композыцыі, якія неаднакраць выконваліся публічна, і каля 50 гармонізацый народных песень. Дый беспасрэдным зьбіраньнем і запісам народных песень Тэраўскі займаўся нямала і запісаў дагэтуль да 300 песень.

За Тэраўскім ідзе шэраг іншых харавых дзеячоў, зьбіральнікаў і гармонізатараў беларускае песьні з іх харамі (хор вандроўнага тэатру Галубка, Леўчанкі, студыйны хор Галоўпалітасьветы і інш.). Спаміж такіх дзеячоў можна назваць А. А. Ягорава, М. Х. Мацісона, М. М. Чуркіна, Леўчанку і інш.

Калі-ж па ўсім абшары БССР вольна і голасна загучэла родная беларуская песьня, дык адразу-ж стала ясна, што ранейшага спосабу зьбіраньня і вывучэньня, а разам апрацоўкі (гармонізацыі) яе ўжо не выстарчае, бо ўсё гэта рабілася больш-менш выпадкова, несыстэматычна і галоўным чынам, як было ўжо сказана, аматарамі. Трэба было надаць гэтай працы сыстэматычны характар і прыцягнуць да яе музычных дзеячоў—профэсыяналаў з вышэйшай музычнай адукацыяй. Спачатку, аднак, пакуль не зьявілася спэцыяльная ўстанова, якая-б клапацілася аб вывучэньні беларускае песьні, праца адбывалася ўсё-ткі, так сказаць, спорадычна. Так, у 1923 годзе Наркомасьветы БССР склікаў у Маскве „Беларускую песенную камісію", у склад якой увайшлі композытары Іпалітаў-Іванаў, Аленін, Нікольскі, Грэчанінаў, Прохараў і Аладаў. Камісіі быў дадзены матар'ял у выглядзе некалькіх сот песень-прымітываў, яна працавала ўвесь 1923 год і ў пачатку 1924 году, і сябры яе гармонізавалі 250 песень для рознага ліку галасоў, ад аднаго (solo з акомпанімэнтам рояля) да 4-х (з акомпанімэнтам рояля і a capella). Найбуйнейшую працу ў гэтай комісіі выканаў композытар-этнограф Я. В. Прохараў. Яго зборнік з 82 песень (дагэтуль яшчэ, на вялікі жаль, ня выдадзены Дзяржаўным выдавецтвам) асабліва каштоўны яшчэ і тым, што Прохараў зрабіў усебаковае дасьледваньне і над тэкстам песень, каб мець такі тэкст, які можна было-б назваць праўдзіва аўтэнтычным. А ў 1924 годзе Прохараў быў камандыраваны Наркамасьветы БССР у музычна-этнографічную экспэдыцыю. Разам з вядомым знаўцам беларускае народнае творчасьці Сержпутоўскім ён аб'ехаў розныя мясцовасьці на Меншчыне і Магілеўшчыне, дзе запісаў 40 мэлёдый.

Але ўсё ясьней і ясьней адчувалася неабходнасьць спэцыяльнае ўстановы, аб якой толькі што было сказана. Гэткая ўстанова нарэшце і зьявілася. Увесну 1925 году пры мастацкай сэкцыі Інстытуту беларускае культуры організавана была музычная падсэкцыя, галоўнай справаю якой і павінна было быць зьбіраньне і вывучэньне беларускае народнае песьні. З восені 1925 году ў гэтай падсэкцыі ў якасьці сэкратара працуе адзін з старэйшых і выдатнейшых зьбіральнікаў беларускае песьні, А. А. Грыневіч[1]). Гэта сапраўды гэрой працы ў галіне

[1]) Агляд усяе музычнай дзейнасьці Грыневіча гл. в газэце „Савецкая Беларусь" 1924 г. № 114.

вывучэньня беларускае народнае музычнае творчасьці. Усё сваё жыцьцё аддаў ён на гэтую працу, дзеля яе ён ня мала цярпеў, аддаючы на зьбіраньне і выданьне беларускіх песень свае апошнія невялічкія матар'яльныя сродкі і працуючы ў гэтым кірунку ў тыя часы, калі гэта было нават часам і небясьпечна. З мэтаю зьбіраньня беларускіх народных мэлёдый Грыневіч аб'езьдзіў шмат мясцовасьцяй Беларусі,—на Віленшчыне, Меншчыне, Магілеўшчыне, Віцебшчыне, Полаччыне, Случчыне, Бабруйшчыне, Навагрудчыне, Вілейшчыне, Дзісьненшчыне. Усяго дагэтуль Грыневіч запісаў каля 500 народных мэлёдый, а тэкстаў песень каля 1000. Ня мала папрацаваў А. А. і ў галіне выданьня зборнікаў беларускіх песень. Яшчэ да рэволюцыі, у 1910—12 гадох, Грыневіч надрукаваў у Ленінградзе два зборнікі, у якія ўвайшлі болей 50 песень. А пасьля рэволюцыі вышлі з друку (ў Вільні) наступныя зборнікі Грыневіча: 1) у 1920 годзе—два сьпеўнікі, школьны (20 песень) і народны (15 песень); 2) у 1923 годзе—„Навука сьпеваў" (тэорыя і практыка); 3) у 1925 годзе—дзіцячы сьпеўнік (30 песень). З вясны 1925 года А. А. Грыневіч жыве ў Менску, працуе, як сказана было, ў музычнай падсэкцыі ІБК, а таксама падрыхтоўвае да выданьня новыя песенныя зборнікі (школьны сьпеўнік на 3 галасы- 65 песень, дзіцячы сьпеўнік на 1, 2 і 3 галасы—60 песень і іншыя).

Музычная падсэкцыя ІБК мае ў сваім портфэлі ў сучасны момант вялізны матар'ял з некалькіх тысяч беларускіх песень—прымітываў. На жаль, Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі ня мае дагэтуль свае ўласнае нотадрукарні, а музычная падсэкцыя ня мае сродкаў, каб друкаваць сабраныя матар'ялы ў Маскве, і яны ляжаць у падсэкцыі ў рукапісным выглядзе неапублікаваныя. А працу над зьбіраньнем народных песень музычная падсэкцыя вядзе бязупынна, ад часу да часу наладжваючы адпаведныя экспэдыцыі.

Побач са зьбіраньнем песень ідзе праца над іх гармонізацыяй, над якой працуюць як ранейшыя працаўнікі, так і новыя, якія зьявіліся разам з рэволюцыяй і прынесенай ёю вольнасьцю для беларускае культуры і яе часьціны —песьні.

І гэтая воля дала магчымасьць распачаць будаваньне над фундамантам сьцен і страхі. І будаваньне пачалося ў сваім маштабе досыць буйнае і шпаркае. Зразумела, Беларусь адразу, з вышэй высьветленых прычын, не знайшла ў сябе ўластных працаўнікоў у належным ліку. Але культурнае адраджэньне Беларусі прыцягнула да яе шмат буйных музычных сіл з іншых музычных цэнтраў СССР. Гэтыя музычныя сілы і зьяўляюцца, воляю гісторычных лёсаў, піонэрамі беларускае мастацкае музыкі і выхаваўцамі маладых беларускіх музыкаў,—выканаўцаў, кіраўнікоў, тэорэтыкаў, композытараў. Усе яны скупіліся ў аднэй установе, якая зьяўляецца сапраўдным выключным утварэньнем Кастрычнікавае рэволюцыі і яскравым паказальнікам шпаркага росту беларускае культуры. Я разумею тут Беларускі дзяржаўны музычны тэхнікум. Трох год яшчэ не прайшло ад часу яго заснаваньня, яшчэ ў некаторых адносінах ня скончыўся яго організацыйны пэрыод з усімі цяжкасьцямі і памылкамі гэтага пэрыоду, а працаўнікі яго ўжо далі цэлы шэраг твораў беларускае мастацкае музыкі ў розных яе інструмэнтальных і вокальных формах. На гэтых творах мы і спынімся.

Спаміж сучасных творцаў беларускае мастацкае музыкі на першым месцы трэба паставіць композытара М. І. Аладава [1]). Апроч гармоні-

[1]) Агляд усяе музычнае дзейнасьці М. І. Аладава гл. у газэце „Сов. Беларусь" 1927 г. № 88.

зацыі 25 беларускіх песень, якую Аладаў зрабіў, калі працаваў яшчэ як сябра Маскоўскае „Беларускае песеннае коміси“, яго пяру належаць: 1) фортэп'янны квінтэт C—dur, 2) шэраг романсаў на словы беларускіх поэтаў, 3) концэртная аранжыроўка беларускае марсэльезы для хору з оркэстрам, 4) вокальная частка музыкі ў драме „Вір“ Романовіча, 5) урачысты гімн да 10-годзьдзя Кастрычнікавае рэволюцыі для хора з оркэстрам (на словы Л. Цьвяткова).

Спаміж гэтых твораў найбуйнейшае гісторыка-музычнае значэньне мае квінтэт C—dur (op. 15) для фортап'яна, дзьвёх скрыпак, альта і віолёнчэлі. Гэты твор ужо выходзіць па-за межы вузка нацыянальныя, але, застаючыся чыста нацыянальным, ён па сваёй дасканаласьці зьяўляецца ўжо ўкладам у скарбніцу агульна-эўропейскае музыкі. Ён складаецца з трох частак. 1-ая частка пабудована па строгай сонатнай форме. Яна пачынаецца невялічкім уступам (Introduzione. Allegro rivolute et andante) на темы беларускае народное жніўнае песьні „Відзіць маё вочка, што край недалёчка“, а потым пераходзіць да асноўнае часьціны (Allegro con moto). Тут у экспозыцыі дзьве тэмы: 1) карагодная песьня „Дзеўкі хмеля садзілі“ і 2) „У горадзе на рынку“—пявучага характару. У распрацоўцы мы чуем пераважна першую тэму, і галоўным чынам мотывы 9-га і 10-га тактаў. Рэпрыза (зварот да асноўных тэм)—поўная, але ў іншай струмантоўцы і з іншымі модуляцыямі. Coda—presto на мотывы 9-га і 10-га тактаў першае тэмы. 2-ая частка—Andante—мае дзьве тэмы: 1) „Як памёрла матулька“ і 2) „Калыханка“. Форма—трохчастковая са зваротам да 1-е тэмы. 3-я частка таксама, як і першая, сонатнае формы. Пасьля кароткага ўступу пачынаюцца галоўныя тэмы. Іх тры: „Як прыехаў джун-джара“, „Пы гарохаўю, пы ячаньню“ і „Як пайшоў я па Дунаю“. Потым ідзе невялічкая распрацоўка 1-ае тэмы, якую перарывае тэма з уступу да 1-ае часткі „Відзіць маё вочка“. Рэпрыза крыху пашыраная з усімі трыма тэмамі 3-яе часткі. Coda (заключэньне)—на мотыў 1-ае тэмы—„Як прыехаў джун-джара“.

Усе тэмы 1-ае і 3-яе частак запісаны композытарам з вуснаў сялянкі Еўфрасіні Міхайлаўны Гарэцкай (з сяла Меншая Багацькаўка, Калінінскае акругі), маці пісьменьніка Максіма Барэцкага, а тэмы 2-ое часткі ўзяты з „Лірніка“ Тэраўскага.

Квінтэт Аладава адзначаецца вялікімі годнасьцямі і з боку зьместу, і з боку формы. Вытрыманасьць і яснасьць гэтае апошняе, калі слухач зусім ясна чуе пераходы ад аднэй тэмы да другой, канец экспозыцыі (выклад тэм) і пачатак распрацоўкі, орыгінальнасьць і хараство гармоній, гучнась і, сказаў-бы я, сакавітасьць інструментоўкі, тэхнічнае майстэрства і закончанасьць, нейкая асаблівая глыбіня зьместу, якую аўтар надаў свайму твору, хаця быў зьвязаны дадзенымі наперад чужымі тэмамі,—вось галоўныя дадатныя бакі твору. Надзвычайна вялікае ўражаньне робіць сярэдняя частка з яе цудоўнымі тэмамі, з якіх 1-ая разгортваецца на фоне акомпанімэнту, які нагадвае ў пачатку вядомы хаўтурны марш Шопэна. Урэшце, цяжка сказаць, якая частка прыгажэйшая,—яны ўсе цудоўныя, кожная ў сваім родзе.

Што тычыцца романсаў на словы беларускіх поэтаў, дык Аладаў напісаў наступныя:

1) Op. 14—словы Янкі Купалы.

№ 1. Сасонка.

№ 2. Лета.

№ 3. З асеньніх напеваў.
№ 4. Лісты валяцца.
№ 5. Бяспутнасьць.

2) Ор. 17.—на словы М. Багдановіча.
№ 1. Глянь, як зорка ў небе ляціць.
№ 2. Як пайшла я на ток малаціць.
№ 3. Падвей (з тэмай скоку „Юрка").
№ 4. Скрылась кветамі ў полі магіла.

Усе гэтыя романсы адзначаюцца харастам і шчыраю поэтычнасьцю мэлёдый: бездакорнасьцю з боку дэклямацыйнага; а прыгожыя акомпанімэнты даюць цэлыя гукавыя малюнкі альбо прыроды, альбо душэўных настрояў.

Аранжыроўка беларускае марсэльезы меней удалася нашаму таленавітаму композытару. Аўтар захапіўся чыста тэхнічным майстэрствам, і яго аранжыроўка, пры ўсёй сваёй тэхнічнай цікавасьці, у значнай меры страціла вялічэзнасьць і дынамічнасьць гімну.

За Аладавым ідзе шэраг іншых композытараў беларускае мастацкае музыкі, спаміж якіх трэба адзначыць Я. В. Прохарава, І. Я. Фідлона, Т. А. Шнітмана і М. М. Чуркіна, які працуе ў Магілеве.

Я. В. Прохараў, апроч памянёнага вышэй зборніку 82 гармонізацый, напісаў наступныя романсы на словы беларускіх поэтаў:

1) Вадгульле,
2) Мяцеліца,
3) У сьне,
4) Палявая мышка (трыо),
5) У мгле.

Першыя тры рэчы напісаны на словы Якуба Коласа, а апошнія дзьве на словы Янкі Купалы.

І. Я. Фідлон напісаў смычковы квартэт A—dur (ор. 9), інструмантальную частку музыкі да драмы „Вір" Рамановіча і беларускую оркэстровую сюіту.

Квартэт Фідлона мае тры часткі. Усе тэмы квартэту ўзяты композытарам з беспасрэднае крыніцы, запісаны з вуснаў сялян—беларусаў розных мясцовасьцяй Беларусі. Запісаў іх аўтар некалькі год таму назад, яшчэ ў часы грамадзянскае вайны, калі ён быў на фронце ў шэрагах Чырвонае арміі. На жаль, аўтар ня этнограф, слоў песень не запісаў, не адзначаў, у якой мясцовасьці ён запісаў тую ці іншую песьню, а цікавіўся самімі мэлёдыямі. Дый наогул умовы, у якіх ён запісаў гэтыя мэлёдыі, як ён сам апявядае, былі такія, што слоў ён і ня мог-бы запісаць, калі-б і хацеў. З гэтай прычыны ў тэматычным разглядзе яго квартэту немагчыма сказаць, якія менавіта беларускія песьні зьяўляюцца тэмамі.

У экспозыцыі 1 часткі 5 тэм, песьні і мэлёдыі скокаў. Апошнія аўтар чуў на сялянскіх гульнях у выкананьні на гармоніцы. У распрацоўцы прымаюць удзел усе тэмы і нават адна з наступнае часткі квартэту—andante. 2-я частка мае чатыры тэмы. Вельмі цікавая першая тэма,—песьня сьляпога дзеда - жабрака. 3-я частка складаецца выключна з мелёдый да скокаў. Пачынаецца яна з уступу Grave на тэму скоку „Юрка". Далей ідзе allegro—тэмы „Юркі", „Лявоніхі" і іншых скокаў. Coda нагадвае тэму ў пачатку 1-е часткі квартэту.

Квартэт сьведчыць аб бясспрэчнай таленавітасьці маладога кампозытара. Асабліва ўдалася яму 2-я частка. Яна робіць вялікае ўражаньне сваёй шчырасьцю і поэтычнасьцю. Вельмі цікавая і арыгінальная ў ёй таксама і інструмантоўка. Да хіб квартэту трэба аднесьць некаторую няяснасьць і расплыўнасьць формы, што асабліва моцна адчуваецца ў 1 частцы, дый і 3-я ня зусім пазбаўлена ад гэтае хібы. Над гэтымі часткамі маладому і здольнаму композытару трэба было-б яшчэ папрацаваць. Шкодзіць справе і надта вялікі лік тэм. Палову іх можна было-б бяз шкоды адкінуць, а астатнія распрацаваць паўней і ясьней. Гармонізацыя квартэту, бязумоўна, цікавая, інструмантоўка прыгожая[1]).

Беларуская сюіга для сымфонічнага оркэстру скончана Фідлонам на гэтых днёх і неўзабаве будзе выканана ў Менску. Яна складаецца з трох часьцін праграмнага характару, таксама на тэмы беларускіх песень. Назовы часьцін сюіты наступныя: 1) У палёх, 2) Песьня дзяўчыны, 3) Народнае сьвята.

Композытар Т. А. Шнітман напісаў дагэтуль наступныя творы:

1) Рэволюцыйная кантата на тэмы інтэрнацыяналу і беларускае марсэльезы. Для хору, оркестру і солістых (вокальных).

2) Паляці, мая мысль. Словы Я. Купалы. Для аднаго голасу з акк. рояля.

3) Не вазьму я жонкі. Дуэт. Словы Я. Купалы.

4) Чырвоны асілак. Словы Я. Каваленка. Для аднаго голасу з акк. рояля.

5) Буду пець. Словы Я. Купалы.

6) Разьвейся туман. Словы Я. Купалы.

7) Пусты ўлетку нашы сёлы. Словы Я. Коласа. Для жаночага хору.

8) Моладзь. Словы М. Чарота. Для поўнага хору.

9) Песьня—звон. Словы Алеся Гаруна. Для поўнага хору.

10) У лесе. Словы З. Бядулі. Поэма для хору з оркэстрам.

11) Песьня волі. Словы М. Чарота. Кантата для хору з оркэстрам і органам.

12) Фуга для смычковага квартэту.

13) Беларуская сымфонія (скончаны дзьве часткі).

М. М. Чуркін напісаў шэраг беларускіх хораў, якія адзначаюцца прыгожай гучнасьцю і эфэктнасьцю, хоць чыста беларускі нацыянальны элемэнт у іх крыху і пацярпеў.

З гэтага кароткага агляду галоўнейшых зьявішчаў у галіне беларускае мастацкае музыкі мы бачым, што зьяўленьне і разьвіцьцё апошняе пачалося толькі з Кастрычнікавае рэволюцыі і дзякуючы гэтай рэволюцыі. Усе без выключэньня пералічаныя творы мастацкае беларускае музыкі выклікнуты патрэбамі жыцьця рэволюцыйнага пэрыоду, патрэбы гэтага жыцьця прыцягнулі да працы на Беларусі Аладава і Прохарава, патрэбы жыцьця даюць натхненьне і тэмы ўсім памянёным вышэй композытарам. Процэс утварэньня беларускае мастацкае музыкі пачаўся, і пачаўся ўдала. Будзем чакаць новых твораў у гэтай галіне, бо ў галіне працы падрыхтоўчай (зьбіраньня і гармонізацыі народных мэлёдый) зроблена ўжо вельмі нямала.

[1]) Нядаўна Фідлон грунтоўна перапрацаваў свой квартэт, выправіўшы у ім паказаныя хібы, але ў гэтым перапрацованым выглядзе квартэту чуць яшчэ не даводзілася.

Гаворачы аб працэсе ўтварэньня беларускае мастацкае музыкі, нельга ніякім чынам абмінуць тае ролі, якую ў гэтым працэсе іграюць тры беларускія нацыянальныя ўстановы,—Дзяржаўны Музычны Тэхнікум і 1-ы і 2-і Дзяржаўныя Тэатры. Усе гэтыя ўстановы ёсьць утварэньні выключна Кастрычнікавае рэволюцыі, організаваны органамі савецкае ўлады і яскрава сьведчуць аб тым узьлёце беларускае культуры, які выклікнуты рэволюцыяй. Нічога падобнага мы, зразумела, ня знойдзем у заходняй Беларусі, дзе выяўленьні беларускае нацыянальнае культуры душацца таксама, як душыліся і раней. Падрабязьней аб музычным тэхнікуме мы скажам ніжэй, а цяпер пакуль што адзначым, што бадай што ўсе сучасныя беларускія композытары, творцы беларускае мастацкае музыкі (апрача М. Чуркіна), скупіліся ў музычным тэхнікуме, зьяўляюцца яго працаўнікамі (выкладчыкамі) і большасьць іхніх твораў у галіне беларускае мастацкае музыкі выканана па заданьнях тэхнікуму.

Беларускія дзяржаўныя тэатры для сваіх пастановак патрабуюць многа музыкі, чаму і маюць у сябе оркестры, а 1-ы тэатр і хор (кіраўнік—У. В. Тэраўскі). Вельмі часта музыка да пастановак пішацца новая, якая і павялічвае скарбніцу беларускае музыкі. Пры гэтым да працы прыцягваюцца ня толькі ўласныя, тутэйшыя, музычныя сілы, але буйныя сілы з іншых музычных цэнтраў СССР. Мы бачым ужо, што Тэраўскі напісаў музыку да цэлага шэрагу пастановак 1-га тэатру, Аладаў і Фідлон—да драмы „Вір“. Другі-ж тэатр да драмы „Апраметная“ Шашалевіча мае музыку Грэчанінава, да трагэдыі Эўрыпіда „Бакханкі“—Александрава.

Нельга не адзначыць музычную дзейнасьць 1-га тэатру ў зімовым сэзоне 1926-1927 г. Тэатр наладзіў шэраг сымфонічных концэртаў, 5 чарговых і шосты бэтховэнскі з прычыны сьвяткаваньня 100-годзьдзя з дню сьмерці вялікага музыкі. На чарговых концэртах, праўда, выконваліся выключна сымфонічныя творы расейскіх композытараў[1]), але самы факт пастаноўкі концэртаў ёсьць паказальнік разьвіцьця беларускае музычнае культуры, бо пастаўлены былі яны сваімі сіламі, вокальныя творы выконваліся на беларускай мове, на якой друкаваліся і падрабязныя з тлумачэньнямі програмы. Той-жа 1-ы тэатр паставіў і першую опэру буйнага маштабу на беларускай мове, менавіта „Русалку“ Даргамыскага (ў перакладзе Санковіча і Ждановіча[2]). Гэтая музычная дзейнасьць 1-га тэатру ёсьць, бязумоўна, вялікая заслуга дырэктара Я. Л. Дылы перад беларускаю музыкай.

Уздым беларускае музычнае культуры яскрава выявіўся ў „бэтховэнскія дні“, калі вялікая гадавіна была адсьвяткавана, па нашым маштабе, вельмі добра. Тут было нейкае культурнае спаборніцтва паміж 1-м тэатрам і музычным тэхнікумам. Ніколі да рэволюцыі Менск ня бачыў і ня чуў нічога падобнага. Вялікі сымфонічны концэрт у тэатры з пастаноўкай 9-ае сымфоніі, цэлы шэраг концэртаў музычнага тэхнікуму,—усё гэта ў музычным жыцьці Менску былі, як кажуць, „вялікія дні“. На яе гадавіну адгукнуліся беларускія газэты (Звезда, Савецкая Беларусь, Чырвоная Зьмена) і часопісі (Полымя, Маладняк, Узвышша) адпаведнымі артыкуламі, і была выдадзена Галоўпалітасьветай популярная брошура

[1]) Толькі ў першым концэрце выканана была з акомпанімэнтам оркэстру „Сасонка“ Аладава.

[2]) Апрача „Русалкі“ ставіліся яшчэ часткі опэр „Фауст“ Гуно і „Князь Ігар“ Барадзіна (ў перакладзе Ждановіча).

аб Бэтговэне[1]). Апроч Менску, бэтговэнская гадавіна была адзначана яшчэ ў Магілеве і ў Віцебску. У Магілеве на чале справы стаяла музычная школа, а ў Віцебску сымфонічны концэрт наладжаны быў, дзякуючы энэргіі дырыжэра 2-га тэатру І. Гітгарца.

Пяройдзем да музычнае асьветы.

Мы бачылі вышэй, у якім становішчы знаходзілася музычная асьвета на Беларусі да рэволюцыі. На ўсім абшары сучаснае БССР ня было ніводнае дзяржаўнае музычнае школы. Што-ж мы маем цяпер?

На чале музычнае асьветы на Беларусі стаіць Беларускі дзяржаўны музычны тэхнікум. Ён быў заснаваны ў кастрычніку 1924 году і на працягу трох год свайго існаваньня неяк стыхійна і грандыёзна ўзрастаў, разгортваўся. Пачаўшыся з невялічкай музычнай установы з клясамі сьпеваў, рояля, скрыпкі і віолёнчэлі, ён разгарнуўся за тры гады свайго існаваньня ў буйны музычны асяродак, дзе ёсьць ужо спэцыяльныя клясы ўсіх інструмантаў сымфонічнага оркэстру. Ён ёсьць сапраўднае ўтварэньне жыцьця новых часоў, якія пачаліся з Кастрычнікавае рэволюцыі Ня дзіва, што абставіны ўтварэньня і далейшага існаваньня тэхнікуму склаліся вельмі спрыяльна. З аднаго боку, на чале яго стаіць чалавек з нейкай агнёвай энэргіяй (А. Л. Бясьсьмертны), а з другога боку - органы нашае ўлады добра разумеюць і падлічваюць культурныя патрэбы пролетарскага грамадзянства ў музычнай галіне і значэньне музычнага мастацтва ў процэсе разьвіцьця беларускае культуры. Побач са шпаркім разгортваньнем тэхнікуму ўшыркі, на працягу трох год ішло паглыбленьне працы і ўдасканаленьне яе ў якасных адносінах У выніку тэхнікум мае вельмі значныя дасягненьні ў розных галінах свае працы. Я дазволю сабе спыніцца на некалькіх з гэтых дасягненьняў, якія маюць найбольшае значэньне для разьвіцьця беларускага музычнага мастацтва.

Спэцыяльная кляса тэорыі композыцыі (кіраўнік —Я В. Прохараў) рыхтуе будучых беларускіх тэорэтыкаў і композытараў. Сярод апошніх ужо выяўляюцца будучыя сілы, і на програмах концэртаў музтэхнікуму пачынаюць зьяўляцца іхнія творы (романсы слухача тэхнікуму Кавалёва[2]).

Кляса сьпеваў проф. В. А. Цьвяткова дайшла ў сваёй працы да гэй ступені, *калі павінна быць адчынена спэцыяльная опэрная кляса.* Ёсьць цэлы шэраг сьпявакоў, гатовых да опэры, і ў концэртным выкананьні вывучана ўжо некалькі опэр, паміж якіх „Фауст“ і „Русалка“ цалкам на беларускай мове (ў перакладзе Ю. Дрэйзіна). Тут зьяўляецца магчымасьць паступова і неўзабаве ўтварыць сваю ўласную сталую беларускую опэру, якая будзе абслугоўвацца сваімі ўласнымі беларускімі сіламі[3]).

Оркэстровая кляса паступова ператвараецца ў сталы і добры сымфонічны оркэстр. Можна сьмела спадзявацца, што праз невялікі час

---

[1]) Напісана дырыжэрам 1-га тэатру М. Купэрам па кнізе Корганава „Бетховен“. Наколькі Менск адгукнуўся на вялікую гадавіну, можна бачыць з таго, што аўтару гэтых радкоў прышлося 10 разоў выступаць у розных мясцох з прамовамі аб Бэтговэне, з гэтых прамоў 9 былі на беларускай мове і адна на расійскай.

[2]) Публічна выканаўся між іншым яго вельмі прыгожы романс на словы Якуба Коласа: „Бераг высокі, бераг родны“.

[3]) Улетку гэтага года на міжнароднай музычнай выстаўцы у Франкфурце на Майне слухачка тэхнікуму Л. П. Александроўская мела вялікі посьпех, выступаючы з беларускімі песьнямі, якія пяяла пад акомпанімэнт цымбаліста Навіцкага. Пасьля выстаўкі Александроўская і Навіцкі папалі ў лік 10 артыстых розных нацыянальнасьцяй СССР, якія пасланы ў артыстычнае турнэ па розных гарадох Эўропы

тэхнікум будзе мець магчымасьць даваць штогод шэрагі публічных сымфонічных концэртаў па загадзя выпрацаваным пляне, на програмах якіх зьявяцца і новыя сымфонічныя творы беларускае музыкі.

З бягучага навучальнага году ў тэхнікуме адчынена кляса беларускіх народных інструмантаў (галоўным чынам цымбалаў).

Апроч гэтага, тэхнікум ужо можа выставіць цэлы шэраг добрых салістых—піяністых, скрыпачоў і інш.

Але чым больш разгортваецца тэхнікум ушыркі і ўглыбкі, тым больш узрастае адна небясьпека. Гэтая небясьпека замыкаецца ў тым, што ўзгадаваныя ў нас беларускія музыкі па сканчэньні тэхнікуму могуць разьбегчыся па буйных гарадох РСФСР для далейшай музычнай адукацыі ў консэваторыях Узгадаваныя на Беларусі музыкі павінны застацца і працаваць на Беларусі. Для гэтага можа быць адзіны сродак: тэхнікум павінен рэорганізавацца ў Беларускую дзяржаўную консэрваторыю. Пытаньне аб гэтым ужо ўзьнята ў належных інстанцыях, і праз год, праз два Беларуская дзяржаўная консэрваторыя зробіцца фактам. Аб гэтым да рэволюцыі Беларусь не магла і марыць.

Другою буйнаю музычна-асьветнаю ўстановай на Беларусі зьяўляецца Магілеўская дзяржаўная музычная школа. Яна адчынена была ў лютым 1919 году, праз некалькі месяцаў пасьля канчатковага ачышчэньня Магілева нямецкімі оккупантамі. Школа, гэткім чынам, існуе ўсяго 8½ год, і ўвесь гэты пэрыод быў пэрыодам яе бязупыннага разгортваньня ўшыркі і ўглыбкі Школа мае спэцыяльныя клясы сьпеваў, рояля, скрыпкі, віолёнчэлі, духовых інструмантаў, абавязковыя клясы рояля, тэорыі, гармоніі, гісторыі музыкі, беларускае мовы, палітграматы, мае свае вялікія хоры (дзіцячы і поўны), свой оркэстр (да 36 музыкаў). Школа карыстаецца аграмаднаю популярнасьцю ў вакрузе бо, апроч чыста вучэбнае працы, яна вядзе вялізную культурна-грамадзкую працу сваімі частымі концэртамі для працоўных мас гораду Магілеву. Беларускі элемэнт у школе вельмі моцны, і настаўнікі яе прымаюць удзел і ў утварэньні беларускае мастацкае музыкі (Беларуская фантазія для рояля Каранеўскай, Беларуская рапсодыя для рояля Боркуса, Беларускае оркестровае попуры Пэўзнэра і інш.).

Музычная школа існуе і ў Менску. Яна знаходзіцца на гаспадарчым разрахунку і дзяржаўнай пакуль што ня лічыцца. Але ій яна шпарка разьвіваецца, уводзячы ўсё новыя клясы і з кожным годам паляпшаючы кваліфікацыю свае працы. З адчыненьнем Беларускае дзяржаўнае консэрваторыі яна, мусіць быць, увойдзе ў склад яе, як яе 1-ая ступень.

Апроч пералічаных устаноў, мы маем яшчэ музычныя тэхнікумы ў Гомелі і Віцебску Абодвы знаходзяцца на гаспадарчым разрахунку.

Гэткім чынам, мы можам бачыць, што становішча, у якім знаходзіцца цяпер на Беларусі справа музычнае асьветы, нельга і параўнаць з тэй музычнай пустыняй, якая панавала ў нас да Кастрычнікавае рэволюцыі. І ўсе дадзеныя кажуць аб тым, што гэтае становішча будзе ўсё паляпшацца і паляпшацца, музычная асьвета будзе ўсё болей пашырацца Яшчэ ў сьнежані 1925 г. пры галоўпрофасьветы адбылася нарада па пытаньні аб пашырэньні музычнае асьветы на Беларусі У нарадзе прымалі ўдзел: загадчык галоўпрофасьветы Валасевіч, сэкратар галоўпрофасьветы Сінякоў, прадстаўнікі ад музычнае падсэкцыі інбелкульту Сэлях і Дрэйзін, ад Белмузтэхнікуму Бясьсьмертны і Аладаў, ад Віцебскага музтэхнікуму Посьнікаў, ад Магілеўскае музычнае школы Зісьман і ад саюзу рабіс Маркоўскі. Пасьля ўсебаковага разгляду пытаньня нарада ўхваліла між іншым наступныя рэзолюцыі:

1. Сыстэма музычнае асьветы павінна складацца з трох ступеняй музычных навучальных установаў: музычнае школы, музычнага тэхнікуму і вуз'у.

2. У кожнай акрузе павінна быць адна музычная школа. У гарадох Віцебску і Магілеве[1]) музычныя тэхнікумы і ў цэнтры Беларусі, у Менску, консэрваторыя, якая складаецца з усіх трох тыпаў музычных вучэбных установаў — муз. школы, тэхнікуму і вуз'у.

Нарада распрацавала вучэбныя пляны усіх тыпаў музычных вучэбных установаў, якімі апошнія цяпер і кіруюцца. Нарада выказала пажаданьне аб пашырэньні і ўзмацненьні музычнае асьветы і музычнага выхаваньня ў школах агульнае адукацыі (сямігодках), а таксама і аб тым, каб у пэдтэхнікумы, з якіх выходзяць будучыя вясковыя настаўнікі, прымаліся толькі асобы з добрым музычным слухам.

На жаль, у адносінах да пашырэньня музычнае асьветы па школах агульнае адукацыі і нават у пэдтэхнікумах мы ў параўнаньні з дарэволюцыйнымі часамі бадай што зусім яшчэ не пасунуліся наперад. У школах ідзе, як і даўней, разьвіцьцё галоўным чынам думкі, мысьленьня. Мастацтва, як і даўней, стаіць на апошнім месцы. Як усюды ў СССР, так і ў нас на Беларусі. У лютым 1926 году аўтару гэтых радкоў прыходзілася рабіць даклад на IV усебеларускім зьезьдзе інспэктароў нарасьветы аб ролі музыкі ў школьным выхаваньні[2]). З тэй пары нешта зусім ня бачна, каб музыка ў школах заняла хоць крышачку паважнейшае месца, чымся мела раней. Ніякім чынам нельга вінаваціць у гэтым нашых дзеячоў асьветы. Вінаваты ў гэтым, з аднаго боку, наша беднасьць, а з другога—агульны стан нашае культурнасьці, вінавата ўсё грамадзянства, якое не ўсьвядамляе сабе вялізарнае ролі мастацтва ў выхаваньні чалавека.

Што тычыцца становішча музычных працаўнікоў на Беларусі, дык пасьля Кастрычнікавае рэволюцыі і дзякуючы гэтай рэволюцыі яно зьмянілася натолькі-ж радыкальна, наколькі наагул зьмянілася становішча ўсіх працоўных мас. Апошнія зьяўляюцца гаспадарамі свае дзяржавы, будуюць яе ў соцыялістычным кірунку і моцна трымаюць уладу ў сваіх руках. У гэтым будаваньні пытаньні культуры, у тым ліку і пытаньні культуры музычнае, з бегам часу, з узмацненьнем дзяржаўнае гаспадаркі, з паляпшэньнем агульнага матар'яльнага дабрабыту ўсё болей і болей высоўваюцца наперад, і да працы прыцягваюцца ўсё большыя і большыя шэрагі культурных працаўнікоў, сярод якіх музычныя працаўнікі складаюць буйную армію. Гэта ў сваю чаргу адбіваецца на матар'яльным становішчы музыкаў, сярод якіх бадай што зусім няма беспрацоўных. Пры гэтым аб якой-колечы эксплёатацыі музыкаў з боку антрэпрэнэраў і розных прадпрыемцаў ня можа быць, зразумела, і мовы, бо матар'яльныя інтэрэсы музыкаў таксама забясьпечаны і абаронены профэсыянальнымі і дзяржаўнымі ўстановамі, як матар'яльныя інтарэсы ўсіх працоўных усіх профэсій.

Але пры разглядзе становішча музычных працаўнікоў, як працаўнікоў культуры, трэба мець на ўвазе ня столькі матар'яльны бок (які-б ён ні быў важны сам па сабе), сколькі бок грамадзкі і палітычны і тыя настроі, тыя пачуцьці і самасьвядомасьць, якія прышлі ў выніку вялікае рэволюцыі. Аб'яднаныя ў агрaмадным і моцным саюзе працаўнікоў мастацтва, музыкі адчуваюць сябе, побач з іншымі працоўнымі, гаспадарамі жыцьця, будаўнікамі свае дзяржавы, у якой яны займаюць

[1]) Гомельшчына тады яшчэ ня была далучана да Беларусі.

[2]) Гл. часопісь „Асьвета“ 1926 г., № 3.

далёка не астатняе месца. Сучасны музыка добра разумее сваю культурную ролю ў агульным будаваньні соцыяістычнае дзяржавы, у якой ён адчувае сябе сапраўдным грамадзянінам. Дашчэнту зьнікла колішняя прыніжанасьць і пакорлівасьць музыкі. І музыка вельмі добра разумее, што дала яму Кастрычнікавая рэволюцыя, і разумее свае культурныя абавязкі перад працоўнымі гушчамі. Гэтае разуменьне выяўляецца ў тых шматлікавых культшэфствах, якія прымаюць на сябе як саюз працаўнікоў мастацтва цалкам, так і яго паасобныя ўстановы і організацыі над рознымі чырвонаармейскімі часьцямі, рабочымі клюбамі і г. д.

Але з пункту погляду самога мастацтва, яго сутнасьці, яго ролі ў будаваньні жыцьця, найважнейшы вынік Кастрычнікавае рэволюцыі для музыкаў ёсьць, можа быць, той, што яны перастаюць паступова быць толькі механічнымі працаўнікамі на сваіх інструмантах, што яны пачалі думаць аб музыцы, пачалі думаць аб мастацтве. Кастрычнікавая рэволюцыя наблізіла музыкаў да таго ідэалу, які некалі лунаў перад вялікім музыкам Рыхардам Вагнэрам. Гэніяльны композытар пісаў у сваім трактаце—маніфэсьце „Мастацтва і рэволюцыя“:

„Задача мастацтва і ёсьць менавіта тая, каб паказаць соцыяльнаму інстынкту яго праўдзівы шлях. Сапраўднае мастацтва можа ўзьняцца з свайго становішча цывілізаванага барбарства на годную яго вышыню толькі на плячох нашага вялікага соцыяльнаго руху. У яго з ім супольная мэта, і яны могуць дасягнуць яе толькі пры ўмове, што абодвы прызнаюць яе. Гэтае мэта—чалавек прыгожы і моцны. Рэволюцыя дасьць яму сілу, а мастацтва—хараство“.

**Зьм. Сьнежка**

# Кастрычнік і замежная літаратура

*(Нататкі з блёк-н ту)*

Кастрычнікавая рэволюцыя мела па сваёй сутнасьці міжнароднае значэньне. Вялікая Кастрычнікавая бура выплеснула рэволюцыйныя хвалі за межамі былой Расіі. і гэтыя хвалі пракаціліся амаль што па ўсіх краінах. Нібы рэхам Кастрычніка былі рэволюцыйныя выбухі, паўстаньні, забастоўкі, узмацненьне рабочага руху.

Гэтыя здарэньні прысьпешылі процэс дыфэрэнцыяцыі сіл. „Хто ня з намі—той супроць нас“—такі лёзунг выкінула Кастрычнікавая рэволюцыя. Прыходзілася йсьці альбо ў лягер буржуазіі, альбо ў лягер змагаючагася пролетарыяту. Гэта дыфэрэнцыяцыя зачапіла і пісьменьнікаў. Арцыбашавы, Меражкоўскія, Гіппіусы і ім падобныя перайшлі на бок буржуазіі, а цэлы шэраг маладых здольных пісьменьнікаў адкрыта стаў у шэрагі пролетарыяту. Гэтак было ў Расіі. Такі-ж „раскол“ адбываўся ды адбываецца і зараз на Захадзе і Усходзе.

Інтэлігэнцыя вельмі балюча перажывала гэты раскол. Некаторыя пісьменьнікі, якія „прынялі“ рэволюцыю і сьпявалі ёй спачатку хвалебныя гімны, у час. калі рэволюцыя была прыдушана. вярнуліся ў лягер буржуазнай літаратуры. Яны лічаць свой пераход да рэволюцыі памылкай („а хто ў наш час не памыляецца“) і зноў вядуць сваю працу- буржуазных літаратараў.

Гэтак было ў Нямеччыне з некаторымі пісьменьнікамі, гэтак было з большай часткай групы пісьменьнікаў на чале з Х. Сьмірненскім у Баўгарыі, гэтак было, можа ня так яскрава, у літаратурах большасьці краін.

Некаторыя пісьменьнікі. якія сталі на бок пролетарыяту, узрасьлі і ўзгадаваліся на буржуазнай цывілізацыі. і з прычыны слабога разьвіцьця іх рэволюцыйнай сьвядомасьці яны вельмі часта зьбіваліся з рэволюцыйнага шляху на шлях дробнабуржуазнай ідэолёгіі. Аб гэтым яскрава сьведчаць іх творы. Яны рабіліся нібы буржуазнымі песьнярамі пролетарскай рэволюцыі. Да гэтай групы пісьменьнікаў часткай належаць: у Нямеччыне—ЭрнстТольлер, Э. Мюзам; у Францыі—Р. Ролян; у Англіі—О·Флагэрці і інш.; у Баўгарыі большая частка групы Х. Сьмірненскага.

Гэтыя хістаньні з аднаго боку на другі былі ў тэй частцы пісьменьнікаў, якая ў першыя дні рэволюцыі заставалася ў лагеры буржуазнай літаратуры. Некаторыя пісьменьнікі потым убачылі сваю памылку і паправілі яе. а іншыя проста адарваліся ад буржуазнай культуры, бо не хацелі зьвязваць сваю творчасьць з ёю, але і ня прысталі да пролетарыяту, з якім у іх было мала чаго агульнага.

Да Кастрычнікавай рэволюцыі зусім немагчыма было ставіць проблему рэволюцыйна-пролетарскай літаратуры па-за межамі. Яна нарадзілася ў выніку ўсіх рэволюцыйных падзей 1917-21 гадоў. Аднак, сапраўднай пролетарскай літаратуры, якая нараджаецца толькі там, дзе перамога засталася ўжо на баку пролетарыяту,— у сучасны момант на Захадзе альбо на Усходзе няма. Рэволюцыйная літаратура цяперашняга часу- -гэта толькі глеба для будучай пролетарскай сусьветнай літаратуры.

Нямеччына. Рэха Кастрычніку пракацілася па Нямеччыне і адбілася на літаратуры. Рэволюцыйнай плыньню зьявіўся ў Нямеччыне экспрэсіянізм.

Экспрэсіянізм з сваім жаданьнем не об'ектыўна адбіваць жыцьцё, а адбіваць яго пераламаўшы ў сьвядомасьці асобы поэта, з сваёй ненавісьцю, з парывамі і пагардаю да літаратурнай формы ранейшых часоў—зьявіўся лепшым сьведкаю ўпадка буржуазнай культуры таго часу. Экспрэсіяністыя лічылі сябе рэволюцыянэрамі, „будаўнікамі новага", але, ня гледзячы на гэта, у сваіх творах яны свае сымпатыі аддаюць гэроям—буржуа.

Карл Штэрнгэйм, якога некаторыя лічаць за правадыра экспрэсіяністых, у сваіх сатырычных творах дае малюнкі гнілога, дасьціпнага ў жыцьці нямецкай буржуазіі, але разам з гэтым ён выводзіць і іншых тыпаў—тыпаў „звышчалавека", якія мала чым адрозьніваюцца ад мешчаніна буржуа, яны нібы зьяўляюцца ідэальнымі буржуа на ўсе 100%.

Гэтая насьмешка Штэрнгэйма ў другіх экспрэсіяністых пераходзіць у нянавісьць; барацьба супроць мяшчанства выліваецца ў бунт, які канчаецца зусім не натуральна.

Гэтак ў экспрэсіяністага Корнфэльда адбіваецца рэволюцыя

Была яшчэ сярод экспрэсіяністых значная група пісьменьнікаў і поэтаў, якія звалі да „революцыі духу"- да талстоўства, да патрыярхальнага, сялянскага былога, да царства божага на зямлі—з пекла капіталізму, дзе машыны гучаць і дзе чалавек губляе сваю асабістасьць, сваё я. Асабліва характэрнымі творамі гэтага талстоўскага экспрэсіянізму зьяўляюцца творы Рубінэра (так, адзін з яго твораў і завецца „Непрацiўленцы"), Кайзэра („Газ").

*У Мэйрынка—экспрэсіяніцкая рэволюцыйнасьць у тым, што ён зусім супроць сучаснасьці і за нейкі невядомы фантастычны сьвет, вызвалены ад матэрыі.*

*Гэнрых Ман, даволі таленавіты романісты, выпушчае свае творы „Сэрца" і „Зварот з раю". Гэтыя творы вельмі мастацкія па форме і стылю, па зьместу вельмі падобны да твораў Штэрнгэйма.*

У творах Г. Мана выведзены „рэволюцыянэры"- чыньнікі прогрэсу, людзі з вялікімі парывамі, з нянавісьцю да ўсяго буржуазнага і мяшчанскага. Супроць агалелага мешчаніна Г. Ман выводзіць тып моцнага буржуа. „Звышчалавекі" Г. Мана і Штэрнгэйма гэта псэўдарэволюцыянэры. У Мана ёсьць яшчэ твор, які завецца „З романы гэрцогіні Асст"—гэта ўжо чыста буржуазны твор. У ім—эротыка людзей „вышэйшых колаў і некае спачуваньне нізам. Вэрфэль у творы „Чалавек з люстры" даходзіць да пропаведзі аскэтызму, да зьніштажэньня ўсіх інтарэсаў як асабовых, так і грамадзянскіх.

Крыху пазьней Г. Ман у сваіх творах „Жабракі" і „Падданы" зачапіў соцыяльныя пытаньні. Але ў Мана, які добра высьмейвае буржуазны лад жыцьця, які добра паказвае распад культуры буржуазіі, у Мана, ў яго „рэволюцыйных творах"—драбната, танныя эфэкты, на якія так падкі буржуазныя густы.

*Аб рэволюцыі Ман гаворыць, як тыповы буржуа, яго рабочыя*
правадыры вельмі падобны да сучасных соцыял-дэмакратаў—рэформісцкіх бюракратаў. Буржуазны лад мае шмат адмоўных бакоў, але гэтыя адмоўныя бакі ёсьць і ў соцыялізьме. Г. *Ман глядзіць на соцыялізм* вачыма дробнага буржуа.

Нельга абыйсьці пісьменьніка Г. Гауптмана, які таксама крытыкаваў капіталізм з пункту погляду дробнага буржуа

І. Гауптман і Г. Ман у той час былі чужыя пролетарскай рэволюцыі, якая адбылася ў Расіі.

Адзін толькі Іоганэс Бэхэр больш за ўсіх падаўся ўплыву расійскага Кастрычніка. Ён зьмяняе свой шлях бунгаўшчыка, які бяз мэты кідае словы да бунту: „Скандальце. Паўстаньце. Пачынайце. Падымайцеся з прытонаў, бальніц і турмаў"... І. Бэхэр заве да бунту, кідаецца ў рэлігійнасьць—шуканьне бога, потым у другіх творах кляне яго Такі быў Бэхэр у першым кругабезе свае творчасьці. Калі-ж Кастрычнікавыя хвалі даходзяць да Нямеччыны. Бэхэр зразу-ж становіцца на бок змагаючагася пролетарыяту. Але гэты пераход да комунізму, далучэньне да рэволюцыйнай барацьбы зьяўляецца крокам, які рабіла інтэлігэнцыя і пісьменьнікі таго часу, не разьбіраючыся глыбока ў гэтым. І Бэхэр стаў на бок рэволюцыі, бо пачуцьцё штурхала яго туды. У рэволюцыйных творах гэтага кругабегу мы прыкмячаем рэлігійныя мотывы. Ён нібы хоча зьліць рэлігійнасьць з комунізмам Яго комунізм—біблейскі комунізм. Лібкнэхт у яго гэта Ісус-младзенец („Die panz r Wagenb Hade"—„Бранявая баляда"). Роза Люксэмбург біблейская гэраіня. Ён ёй піша спэцыяльны гімн, клiча да зямнога паўстаньня, бо ў гэтым бачыць ажыцьцяўленьне рэлігійнае ідэі.

Пісьменьнікі стыхійна захапіліся рэволюцыяй. яны паблуталі свае ідэалы з ідэаламі рабочае клясы. Рабочыя з твораў Бэхэра і іншых пісьменьнікаў гавораць нібы інтэлігэнты, апранутыя ў вопратку рабочых. Толькі значна пазьней І. Бэхэр становіцца сапраўдным пролетарскім поэтам. На І. Бэхэры больш, чым-ся на кім другім адбіўся Расійскі Кастрычнік. Яго творы: „Vorwärts" „Die rote Front" „Um Grabe Lenins", „Der Leichman auf dem Toron"¹) носяць прыкметны уплыў Кастрычніка, ня гледзячы на тое, што яшчэ не канчаткова Бэхэр перамог сваю інтэлігэнцкую сутнасьць. І ў гэтых творах, як і ў ранейшых, яшчэ ёсьць нешта з рэлігійнага. Ужо твор „Каля труны Леніна" нібы мяжуе новы кругабег у творчасьці Бэхэра, які вызваляе яго канчаткова з павуціны рэлігійнасьці. „Труп на троне"—ужо твор, вытрыманы ў новым духу. Лібкнэхт—Люксэмбург—Ленін—чырвоны марш пролетарыяту, які змагаецца ў Нямеччыне за свой Кастрычнік, надзвычайная захопленасьць бальшавіцкай Расіяй, Кастрычнікавай барацьбой і моцнасьцю компартыі—і нянавісьць да „трупу на троне—Гіндэнбурга"—вось асноўны зьмест яго твору пад такой назвай.

„Du lehrst uns kampfen,
Du lehrst uns unerbittlich sein
Du gebst uns die Lehre
Von der fuhrenden Rolle der Partei;
Du—rote kommunistische Riesenselle der Welt
Bolschewistisches Russland!"

(„Ты вучыш нас барацьбе, ты вучыш нас быць бязьлітаснымі, ты вучыш нас аб кіруючай ролі партыі: Ты—чырвоная, камуністычная, вялікая ячэйка сьвету—бальшавіцкая Расія").

У творы „Труп на троне" Бэхэр дае малюнкі жыцьця буржуазіі, яе падрыхтоўку да вайны, дае яскравыя малюнкі дрэннага становішча рабочае клясы.

Гэтыя творы напісаны ў вершах. У апошнія гады зьявіліся творы І. Бэхэра аб хімічнай вайне „CNSJ (CN₃As L·visit oder einzig gerechte Krieg" і аповесьць „Der Bankier reiter uber das Schlachtfeld".

¹) „Наперад" „Чырвоны Фронт" „Каля труны Леніна", „Труп на троне".

Праўда, у творах Бэхэра шмат ёсьць агіткі, шмат таго, што ўжо даўно зьнікла ў нас з нашай літаратуры, але трэба памятаваць, што Бэхэр творыць у Нямеччыне, дзе пролетарскай рэволюцыі яшчэ ня было, і дзе яшчэ патрэбны гэтыя заклікі і агітацыя, за якую часта прыходзіцца адказваць Бэхэру.

Курт Клэбэр апісаў будні рэволюцыі, не хваляваньне і сьвята. У творах Клэбэра—малюнкі барацьбы, пятос яе праведзены праз мастацкую афарбоўку, і таму творы яго робяцца документамі рэволюцыйнай рэчаіснасьці. Адным з цікавых яго твораў зьяўляюцца апавяданьні. выданыя пад назовай „Барыкады Рура“. Гэтыя апавяданьні даюць малюнкі змагаючагася пролетарыяту Рура, барыкады, забастоўку, беспрацоўе, сьмерць і надзеі. Кастрычнікавая рэволюцыя ў Расіі мела значны ўплыў на творчасьць Клэбэра -гэтага бытавіка рэволюцыйнай барацьбы Рура.

Франц Юнг у сваіх творах „Рабочы пасёлак“ і „Чырвоны тыдзень“ паказвае барацьбу і пакуту нямецкіх рабочых у „соцыялістычнай рэспубліцы“ Носке і Эбэрта. У сваіх романах ён нібы заражае рэволюцыйным патосам чытача Ён сам прымаў удзел ў сакавікоўскіх здарэньнях,– вось чаму яго творы і аддаюць праўдзівасьцю. З яго твораў трэба адзначыць: „Пролетары“, „Ное Франк“, „Рабочы сьвет“, і драму „Аннэмары“.

Як я казаў крыху вышэй, некаторая частка пісьменьнікаў зразу стала ў шэрагі пролетарыяту, і ня толькі ў літаратуры, але і ў жыцьці яна прымала актыўны ўдзел у рэволюцыйнай барацьбе. Яны йшлі на барыкады, пападалі ў турмы, адракаліся на заўсёды ад буржуазнай культуры. Праўда, гэта не перашкодзіла некаторым пасьля ізноў перакінуцца ў лягер буржуазіі. Адбылося гэта па зусім зразумелых прычынах.

Сярод гэтых пісьменьнікаў трэба адзначыць Эрых Мюзама і Эрнеста Тольлера.

Эрых Мюзам у сваіх вершах і ў трагэдыі пнешена „Юда“ яшчэ не канчаткова пазбавіўся ад буржуазнага ўплыву. У яго яшчэ няма яснасьці і выразнасьці ў пастаноўцы экономічных і ідэолёгічных проблем.

Другі Эрнэст Тольлер – вядомы сваімі творамі „Эўгэн няшчасны“. „Чалавек маса“, „Руйнавальнікі машын“, „Дзень пролетарыяту“.

„Эўгэн няшчасны“ гэта трымаса пакуты. Тольлер выводзіць тып мужчыны-багатыра, які ў час вайны губляе вочы. У Эўгэне ёсьць і нешта ад Дастаеўскага. Тольлер бачыць, як гніе капіталізм і нараджаецца соцыялізм, і гэта надае яму нейкую вастрату адчуваньня Яго „Руйнавальнікі машын“ – гэта цяжкая п'еса, ў якой Тольлер, не шкадуючы фарбаў, дае малюнкі жабрацтва, бесчалавечнай эксплёатацыі, беспрасьветнага жыцця дарослых і дзяцей. І гэта жыцьцё дзікіх, галодных людзей прыводзіць іх да вельмі дзікіх актаў, як руйнаваньне машын. У Тольлера ў „Руйнавальніках машын“ —ўся нянавісьць, гнеў пролетарскі да існуючага парадку— ўся воля да змаганьня, гатоўнасьць да самаахвяры—для агульных мэтаў барацьбы. У Тольлера —патос і стыхія рэволюцыі. Ён – поэта стыхіі рэволюцыі. ён поэта рэволюцыйных парываў. Яго „Чалавек маса“ - ужо схэматычная рэч. У ім няма ўжо людзей, а ярлыкі. Калі прастытутка дык яна на ўсё100 проц. „Любоўная машына“; калі правадыр, дык ён гаксама штучны па 100 проц.; комуніст па Тольлеру гэта парыў і імкненьне да бою; капіталіст – гэта гнайнік.

У Тольлера пролетарская рэволюцыя нічым не адрозьніваецца ад іншых рэволюцыйй. Гром, грэск, паўстаньне, дысцыпліна, лютасьць і да г. п. Тольлер не заўважыў нічога пролетарскага асабовага, што адрозьнівае пролетарскую рэволюцыю ад іншай. Да гэтага Тольлер і ня мог заўважыць. Ён прышоў да пролетарыяту з лягеру буржуазіі. Ён, проста тое, што ненавідзіць буржуазія, лічыў за сваё. Узаемаадносіны паміж правадыром і масай, адносіны да кары сьмерцьцю, адносіны да масы—ў Тольлера не пролетарскія. Яго і заклік да барацьбы чуцен аднекуль здалёку („Дзень пролетарыяту"). альбо, як голас зьверху, малюе масе прыгожыя далявіды будучага.

Ужо ў турме Тольлер напісаў п'есу „Гінкеман", але і ў ёй аўтар яшчэ не знайшоў шляху да кіясавага разьвязаньня пытаньняў. Тольлер - блізкі нам поэта, ён зачэплівае вялікія пытаньні. Шкода толькі, што ён іх ня можа вырашыць.

Сярод іншых нямецкіх поэтаў, пісьменьнікаў і драматургаў, на творчасьць якіх мелі ўплыў Кастрычнікавыя здарэньні у Расіі, адзначаюцца:—Альбэрт Даўдыстэль—адзін з актыўных удзельнікаў рэволюцыі ў Баварыі. У творах—„Чатыры гады вайны і рэволюцыі" „У вагні рэволюцыі", „Паралюжваньня багі" ён дае малюнкі рэволюцыі 1918 г.

М. Баргэль—пісьменьнік, які йшоў з пролетарыятам, а цяпер зьбег да рэформістых. З яго твораў больш яскравым зьяўляецца „Гульня ў лялькі".

Альфонс Паке, які пасьля таго, як пабыў ў Расіі і крыху зрабіўся не другам, у апошніх творах яскрава паказвае, які на яго меў уплыў кастрычнік і тая барацьба, якую вяла рабочая кляса СССР пад кіраўніцтвам Леніна.

У Паўля Цэха, Фр. Юнга неяк бледна выглядае рэволюцыя з іх твораў. Ф. Юнг больш блізак да пролетарскай рэволюцыі, але ў яго творах няма жыцьця. Яго твор „Завяяваньне машын" напісаны неяк зусім не рэальна, паўфантастычна. Да рэволюцыйных пісьменьнікаў адносяцца А. Абуш, Макс Дортус (твор „Макс Мюнцер"), Г. Грызар („Усё, што дышыць") і інш. Гаворачы аб літаратуры Нямеччыны, трэба адзначыць яшчэ Бэрту Ласк і Фрыца Гросса, якія, галоўным чынам, пішуць драмы (Леуна 1921 г.—Б. Ласк; Драматычныя біографіі— Р. Люксэмбург, К. Лібкнэхта Ф. Гросса), уплыў Кастрычніка на якіх вельмі значны.

Сярод поэтаў трэба адзначыць О. Фрома, М. Г. Нейсе, Эрэнштэйна, Грызара, Ласк, Сланга, Сонка і інш.

Наагул трэба адзначыць, што ў нямецкай літаратуры яшчэ няма глебы для мастацкае пролетарскае творчасьці. Нямецкі пролетарыят яшчэ вядзе барацьбу на фронце палітычнага і эканомічнага змаганьня, і таму літаратура носіць вельмі публіцыстычны характар; з другога боку, нямецкі пролетарыят ня мае тых рэволюцыйных момантаў, якія даюць пісьменьнікам СССР багаты матар'ял для іх творчасьці.

Францыя. Нямецкаму экспрэсіянізму ўва Францыі адпавядае дадаізм. Дадаізм—гэта плынь у літаратуры[1]), якая ня мае пэўнай ідэолёгіі, адмахваецца ад яе, зьдзекуецца над мяшчанствам так-жа лёгка, як і над сабой Дадаізм—плынь, падобная да футурызму: яна мае шмат чаго агульнага з ім. Дадазім праклямуе адсутнасьць зьместу і спусташэньне буржуазнай культуры. У дадаізме ідэйная пустата, дадаісты толькі ствараюць опозіцыйнасьць.

---

[1]) Дадаізм не зьяўляецца плынью толькі у літаратуры Францыі. Першая дэкляpацыя дадаістаў была выдадзена швэйцарцам Валь Сэрнэра.

Сярод дадаістаў вядомы больш Арагон. Брэтон. Супо якія потым паклалі пачатак новай плыні ў літаратуры - сюррэалізму. Гэты суррэалізм яны лічылі за рэволюцыю лада. Папросту гэта была анархісцка-літаратурна-багэма—група, якая была бліжэй да дробнага мяшчанства, чымся да пролетарыяту. У францускай літаратуры была яшчэ адна такая група пісьменьнікаў, якая адарвалася ад буржуазіі, але не дайшла да пролетарыяту. Гэта группа завецца „унанімістымі". Да яе можна аднесьці Дюамэля, П. Ампа, Р. Роляна і інш.

Р. Ролян, які быў сьмела паўстаў супроць імпэрыялістычнай вайны (яго твор „Au dessus de la Malé"—1915 г.), які абвясьціў сябе саюзьнікам Цымэрвальду,—пасьля таго, як хвалі расійскага Кастрычніка дакаціліся да Францыі, стараецца адмяжавацца ад комунізму і ў творах прапаведуе талстоўства[1]) (Жан Хрыстоф).

П. Амп адносяць да соцыялістычнай групы пісьменьнікаў. Яго,—аўтара „Лільскіх ткачоў". „Песьні песень", „Льна". дзе ён сьпявае гімн працы яшчэ паднявольнай прыгнечанай працы, якая траціцца на карысьць буржуазіі, для яе забаў,—больш цікавяць інтарэсы францускай прамысловасьці наагул. бо ёй пагражаюць конкурэнты. І П. Амп выступае, як нацыяналісты-абаронец прамсловых інтарэсаў Францыі супроць пагражаючай конкурэнцыі з боку Амэрыкі, Англіі і Нямеччыны.

Дюамэль, які зьяўляецца тыповым прадстаўніком групы унанімістых у творах сваіх паказаў мукі чалавецтва ў час вайны.

Унанімісты, на чале якіх стаяў Жан Ромэн. бачылі свой ідэал у злучэньні асобы з колектывам бяз розьніцы клясаў і груп.

З узростам комуністычнага руху ў францускай літаратуры поруч з групамі дробна-буржуазных пісьменьнікаў пачынаюць зьяўляцца поэты. якія прымаюць Кастрычнік, які потым і кладзе нібы сваю пячатку на ўсю творчасьць гэтых поэтаў. Да гэтых поэтаў трэба аднесьці Анры Барбюса А. Гільбо і фляндрскага (бельгійскага) пісьменьніка Жана Туссэля.

Анры Барбюс- празаік. вядомы сваім творам „У вагні". робіцца зразу пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі другам Сав. Рэспублікі. абаронцам Кастрычнікавай рэволюцыі

„Зьніштожыць расійскую рэволюцыю—гэта значыць зьніштожыць соцыялізм"—казаў Барбюс у той час, калі точылі свае нажы капіталістыя, калі гатаваліся пушкі і пасылаліся грошы на барацьбу з Савецкай рэспублікай.

І ў гэты час, калі Эўропа банкіраў кідала шмат грошай на тое. каб зьнішчыць Сав. рэспубліку. Барбюс выступае абаронцам яе, кліча да барацьбы за рэволюцыю ў сваёй краіне. Ён засноўвае аб'яднаньне пісьменьнікаў і поэтаў. куды ўваходзяць вядомыя нам Амп, Дюамель. Кутур'е і цэлы шэраг іншых пісьменьнікаў. Гэта аб'яднаньне насіла імя твору Барбюса „Clarté" (Сьвятло). У „Clarté" некалькі раз быў раскол: адыходзілі старыя пісьменьнікі, уваходзілі новыя. „Clarté" старалася ўвесь час быць на баку Сав. Рэспублікі супроць інтэрвэнцыі („Панэгірыст бальшавіцкай рэволюцыі").

А. Барбюс у „Клярта" меў значную ролю. Творчасьць Барбюса багата драматычным псіхолёгізмам („У вагні". „Пекла", „Звеньня", „Хаты", „Прамовы барацьбіта" і інш.). Барбюс заклікае да пабудовы

[1]) „У 1919 г. ён выдае зборнік, прысьвечаны памяці мучальнікаў новай веры чалавецкага інтэрнацыяналу Жан Жорэса, Карла Лібкнэхта і Розы Люксэмбург - ахвяр недарэчнай лютасьці. памяць барацьбітоў за свабоду людзей іх забіўшых".

„інтэрнацыяналу думкі ў паралель інтэрнацыяналу народаў". Барбюс у романе „Сьвятло" паказвае сваё канчатковае вызваленьне з пут буржуазна-мяшчанскай ідэолёгіі. Барбюс стаў на комуністычны шлях.

А. Гільбо, што выдаваў у час вайны газэту „Заўтра",—антымілітарысты -пасьля таго, як пабыў у СССР, робіцца песьняром К. Лібкнэхта, Леніна і Савецкай рэспублікі.

В Кутур'е, рэдактор газэты „L'Humanité", зьяўляецца „маладым пісьменьнікам"; яго творы—заклік да змаганьня і вельмі падобны да публіцыстыкі.

Ж. Туссэль выдаў кніжку „Жыцьцё і сьмерць малога Бланша" і некалькі апавяданьняў, якія паставілі яго зразу-ж у шэрагі пролетарска-рэволюцыйных пісьменьнікаў Заходу.

Баўгарыя. Кастрычнікавая рэволюцыя ў Расіі, а таксама і агульнае абяднеьньне краіны піхнулі насельніцтва Баўгарыі на змаганьне супроць вайны. На гэтай глебе адбываецца ў Баўгарыі паўстаньне, вядомае пад назваю „Радомысльская рэволюцыя", якая канчаецца падаўленьнем паўстаньня і ўстанаўленьнем монархіі з новым монархам. Устанаўленьне монархіі, парляманцкая барацьба і цяжкія экономічныя ўмовы жыцьця баўгарскага насельніцтва ўзмацняюць рабочы рух. Гэта ўзмацненьне рабочага руху і адбілася на літаратуры ў Баўгарыі. У Баўгарыі, як і ў іншых краінах, адбываўся процэс дыфэрэнцыяцыі сіл. І ў Баўгарыі некаторыя пісьменьнікі, якія ў час узмацненьня рэволюцыйнага руху сталі на бок пролетарыяту,—у час рэакцыі адракліся ад „сваёй памылкі" і зноў сталі на бок буржуазіі

Першым поэтам, які зьвязаў сваю творчасьць і жыцьцё з рабочаю клясаю быў Хрысто Сьмірненскі; навокал яго і гуртаваліся рэволюцыйныя поэты Баўгарыі, якія галоўным чынам пісалі ў комуністычныя выданьньні: „Рабочы Весьнік", „Сялянскі Весьнік", „Вызваленьне", „Барабан", „Чырвоны сьмех", „Народная Армія", „Моладзь" і інш.

Х. Сьмірненскі напісаў ня вельмі многа вершаў. Яны ў большасьці сьвоей носяць характар агітацыйны, характар заклікў да змаганьня. У некаторых з іх Х. Сьмірненскі адбівае жыцьцё пролетарыяту Баўгарыі: „Брагчетата на Гаврош", „Вуглякопы", „Зімні вечар" і інш. Х Сьмірненскі зьяўляецца прадстаўніком цэлай плеяды рэволюцыйных пісьменьнікаў, якія ўзрасьлі і ўзгадаваліся ў час распалёнай клясавай барацьбы. Х. Сьмірненскі—„буравесьнік пролетарскага вызваленьня Баўгарыі". У час рэакцыі Х. Сьмірненскі загінуў.—Яго таварышы перайшлі на бок рэакцыйнага мяшчанства, пахаваўшы лепшае ў сваёй творчасьці і зрабіўшы яе няцікавай ні па форме, ні па зьместу.

Сярод поэтаў таго часу трэба адзначыць Х. Ясенава, маладога прыка рэволюцыйных часоў. Цанкаўская рэакцыя зьніштожыла шмат маладых здольных пісьменьнікаў. Яны загінулі ў турмах альбо на шыбельніцах, якіх шмат было пабудована ўрадам Цанкава

Толькі ў апошнія гады (1925) ізноў падымаецца пролетарская літаратура. Пролетарска-рэволюцыйныя пісьменьнікі гуртуюцца навокал часопісаў „Ведрына" і „Накавальня". Сярод гэтых пісьменьнікаў некаторыя ўжо выявілі сябе. Да выявіўшых сябе трэба аднесьці прозаікаў-публіцыстаў А. Страшымірава (рэдактар „Ведрыны") і Т. Палянава (рэдактар „Накавальні").

А. Страшыміраў выпусьціў шмат твораў, з якіх асабліва цікавымі ізьяўляюцца „Хоро"—канфіскаваны паліцыяй, „Віхар", „Кат і злодзей" шэраг іншых. Страшыміраў-бытавы пісьменьнік рэволюцыйнай эпохі

З групы „Ведрына“ і „Накавальня“ трэба адзначыць прозаікаў: К. Дзімітраў. Г. Караславаў, , Вален. П. Івігіціеў, Д. Слаўчаў, Ст. Ліляпаў;—з поэтаў—Срахіль. Чаўдар, Н. Ланкаў. К. Панчэў, Л. Жаднеў і інш.

Баўгарскай пролетарска-рэволюцыйнай літаратуры не магчыма вольна пісаць аб усім. На варце стаіць вядомы закон трох „З“ (абароны дзяржавы), па якому провінцыяльныя чыноўнікі. а таксама і акалодачныя Сафіі, якія зусім няпісьменныя ў літаратуры, забараняюць выдаваць творы за адно слова. якое ім не спадабаецца. Вось чаму ў офіцыяльнай баўгарскай літаратуры так мала тэм, якія зачэпліваюць нашу Кастрычнікавую рэволюцыю.

Вось чаму можна і ня прыкмеціць уплыву Кастрычнікавай рэволюцыі на творчасьць баўгарскіх пісьменьнікаў. Вядома, гэты ўплыў больш яскравы ў забароненай літаратары. у літаратуры, якая выходзіць абмінаючы цэнзуру няпісьменных акалодачных[1]).

Кітай. Рэволюцыя ў літаратуры Кітаю пайшла не па адным шляху барацьбы за новы зьмест, яна была крыху большай і разам з барацьбой за літаратуру рэальную. літаратуру грамадзянскую, абвяшчаецца і барацьба за замену старой мовы (вэн-хуа, вэн-лі) больш народнай і зразумелай мовай бай-хуа. Гэта барацьба пачалася яшчэ да імпэрыялістычнай вайны і скончылася толькі пасьля Кастрычнікавай рэволюцый ў Расіі.

Прыняцьце новай мовы нарадзіла рост літаратуры для народу на мове бай-хуа На ёй у тоўстых часопісях друкаваліся артыкулы. дасгупныя для народу. Гэта рэволюцыя ў мове дала магчымасьць некалькі мільёнам кітайскага жыхарства зьліквідаваць сваю няпісьменнасьць. Кітай, які вышаў на рэволюцыйную арэну крыху пазьней СССР, ў літаратуры адбіў тыя пытаньні, якія вызваны да жыцьця рэволюцыйным рухам, грамадзянскай вайной і нараджаючайся клясавай барацьбой.

Пытаньні сямейнага ўкладу жыцьця, антырэлігійныя пытаньні, пытаньні нацыянальнай незалежнасьці антыімпэраялізму, байкоты. пытаньні жаночага руху і, урэшце, адносіны да СССР— вось зьмест пролетарска-рэволюцыйнай літаратуры Кітаю.

Цяжка яшчэ назваць паасобныя прозьвішчы пролетарска-рэволюцыйных пісьменьнікаў Кітаю. Цяжка таму, што кітайскія рэволюцыйныя поэты пішуць большай часткай пад псэўдонімамі і пры гэтым рознымі.

Шмат сьпеваў у сучаснай літаратуры Кітаю аб Кастрычніку, аб „дыктатуры пролетарыята“, аб Леніну і на іншыя тэмы. якія носяць вельмі прыкметны ўплыў Кастрычніка. Праўда, літаратура Кітаю, як і літаратура іншых краін, дзе ня было яшчэ пролетарскае рэволюцыі. носіць характар закліку, агітацыі, дзе гарачы энтузіязм пераважае над халодным развažаньнем. Літаратура страшна перажывае рэволюцыйнае хваляваньне, якое скончыцца толькі пасьля соцыяльнай рэволюцыі ў Кітаі, якая прывядзе Кітай на шлях новай пролетарскай матар‘яльнай і духоўнай культуры.

Англія. У Англіі Лій О‘Флагэрці знаходзіўся пад уплывам Кастрычніка. Ён уваходзіць у компартыю і ў 1921 годзе з групай паўстаўшых змагаецца на барыкадах Дубліну з дзяржаўным войскам

[1]) Пра баугарскую пролетарскую літаратуру больш падрабязны артыкул будзе зьмешчаны ў чарговым нумары „Узвышша“.

Англіі, але гэты пыл праходзіць. О'Флагэрці асядае—і з 1922 г. займаецца толькі літаратурнай творчасьцю. У яго творах—жыцьцё Ірляндыі. рэволюцыйнае змаганьне ірляндцаў, жыцьцё жывёл і... амаль ўсё. Праўда, у іх даволі прыгодніцтва, якое часта мае рэволюцыйную афарбоўку. Але гэта ўжо псэўда-рэволюцыйнасьць.

З іншых рэволюцыйных пісьменьнікаў трэба адзначыць Сін О'Кэзі, Сайда, Рыч Кокса, Фрэд Бодэна, П. Гіля Але што характэрна для іх, дык гэта тое, што яны чым больш пішуць, тым больш адыходзяць ад рэволюцыйнасьці і набліжаюцца да прыгодніцтва, і іх романы мала чым адрозьніваюцца ад іншых прыгодніцкіх романаў, якіх шмат выкідваюць выдавецтвы на рынак.

Кастрычнікавы ўплыў адбіўся на групе маладых здольных пісьменьнікаў, якія гуртуюцца навокал камуністычнай ангельскай газэты. Гэта яшчэ літаратурны маладняк, які даў мала свайго. орыгінальнага. Яго газэтная творчасць—той-жа заклік да змаганьня, але ўжо ў яго ёсьць больш бадзёрасьці, чымся ў тых „социялістых". якія зьмянілі „социяльнае" на прыгодніцкае.

У іншых краінах мы маем, з нязначнымі адхіленьнямі, такое-ж становішча.

У Амэрыцы да рэволюцыйных пісьменьнікаў можна аднесьці К. Сэндбэрга, які дае малюнкі прыгнёту і згніваньня амэрыканскага імпэрыялізму; Фроста, які малюе быт сучаснай амэрыканскай вёскі; Джодзефа Фрымэна. негра Мак-Кэя, Ліндсэя. Некаторыя адносяць да рэволюцыйных пісьменьнікаў і У. Сінклера, але мне здаецца, што гэта будзе ўжо надта рызыкоўна, прыдзецца рабіць шмат абмовак.

У Чэха-Славакіі—Чапэк (яго драма R. U. R.), у Галяндыі—Горхер і Роланд Гольст—адносяцца да рэволюцыйных пісьменьнікаў.

На ўсіх гэтых поэтаў меў свой уплыў Кастрычнік. Ён адбіўся на іх творчасьці ў тэй ці іншай форме.

Мы мала ведаем аб замежнай пролетарска-рэволюцыйнай літаратуры яшчэ менш мы ведаем аб творах, на якіх адбіўся наш Кастрычнік бо гэтыя творы ня зусім з ахвотаю выдаюць па-за межамі, а то і проста забараняюць іх, прасьледуючы рэволюцыйна настроеных пісьменьнікаў.

Сапраўднае пролетарскае літаратуры яшчэ няма ў краінах, дзе пануе капіталізм Там яшчэ дагэтуль гучаць у літаратуры словы заклiку да змаганьня—словы агітацыі, вельмі падобныя да артыкулаў газэт. Але трэба памятаваць, што гэта літаратура рыхтуе глебу для будучай пролетарскай літаратуры. рыхтуе глебу да сусьветнай пролетарскай літаратуры і зьяўляецца адным з сродкаў барацьбы за ўсясьветны Кастрычнік

**В. Вольскі**

# Татарскі тэатр

Сваім існаваньнем і росквітам татарскі нацыянальны тэатр абавязан фактычна Кастрычнікавай рэволюцыі. Да яе татарскія працоўныя ня мелі свайго сталага, профэсійнага, ў поўным сэнсе гэтага слова, тэатру. Быў, праўда, цэлы шэраг асобных спроб сярод перадавое часткі татарскае інтэлігэнцыі ўтварыць гэткі, але большасьць з іх канчалася няўдачаю і не магла да таго-ж прэтэндаваць на сур'ёзнае культурнае значэньне.

Першыя крокі ў справе ўтварэньня татарскага нацыянальнага тэатру, што былі зроблены больш 20 год таму назад, супадаюць з тым палітычным і культурным уздымам татарскіх мас, які быў выкліканы рэволюцыяй 1905 г.

Рост фабрычна-заводзкае прамысловасьці і зьвязанае з ім павялічэньне кадраў гарадзкога пролетар'яту, аб'яднаньне сялянскіх мас, узмацненьне дзейнасьці рэволюцыйных організацыі, якія разросталіся, і ў той-жа час шалёная палітыка гвалтоўнай русіфікацыі з боку ўрадавае ўлады —уся гэта сума грамадзка-экономічных умоваў ня мала дапамагала глыбокаму зрушэньню ў бок нацыянальнае і рэволюцыйнае самасьвядомасьці татарскіх мас.

На зьмену ранейшых, архаічных формаў грамадзкага ўкладу з іх дамастроеўскімі разуменьнямі і рэлігійнай нецярпімасьцю, якая выключае культурныя зносіны з іншымі народамі, выступаюць першыя праявы абуджанае прогрэсыўна-нацыянальнай думкі. Гэты перыяд характарызуецца зьяўленьнем і ўзмоцненым пашырэньнем кругабежнае прэсы. Шматлікія для таго часу і разнастайныя па свайму кірунку газэты і часопісі засноўваюцца ня толькі ў такіх татарскіх цэнтрах, як Казань, Астрахань, Орэнбург ды інш, але нават і ў Ленінградзе.

Набывае пануючае палажэньне так званы „татарызм" -грамадзка-літаратурны рух за ачышчэньне татарскае мовы ад нанесеных і чужых ёй арабска-пэрскіх элемэнтаў. Распрацоўваецца новая літаратурная мова, за аснову якое бярэцца жывая разгаворная мова народных мас. Выпрацоўваецца граматыка, устанаўляецца поўная ортографія. Узрост татарскае літаратуры, мастацкае так і навукова-папулярнае, дасягае вельмі значных памераў. Зьяўляецца цэлы шэраг новых пісьменьнікаў. У той-жа час сярод татарскае грамадзкасьці назіраюцца элемэнты клясавае дыфэрэнцыяцыі, якая расколвае яе на два лягэры. З аднаго боку, прадстаўнікі лібэральна настроенай буржуазіі, якая часткова эўропэізуецца, з другога—матар'яльна незабясьпечаная, што выйшла з народных мас, радыкальная інтэлігэнцыя, якая імкнецца ў шэрагі рэволюцыйных партый. Між імі— нязначныя дробна-буржуазныя праслойкі. Да гэтага кругабегу палітычнага і культурнага ўздыму адносяцца і імкненьні на карысьць утварэньня татарскага тэатру. Яны ўзьнікалі галоўным чынам сярод вучнёўскае моладзі і абмяжоўваліся пакуль што пастаноўкамі аматарскіх спэктакляў для вузкага кола выбраных гледачоў.

Умовы, якія абвакольвалі сабою першыя пачаткі гэтых піонэраў татарскага тэатру, былі надзвычай цяжкія. З аднаго боку, ім даводзілася весьці справу с шматлікімі перашкодамі, якія ставіліся царскаю ўладаю на шляху якіх-бы там ні было праяваў нацыянальнага і культурнага

адраджэньня „інародцаў.“ З другога-ж боку, усякі прогрэсыўны пачатак упіраўся ў цьвёрдую сьцяну культурнае адсталасьці і рэлігійнага фанатызму татарскіх мас, які старэнна разьдзьмухваўся цёмным мусульманскім духавенствам.

Першая расійская рэволюцыя, якая замацавала позыцыі передавое татарскае грамадзкасьці, дала магчымасьць вынесьці зачыненыя тэатральныя спэктаклі на суд шырокіх мас. У сьнежні 1905 г. у гор. Орэнбурзе быў падрыхтаваны пад кіраўніцтвам аднаго з організатараў татарскага тэатру, настаўніка Кудашова-Ашкагарскага, першы публічны спэктакль у татарскай мове.

Спатканы шалёным узрывам абурэньня з боку мусульманскага духавенства і консэрватыўнага купецтва, спэктакль быў забаронены орэнбурскім губэрнатарам, а трупа, на вялікую радасьць рэакцыйных колаў татарскага насельніцтва, была разагнана.

Тым ня менш у 1906 г. удаецца, праз стараньні таго-ж Ашкагарскага, паставіць у Казані і Уфе некалькі спэктакляў, якія палажылі пачатак організаванаму тэатральнаму руху

У 1907 г. організоўваецца сталая татарская трупа. У гэтым-жа годзе, не зважаючы на дзьвярэлую процідзейнасьць клерыкалаў, ставіцца шэраг спэктакляў у Маскве. Моральныя і матарыяльныя ўмовы для працы былі надзвычай няспрыяльныя. Асабліва адчувалася цяжкая рука духавенства. Галоўны мула гор. Масквы ўрачыста выславіў трупе усенароднае адлучэньне і ў сваёй пропаведзі абвясьціў, што ўсякі з „прававерных“, які асмеліцца пайсьці на бязбожніцкае відовішча, назаўсёды пазбавіцца вечнага блажэнства. Гэта акалічнасьць выклікала слабое наведваньне ў тэатр, а таму і матар'яльную незабясьпечанасьць яго.

Усё-ж такі, не зважаючы на цяжкія умовы, татарскаму тэатру ўдалося, дзякуючы настойнасьці і энэргіі яго працаўнікоў, праіснаваць у форме больш менш сталае трупы да 1917 г.

Рэпэртуар гэтага кругабегу (1905-17 г.) адлюстроўваў, пераважна настроі радыкальных пластоў працоўнае інтэлігенцыі. Зьмест асобных п'ес зводзіўся звычайна да протэсту, праўда, досыць сьціпламу, супраць дэспотызму старога сямейнага ладу, рэлігійнай забабоннасьці і да т. п. Так, прыкладам, асноўная ідэя драмы „Сьвятло і цемра“, твору аднаго з артыстых таго часу, зьмяшчаецца ў барацьбе моладзі за права вольнага выбару жонкі і ігры на скрыпцы. Апошняе асабліва характэрна, бо ў той час нават музыка, у ліку іншых відаў мастацтва, падпадала пад моцнае праследаваньне з боку духавенства.

Ідэі гэныя даўно ўжо прасякліся ў татарскую літаратуру, прыкладам чаго можа быць першая татарская драма „Бедная дзяўчына“ Абдурахмана Ільясава, якая ўпяршыню закранае пытаньне наконт вызваленьня мусульманскае жанчыны ад нявольніцкага падначаленьня волбацькоў і напісаная невядомым аўтарам у 1895 г. „Чыстайская комэдыя“, якая высьмейвае стары быт, карыстаецца шырокаю популярнасьцю і да цяперашняга чаку. Да організацыі татарскага тэатру гэтыя ідэі заставаліся ў бязьдзейнасьці. У гэны-ж час, у зьвязку з зьяўленьнем татарскіх труп, яны набылі магчымасьць сцэнічнага выяўленьня.

Кастрычнік упісаў новыя слаўныя старонкі ў гісторыю татарскага тэатру. Наіўны рэпэртуар, прымітыўнае аматарскае выкананьне, матар'яльная незабясьпечанасьць і поўная бяспраўнасьць тэатру—усё гэта адышло ў паданьні. Пролетарская рэволюцыя, якая прынесла татарскім масам палітычнае і экономічнае вызваленьне, надала ім неабмежаваныя магчымасьці ў справе будаваньня нацыянальнае культуры наагул і маствацтва паасобку. Утварэньне татарскае аўтаномнае савецкае

соцыялістычнае рэспублікі і татарызацыя ў сваю чаргу дапамагалі яго далейшаму разьвіцьцю і ўдасканаленьню на шляху шчыльнейшага абслугоўваньня шырокіх пластоў татарскага насельніцтва.

Стараньнямі савецкага ўраду ТАССР яшчэ ў час ваеннага комунізму быў пабудованы ў Казані спэцыяльны будынак для татарскага тэатру, рэорганізаванага ў хуткім часе ў Татарскі Дзяржаўны Акадэмічны Тэатр. Вакол тэатру згуртаваліся новыя маладыя сілы з радоў рабочае і сялянскае моладзі. Зьявіўся шэраг самабытных драматургаў. Роўналежна з узростам тэатру ўзьнікае тэатральны тэхнікум, першы выпуск якога ў 1926 годзе даў каля 20 кваліфікаваных працаўнікоў сцэны. Адначасна Наркомасьветы ўтварае пры Дзяржтэатры паказальную трупу з найболып выдатных артыстычных сіл.

Казанскі тэатр, які працуе пад кіраўніцтвам рэжысэра і драматурга К. Тэнчурына, мае ў цяперашні час досыць вялікі рэпэртуар, які складаецца большай часткаю з бытавых і гісторыка-рэволюцыйных п'ес Тэнчурына, Кутуя, Бурнаша, Рахманкулава, Ішмуратава ды іншых драматургаў. Апроч таго, ставяцца перакладныя п'есы сучаснага расійскага тэатру. З клясыкаў з посьпехам выкарыстоўваюцца Шэкспір, Шыльлер, Мольер, Гогаль, Астроўскі ды інш.

У 1925 г. да пяцёхгодзьдзя існаваньня ТАССР у Казані была пастаўлена „Санія“ —першая опэра ў татарскай мове. Зьяўляючыся вынікам колектыўнае творчасьці композытараў Габяшы, Віноградава і народнага сьпевака Альмухамэдава, опэра гэта ёсьць музыкальная композыцыя татарска-башкірскіх нацыянальных мэлёдый, пабудованая на аснове заходня-эўропейскае музыкальнае тэхнікі.

Амаль што падобны шлях прайшоў у сваім разьвіцьці і татарскі тэатр Крыму. Да рэволюцыі ў Крыме гаксама, як і ў Казані сталага татарскага тэатру ня было. Час ад часу (з пачатку XX ст.) організоўваліся аматарскія драмгурткі, ставіліся асобныя спэктаклі ў крымска-татарскай мове. Але ўсё гэта мела нясталы, выпадковы характар і чаргавалася падчас з вялікімі перарывамі. Карэннай масе татарскага насельніцтва Крыму не ставала свайго сталага тэатру, які адлюстроўваўбы татарскі побыт і быў-бы зьвязаны з татарскаю культураю.

Політычныя умовы, якія ўтварыліся ў Крыме непасрэдна пасьля рэволюцыі (грамадзянская вайна і доўгае панаваньне ў Крыме белых), не далі татарскім масам магчымасьці выкарыстаць сваё вызваленьне ў мэтах культурнага будаўніцтва. І толькі пасьля канчатковае саветызацыі Крыму паўстае пытаньне наконт утварэньня крымска-татарскага тэатру. У 1921 г. організоўваецца Бахчысарайскі тэатр. Спэктаклі ставяцца тры разы на тыдзень. Ідуць пераважна п'есы казанскага і азербайджанскага рэпэртуараў (свае драматургіі тады яшчэ ня было). У Сымфэропалі організоўваецца студыя. Але на шляху далейшага разьвіцьця маладога, ня зусім яшчэ моцнага, тэатру паўстае новая перашкода—голад. Ураду—не да тэатру, і групы, зьнятыя з дзяржаўнага бюджэту, раскідаліся. Толькі ў 1923 г. у зьвязку з агульным культурным уздымам краіны распачалося фактычна ўтварэньне крымскага тэатру. У Сымфэропалі пры расійскім Крым. Дзярж. Драм. Тэатры засноўваецца цэнтральная татарская трупа, рэгулярна пачынаюць ставіцца спэктаклі. Але ў першыя часы тэатр церпіць няўдачы: наведваньне яго застаецца вельмі нязначнае, і існаваньнем сваім ён быў абавязаны толькі таму, што быў на поўным утрыманьні дзяржавы. Прычыны такога няпосьпеху працы тэатру ў пачатку можна тлумачыць, папершае, тым, што ня было досыць падрыхтованага акторскага пэрсоналу, а падругое, вельмі слабым і няўдала зложаным рэпэртуарам. Перад крымскім

дзяржаўным тэатрам паўстала неадкладная задача—пазбыцца гэтых недахопаў. Тэатр здолеў гэта зрабіць, і ў наступныя гады большасьць перашкодаў з посьпехам была пераможана. Слабы спачатку рэпэртуар абнавіўся шэрагам орыгінальных п'ес з соцыяльна-бытавым зьместам, а таксама п'есамі сучаснага расійскага і клясычнага рэпэртуару. Вырас і значна ўзмацнеў акторскі кадр тэатру, і, як вынік гэтага, палепшылася мастацкая якасьць пастановак. Зьявіўся шэраг маладых аўтараў, якія палажылі пачатак крымскай драматургіі. Наведваньне тэатру, якое павялічваецца з кожным днём, сьведчыць пра ўзрост яго мастацкае кваліфікацыі, так і пра павышэньне культурных запатрабаваньняў татарскіх мас Крыму. Вялізарны посьпех тэатру сярод сялянства (робяцца частыя гастрольныя паездкі па вёсках) ставіць на чаргу пытаньне наконт утварэньня сталага рухомага тэатру для абслугоўваньня провінцыі.

Крымска-татарскі тэатр займае ў цяперашні час адно з першых месц у агульнай сыстэме культурнага будаўніцтва Крыму.

* * *

На савецкім Усходзе на тэатр ускладаюцца асабліва важныя і адказныя задачы. Тэатр набывае там ня толькі характар культурна-выканаўчага і політыка-асьветнага відовішча. Ужо адна тая акалічнасьць, што тэатр забаронены духавенствам і што наведваючы спэктаклі мусульманін вымушаны парушаць законы свае рэлігіі, робіць татарскі тэатр, пры наяўнасьці вялізарнае цікавасьці і сымпатый да яго з боку мас, вельмі буйным рэволюцыянізуючым фактарам. У гэтым дачыненьні значэньне татарскага тэатру выключнае. Ломячы звычаі старога, цьвілога быту і парушаючы рэлігійныя забабоны, тэатр робіцца магутным супаратам мэчэці. Гэта яскрава адбіваецца на складзе тых, што наведваюць тэатр; за апошні час тэатральная заля папаўняецца ня толькі моладзьдзю, але і пажылымі татарамі, якія прыходзяць у тэатр цэлымі сем'ямі. Значную ролю адыграў таксама татарскі тэатр у справе вызваленьня жанчыны. На сцэне мусульманская жанчына—гэта векавечная, замкнёная і бяспраўная нявольніца—у першыню асьмелілася публічна скінуць ганебны знак свайго нявольніцтва—чадру і прад'явіла на зьдзіўленага гледача свае правы на новае жыцьцё. У сваю чаргу зьяўленьне жанчыны на сцэне дапамагала і зьяўленьню яе ў тэатральнай залі. А ў умовах Усходу гэта ўжо значны крок на шляху далейшае эмансыпацыі. Сымпатыі, якімі карыстаецца татарскі тэатр у насельніцтва, наяўнасьць асноўнага кадру маладых і энэргічных працаўнікоў, якія імкнуцца ўнесьці ў працу тэатру элемэнты формальнай сьвежасьці і рэволюцыйнае навіны—усё гэта зьяўляецца залогам бліскучае будучнасьці тэатру. Але на шляху да далейшага ўдасканаленьня перад татарскім тэатрам стаіць яшчэ вялікая і сур'ёзная праца. Яму давядзецца адмовіцца ад формальнага перайманьня расійскіх акадэмічных тэатраў. Свае натугі татарскі тэатр павінен будзе накіраваць у бок выяўленьня ўласных мастацкіх сродкаў для перадачы новага рэволюцыйнага зьместу пастановак у форме, найбольш характэрнай для нацыянальных асаблівасьцяй Татарыстана (Крыму).

Знайшоўшы свой самастойны мастацка-нацыянальны воблік і перадаўшы яго праз высокую тэхніку сцэнічнага мастацтва, татарскі тэатр канчаткова замацуе свае позыцыі і забясьпечыць сабе далейшы росквіт.

---

# КУЛЬТУРА МОВЫ

У адным з пунктаў сваіх „тэзісаў“ [1]) Беларускае літаратурна-мастацкае згуртаваньне „Узвышша“ высунула палажэньне аб неабходнасьці культуры мовы, як аднае з абавязковых умоў для ўтварэньня беларускай мастацкай літаратуры. І сапраўды, мова—гэта адзіны матар‘ял, з якога пісьменьнік будуе свае творы. Калі пісьменьнік не ўладае патрэбнай колькасьцю гэтага матар‘ялу, калі ён дасканала ня ведае асаблівасьцяй гэтага матар‘ялу і спосабаў злучэньня паасобных яго частак, дык, напэўна, яму ня ўдасца збудаваць моцнага і прыгожага твору. І на справе мы бачым, што значная колькасьць беларускіх мастацкіх літаратурных твораў не зьяўляюцца дасканалымі толькі таму, што мастак не ўладае матар‘ялам. Перш за ўсё слоўнік многіх аўтараў надзвычайна абмежаваны. Няведаньне патрэбнай колькасьці слоў беларускіх прымушае іх запазычаць словы з іншых моў, найчасьцей з расійскай, радзей з украінскай і польскай. Такі твор звычайна вызначаецца няпрыемнай стракатасьцю. Нават часта і гыя пісьменьнікі, якія ўладаюць вялікім запасам беларускіх слоў, ня могуць імі карыстацца, як належыць. Выхоўваючыся ў расійскай школе, яны набылі склад думаньня не ўласьцівы для характару беларускай мовы, а няведаньне жывой гэтай мовы, яе зваротаў, зьявілася значнай перашкодай, калі ім прышлося выкладаць думкі пабеларуску. Такія аўтары, звычайна, думаюць і пішуць парасійску, толькі беларускімі словамі, фразеолёгія ў іх скрозь расійская.

Гэта ўсё дачыняецца да мастацкай літаратуры. Але зьнішчэньнем недахопаў у гэтай галіне яшчэ ня вычэрпваюцца задачы культуры мовы. Жыцьцё кліча паставіць гэта пытаньне куды шырэй. Кастрычнікавая рэволюцыя, выклікаўшы да культурнага жыцьця працоўныя масы, вымагае, з другога боку, найлепшага абслугоўваньня гэтых мас дзяржаўнымі і грамадзкімі ўстановамі і організацыямі. А гэта найлепшае абслугоўваньне магчыма толькі тагды, калі гэтыя ўстановы і організацыі будуць гаварыць моваю мас. Гэта адзін з найважнейшых момантаў нацыянальнай політыкі, якая праводзіцца пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі. Аднак сярод працаўнікоў савецкіх установаў у нас, на Беларусі, мала знашлося людзей, падрыхтаваных гаварыць з масамі іх моваю. Адгэтуль вынікла патрэба перавучваньня гэтых працаўнікоў, патрэба беларусізацыі. І перавучваньне пачалося. Хто зусім сьвядома і шчыра, а хто хіхікаючы і іронізуючы, але разам з гэтым баючыся страціць кусок хлеба, працаўнікі пачалі вывучаць беларускую мову. Зразумела, што тут не магло пайсьці ўсё досыць гладка. Беларусізуюцца часта, ня чуючы зусім жывой беларускай мовы, ня чытаючы мастацкай літаратуры, беларусізуюцца ў лепшым выпадку на беларускіх газэтах і ў горшым па слоўніку Байкова і Гарэцкага.

Ужываецца беларуская мова ў некаторых установах вельмі часта, як паказ, займаючы ў побыце зусім нязначнае месца. Зразумела, што пры такіх абставінах якасьць гэтакай „беларускай“ мовы ня можа быць вельмі высокай; зразумелы і скаргі на незразумеласьць яе ў друку, у дакладах і г. д. Зноў-жа ня дзіва, калі, напрыклад, селянін

[1]) „Узвышша“, № 1.

убачыўшы ў якой-небудзь фінансавай установе абвестку: „Тут вытвараецца прадажа гэрбавых марак“,—можа зусім ня ўцяміць, што там такое „вытвараецца“.

Апрача гэтага, становячыся на больш шырокія рэйкі разьвіцьця, беларуская культура сустрэлася з вялікай колькасьцю розных спэцыяльных тэрмінаў, адпаведных якім у беларускай мове дагэтуль ня было. Гэтыя тэрміны браліся часамі з іншых моў без перакладу, а часамі перакладаліся на скорую руку, і таму не заўсёды гэтыя пераклады выходзілі ўдала.

Усе вышэй пералічаныя зьявы патрабуюць да сябе вялікай увагі, усебаковага асьвятленьня і абгаварэньня, а разам з тым і папраўленьня тых ці іншых памылак. Само сабою зразумела, што ніякай адной організацыі гэта справа не пад сілу. Тут патрэбен шчыры ўдзел і сталае падтрыманьне ўсіх, хто ўяўляе сабе ўсю важнасьць гэтага пытаньня і можа хоць чым-небудзь дапамагчы.

Спадзяючыся на такое падтрыманьне сваіх чытачоў і наогул грамадзтва і ідучы на сустрач вымаганьням жыцьця, рэдакцыя часопісі „Узвышша“ з гэтага нумару адчыняе аддзел „Культура мовы“, каб даць магчымасьць шырокім колам грамадзтва ўзяць удзел у абмеркаваньні надасьпелых пытаньняў мовы. Аддзел будзе мець больш практычны, чымся навукова-тэорэтычны характар, дзеля чаго супрацоўнічаць у ім здолеюць і людзі, якія ня маюць спэцыяльнай філёлёгічнай падрыхтоўкі. Найважнейшыя пытаньні, якія будуць абгаварвацца на старонках „Узвышша“, гэта беларуская лексіка наогул, спэцыяльная тэрмінолёгія і фразеолёгія. Задача высьвятленьня гэтых пытаньняў распадаецца на дзьве часткі: з аднаго боку, неабходна выяўленьне тых слоў жывой мовы, якія яшчэ не вядомы у літаратуры і якія, паводле свайго значэньня, могуць замяніць словы, узятыя з іншых моў, або няўдалыя новатворы; а таксама высьвятленьне зваротаў, уласьцівых характару беларускай мовы; з другога боку неабходна высьвятленьне ўсіх неўласьцівых беларускай мове слоў і зваротаў, якія сустракаюцца ў літаратуры. Для гэтага патрэбна ў першую чаргу крытыка з боку мовы літаратурных твораў. Апрача гэтага, тыповыя скажэньні беларускай мовы можна браць для абгаварэньня з газэт, з канцэлярскай перапіскі і іншых крыніц. Вось якую на першы пачатак праграму-мінімум ставіць сабе „Узвышша“, спадзяючыся, што ў далейшым адпаведныя ўстановы знойдуць магчымасьці заснаваць спэцыяльную часопісь культуры мовы.

Кожны, хто ведае тыя ці іншыя новыя факты з галіны беларускай мовы, хто мае тыя ці іншыя меркаваньні, няхай прысылае іх у рэдакцыю часопісі „Узвышша“. Усё гэта знойдзе сабе месца і будзе выкарыстана ў аддзеле „Культура мовы“.

---

# Граматычныя нататкі

*У нашых газэтах, журналах, павестках* і абвестках зазвычай пішуць так, *як гаворыцца* парасійску: 1) газэта выходзіць п а н я д з е л я м, с е р а д а м і п я т н і ц а м“; сходы адбываюцца п а а ў т о р к а м і с ы б о т а м“; 2) канцылярыя адчынена п а п а н я д з е л к а х, ч а ц ь в я р г о х і п я т н і ц а х. 3) н а д н я х выходзіць журнал „Полымя“ і г. д.

Гэта звароты расійскія, толькі у беларускай транскрыпцыі. Справа тут у значэньні прыназоўнікаў „па“ і „на“ і ў іх сынтаксычных злучэньнях

1) Пачнём з звароту „на днях“. Гэта форма меснага склону множнага ліку з прыназоўнікам „на“; у гэтай форме дваякая памылка—морфолёгічная і сынтаксычная

*Морфолёгія*, як ведама,—навука, якая знаёміць нас з тым, *як скланяюцца* і спрагаюцца словы ў тэй ці іншай мове. Беларуская морфолёгія вучыць, што іменьнікі мужчынскага роду множнага ліку ў месным

склоне канчаюцца пад націскам на—„ох“ (ёх), а не пад націскам на—„ах“ (ях). Значыць, пабеларуску трэ' было-б сказаць: на днёх, як на пнёх, на сталох (бач. „Граматыка беларускае мовы. Морфолёгія“ Яз. Лёсіка, стр. 81). Але тут ужо выступае беларускі сынтакс, ды кажа, што такога звароту ў беларускай мове няма. і хоць прыназоўнік „на“ і злучаецца з месным склонам, але не выражае часу, а мае толькі меснае, прасторавае значэньне. Значыць, зварот „на днёх“ павінен азначаць тое самое, што „на пнёх“, „на сталох“ (бач. „Сынтакс беларускае мовы“ Яз. Лёсіка, стар. 199). Ясна, што такі зварот—бяссэнсіца.

У такіх выпадках трэба ставіць творны склон без прыназоўніка: „гэтымі днямі“ або апісальна—„скора выходзіць журнал“.

2) Звароты—„па нядзелям, серадам і пятніцам“... няправільныя з сынтаксычнага боку.

У беларускай мове прыназоўнік „па“, агулам кажучы, ня злучаецца з давальным склонам (бач. „Сынтакс беларускае мовы“, стар. 204). Праўда, у адзіночным ліку часта выступае форма як-бы давальнага склону (па сялу, па бару, па каню, па полю. Не хадзі, коце, па масту, буду біці па хвасту), але гэта несапраўдны давальны склон, аб чым дакладней гаворыцца ў морфолёгіі (бач „Граматыка белар. мовы. Морфолёгія“, стар 70—73).

У множным ліку пасьля „па“ ў такіх разох выступае толькі месны склон: Па межах (рас.: по межам) хадзіў, жыта радзіў. Чарот расьце па балотах (рас.: по болотам). Хадзіў па лясох, па лугох і па палёх (рас: по лесам, по лугам и по полям).

Значыць, пабеларуску трэ' было-б сказаць: газэта выходзіць па панядзелках, чацьвяргох і пятніцах, што некаторыя і робяць, адчуваючы законы беларускае мовы (бач. у пачатку прыклад 2). Але справа ў тым, што ў нашай мове прыназоўнік „па“ ў злучэньні з месным склонам хоць і можа выражаць час, але зусім ня ў тым значэньні, якое яму прыпісваюць.

У беларускай, як і ў украінскай, мове прыназоўнік „па“ з месным склонам выража- час, пасьля якога адбываецца дзеяньне, напр.: Па ласым кусе я і вады нап'юся. Па сьвятым дусе ў тым-жа кажусе. Па маёй галаве застанецца ўсё табе. Вярнуўся дадому па захадзе (і—па захаду) сонца.

У гэтых прыкладах прыназоўнік „па“ з месна-давальным склонам выразна паказвае, што дзеяньне адбываецца пасьля таго мамэнту, які называе месны склон: Па мне хоць воўк траву еж.

Гэтае-ж самае значэньне выражаецца і ў такіх разох: Хадзіла дзевачка па ночы (г. зн, як настала ноч, як стала цёмна) шукала цыбулькі на вочы: ці ня будзе цыбулька шчасьліва, каб з аччу сьлёзкі капіла (сьпяваюць маладой, калі тая ня плача на вясельлі ў патрэбны момант) Відаць па вочках, хто ходзіць па ночках.

Адгэтуль відаць, што, напісаўшы „газэта выходзіць па панядзелках і пятніцах, або—сходы адбываюцца па серадах і сыботах, -мы скажам ня тое, што трэба і што хацелі сказаць. Гэтым мы скажам, што дзеяньне адбываецца пасьля панядзелкаў, пятніцаў і г. далей.

У такіх разох гэтаксама пабеларуску трэб ставіць творны склон без прыназоўніка або вінавальны склон з прыназоўнікам „у“, напр.: Газэта выходзіць панядзелкамі, чацьвяргамі і пятніцамі, або—у панядзелкі, чацьвяргі і пятніцы. Сходы адбываюцца аўторкамі і пятніцамі, або—у аўторкі і пятніцы і г. далей.

Так і ў народнай мове: Калі-ж цябе, сынку, у госьці чакаці: ці глыбокімі сьнягамі (г. зн., зімою або ўзімку), ці зялёнымі лугамі (г. зн., вясною ці ўвясну), ці вішнёвымі садамі (г. зн., летам, улетку, калі сьпеюць вішні). Браў мяне ты ўдзень, ні ўночы—дзе-ж тады меў свае вочы?!

Ведаючы граматыку, лёгка ухіліцца ад падобных памылак. Дзеля гэтага кожнаму літаратару перш-на-перш трэба дакладна ведаць граматыку свае мовы, а потым сачыць за народнаю моваю, як гэта рабілі і робяць лепшыя пісьменьнікі—клясыкі. Вялікі расійскі поэта і стылісты Пушкін вывучаў народную мову і займаўся граматычнымі пытаньнямі. У нас на гэта не зварачаюць належнае ўвагі.

Трэба памятаць, што мова псуецца ды становіцца штучнаю, чужою і малазразумелаю не ад чужых слоў. Яна псуецца чужою граматыкаю—чужою фонэтыкаю, морфолёгіяю і сынтаксам.

У нас-жа робіцца якраз наадварот: баяцца чужых слоў, але не баяцца чужое граматыкі Чужое слова запазычыць можна і трэба, калі няма свайго або калі трудна ці нельга яго вытварыць Бяз чужых, запазычаных, слоў ніводная культурная мова абысьціся ня можа: адбываецца ўзаемны промен таварамі—мусіць адбывацца і ўзаемны промен словамі і паняцьцямі. Гэта натуральна, і цяпер культурнае, лексычна чыстае мовы няма і быць ня можа, як няма і быць ня можа такога культурнага народу, які мог-бы абайсьціся прадуктамі свае ўласнае вытворчасьці. Калі мяняюцца людзі таварамі, прадуктамі свае вытворчасьці, дык яны мусяць мяняцца і словамі, і разумовымі паняцьцямі, што вырасьлі на гэтай экономічнай базе

Разумеецца, пазычаць без канечнае патрэбы неразумна, бо гэта будзе непагаспадарску. Нашто, прыкладам, купляць дровы ў Сібіры ці ў Амэрыцы, калі яны ў нас ёсьць свае; трэба толькі пашукаць, насеч ды прывезьці дадому. Але будзе зусім натуральна і пагаспадарску, калі мы, ня маючы газы, купім яе там, дзе яна ёсьць.

Гэтак і з словамі. Пры патрэбе пазычаць іх можна, і баяцца гэтага няма пад-

ставы, але. запазычыўшы тое ці інша-слова, трэба яго абеларусіць. г. зн., падепарадкаваць законам свае граматыкі, як-бы перарабіць яго на сваіх граматычных фабрыках і заводах.

Чыстая мова засталася цяпер хіба дзе ў папуасаў, да і то наўрад Ёсьць мовы, напрыклад, ангельская, якая на 2/3 складаецца з чужых слоў, аднак-жа ніхто не адважыцца назваць яе мешанінаю чужых слоў. А чаму? Гэта цікава. Ангельцы бралі чужыя словы і не баяліся іх браць, як бяруць і не баяцца браць культурныя народы сырэц, але, вывезшы яго з чужога краю, перарабляюць на сваіх фабрыках і заводах.

Беларускі народ у сваім слоўным складзе мае сотні чужых слоў—нямецкіх (дах, пляц, шупляда, рахунак. ліхтар), лацінскіх (акуляры. літара, дарэктар, студэнт, адукацыя) і нават літоўскіх (шула, жлукта, клыпаты), яўрэйскіх (хэўра. кагал) і польскіх (хлопец-быдла),*) але ўсе яны акуратна падпарадкаваны законам нашае мовы і пераробленны, як той чужы сырэц на фабрыцы У такой форме іх трудна пазнаць ужо былым гаспадарам. і яны могуць купіць іх у нас, як навіну. Кажуць, што гэтак немцы перараблялі сібірскія шкуркі ды потым прадавалі нам, як заграніччны тавар.

У нас баяцца чужых слоў, але не баяцца, як мы бачылі вышэй. чужое граматыкі. Гэтым і аб'ясьняецца, што нашыя газэты, адарваныя ад народных гушчаў і незнаёмыя з граматыкаю свае мовы, стараюцца кожнае расійскае слова перадаць якнебудзь пасвойму. Тэндэнцыя пахвальная, але рэзультаты—сьмешныя.

Ну, нашто, напрыклад, перарабляць з я м л я т р а с е н ь н е ў зямляўздрыг, перагаворы—ў перамовы, калі ў нас ёсьць і слова „зямля“ і „трасьці“ і „перагаварыць“? Хіба-ж народ кажа „хата ўздрыгаецца“, а не трасецца? Гэтых і падобных расійскіх слоў і перарабляць ня трэба, бо яны аднолькава і беларускія, як вада, рука, галава і сотні іншых. Гэтаксама няма ніякае патрэбы замяняць беларускага слова „рад“ польскім словам „шэраг“, як гэта зазвычай робіцца ў нашай літаратуры.

*) Аб чужаземных словах у беларускай мове бач. маю «Граматыку белар. мовы. Фонэтыка», стр. 121—126.

Шмат шкодзіць мове і літаральныя пераклады. Напрыклад, нельга расійскую фразу „у меня имеются деньги“ перадаваць пабеларуску—„у мяне м а ю ц ц а грошы“ або „собрание открывается“ ці „закрывается“—„сход а д ч ы н я е ц ц а“ ці „з а ч ы н я е ц ц а“.

У нашай мове слова „маецца“ выражае стан чалавека—душэўны ці матарыяльны (Як маешся? Як-жа дзеткі вашы маюцца?), а „зачыніць“ ці „адчыніць“ можна дзьверы, хату, вокны, вароты, але ня сход ці рот. Рот можна разьзявіць, а сход—адкрыць ці закрыць. бо хіба-ж у нас няма дзеяслова „адкрыць“ з такім-жа самым значэньнем, як і ў расійскай ці іншай славянскай мове?

Варочаючыся да прыназоўнікаў „на“ і „па“, трэба сказаць, што з імі зьвязаны шмат іншых неўласьцівых і дзікіх для беларускай мовы зваротаў, што пападаюць у нашую літаратурную і разгаворную мову пад уплывам расійскае мовы. Напрыклад, калі для расійскае мовы зусім натуральна сказаць „он женился н а  н е й“, „приехал н а  и з в о з ч и к е“, то для нашае мовы такія звароты ненатуральныя і сьмешныя...

У беларускай мове дзеяслоў „жаніцца“, як і дзеяслоў „дружыць“ патрабуе т в о р н а г а склон з прыназоўнікам „з“, як дзеясловы ў з а е м н а г а значэньня, напр: Ажаніўся (як падружыў) стары з м а л а д о ю. Ажаніўся з д р у г о ю ж о н к а ю.

Пасьля дзеясловаў „ехаць“, „плысьці“ і падобных. што выражаюць рух п а ч ы м нібудзь, у нашай мове звычайна ставіцца творны склон, напр.: Ехалі мы ў Кіеў Д н я п р о м. Плыві ты в а д о ю. а я за табою. Нехта едзе п а р м а к о н ь м і і на пары коняй, але нельга сказаць „на ізвозчыку“.

**Яз. Лёсік**

# Аб словах „сьвет“ і „сьвятло“.

Жывая беларуская мова разрожнюе словы „сьвет“ і „святло“. — Маной с ь в е т пяройдзеш, але назад ня вернешся“. „Як с ь в е т с ь в е т а м—ня быў пан мужыку братам“. „С ь в е т клінам зышоўся“. „Сарока хвастом с ь в е т запаліла“. „С ь в я т л о і ў цемры сьвеціць“. „Запалі с ь в я т л о“. „Сьвятло сьвеціць, цяпло грэе“. У слоўніку Насовіча (576 б): *Сьвятло* з. с. р. 1) Агонь. Пара сьвятло вздуваць. У вас еще сьветла не зажігалі (рус. зам.—„запалялі“). Сьвятло погасілі. 2) Зрок. Другі год, як сьвятло я поцерав (рус зам „утраціў“).

У беларускай мове слова „с ь в я т л о“ служыць для абазначэньня зьявы спроцілеглай цемні; яно роўназначна лацінскаму lux, нямецкаму Lichtenschain. ц.-славянскаму і расійскаму с в е т.

Слова-ж с ь в е т ужываецца выключна ў значэньні лацінскага mundus, нямецкага Welt ц. славянскага і расійскага м и р, в с е л е н н а я

У даным здарэньні наша мова не стаіць адасобненай: ў большасьці славянскіх народаў слова с ь в е т ужываецца ў значэньні mundus: у баўгараў—свѢт, у сэрбаў свијет, у харватаў—svjet, у харутанцаў—svet, ў славакаў—swet, у палякаў—świat, у чэхаў—svet, у украінцаў—світ.

Назоў mundus і terra habita с ь в е т а м зложыўся ў дагістарычныя часы разьвіцьця нашай мовы. Назоў-жа lux'а сьвятлом,—яшчэ старэйшая зьява: яе, мабыць, трэба аднясьці ў праславянскую эпоху.

Гэтакім чынам ясна, што ўжываньне ў пісьменнасьці і ў паточнай мове слова „сьвет“ ў значэньні lux,—гэта грубы барбарызм.

**В. Л.**

# Аб слове „страніца“.

Слова „страніца“ носіць на сабе сьляды баўгарызму, які перайшоу ня толькі ў нашу кніжную мову, але і ў большасьць славянскіх моў. Пры паўнаг лосьсі беларускай мовы трэ'было-бы пісаць і вымаўляць не „страніца“, а „стараніца“, падобна як мы не кажам „брана“, „врана“, „град“—а „горад“, „барана“, „варона“ Дзеля таго-ж, што многаскладовыя словы цяжкія пры вымове, то, унікаючы апошняга, быў выпрацаваны новатвор-„старонка“.

Але ў нашай мове ёсьць уласнае слова на абазначаньне пісанай, эвэнтуальна друкаванай, стараны ліста—„балона“.

У карэ і ў скуры плеўная старана, якая прылягае—ў першым здарэньні да дрэва, ў другім да цела,—называецца балонай. У часы калі пісалі на пэргаміне, то балонная старана пераважна служыла да пісаньня; згэтуль у старадаўнасьці запісаная старана пэргаміннага ліста называлася таксама балонай. У інвэнтары турава-пінскай архібіскопіі, пісаным ужо на паперы ў XVII ст., у канцы маецца надпіс: „в книзе сей листов ҁ҃з (57), болон ҁ҃д (114“).

Што слова „балона“ асоцыізуецца ў псыхіцы нашага народу з старонкай кніжнага ліста, рабіў ужо заўвагу Александар Ельскі, у лісьце да „Нашай Нівы“ ў 1912 г. Аб праўднасьці апошняга я сам неаднакрот пераканаўся пазьней, бываючы ў пачатковых беларускіх школах і ў размо ах з сялянамі.

Калі адраджэньне мовы павінна імкнуцца да яе лексычнага дасканаленьня і прыбліжэньня да шырокіх працоўных мас, то бясспрэчны і поступам на гэтым шляху будзе ачышчаньне мовы ад барбарызмаў, спрэчных з псыхікай мовы народных мас. А дзеля гэтага ужываньне народнага слова „балона“ замест гістарычна кніжнага барбарызму „страніца“ — будзе поступам у развіцьці нашай мовы, будзе поступам у набліжэньні друкаванага слова да народу

**Л.**

# Корэктыва да слоў „земляробства“ і „хлебаробства“.

У беларускай мове захавалася нямала слоў з прадаўнымі славянскімі каранямі,—асабліва мы бачым гэта ў тэрміналёгіі, датыкаючай вырабу зямлі.

У найдаўнейшых усходна-славянскіх пісаных помніках чыннасьць падыманьня грунту на ральлю называецца- араньнем: „оже то начнет о р а т и смерд.“ (Летапіс, Лаўр. сьп, пад 1103 г) „Мартин жаловал на Микулу: коли о р а л свое поле, тогды упустил мошню..“ (Вісьліцкі Статут, рук. XV ст.).

Працаўнік, які вырабляе зямлю, называецца—ратаем скрозь, пачынаючы ад былін:... „услышал в поле р а т а я. орет в поле р а т а й.“ (Быліна аб Вользе)...„Тогда ретко р а т а е в е кикахуть (Слова аб палку Ігара). „І коли мене немцы на мори поймали и он без мене, на том моем поли пять сох наехавши порубал ратаев збил.“ (Літоўская мэтрыка, т. I, б. 11).

Узараная зямля называецца „ральлёй: ...„яко, или хочем, погубити смерды и р о л ь ю их“ (Летапіс, Лаўр. сьп., пад 1103 г.)

Сталая праца на зямлі называецца р а т а й с т в ом: „ратайством и рибарством бавечысе“ (Александрыя, рук XVII ст.)

Нададзенымі цытатамі і у сотай частцы не вычэрпуецца кніжны матэр'ял да цікавячай нас тэрміналёгіі, але і гэтага даволі, каб бачыць, што „орать“, „ратай“, „ролья“, „ратайства“ ўжываліся, як агульна вядомыя і зразумелыя словы, на працягу доўгіх гадоу.

Калі ж пяройдзем да сучаснасьці, то лёгка пераканаемся, што павышшая тэрміналёгія звыклая таксама і для жывой беларускай мовы.

Словы „араць“, „араньне“ ўжываюцца скрозь, на ўсім абшары этнографічнай Беларусі, як „ральля“ і „аральля“.

Слова „ратай“ (мн. лік. „ратаі“) гэтак сама захавалася на ўсім абшары, а толькі мясцамі прыбрала для поўнагалосься (а можа і па аналёгіі са словам „араць“) гук „а“ перад пачатным „р“: „аратай“, „араты“.

Слова „ратайства“ ў апошняе стагодзьдзе, з добрымі вынікамі, выціскалася стала расійскім кніжна-адміністратыўным „земледелие“, „землепашество“ і нават часткова польскім „rolnictwo“, так што ўцалела толькі мясцамі ў Заходняй Беларусі, дый там яно ўжо належыць да рэдкіх слоў. Хоць у Пружанскім павеце (Горадзеншчына), каля Шарашэва, утрымал ся дагэтуль слова „ратары“ ў значэньні расійскага—„земледельцы“, „землепашцы“.

Калі пачалося адраджэньне новачаснай беларускай пісьменнасьці, слова гэтае не адразу было знойдзена. Яго нашаніўцы яшчэ ня ведалі. Пры нястачы ўласнага слова былі ў нашу пісьменнасьць уведзены выкаваныя на Украіне не саўсім лёгічныя новатворы— земляробства“ (зямлю рабіць) і хлебаробства (хлеб рабіць). Першае з іх ёсьць пунктуальны перaклад расійскага „земледеліе“, другое—украінскі новатвор, пабудаваны таксама паводле таго-ж расійскага першатвору.

„Земляроб“ і „хлебароб“, як словы штучныя і лёгічнай цэласьцю з нашай земельнай тэрміналёгіяй не зьвязаныя, павінны быць заступлены ўласным словам—„ратайства“. Не ўласьцівыя мове новатворы робяць мову цяжкой, і іх трэба ўнікаць ня толькі ў пісьменьніцкай, але і ў адміністратыўнай практыцы. **В. Л.**

# БІБЛІОГРАФІЯ

**Пятро Глебка. „Шыпшына“ — лірыка** *Узвышша — Менск — 1927 г. 80 стар., ц. 50 к.*

З вялікай цікавасьцю прачытаўшы першы зборнік лірыкі нашага маладога поэты П. Глебкі „Шыпшына“, я захацеў падсумаваць тыя першыя ўражаньні, якія на мяне здолеў зрабіць гэты зборнік. Нельга сказаць, каб ураджаньні былі назвычайна моцнымі, можа таму, што амаль усе гэтыя вершы мне даводзілася чытаць раней, але ўсё-ж нейкае хвалява́ньне і нявыразная радасьць у маім настрої абудзіліся.

*Я адчуў, што прышоў у нашу поэзію* новы поэта, і не таму, што выпусьціў зборнік вершаў, а таму, што ў вершах я адчуў жыцьцё, пульсацыю таго дару, які мы звыклі называць з па старой літаратур ай традыцыі дарам поэты

*Я адчуў, што ў „Шыпшыне“* зьмешчана лірыка яшчэ зусім юнацкага слова, і зноў-жа не таму, што гэта першы зборнік і маладога поэты, а та у, што яна ў сваім эмоцыянальным і формальным гучаньні часамі бывае залежнай ад прыгожых і гучных акордаў другіх поэтаў, як Ул. Дубоўкі і С. Есеніна (гл. вершы „М Багдановічу“, ст. 27, „Запалілі агні“, стар 39, „Трыцціх“, ст 63-65. і наагул IV і V нізкі зборніку, дзе сустрачаем такія выразы: „саду бэзага пах“, „гэты шум мне у сэрца уліп, „я вам буду і сам падпяваць“, „дарагая, сядзь-жа блізка“ і інш.); але ўсё-ж часта яна бывае наладжана і на свой самастойны лад.

Я адчуў, што поэта, складаючы нізкі вершаў свайго зборніку, прытрымліваўся пэўнай тэматычнай цыклізацыі. Гэтая асаблівасьць заўсёды не толькі дапамагае чытачу лягчэй разабрацца ў тэматычнай рознастайнасьці і багацьці зборніку, але таксама яна больш выразна акрасьляе і вылучае гарманічнасьць і суладжанасьць як паасобных нізак, так і ўсяго зборніку. Архітэктоніка „Шыпшыны“, я сказаў-бы, пазбаўлена клясычнасьці; вышаў нявыразны зьлепак. Праўда, з-за гэтага зборнік асабліва шмат ня траціць, але ўсё-ж такі, калі поэта дазваляе сабе падзяляць зборнік на пэўныя нізкі, дык мы маем поўнае права шукаць і пэўнага прынцыпу ў гэтым падзеле Калі-б гэта рэч ішла ня ў роўніцы поэзіі, аднэй з галоўнейшых галін чалавечага мастацтва, я не паднімаў-бы голасу ў абарону. Я дазваляю сабе параўноўваць зборнік поэзій таго ці іншага поэты з карціннай ці скульптурнай галярэямі. Як у карціннай, скульптурнай галярэях помнікі мастацтва ў сваім разьмяшчэньні маюць строгую сымэтрыю, гармонію, дык так павінна быць і ў зборніках поэзіі, а то ў нашых зборніках поэзіі выходзіць якраз так, як у этнографічным аддзяленьні ленінградзкага рускага музэю, у якім слуцкія паясы аднесены да польскага аддзелу, замест беларускага.

Больш прыгожымі, больш лірычнымі, эмоцыянальнымі і больш закончанымі з боку мастацкага зьяўляюцца вершы трэцяй, чацьвёртай і пятай нізак, мотывамі якіх больш за ўсё зьяўляюцца тэмы інтымнага зьместу: каханьне, аўтарскія настрої і перажываньні, то сумныя, а то і радасныя, малюнкі роднай прыроды, прасякнутыя заўсёды беспасрэднасьцю аўтарскага настрою.

Чараўніцу, якая заваражыла сваім каханьнем палкае сэрца поэты і выклікала з глыбінь яго душы шэраг найчасьцей прыгожых вершаў, адразу цяжка разгадаць. Хочацца бачыць у гэтым вобразе то маладую Беларусь, то сапраўды рэальны об'ект каханьня, то ідэал дзявочай прыгожасьці для поэты наагул; але праўдзівей за ўсё мусіць будзе першае і другое; падцьвярджэньне гэтаму мы знаходзім перш за ўсе ў уступным вершы да зборніку, у якім аўтар шчыра гаворыць:

> Ні сябру, ні брату, ні сёстрам сваім
> і нават ні дзеўчыне русай —
> я гэты шаўковы вяночак завіў, —
> завіў я яго Беларусі.

а падругое, у такіх радкох:

> Адным узрадаван, адным усьцешан,
> што песьню ён калісь зладжыў.
> Няхай яна мо' выдумка, насьмешка—
> усё ж лягчэй сьпяваць і жыць.

(в. „Максіму Лужаніну“ ст. 29).

Мне думаецца, што крыніцы такіх мотываў у поэзіі П. Глебкі зьяўляюцца ў значнай меры крыніцы літаратурныя; хоць магчыма дапушчаць, што Глебка ўжо здолеў пе ажыць і не адно каханьне, і да беларускай сялян і, якую стрэў на пожні з тварам белым і сінімі вачыма, да камсамолкі, а таксама і трагічную ростань (в. „Дзяўчына“, ст. 48). У некаторых вершах поэта бярэ ўжо занадта „трагічную“ ноту, і, вядома, адразу зрыў, — у чытача яна выклікае ня сполах, а лёгкі сьмех—

> Стрэў на пожні яе з тварам белым,
> стрэў і сьціснуў далонямі скроні.

або запеў вершу: „Ах не!“... зусім нетрагічны, а нават лішні; бо бяз гэтага „Ах не!“ верш набыў-бы большай эмоцыянальнай сілы і сур'ёзнасьці; пачынаўся-б ня з

> Ах не!.
> Сваёю простаю усьмешкай
> табе ня краташ сэрца, дум,

а з — Сваёю простаю... і г. д.

Часамі ў цэлым вершы. як у вершы „Я часта думаю“. ст 40, проста не матываваная роспач і трагэдыя. Вось гэтакія вершы якраз гучаць нейкім дысонансам паміж такіх прыгожых вершаў, як „Зацьвілі зарніцы“, „Не маўчы“, „Сёньня я ўспомніў“, *„Ня думаў ніколі“ і інш.*

Вершы. тэмаю якіх зьяўляюцца перажываньні і настроі поэты, ахварбаваныя часамі малюнкамі роднай прыроды, у якіх поэта больш за ўсё выяўляе сваё індывідуальнае, дадатна вылучаюцца з усяго зборніку; якраз у іх я і адчуў тое, што вышэй назваў дарам поэты. Ілюструю сказанае вершам „Не спазналі мяне“, ст. 57:

Не спазналі мяне—валацугу
ні суседзі, ні родная маці:
перайшоў адзінока лугам—
*і ня вышаў ніхто сустракаці.*

Мо‘ забыліся ўсе, што жывы я,
толькі я на ўсіх не забыўся.
Вось і клён, і вербы крывыя—
я за іх на чужыне *маліўся.*

Праўда, усё зьмяніла свой колер,
і вярба пад вакном пасівела,
толькі поле, радзімае поле,
ўсё такое-ж *шаўковіста белае*

Толькі неба празрыста-сіняе
і з усьмешкай ранейшаю зор.
*Шмат загінула, шмат загіне,—*
*поле і неба ня зьменяць узор.*

У вершах парадку дэкларацыйнага, якіх мы некалькі ў зборніку знаходзім, шмат бывае *раскіданасьці, нявыразнасьці і,* нават. занадта сурова *кажучы.* непатрэбнага, як у *вершы* „Блізкім і далекім“:

*Пялёсткі з шыпшыны зрываюць*
*вясной,—*
*з калючак палёсткі віеце!*

або: ...ня ўпусьцім нікому мы скарбы
сваe,—
шыпшынай задзівіцца ко ын.

(Зусім не патрэбная ўласнасьць).

У першай нізцы зьмешчаны вершы хоць не на зусім *выразныя грамадзкія* тэмы, але ўсё-ж, *скажам, на грамадзкія.* Гэтыя вершы найчасьцей характару публіцыстычнага Гаворыцца ў іх і аб тым, што Беларусь звалі Заходня-рускі край, і што ветры з усходу прымчалі новую назву—Беларусь, і што яшчэ павінна надыйсьці паўстаньне, якое вызваліць заходнюю Беларусь, і што поэту абзываюць усё-ж яшчэ і зараз усе „шовинист“; тут жа і непатрэбная дыскусія *адносна роспачы,* усхліпаў і ўвасабленьне ва сьне рэволюцыі і г. д. Я знарок *перадаў* тэматычнае багацьце першай нізкі, каб тым самым паказаць, што Глебка куды здальнейшы поэта, як публіцысты. У некаторых вершах гэтай нізкі няма ніч га суцэльнага—ні малюнку, ні настрою, і нават *характэрна для гэтай нізкі і тое. што паасобныя штрыхі ма юнкаў прыроды.* якія часамі *поэта* ўводзіць, супярэчны самі ў сабе; для прыкладу ў вершах: „І калі прыпаду“. „Не кажы“ і інш, і непатрэбныя паўтарэньні строф. як у вершы „Зіма“.

Цяжка мне зараз *што-небудзь* сказаць аб далейшым творчым шляху П. Глебкі, цяжка мне таксама што-небудзь поэту парадзіць, ці ад чаго-небудзь перасьцярагаць; я лічу, што творчая індывідуальнасьць поэты пачынае ўжо выяўляцца самабытна,—за гэта гаворыць нізка вершаў „Кра‹а маладосьці“ („Узвышша №4), і мне думаецца, што ў гэтым *кірунку* **наш поэта** *пойдзе шпаркімі крокамі*

**Язэп Кудзер**

---

***Ў. Дубоўка („Credo“, „Напя“)*** [1])

It is safer to commend
the dead tran the devіng
[Народная прыказка]

Калі я вяртаўся ў 1926 г. з Менску, у мяне ў портфэлі была маленькая, ў пярэстай вокладцы, кніж чка *беларускаю моваю.* Доля гэтае кніжачкі была досыць нязвычайная.

Хутка яна зьнікла з майго портфэлю і аддалася на волю лёсу ў вандраваньні. Адзін тыдзень яе чытала вясёлая компанія маладых мовазнаўцаў, далей яе праглынула кішэня вядомага украінскага прозаіка, пасьля яна мільганула ў рэдакцыях некалькіх газэт і, нарэшце. ў вялічэзным портфэлі *санітарнага доктара, вялічэзнага дзядзькі і* лірычнага поэты, *узялася езьдзіць па стан*цыях, паустанках і пляцформах, падтрымоўваючы санпоэту ў яго ўпартым зма ганьні з контрасанытарыяй ды антыгігіенай

Якая-ж гэта кніжачка была *беларускаю моваю.—да якой* мы ўкраінцы ўмеем ставіцца таксама, як расейцы ставяцца пакуль што да „малорусского языка“,—што здолела ўразіць сэрцы стольких людзей, якія раней беларускіх кніг ня чыталі?

Дзіўна. *але гэта былі* вершы Гэта была Дубоўкава кніжачка „Credo“.

Наш камсамолец, звычайная рэч, нічога ня чуў пра Уладзімера Дубоўку. У той час ён , обра азнаёмлены на шляху офіцыйнае рэкомэндацыі з Жаравым і Кірылавым, а потайкам чытае Есеніна І гэта шкода, бо ёсьць сапраўдныя *поэты* для камсамольца *(не жалю вартыя* бяздарнасьці **накшталт** Кірылава і не люмпэнсяляне накшталт Есеніна);адным з такіх ёсьць Уладзімер Дубоўка.

---

[1]) Рэцэнзія надрукавана ва Украінскай літаратурна-мастацкай часопісі Вольнай Акадэміі Пролетарскай Літаратуры „Ваплітэ“, № 4. 1927 г., ст. ст. 223 226.

Калі пачаўся росквіт маладой рэволюцыйнай беларускай літаратуры, гаварылася так:

— Хто-ж у вас?—адзін Дубоўка!

Цяпер ёсьць багата, але Дубоўка ўсёж-такі **адзін**.

Ужо кніга „Трысьцё“ поруч з вялічнымі песеннымі мэлёдыямі

> Пачынаецца з-пад хмар вандроўных,
> пачынаецца з лясоў шумлівых.
> Захадзіла сонца ціха-роўна. . . . .
> . . . . . . . . . . . . . . . .
> І замоўклі дразды над балотам,
> і ў лесе сівакракі замоўклі. .

поруч з легэндаю пра „Дзяўчыну“, пабудованаю ў лад усёй беларускай народнай песьні ды народніцкай літаратуры, зьяўляюцца зусім новыя, неспадзяваныя гарэзныя ноткі:

> Што складаць пра каханьне вершы:
> Госіздат друкаваць ня будзе.
> Бо ня нам на сьвеце першым
> цісьне траўнем жыцьцё на грудзі—

для таго, каб скончыцца *самым кволым* акордам, узятым у самай немажлівай. самай дзівоснай галіне:

> Шчыра ўспомніць адна зяўчына
> і здалёку адна паклічыць!
> Засьпявае: „Ой, рана, рана“...
> А калі сашчэпіць рукі:
> „Іх гей аройс афн ганэкул
> ды штэтэлэ бакукун“...
> Засьпявае: „Ой. рана, рана“...
> А ўспаміны сьлязьмі набракнуць:
> „*Іх гей аройс афн ганэкул*
> ды штэтэлэ батрахн“...

У „Credo“ гэтыя ноткі пераважаюць. Гэта сапраўды „Credo“—палітычная кніжка, пляцформа ўчынкаў і поэзіі. Але з надзвычайным тактам Дубоўка аддзяліў у ёй лірыку ад філёзофіі, ужыўшы для гэтага просты і гарэзны спосаб: ён выклаў філёзофію... прозаю. Праўда, гэтую прозу ён тож неяк разьбіў на радкі і нават спарудзіў для яе пару якіхсьці рыфм, але ён ніколькі не хавае ад чытача, што гэта ёсьць проза. Дубоўка хоча, каб усё было на чыстату, у яго ёсьць якаясьці прынцыповая, адчайная, абсолютная шчырасьць з людзьмі і нават.. з самім сабою.—Вы хочаце ведаць мой сьветагляд - вось ён—каб было больш ясна і **больш дакладна**, я выклаў яго прозаю.—*Вы хочаце зазнаць маёй лірыкі*—каб яна была пышнейшай і п'янейшай—я не пхаў туды навукі, а казаў, што нарадзілася ў радку. Вось яны поплеч, мой сьветагляд і мае вершы—*вось маё „Credo“*.

Вось сьцежка (верш „Сьцежка“) гэтага „Credo“:

> Хоць я пайду і скрозь туманаў сініх,
> а пад агамі будзе ўсё-ж *зямля*.
> Сапраўды—чым мяне ты пераломіш?—
> бяз хлеба—жыў, і хлеб з крапівы—еў.
> А духам быў—заўсёды камсамолец,
> і толькі зірк сьціскаўся і шарэў.
> Я не чураюся й патроннай торбы:
> Кашулю зрэбную, як будзе трэ' парву
> *Ужо гарбаты я, а больш жыцьцё ня згорбіць.*
> Ды што мужыцкую мне зьвяжа галаву?
> . . . . . . . . . . . . . . . .
> . . . . . . . . . . . . . . . . . .
> А там—вядзі хоць на зламаньне шыі,
> а не—цябе самое павяду.

Гэты верш ёсьць ня лірыка і не філёзофія. Гэта чысты жыцьцяпіс, і то ня толькі мінулага, а й наступнага поэтавага жыцьця. І лірыка гэтай кніжкі даводзіць, што сапраўды. „Нішто ня зьвяжа мужыцкую галаву яму“.

Я маю на воку іншыя сьцежкі поэтавага „я“, вохкія сьцежкі яго любоўнай лірыкі. Гэта верш „Вохкія сьцежкі“.

Я ня маю магчымасьці прыводзіць гэтую надзвычайную рэч, бо пераважную тэму маю тут становіць апошняя Дубоўкава кніжка „*Наля*“. Скажу толькі, што ня часта даводзіцца чытаць такія моцныя рэчы. Гэты верш трактуе ня больш ня менш, як сэксуальны акт. Але ўражаньне ад усяго твору такое романтычнае, такое ўзьнеслае. такое сапраўды моральнае (наўсупор усім сьвятошам і фабрыкантам фігавых лісткоў), што я ўважаю яго за шэдэўр поэзіі. Звычайная-ж рэч, падобныя такія Шэршэневічавы спробы выдаюцца нам порнографіяй у *шэрагу з гэтым Дубоўкавым вершам*.

Чытач прачытае гэту поэмку сам і перараканаецца, што ён мог-бы даць яе сваёй дванаццацігадовай сястры бяз шкоды для яе моральнасьці.

Поруч з гэтым у кніжцы „Credo“ ёсьць просьценькая проза, пра якую мы згадвалі вышэй. Прыкладам:

> Называецца гэта—
> беларусізацыя.
> Некаторым вельмі не падабаецца.
> Ну, што-ж—прыдзецца аблізацца ім,
> бо ў нас хутка і робіцца, як баецца.

А *перад тым так і проста „падмацавана“* паўстаронкі „адпаведнаю цытатаю“ з Цішкі Гартнага.

> Іншая справа апошняя Дубоўкава кніжка „*Наля*“.
> „*Што пісаць пра каханьне* вершы:
> Госіздат друкаваць ня будзе“,

сказаў Дубоўка раней і гэтую кніжку пра каханьне выдаў ужо „Центриздат“ народаў СССР.

Дубоўкава кніга „Наля“ больш сьпелая, больш цэльная, чымся „Credo“. Уціскі, якія перажываюць беларусы на Захадзе выклікалі *поэму „Плач навальніцы“*

З эпіграфам. узятым з Паўла Тычыны, гэтая поэма ўжо не нагадвае філёзофскую поэму ў „*Credo*“. Гэта вагнёвая песьня супроць катаў, супроць польскага панства.

> Гэтых трох імёны
> сьвяткаваць прымусім
> *Мы паноў вяльможных:*
> злосьць жа іх ад страху.

За братоў маіх Заходняй Беларусі
стаўлю ў песьні помнік
Ладзімеру Шаху.

Пачынаецца гэты разьдзел нібы кобзарская „дума“ пра трох братоў:

Трое іх.
Гаманілі з гаем.
Гаманілі з полем
Гаманілі з жытам каласістым.
Трое іх.
Працавалі рана.
Працавалі позна.
Працавалі, сілу слалі лістам.

Падам яшчэ некалькі радкоў, каб даць уяўленьне пра фактуру поэмы:

„На пясок на жоўты, на пясок стаптаны
Я ўкленчу стану, галаву схілю.
Ты пашлі, зямелька, для душы бальзамы,
Ты прымі, зямелька, крыўду ўсю маю.
Ня выказная
катуе
скруха...
Пурпуровыя
рогаты
духі...

Вось гэта сьмелая трактоўка мэтру да дзе якой меры новая для Дубоўкі Як ўсякі добры поэта ён і раней шырока карыстаўся леймічным вершам, але тут мы бачым комбінацыю двух разьмераў, як можа ў лірычных ходах грэцкай трагэдыі Поэма стварае ўражэчьне сымфоніі на тэму „анапэст адменлівасьці“.

Вядомы Дубоўкаў верш „О, Беларусь, мая шыпшына“ перадрукаваны тут. Замест няўдалага робленага канца, які гэты верш меў у сваёй первястковай форме, мы знаходзім паўтарэньне пачатковага мотыву: і гэтая рэч высьпела і стала больш суцэльнай у кніжцы „Наля“.

Але найбольшага стопню дасьпеласьць, поўная сакавітасьць дасягае ў трыпціху, асабліва ў І і ІІ яго ходах. Ня магу не падаць першы ход:

Жыцьцё маё—ці васілёк ці ру а:
вялізманая кветка дыядэмай
Твае пялёсткі лёс у сьвет цярушыць:
адзін... другі... І так—як сьлед за сьледам.
Вялізманая кветка дыядэмай
цьвіце ў росах, радасьці і суме.
Адзін... другі.. І так, як сьлед за сьледам,
гады і дні зьлятаюць і красуюць.
Цьвіце у росах, радасьці і суме.
з лісьцём зялёным песьні запявае.
Гады і дні зьлятаюць і красуюць,
прасьцяг хвалюю кволяць, кучаравяць.

Я сумысьля падаў гэты ўзор строгага цячэньня вобразу ў важкай урачыстай паўторнасьці трыпціху, каб перайсьці да тых плыняў, дзе найбольш выяўляецца надзвычайная лірычная сіла Дубоўкі, як поэты. Асабіста я ўважаю за адзнаку лірычнае сілы вольнае і адначасна пераможнае (удалае) абыходжаньне з словам-вобразам.

Пальцы жоўтых клян вых лістоў
мкнуцца восень схапіць за шыю.
Не парушаць яе хараство,
не парушаць лісты залатыя.
Клён ў вокны забразгатаў,
адгукнулася каняю рэха
Месяц рваў арэхі з куста,
раскідаў над сусьветам арэхі

Сам па сабе вобраз „месяц рваў арэхі з куста“ ня выходзіць за межы таго, што ўжо далі ў свой час найлепшыя поэты, але за адзнаку лірычнае сілы я ўважаю менавіта лёгкасьць пераходу да таго ці іншага вобразаў. Чытача зацягвае, захлынае рытмічная хваля, у якой ён ня зьдзівіцца пабачыць самыя рознастайныя, феерычныя, дзівосныя відовішчы.

Адамантамі рассыплю слова
што прыняў у спадчыну ад маці.
... Адаманты і ў гальлі сасновым,
супакой і сіла ў а аманьце.

Гэтыя цудоўныя радкі вельмі добра формулююць вышэй пададзеную думку. З супакойнаю ўпэўненасьцю поэта далучае да „Слова“ „гальлё сасновае“, як рыфму. Так можа рабіць толькі той, хто пачувае ў сабе не абы-якую сілу.

А далей слова „сасновым“ вымагае граньня на гуку „с“, і вось з тэй-жа самаю сілаю і ўпэўненасьцю нараджаецца новы радок:

„Супакой і сіла ў адаманьце“.

Ды, бадай, ці ня самае цудоўнае тое, што, пачаўшы з сымболю, кінуўшыся навуцям, аддаўшыся на волю лесу ў сасновае гальлё, у яго сьвіст і сычаньне, думка поэты лёгка і натуральна вярнулася да таго самага сымболю

Вось гэта во самае, што топіць навакавершавальніка, выносіць угору майстра Тая самая здрадная рыфма, якая псуе верш гэнаму, гэтаму дае надта харошы персьцянковы ход.

Характарнаю для новай кніжкі Дубоукі, поруч з дасьпеласьцю яе цела, яе мускулаў ёсьць утопічная накіраванасьць шмат якіх тэм. Поэту захапляюць больш шырокія далягляды, бо стаў дужэйшым:

Маё ж сэрца радасьцю набракла,
ну-аж пырскі віхрам адлятаюць.
Нават тых, што брэшуць, як сабакі,
я з жыцьцёвай слодычча вітаю

Дубоука ўсё яшчэ ідзе наперад, угору. Усё больш іншых поэтаў адгукаецца ў яго радкох і ўсё больш гармонічна сплятаюцца у адну цэласьць. Яго лірычная сіла надзвычайная, доўгіх поэм у яго становіцца што раз менш. І хоць Дубоўка яшчэ і зараз жывы, усё-ж ніякага страху не пачуваеш, што ён ухіліцца ў бок ці перастане зрастаць, бо

„Някупленае—
не прадасца“...

**М.**

**Літературна бібліотека Українська Академія Наук. Історично-Литературне Товариство. Т. Шевченко. Поэзія. Том перший.** *Під редакцією акад. С. Эфремова і М. Новицького. Книгоспілка Київ 1927 VI 1+478. Цена 1 карб. 60 к.*

Акадэмічнае выданьне твораў пісьменьніка патрабуе вялікай папярэдняй працы, як у сэнсе зьбіраньня матар'ялаў, так і ў сэнсе належнае іх распрацоукі. Вось чаму, калі мы маем часам значную колькасьць звычайных выданьняў твораў другарадных пісьменьнікаў, дык акадэмічныя выданьні нават самых выдатных песьняроў выходзяць з друку параўнальна вельмі рэдка.

Шэўчэнка сярод пісьменьнікаў украінскага народу займае першае месца. Ён у свой час ва ўкраінскай літаратуры набыў такое значэньне, як у Польшчы Міцкевіч, а ў Расіі—Пушкін.

Шмат разоў выдавалі украінцы творы свайго славутага поэты, але першы том яго твораў, выдадзены Украінскаю Акадэміяю Навук, вышаў з друку толькі ў гэтым годзе.

Для вывучэньня творчасьці кожнага пісьменьніка па-першае неабходна мець правільны тэкст яго твораў. Вядомы пушкінавед Гофман гаворыць: „Ці патрэбна аргумэнтаваць простую, відавочную „праўду", што пытаньні тэксту павінны стаяць у передзе ўсіх іншых пытаньняў вывучэньня творчасьці пісьменьніка"[1]).

Словы Гофмана адносяцца да выданьня твораў кожнага пісьменьніка, але ў шмат разоў больш неабходна даць чытачу правільны тэкст тых пісьменьнікаў, якія пісалі ў дарэволюцыйны час, бо ў творы іх часта ўносіліся значныя зьмены як рэдактарскаю, так асабліва старэннаю цэнзарскаю рукою.

Тарас Шэўчэнка (1811—1861) сядзеў у крэпасьці, доўгія гады быў у ссылцы,—вядомая рэч што яго творы вельмі часта друкаваліся ў папсаваным выглядзе Толькі зараз Украінская Акадэмія Навук у асобе сваіх сяброў С. Ефрэмава і М Навіцкага вядзе цяжкую працу праверкі тэксту ўсіх твораў памёршага поэты і аднаўляе аўтарскі тэкст там, дзе ён быў папсаваны.

Вынікам гэтае працы і зьяўляецца першы том „поэзії" Т. Шэўчэнкі

У яго ўвайшлі творы, напісаныя з 1838 да 1847 году. Творы пазьнейшага часу будуць надрукованы ў наступных кнігах.

Зьмест першага тому складаецца з 4 старонак прадмовы, 442 стар тэксту і 32 стар. „приміток" (уваг).

На 442 старонках выдрукаваны 61 твор поэты (вершы, поэмы). Разьбіты яны на тры разьдзелы: „Чигиринський кобзар" (1838—1842 г. г.) „Три літа" (1843—45) і трэці разьдзел без загалоўку (1846-1647 г.г.).

Увагі складаюць асаблівасьці, звычайнасьць акадэмічных выданьняў. Зьяўляючыся „крытычным апаратам", яны павінны зьмяшчаць у сабе фактычныя даведкі і розныя тлумачэньні як да паасобнага твору, так і да цэлага разьдзелу вершаў. Ва ўвагах, звычайна, паказваецца, напр., з якога орыгіналу передрукоўваецца той ці іншы твор, да якога часу можна аднесьці яго напісаньне, якія існуюць адменьнікі вершу ў цэлым ці паасобных яго частках, якія маюцца зьвесткі адносна пахаджэньня пэўнага твору і г. д.

„Приміткі" да 1-га тому „поезії" Т Шэўчэнка адказваюць на многія з прыведзеных вышэй пытаньняў і тым палягчаюць вывучэньне даных твораў.

У прадмове да кнігі (од редакторів) гаворыцца: „Галоўная мэта нашае працы—даць пэўную хронолёгію і праверананы па аўтографах поэты і тагочасных выданьнях яго вершаў тэкст поэзії „Кобзаря".

Першае мэты рэдактарам удалося дасягнуць поўнасьцю, бо ўсе творы разьмешчаны ў хронолёгічным парадку і маюць дакладна ўстаноўленую дату, а знайсьці правільную дату часам бывае вельмі цяжка; таму поўная вытрыманасьць выданьня з гэтага боку складае адну з вельмі значных яго вартасьцяў.

Каб дасягнуць другое паказанае ў прадмове мэты—даць праверанае тэкст поэзії поэты, рэдактарамі не заўсёды была выкарыстана апошняя аўтарская рэдакцыя яго твораў. Гэта агаворана ў прадмове.

У сучасны момант лічаць за правіла друкаваць творы пісьменьніка у іх апошняй рэдакцыі, а ўласна—у асноўны тэкст уводзяць вершы поэты у тым апошнім выглядзе, які надаў ім аўтар у апошні раз.

У сваёй працы мы выходзім з іншага прынцыпу, г. зн. творы друкуюцца не з апошняй аўтарскай рэдакцыі (ці не заўсёды з апошняй рэдакцыі).

Супроць такога прынятага рэдактарамі прынцыпу можна пярэчыць. Шэўчэнка, як і іншыя пісьменьнікі, часам перараблаў свае творы. Напрыклад, у даным выданьні зьмешчаны дзьве поэмы „Осика" (1847) і „Відьма" (1858 г.).

„Осика",—чытаем у „примітках" на старонцы 172-й,—гэта першая рэдакція поэмы, якую потым Шэўчэнка значна перарабіў і даў новы загаловак „Відьма"... Розьніца між абедзьвюма поэмамі вельмі значная, так што дзе-ні дзе маем у іх часткі, якія цалкам адрозьніваюцца адна ад другой, а не зьяўляюцца паўтарэньнем у іншай апрацоўцы таго самага сюжэту".

Натуральна можа зьявіцца пытаньне,—калі поэта так зьмяніў сваю поэму „Осику", дык ці не маглі быць ім таксама ўнесены зьмены, напрыклад, у творы другога разьдзелу „Тры літа"), які передрукоўваецца з рукапісу 1845 году. У крайнім выпадку апошнюю аўтарскую рэдакцыю там, дзе яна ня ўведзена ў тэкст, трэба было-б даць у „прымітках", як адменьнік.

1) Гофман «Первая науки о Пушкине». Петр. 1922 ст. 48.

Адсутнасьць адменьнікаў складае значны недахоп дадзенага выданьня. На гэты недахоп чытач тым больш зьвяртае ўвагу, што ў „прадмозе“ рукапісная спадчына Шэўчэнкі названа „багатаю“.

Прыходзіца пашкадаваць, што ў выданьні зьмешчаны ўсяго адзін здымак з чыставога аўтографу і адзін портрэт поэты. Няма здымкаў аўтографаў з чарнавых накідаў, якія заўсёды зьяўляюцца больш характэрнымі.

Папера ўжыта для кнігі вельмі дрэнная. Вёрстка няроўная. У паасобніку, якім мы карысталіся, пераблытаны старонкі за 360-й старонкай ідзе 377-ая, а за 384-й 369-ая.

Пры чытаньні кнігі зьвяртае на сябе ўвагу і яшчэ адна дро язь. У канцы кнігі, у зазначэньні зьместу, творы панумараваны па чарзе, і зазначаны старонкі. У тэксьце-ж і ў „прымітках“ загалоўкі твораў ня маюць нумарацыі, чаму часам бывае цяжка адшукаць верш, асабліва-ж патрэбную заўвагу, тым больш, што некаторыя старонкі дзякуючы разьмеркаваньню твораў у зьмесь, це зазначаюцца не ў парадку. напр., пасьля 74-й старонкі стаіць 35-я, за 361-й—2 1-я.

З задаваленьнем трэба адзначыць пры іншых тэхнічных недахопах невялікую (параўнальна) колькасьць друкарскіх памылак.

Выдадзеныя Украінскаю Акадэміяю Навук творы Т Шэўчэнкі дадуць магчымасьць шырокаму колу працоуных чытаць і вывучаць творы любімага свайго пісьменьніка ў тым выглядзе, як яны былі напісаны аўтарам, бяз чужых уставак і паправак.

У гэтым сэнсе першы том „Поэзіі“ Шэўчэнкі, распрацаваны і прарэдагаваны высокакваліфікаванымі спэцыялістымі, зьяўляецца, бясспрэчна, значным дасягненьнем ва украінскай літаратуры.

**В Мачульскі**

# ХРОНІКА

## У Беларускім Дзяржаўным Другім Тэатры

Драма Міхайлы Грамыкі „Каля тэрасы“ фа тычна зьяўляецца першаю працаю тэатру, бо ўсе ранейшыя пастаноўкі зьяўляюцца студыйнымі і былі падрыхтаваны яшчэ ў Маскве, калі тэатр працаваў у якасьці студыі. Пастаноўка драмы „Каля тэрасы“ ідзе пад кіраўніцтвам рэжысэра Марголіна; мастак—Бразэр.

У сярэдзіне сьнежня наладжан „Вечар беларускае комэдыі“, у праграму якога ўваходзяць: 1) „Пінская шляхта“—В. Д. Марцынкевіча, 2) „Модны шляхцюк“—К. Каганца і 3) „Чорт і баба“—Аляхновіча. Дзьве першыя рэчы выйдуць у пастаноўцы актора і разам з тым рэжысэра БДТ 2—Цімоха Сяргейчыка. Мастак—Ціхонаў.

У адпаведнасьці з пастановаю партнарады ў Маскве аб тэатры Н. К. А. Беларусі рэорганізаваў мастацкую раду БДТ 2, увёўшы туды прадстаўнікоў грамадзкіх організацый.

## У Беларускім Дзяржаўным выдавецтве

Здадзен у друк 2 выданьнем I том поўнага сбору твораў Янкі Купалы.

Вышла з друку другім выданьнем поэма Якуба Коласа „Новая Зямля“. Друкуецца другім выданьнем поэма Я. Коласа „Сымон Музыка“.

Друкуецца кніжка профэсара М. Піотуховіча „Гісторыя новае беларускае літаратуры, часьць I“.

Хутка выходзіць з друку кніга профэсара. І Замоціна—„Мастацкая літаратура ў школьным выкладаньні“, частка I. Другая частка здадзена ў друк.

Вышла з друку кніжка М Грамыкі „Дзьве поэмы“ ў якой зьмешчаны поэмы „Крылан“ і „Лясьнічанка“.

Здаецца ў друк зборнік вершаў Радзевіча „Рэволюцыйным шляхам“. Зборнік выйдзе з прадмоваю Ус М, Ігнатоўскага.

## Р. С. Ф. С. Р.

У Маскве адбылася нарада савецкіх і замежных літаратараў. На нарадзе былі ад замежных літаратараў—А. Барбюс, Скотт—Нірынг, Вольф, Вайян Куцюр‘е, Бэрнард, Лекаш, Розэнталь і інш Ад савецкіх расійскіх пісьменьнікаў—Гладкоў, Эфрос, С. Трацьцякоў, Б. Лаўрэнеў, А. Якаўлеў, Б. Пільняк і В. Лугавы. Нарада выслухала даклад А Барбюса аб выданьні у Парыжы ва французскай мове тыднёвіка, прысьвечанага пытаньням усесьветнай культуры. Тыднёвік павінен згуртаваць найбольш выдатныя сілы сусьветнай журналістыкі, мастацтва для змаганьня супроць сусьветнай рэакцыі. Аднэй з задач тыднёвіка зьяўляецца таксама больш цесная сувязь між інтэлегэнцыяй і працоўнымі масамі. Тыднёвік павінен аддаваць шмат увагі вывучэньню про етарскага мастацтва.

У Маскве адбылося ўрачыстае адчыненьне фэдэрацыі пісьменьнікаў.

Профклюбная майстэрня у Маскве працуе над пастаноўкаю п‘есы Астроўскага „На всякого мудреца хватит простоты“ Адначасна падрыхтоўваецца п‘еса Вывалага „Бэн Вілерд“ (з жыцьця ангельскіх капальнікаў).

Пісьменьніца Ганна Караваева працуе зараз над романам „Норд Ост“.

У мастацкім тэатры ставіцца цяпер п‘еса „Бронепоезд“—паводле аповесьці Усевалада Іванова пад такою-ж назваю. Расійская тэатральная крытыка расцэньвае гэты спэктакль як „бесспорное и ярчайшее свидетельство некоторых сдвигов в среде известной части интеллигенции“, у прыватнасьці у самым мастацкім тэатры.

У Маскву прыехаў Румынскі пісьменьнік Панаіт Істраці.

У часе Кастрычнікаўскай урачыстасьці у Маскве ў вялікай залі консэрваторыі адбыўся концэрт Пэрсімфанса, прысьвечаны 10-годзьдзю Кастрычніка Былі выкананы сымфонічная рапсодыя—ленінградзкага композытара Шылінгэра „Октябрь“, яго-ж соната-рапсодыя для фортэпіано і 5-я сымфонія Бэтховэна.

## Нямеччына

У Лугано памёр нямецкі пісьменьнік Хуго Бал. Перад вайной ён напісаў свой капітальны нова-каталіцкій твор „Хто крытыкуе нямецкую інтэлігэнцыю“, напісаны супроць эвангельска -рэакцыйнага інтэлігэнтства.

У Клагенфуртскай бібліатэцы знойдзены адрыўкі рукапісу „Нібелунгаў“, гэтыя адрыўкі напісаны на баварскай мове (дыялект нямецкай) XII—XIII стагодзьдзя

Т-ва „Сувязь з СССР“ выдала нумар часопісі „Das neue Russland“, прысьвечаны 10 годзьдзю Кастрычнік рэв; у нумары зьмешчаны артыкулы; Броцкдорф-Рантцаў, Крэсьцінскага, Арко, Грабоўскага, Голітчэра, Варашылава, Г. Манна, Еснэра Піскатара, Таірава, Бэхэра, Гіршфільда, Эгон Кошо Г. Фогэлера і іншых.

У выдавецтве Лаубэ ў Бэрліне вышла з друку кніжка ўспамінаў Эрнэста Толлера „Юстіц“.

Да 10-й гадавіны Кастрычнікавай революцыі ў Нямеччыне выдавецтва „Uns-bücherlube“ у Лейпцыгу выдала роман Ф. Гладкова „Цэмент“, Л. Рэйсьнер „Кастрычнік“, „Фронт“ і Нявeрава „Ташкент город хлебный“.

Тэатр Піскатара паставіў пьесу Вэлька „Зьняцьце з крыжа“. Гэтая пьеса Вэлька, аўтара вядомай драмы „Бура над Готландам“, мае вялікій посьпех.

Эрвін Піскатар рыхтуе да пастаноўкі п'есу А. Талстога „Распуцін“ Роль кайзэра Вільгэльма II будзе выконваць Фэрдынанд Бон

Тэатральная выстаўка ў Магдэбургу зачынілася інсцэніроўкай п'есы Кальдэрона „Вялікі чалавечы тэатр“.

У Дрэздэне рыхтуецца выстаўка „Нямецкага народнага мастацтва“; выстаўка будзе мець два аддзелы, нямецкае мастацтва у Нямеччыне і нямецкае мастацтва за межамі Гэтыя аддзелы ў сваю чаргу маюць шмат паддадзелаў: Хата немца, жыцьцё дзяржаўнае; і грамадзкае і г. д.

У Бэрліне адчыняецца выстаўка сучаснага аўстрыйскага мастацтва.

## Баўгарыя

Літаратурнае згуртаваньне „Ведрина“ наладзіла сэрыю вечароў-гутарак. Вядомы Баўгарскі пісьменьнік і публіцысты Ан. Страшыміраў прачытае цэлых 3 сэрыі лекцый на літаратурныя і публіцыстычныя тэмы.

Вышла з друку кніга Ясен-Валкоўскага „Караул“. У кнізе зьмешчаны 6 апошніх апавяданьняў пісьменьніка з сучаснага жыцьця.

Літаратурнае згуртаваньне „Ведрина“ organізавала „бюро-замежнай кнігі“, якое ставіць мэтай дапамагчы баўгарскім пісьменьнікам атрымаць з-за мяжы патрэбныя ім кнігі.

Часопісь „Накавальня“, якая выдаецца згуртаваньнем пісьменьнікаў пад такой самай назваю, свае апошнія нумары прысьвячае перакладам з замежнай літаратуры.

Чарговы 46 нумар газэты „Ведрина“ (літаратурна палітычны тыднёвік) канфіскаваны за апавяданьне „Ганца на чернить огняри“.

У выдавецтве „Ведрина“ выходзіць кніжка апавяданьняў Г. Карасловава „Кавалчт плаче“; выдавецтва Д-ра Марынава выдало паэму Вл Русаліев —„Бунтаўшчык“.

У бібліятэцы „Иван Вазав“ вышаў з друку роман Вазава. „Пад прыгонам“—з жыцьця Баўгар.

У Софіі зачынілася агульна-мастацкая выстаўка, на выстаўцы былі прадстаўлены амаль усе сучасныя баўгарскія мастакі. Выстаўлена было каля 500 карцін. Асаблівую ўвагу зьвярталі карціны мастакоў Ненава „Бежанцы“, Ісаева—„Банишор“ А. Кольгава—Пред гроба на Македонія“, Б. Денева „Харман“. В. Дзімаў „Жатва“ А. Васільева „Чорбаджітка“.

## Швэйцарыя

У гор. Базэлі заснавалася міжнароднае т-ва музычных навук. Старшынёй таварыства выбран праф. Вагнер.

У Жэневе адбылася інтэрнацыянальная выстаўка графічнага мастацтва. З Жэневы выстаўка пераводзіцца ў Нямеччыну.

## Польшча

23 лістапада каля Пазнані памёр ад разрыву сэрца пісьменьнік і драматург Station Станіслаў Пшыбышэўскі. Ён меў 60 год Пшыбышэўскі зьяўляўся прадстаўніком польскага дэкадэнтства звышіндывідуалізму. У апошнія гады ён напісаў містычныя драмы „Заўпакойная імша“ і „Дзеці сатаны“.

У Варшаўскім тыднёвіку „Літаратурная Польшча“ зьмешчан артыкул С. Загорскага аб пасьля-ваенным дэкаратыўным мастацтве у Польшчы

## Аўстрыя

У Вене адчынілася выстаўка ангельскіх мастакоў. На выстаўцы прадстаўлены творы лепшых ангельскіх мастакоў за 300 год. Адначасна адбылася выстаўка альпійскай жывапісі. На апошняй выставцы вялікі посьпех мелі творы мастакоў Каламе Рамако. Сеганціні і Годлера.

Аўстрыйская мастацкая галярэя адчыніла асобную выстаўку твораў памершага вельмі маладым мастака Шындлера.

## Турцыя

Пісьменьніца Суад-Ханум прыцягнута турэцкім судом да адказу за тое, што ў адным з сваіх твораў словамі аднэй з гэроін заяўляе, што „рэлігія ёсьць опіум для народу і што ўсе прарокі ёсьць ашуканцы“. Па закону яна судзіцца за зьняважэньне рэлігіі. Гэты закон уведзен з 1926 г.

## Амэрыка

Памёр вельмі популярны пісьменьнік у паўночнай Амэрыцы Джэмс-Кэдвуд, пісьменьнік памёр ад заражэньня крыві.

## Эстонія.

Памёр эстонскі пісьменьнік Аўгуст Кітцбэрг, 72 год.

## Францыя.

Францускі літаратурны тыднёвік „Nouvelles Litteraires“ організуе цыкль гутарак аб літаратуры па радыё. Першую лекцыю чытаў дырэктар народнай бібліятэкі Арно Дандыё на тэму: „Душа кітайца“.

У дзень 25 угодкаў з дня сьмерці Эміля Золя у Парыжы на вул. Мадзін адбылося ўрачыстае пасяджэньне, прысьвечанае памяці пісьменьніка. З прамовай выступала пісьменьніца Мадэлейн Рош; поэта Жак Рошэт чытаў сваю поэму, прысьвечаную Э. Золя.

10 лістапада ў Парыжы быў урачыста адкрыт помнік Эмілю Вэрхарну.

У Парыжы павінна была адбыцца публічная прадажа з аукцыёну лістоў поэты Ромэн Роллана. Але пісьменьнік забараніў гэту прадажу.

Парыскі тыднёвік „Nouvelles Litteraires“ скончыў у апошніх нумарах друкаваньне нарысаў Дзюамэля аб падарожжы у СССР.

У Ліёне адчынілася сэрыя навукова-гісторычных дакладаў пад агульнай назвай „Лекцыі аб свабодным мастацтве“. Першы даклад зрабіў Э. Эрыё.

**Цена 1 р. 25 к.**

# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ

НА ДВУХМЕСЯЧНУЮ ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА І КРЫТЫКІ

# „УЗВЫШША“

**на 1928 г.** **(Другі год выданьня)** **на 1928 г.**

УЗВЫШША зьмяшчае раманы аповесьці поэмы драмы, сатыру беларускіх і іншакраевых поэтаў і пісьменьнікаў

УЗВЫШША шырока высьвятляе пытаньні тэорыі, крытыкі і практыкі ўсіх галін пролетарскага мастацтва

УЗВЫШША друкуе рэцэнзіі і водгукі на новыя кнігі прыгожага пісьменства, як беларускага так і іншакраевага.

УЗВЫШША шырока высьвятляе пытаньні культуры мовы

УЗВЫШША шырока інформуе аб мастацкім і літаратурным жыцьці краін СССР і замежных.

У ЎЗВЫШШЫ супрацоўнічаюць профэсары крытыкі і тэорэтыкі мастацтва БССР расійскія украінскія і іншыя

**УЗВЫШША будзе выходзіць памерам ад 12 да 15 друк. аркушаў**

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

на 1 год (6 нумароў) 7 руб., на паўгода (3 нумары) 4 руб.

**Кошт асобнага нумару ў продажы 1 руб. 50 кап.**

За даплату 3 руб. гадавыя падпісчыкі атрымаюць поўны комплект „УЗВЫШША“ за 1927 год (6 нумароў).

**Купляйце і выпісвайце кніжкі „УЗВЫШША“:**

З. БЯДУЛЯ. Танзілія (новэлі). Цана 40 кап.
П. ГЛЕБКА. Шыпшына (лірыка). „ 50 „

**Адрас: Менск, Савецкая вул., № 63.**